УДК 821.161.1-3
ББК 84(4Беи)-44
А91

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 81.*
*Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Астравец, С.**
А91 Саргасава мора : апавяданні / Сяргей Астравец. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 280 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 81).
ISBN 978-985-7144-40-2.

У апавяданнях Сяргея Астраўца чалавек мусіць азірацца на часы мінулыя, шукаць апірышча ў душы. Каралеўскую карону носіць каваль. Вуграм перашкаджаюць вяртацца ў Саргасава мора. Вежавы гадзіннік хавае ў сабе механізм, пакінуты продкамі. Сама краіна выклікае дэпрэсію. Што нам рабіць? Нельга не існаваць у сваім часе. Толькі быць, прысутнічаць, але не жыць па-сапраўднаму. Я толькі пабуду і пайду да сябе... Нельга адкладаць сваё жыццё, калі не даспадобы рэчаіснасць. Нічога не выйдзе... А добрая Беларусь – яна толькі ў галовах. У сэрцах. У душах. Але яе няма на зямлі.

**УДК 821.161.1-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7144-40-2**



# ГУТЭНБЕРГ

## 1

Акінчыц чакае Дайну каля шыкоўнага гатэля Gutenberg. За мураваным плотам могілкі. Ці добрае месца для гатэля? І для сустрэч? Часам рамантычных? Спыняюцца здарожаныя аўтобусы. Іх чакаюць. Нямала тых, хто карыстаецца мовай СССР, які ў труне. Вецер, колкі —ледаваты дождж. Наставіць каўнер, зашпіліць на ўсе гузікі даўгі плашч колеру хакі. Акінчыц падкрэслена чытае мясцовую газету. Ён —не іхні. Ён не прызнаецца. Ніколі не адчуваў сябе іхнім, гідзіўся. Аўтобус спыняецца.

Яны цалуюцца з Дайнай. Ён прыгінаецца, каб выцягнуць з нетраў багажні дарожную торбу. Сходзяць у метро, ступаюць на эскалатар, які спускае іх ледзь не перпендыкулярна і вельмі глыбока, нібы ў апраметную. Яны сядаюць у куце й маўчаць, толькі шчасліва пераглядаюцца. Акінчыцу непрыемна будзе, калі вырашаць, што беларус тое ж самае, што рускі. Яны выходзяць, узнімаюцца па прыступках, эскалатар паволі завозіць іх у падземны пасаж з крамамі, маланкавай фатаграфіяй, двума газетнымі столікамі, музейнай вітрынай, білетнымі аўтаматамі і прыбіральняй. Прахадны двор пад вуліцай з пяццю

выхадамі. На паверхні яны трапляюць у бадзяжна-святочны натоўп. Збочваюць раз, пазней другі, трэці, нарэшце апошні. Над дзвярыма шыльда, якая заклікае пазнаёміцца з «вінным архівам». Ім сюды, але да ўваходу ў вінярню яны не даходзяць, адмыкаюць першыя дзверы і паўкружнай лесвіцай падымаюцца вышэй. Апынаюцца за дзвярыма, паварочваецца ключ у адтуліне. Моўчкі цалуюцца.

Акінчыц прагне паказаць Дайне адбітак будаўніцтва Вавілонскай вежы са старадаўняй Бібліі. Схаваны ў шуфлядзе. Але нічога, нічога.

**2**

Паўднёвае сонца пякло нібы па-над расплаўленымі воламі рэкамі Вавілона.

Стары каменны мост цераз Данубіўс раматусна перагнуўся, злучаючы простую й пагорыстую часткі бестурботнага горада, які ў падарожных рэкламах называўся «сэрцам Еўропы». Ён сапраўдны нязменна заставаўся яе Мекай ад таго самага часу, як зруйнавалі Нямецкі мур. Свята на брукаваных тысячагадовых вуліцах і пляцах не сканчалася. Рознамоўныя натоўпы слізгалі падэшвамі па каменні, па якім хадзіў пяцьсот гадоў назад чалавек, які надрукаваў кнігі крыху дзіўнай Бібліі. Усеславянскай. Каб адна на ўсіх мова... А вось і старадаўні мост. Рознамоўны, як пасля вавілонскага вежаробства. Нібы злучок паміж дзвюма часткамі свету. Заходняй і Ўсходняй. Паміж ratio і славяншчынай. Сапраўднасцю ды імітацыяй. Гульнёй і гібеннем. Свабодай і яе супрацьлегласцю. Паміж так і не. Паміж сцэнай і кулісамі. Так, але што тут яшчэ робяць экзатычныя японцы? І яны ўсё туды ж. Дзеці ўсходняга Захаду.

Акінчыцу з Дайнай трэба за раку на імшу, даведаліся з англамоўнай газеты. Зазірнуць у план і паўз дахі —на вяршыні з залочанымі крыжамі. Вулкі-завулкі. Нікога. Толькі два каля вулічнага тэлефона, адзін размаўляе на жаргоннай савецкай, на гулагаўскай. Хутчэй прайсці міма моўчкі. Не зважаць. Імша магла распачацца ўжо. Божа, зноўку японцы! Па прыступках падымаюцца да касцельных дзвярэй. У Акінчыца супярэчлівыя пачуцці. Касцёл. За мяжой. У яго ў душы бар’еры. Дайна бачыла, што ён не дужа імкнецца трапіць. Аднак ёй хацелася вельмі. Яму стала няёмка. Заставаліся лічаныя хвіліны, яны спазняліся. Можа спазненне падстава, каб не хадзіць? Акінчыц завагаўся. Пагатоў яны не ведалі дакладна месца. Дайна адчула, што яны далей не пойдуць, раз не паспяваюць. І змаўчала. Паглядзеўшы з мосту на крыжы званіц наперадзе, Акінчыц рашуча ўзяў яе за руку. Натоўпныя джунглі конча перашкаджалі. Ліяны спляталіся з галінамі дрэў і паміж сабой, даўно авалодаўшы камлямі. Нахабны зялёны бамбук шчыльна крочыў насустрач. Старадрэвіны валіліся проста на іх. Яны смяюцца ў вочы: заставайцеся з намі, тут гэтак бесклапотна й весела.

За японцамі яны трапляюць ўнутр. Вялізная чара са святой вадою, Акінчыц не адразу ўцяміў. Проста ў касцёле. Метры тры папярэчна. Нібы фантан на рымскім пляцы. Японцы, спачатку здалося што па-турысцку, нязмушана памачалі пальцы. Але яны звыкла перажагналіся й рушылі наперад, як заўжды купнай грамадою. У бок алтару. А хто там ідзе? Нашчадкі самураяў. А хто ж яшчэ?! А вы кім самі будзеце? Мы? Мы тут крыху выпадкова. Ні славы, англічане ці японцы і нават не палякі, якія таксама ўлічаны —для якіх малітвы надрукаваны па-іхняму. Адзінае, што яны з Дайнай здатныя, каб прачытаць на дзвюх мовах. Ні свае, ні чужыя. У славянскай бажніцы з італійскай чарай з каменю, які выглядае высакародным, дарагім. З такога рабілі статуі. Для алтароў і фасадаў бажніц.

Алтар галоўны як бы незаўважны, як бы ў цёмным куту. Бочны прыцягвае ўсю ўвагу. Блізка да шэрагаў лаваў. Атачае невысокі парапет: прышпілены аркушыкі з малітвай на розных мовах, прымагнічвае вочы самая знаёмая. Але няродная. Для Дайны з Акінчыцам існуе адзінае выйсце —растварыцца ў англа-разнастайнай супольнасці. Акалічнасці не даюць. Свая славяншчына і —глыбей —першапачатковая прыналежнасць да свету, супрацьлегламу да вольнага. Як уладальнікам барвовых пашпартоў з савецкім таўром.

Дайна прайшла да парапету і ўкленчыла. Акінчыц, каб не стаяць слупом, прысеў на лаве. У паветры лунала штосьці карнавальнае, маскараднае, прынамсі. Калі гэта толькі не адно

і тое ж. За спінай настройвалі гітару, спрабавалі галасы. Яму здавалася, наспявае нейкі блазенскі выбрык. Раптам яго папрасілі прыўзняцца і нізенькая лацінаамерыканка апынулася пасярод лаўкі побач. Каля яе прыладкавалася сяброўка з гітараю. Ён не ведаў як паводзіцца. Не знікала прадчуванне чагосьці незвычайнага.

Устаўшы з калень, Дайна прысела скраю. Акінчыц ледзьве павярнуў галаву, прашаптаў: табе гэта не спадабаецца. Чаму? Не ведаю. Так здаецца. Відавочныя турысты хуценька пазнікалі. Але толькі яны. Стала ясна, што сапраўды мае адбыцца набажэнства, хай са спазненнем. Загучаў званочак (рэзка і ценька-металёва), усе ўсталі. З левых ад алтара дзвярэй паявіўся малады ксёндз у незвычайна смарагдавай шаце, аблямаванай залатым паскам.

Як толькі ён ступіў некалькі крокаў, суседкі Акінчыца —з падтрымкай ззаду (што завецца звычайна backing vocal) знянацку галасіста, зусім-зусім не па-касцельнаму заспявалі пад гітарныя акорды. Святар не здзівіўся. Значыцца, усё о'кей. Да Акінчыца пакрысе стаў вяртацца спакой. Бо галоўна турбавала: ці гэта часам не дураслівае пракудніцтва? Бывае, што пачуццё няёмкасці за іншых выклікае моцную нервовасць, большую як праз сябе самога.

Святар спакойна зайшоў за парапет, стаў за моўніцу, разгарнуў вялікую кнігу і пачаў сумна, крыху адцягнена і разам пранікнёна чытаць Евангелле. Ён чытаў нягучна, in English, бо Акінчыца з Дайнай трапілі на англійскую імшу, што скемілі яшчэ раней. Вялікая колькасць японцаў была падманлівай абставінай. Службу правіў малады ксёндз з Гватэмалы, твар яго, аблічча, а галоўнае вочы як быццам адлюстроўвалі ўсю пакутніцкую гісторыю тамтэйшай часткі Амерыкі. Ён бачыўся Акінчыцу агульным персанажам усёй лацінаамерыканскай літаратуры. Глыбокая скруха, прыхаваная ў чорных зрэнках вачэй, не дазваляла забыцца на яе.

А што было потым? А потым чытаць Евангелле па чарзе выходзілі: відавочна амерыканец, можа студэнт ці аспірант, штосьці ў ім было універсітэцкае, —ён быў у джынсах, насіў акуляры; за ім смуглявыя і мажнаватыя, спачатку лацінаамерыканка, а за ёю, напэўна, філіпінка. Кожнага разу ксёндз адыходзіў і сядаў збоку ў чорным скураным, але мулкім крэсле. Сумная постаць, як няцяжка было сабе ўявіць, увасабляла стагоддзі касцельнай гісторыі, досвед патрыярхаў, мудрасць двух тысячагоддзяў хрысціянства: Father said...

Над яго галавой на скрыжалях выгравіраваныя імёны ці фундатараў, ці пахаваных у сутарэннях асобаў. А каб жа знянацку, выпадкова, убачыць імя першадрукара, пра якога нябожчык прафесар пісаў калісьці ў эміграцкую бібліятэку. Што ж ён пісаў? Дапускаў, што захавалася магільная пліта няхай у касцёле або звонку. Але знайсці яе бадай немагчыма, пісаў ён, літары за такі час выгладжваюцца. Хутчэй надпіса больш няма, хаця ён павінен быў быць. Ды нельга апускаць рукі. Хто ведае? Нават, бывае, магчыма выявіць сёння страчаныя надпісы. Такой надзеі не магло быць некалі ў паэта, які навучаўся ў тутэйшым каралеўскім універсітэце, але хварэючы на сухоты, вярнуўся назад у Кладна, дзе потым загінуў. У сваім вершы пра палімпсест ён з болем пісаў, як калісьці стваралíся новыя карціны зверху старых, а іншыя тэксты хавалі пад сабой на пергаменце папярэднія, якія ўжо не расчытаць. Пісаў, думаючы пра сцёрты надпіс, пра тое, як зніклі літары з яго нагробка, як занядбаныя былі ягоныя кнігі і яго справа.

У галаве вышэйшага за Акінчыца, немаведама, мабыць англічаніна, у галаве, якая пачала галець патыліцай, у валасах прыцягвае ўвагу павучок. Ён рухаецца праз джунглі валасоў пажылага english-man-а, старанна і ўпарта. Мізэрнае стварэнне, у вялікім храме, калі гучыць слова божае. Мужчына устае, усе ўстаюць. На ім простыя нагавіцы і кашуля. Звычайны дзядзька. Леваруч жонка, адзетая інакш, выразна па-элеганцку, нагадвае жалезную лэдзі, але не такая чапурыстая і дабрэйшая з выгляду. Вядома: без цяжару дзяржаўных турботаў, адказнасці. Каталікі-англічане? Чаму ж не? Хоць і рэдкія птушкі, вядома.

Каля Акінчыца спявалі. Нібы вулічны гурт лацінасаў, якія з гітарамі, маленькімі гітаркамі, у пончa і нярэдка ў самбрэра, шыкоўных ужо адной толькі сваёй вялізнасцю, можна сёння напаткаць у любой еўрапейскай сталіцы. Няхай. Дайна з Акінчыцам ўжо ўспрымалі ўсё як мае быць, бо так яно й

было. Хаця яна трапляла раней на імшу якраз у старой добрай Англіі, Акінчыц, што рабіць, разгублены, беларускія словы ў галаве ніяк не кладуцца на англійшчыну, падрадкоўніка не атрымліваецца. Стрэс!

Штосьці, аднак, Акінчыц, стараецца паўтараць за ксяндзом і за іншымі. Father said... Паміж шэрагамі лаў паяўляецца зняцку з вялікім фотаапаратам як звычайна невысокі японец. Набліжаецца і самавіта-непарушна здымае святара, які не зважае на бліскавіцу і на самога японца, які паварочваецца і фатаграфуе алтары, арганы і на астачу —японскую частку публікі.

Парапет, статуі, дый чара за спінамі парэпаліся ад доўгага існавання. Землятрусаў у Златаградзе не бывае, а ўявіць, што склейвалі разбітыя статуі, хаця звонку вельмі падобна на склееныя рэчы, не атрымліваецца. Бадай гэтак рэпаюцца твары ад нягодаў, проста з цягам часу, з рухам да заканчэння шляху іх носьбітаў.

Наступае хвіліна, калі ксёндз гаворыць, каб вернікі пажадалі адно аднаму міру, і трэба на ўсе чатыры бакіківам галавы выказаць сваім суседзям зычэнні. Раптам усё было не гэтак. Усе пацiскалі ўзаемна рукі і вымаўлялі: Peace for you. Акінчыц разгубіўся. А неўзабаве паціскаў рукі японак за спінай, іншых жанчын, ці смуглявых, ці жоўтаскурых —не запомніў. Да яго абярнуўся англамоўны пажылы мужчына і працягнуў далонь. Калі амаль усе супыніліся ўжо, з усмешкай падала зусім не жалезную руку жалезная лэдзі. Акінчыц усвядоміў, што спазніўся, яму няёмка, што не пажадаў міру сваёй суседцы-спявачцы. Яна не магла гэтага не заўважыць. Але ўжо запозна. Peace for you, таўставатая лацінаамерыканка.

Апошнія словы казані, гватэмальскі святар падыходзіць да шэрагаў і паціскае рукі вернікам, да якіх можа дацягнуцца, і Дайне з Акінчыцам таксама. Таемны знак духоўнага братэрства, у галаве Акінчыца не паспявае аформіцца думка. Ксёндз засяродзіўся над святымі сакрамантамі, адчыняе куфэрак з аплаткамі, пералівае віно. Бярыце, гэта цела маё. А гэта кроў мая. Піце.

Акінчыцу міжволі думаецца:



А на крыжы
драўляная фігурка,
як цацка для дарослых,
якія ёй цалуюць ногі.

У вузкім міжраддзі лаў да ксяндза шыхтуецца чарга. Амерыканцы і англічане, чарнявыя жыхары пампасаў, Кардыльераў і амазонскай сэльвы, зборшчыкі кавы з цэнтральнаамерыканскіх плантацый —метысы, мулаты, індзейцы, маісавыя людзі. Нашчадкі і сваякі самураяў і камікадзэ з ваколіц Фудзіямы. Аматары сваіх традыцый: ікебаны, цёплай сакэ і гарачай лазні. Сакуры і пруткоў для спажывання ежы, перадусім рысу. А вось турысты з астраўцоў, дзе ходзяць амаль голымі. Ёсць і мурынка з процьмай тонкіх касічак... (Пра падобнае яднанне марылі, напэўна, камуністы, але з калючым дротам навокал. Наўмысна яго ў галаве не трымалі няхай, але ён быў пад рукамі).

Дайна хуценька пайшла таксама. Акінчыцу вядома, што нельга, не быўшы на споведзі. Чарга, здаецца, вось-вось скончыцца, як цурок вады. Але падыходзяць яшчэ і яшчэ. Прыплюшчыўшы вочы разяўляюць рот, прымаюць гостыю і хуценька жагнаюцца. Іншыя проста адразу паварочваюцца і адыходзяць. Трэція набліжаюцца са стуленым ротам, але з працягненай даланёй. Ксёндз кладзе на яе круглую танюткую аплатку. Яны ступаюць два-тры крокі ўбок, кладуць яе ў рот і чыняць знак крыжа, тварам да алтару.

Японцы спыняюцца каля чары са святой вадою, каб паціснуць руку ксяндза, які стаў там дзеля развітання з вернікамі, якіх больш не ўбачыць. Акінчыцу і Дайне давялося ўжо адчуць дотык ягонай рукі, хай іншыя таксама...

Яму ўспамінаецца верш:

«Часамі станаўлюся Богам,
каторы месціцца ва мне.
А потым я адначасова Бог,
малітва да яго і я аддany
вернік. І падабенства
са слановай косці,

у якім той Бог становіцца
забыты».

Блюзнерства? Так сказаў бы хутчэй ксёндз. Але глыбей не перадаць сваіх пачуццяў чалавеку з навакольнага свету сёння.

**3**

Звонку спякота. Крыжы залацеюць на сонцы. Па прыступках расцякаецца align="" рознамоўная грамада, забыўшыся разам на адзіную мову. Яны сталі самімі сабой. У вітрынцы Матка Боска, ружанец, статуэтка Гутэнберга ці каго?

Падзея ў касцёле прыгаломшыла. Такое мноства моў у галовах! Да купы расы і народы. І ўсіх злучае мова іншая, якая родная для жменькі толькі. Але носьбітамі якой таксама сталі іншыя, іначай не прыйшлі б на набажэнства, абвестку аб якім надрукавала англамоўная газета. І ксёндз, выразна з іншай часткі свету, іспанамоўнай.

Акінчыц у думках застаецца ў храме, культурны шок яшчэ не пераждыўшы. Дайна дзівіцца на горад з гістарычных фільмаў, які навокал.

За рогам змястоўная вітрына з каляровай керамікай. Паглянь, якія сакаўныя фарбы! Брук змяняе вугал нахілу: угору. Вулічка з чарапічнымі дахамі. Далей, пад арку. Абгароджаная сеткай пляцоўка з раскопамі археалагічнага выгляду. А каб жа дакапацца да першых падмуркаў, адшукаць друкарню вашага слаўнага першавыдаўца... У касцёле побач ускрыюць пахаванне таго славутага астранома, аб гэтым напіша газета. І спрэчкі будзе выклікаць наяўнасць ртуці ў вусах.

Быць самімі сабой, быць у сабе. Утульна са сваімі думкамі. Не мянціць языком у натоўпе. Прытрымліваць за зубамі. У казачных дэкарацыях каралеўскіх часоў ім не разняволіцца напоўніцу. Гэта так. І гэта крыху бянтэжыць. Але можна пераждыць. Бо дома падобна: рускамоўная вуліца, беларускія словы —словы чужыя ёй. Звяртаць увагу не ў звычцы такіх, як Дайна з Акічыцам.



Рамкі свайго існавання на вуліцах Златаграда яны ствараюць самі. Але пад ціскам нябачных абставін. Ніякіх візаў яшчэ няма, Златаград захлынула навала новых варвараў. Яны параджэнне жалезнай заслоны, у якой расхінуліся шырокія брамы. Яны прагнуць спажываць, рукі ў чужых кішэнях, бывае, як у сваіх.

**4**

Як сапраўдныя турысты, плоймы якіх закаркоўваюць вуліцы, што цяжка бывае праціснуцца, Акінчыц з Сабінай шукаюць шляху, трымаючы перад сабой план. Несіметрычная геаметрыя вуліц, пляцаў, пляцыкаў, завулкаў і вулічных апендыксаў. Куды зараз? Чакай. Размова пра мэту, якая не пазначана на шэразялёных грымзолях, спярэшчаных жоўтымі пісягамі праспектаў з вялікім рухам, чырвонымі артэрыямі хуткага метро і анемічна-белай дробнай вулічнай сеткай. Лесвіцы, шыльды, барэльефы, вітрыны, атланты і карыятыды, прыступкі сходаў. Якія для іх —усходы, аркі, брамы, таверны, рэстарацыі і піўныя шынкі, помнікі, статуі, бюсты, вулічныя кавярні, памяткавыя шыльды (тут, скажам, жыў са сваёй друкаркай вядомы ў будучыні раманіст), крыжы, Матка Боска, касцёлы і кляштары. Брук. Гатэлі. Чарапічныя дахі цаглянага колеру. Адзін за другі шыкоўнейшы сваёй старасвецкасцю.

Дамы сканчаюцца. Адно лядашча-спарахнелы мур цягнецца, выклікаючы згадкі пра рымскія часы. Ён стаіць на зялёнай траўцы. Навокал абсыпаная перaспелая шаўковіца, у якой корпаюцца пчолы. Адзінотны. Наводшыбе. Кніжкі ніхто не чытае, архаіка. Альфабэт забылі. І ўвогуле: кім ён быў? Вечным эмігрантам, сваім сярод чужых? Адарваным ад роднай глебы.

А для айцоў рэспублікі ўсё гэта вельмі важна. Ідэалагічная чысціня. Тым больш, медаль з партрэтам першадрукара —узнагарода ад інтэлігентаў-дэмакратаў, якім не ўдалося доўга пагаспадарыць. Рэтраграды вярнуліся. І што? У шуфлядзе толькі першадрукарскі медаль ды ордэн маці-гераіні, стары савецкі. Адзіны, што дэмакраты не пераплавілі. (Іх рэтраграды называюць грэбліва нацдэмамі, выняўшы мянушку са

змрочных, расстрэльных часоў). Цяпер варушы мазгамі: каго і чым узнагародзіць. Ордэн, як быццам, вышэйшы за медаль, але медаль —больш нейтральны. Калісьці «100 год Леніну» давалі незалежна ад полу. А жаночы ордэн мужчыну не прышпілеш. Цётка на рэверсе простая, крамяная. Ці даярка, ці стотысячніца, у лепшым разе «жанчына з вяслом». Ордэн жа не спартыўны. Не было праблем, калі ў спіс трапляла асоба жаночага стану. А калі ўзнагароджвалі ўсіх запар, былі крыўды. Чаму бабе далі ордэн, а мне ўсяго медаль? Хаця медаль быў самы важкі побач з медалькамі за ўратаванне тапельцаў і пажарную доблесць, якіх дэмакраты таксама не сталі чапаць, каб у герояў не апускаліся рукі. Але ў дзяржаўнай гаспадарцы пачаўся нялад, з-за дэмакратаў не было чым адзначаць за працоўныя подзвігі. З жаночымі фабрыкамі —панчошнымі і трыкатажнымі было прасцей. Існаваў ордэн геройскай маці, якой у жыцці надараецца бываць амаль кожнай тэкстыльшчыцы і камвольшчыцы. На ліха попыт на прадукцыю знік. Не балела галава толькі паліграфістам, якіх першадрукарскі медаль задавальняў на ўсе сто.

Але часам выходзіла спрытна вылузацца, як з акадэмікам сельскай гаспадаркі: уручылі першадрукарскі медаль. З інстытута літаратуры паведамілі, што кніжкі кніжкамі, першадрукар і каралеўскім батанікам быў, вясковай нівай не грэбаваў. І выявілася, што абараніў доктарскую ў лекарскіх навуках і пэўны час лічыўся прыдворным медыкам у значнага свяшчэнніка. Была дадзена каманда даведацца, ці не займаўся часам алхіміяй? У рэспубліцы рэторты і колбы былі ў пашаноце. Захілялі небасхіл гіганты хіміі і нафтаперапрацоўкі. Нядрэнна было б адшукаць і доказы разведдзейнасці першадрукара. Падарожнічаць па разнастайных мясцінах, апынацца побач каралёў з епіскапамі —гэта ж не без дай прычыны! Тады і людзей у цывільным можна смела ўзнагароджваць. Навошта інакш наплечнікі?



**5**

Дэмакраты прайгравалі ў зубастасці. Пачцівыя, шчырыя. Неабавязкова пад гальштукамі. Наіўныя дзе не трэба. Асабліва што датычыць «рэал-палітык». Не зусім так рукі прышыты, каб трымаць у кулаку. Рукі для алоўка, для пэндзля, для струн. Занадта далікатныя. У бюракраты брыдзяцца. Голас падвысіць —ніколі, грубае слова сказаць. Летуценнікі. Выбачайце, калі ласка, вялікі дзякуй, будзьце здаровы.

Рэтраграды прыціхлі былі, языкі прыкусілі. Няхай не цішэй вады, ніжэй травы, але носу асабліва не казалі. Ды нічога. Доўга не журыліся. Аднойчы злаўчыліся, у каршэнь новую ўладу! І навыперадкі займаць кабінеты старыя з тэлефонамі. І давай гайкі закручваць чым хутчэй. Быццам дзяржаўная машына расхісталася пры дэмакратах. Рукі засумавалі па справе! Усё, што паспелі дэмакраты —неадкладна пералапаціць, вярнуць жыццё назад, у старарэчышча. На кругі свае, як пахваліў царкоўны ўладыка. Герб, сцяг, назвы вуліц, статуі. Назад перафарбавалі ў чырвоны. Замест рыцара —старамодныя серп з молатам. Як кулаком па сталу пляснулі. Баста!

Дайшлі рукі і да першадрукара... Пры дэмакратах ён стаў нарэшце Янам. Як сам сябе называў некалі. Пры царах недалюблівалі, але няхай: усё ж кніжкі адціснуў некалі славянскімі літарамі. Але імя царам не падыходзіла, хацелася Іоана мець. Заставаўся напаўпрызнаным. Іх змянілі правадыры-камуністы. Што рабіць з першакніжнікам? Павагаўшыся, дазволу на Яна не далі. Стаў у падручніках першадрукаром Іоанам, як хацелася царам.

**6**

Акінчыц стаў на невысокі пастамент з ім побач, каб сфатаграфавацца. Дасягаў яму толькі да пляча, да ўзнятай рукі. Напаўсагнутай, у якой апынулася шыя Акінчыца. Са свайго боку ён таксама абняў яго за стан. Атрымалася па-сяброўску. Машына Kodak, якая друкавала здымкі, не здзівілася. Ясна

было, што ў рэшце рэшт сустрэліся землякі. Даволі рэдкая сустрэча. Землякі сюды даходзілі не заўсёды.

Хаця ён стаіць нядаўна. Асобная гісторыя. Заманулася дэмакратам, якія медаль адбілі. Думалі паспець да круглае даты, ды не выйшла. І раптам страцілі стырно. А з мясцовым урадам было дамоўлена. Рэтраграды вельмі не любілі зробленае не сваёй рукою. Але што зробіш: накіравалі на адкрыццё помніка дэлегацыю. Міністраў аховы здароўя і навакольнага асяроддзя, сельскай гаспадаркі, дзяржкамітэта друку і паліграфіі. На цырымоніі паявілася купка нацдэмаў. З рыцарскім сцягам, які рэтраграды забаранілі. З пасольскага факсу выпаўзла вымова за недагляд. З першадрукаром у іх асаблівыя адносіны. Пачуцці, якіх не акрэсліць адназначна. Гэта не любоў-нянавісць. Нешта іншае. Нелюбоў-рэўнасць хутчэй. Нічым перад імі не вінаваты, але любіць яны яго не маглі. Не навучыліся.

Карцела паўшчуваць яго. У думках. Што ж ты кніжкі свае выдаў на неакрэсленай мове? Быццам на трасянцы славянскай? Назваць ніяк не мог! Гэта ж такога надрукаваць! Барбарызмы ў біблейскую тканіну, мясцовыя словы. Эсперанта для славян. Вучоныя спрачаліся: што за мова, назва якая, хто падкажа?! Нацдэмы да драбніцы перабралі, вывучылі і абсмакталі кожны канчатак, суфікс. Кніжкі на старабеларускай, не сумнявайцеся. Ім пярэчылі: раскрыйце свае вочы, гэта чыста рускі язык! Ён сам ім даў карты ў рукі. Ухапіліся, што грунтаваўся на пісаннях ад славянскіх перашаасветнікаў.

Нібы падмуркі зрабіў. Подзвіг здзейсніў культурны! Даў землякам ў рукі друкаваную кнігу. Падмацаваў. Але як? Не, вядома, ён чалавек-інстытуцыя. І яму ўсё бачылася так, адпаведна часу. Але чаму нават самыя лепшыя справы не даюць беларусам карысці? Акінчыц чуўся бязрадным.

Рэтраграды мысляць шаблонна. Раз па заграніцах, не мог не віжаваць. Так хацелася сваім рыцарам плашча і кінжала медаль прышпіліць. Першадрукар —віжун? Хто ведае? Хаця Акінчыцу робіцца смешна. Так, падарожнікі збіралі ўражанні, экзотыка заўсёды вабіла. Кнігу падарожжаў адрывалі з рукамі. І газеткі ўжо прыдумалі. Але першадрукар ні пры чым. У яго была місія. Так, мяняў часам гарады, але спробы распаўсюду



кніг да віжунства не прышыеш. Хаця хто ведае? Няўдалая паездка рызыкоўная навошта? Спроба прадаць друкаваныя вырабы? Ці задума культурнай выправы да апошніх межаў кірылічнага свету? А там пільнасць святая справа. Калі ты іншаземец, ты пад падазрэннем. І хіба не насцярожвае, што каталіцкі чалавек адліў чамусьці кірыліцу для сваіх кніг?

Ён з куфрам кніг, а на плошчы ўжо вогнішча распальваюць. А, прыехаў пан? Паказвай, што ў куфры? Дзе зроблена? У Златаградзе, значыць? У лацыннікаў? Нам лацыннікі не ўказ. Наш цар-гасудар нас навучыў. Мы Божыей міласцю гасудары на сваёй зямлі спрадвеку, ад першых сваіх прабацькоў, а пастаўленне маем ад Бога, як нашы прабацькі. А пастаўлення як дагэтуль ні ад каго не жадалі, так і цяпер не жадаем. Кропка. Такім быў адказ Свяшчэннай Рымскай імперыі гаспадару на прапанову каралеўскі тытул мець ад яго, з ласкі ягонай.

Няхай першадрукар уяўляў будучыню, дзе ўсе славянскія плямёны злучацца. Калі не дзяржаўна, то духоўна. Калі не злучацца, дык паяднаюцца. Каб вучыцца чытаць і маліцца па яго Бібліі. Хто ведае? Калі ты даеш славянам свой пераклад святога пісання, ты ў душы на гэта разлічваеш. Чаму не?

Небяспечная спроба. Цьмяна было на душы, але хацелася верыць. Бог дапаможа! Даць у рукі кнігу, праз слова божае зрабіць Тартарыю лепшай (што, нібыта, здаралася ў гісторыі), адукаваць, злагодзіць унутранага звера. Але кніг чужых заўсёды баяліся. І раптам друкаваныя. Шпіён! Кім для іх і быў. Чужым вокам, віжуном няпрошаным. А некалі ўсё перакуліцца. Тартарыя пераможа. Прымусіць чытаць свае кніжкі. І беларусаў. А ўласныя яны развучацца. Далі славянам кнігу друкаванымі літарамі, але не пацягнуць місію. Апынуцца на ўзбочыне.

Ніхто дагэтуль, мабыць, не задумваўся над падобнымі рэчамі. Над відавочнымі. Так здаецца Акінчыцу, сам дапяў толькі цяпер. Дзеля чаго трэ’ было прыехаць сюды, запыніцца, з’есці жменю солі. Выпіць літраў дваццаць-трыццаць піва і прынамсі тузін —віна, якое не нарадуе цэнамі.

**7**

Быў ён каралеўскім садоўнікам, любіў батаніку, гербарыі, замаўляў з італійскай старонкі патрэбныя гатункі раслін, дрэўцы і хмызы. Каралю вельмі карцела мець сапраўдны, адпаведны яго ўладзе сучасны сад, але грошай як заўжды не хапала, справа зацягвалася, а садоўнік месяцамі не атрымліваў платы. Як цяпер у калгасах.

Сёння сад пачынаецца рэстарацыяй з унутраным дворыкам, «Gutenberg». Перад уваходам меню, піва «Шофэрхофэр». У Акінчыца апошнія трыста талераў. Яны з Дайнай муляюцца. Цікава, а ці стаць было яго, каб харчавацца ў падобнай садовай карчме?

Яны заходзяць у сад і сядаюць на лаўцы ў глыбокім ценю старога дрэва з вялізнай кронай. (Ці жывуць яны гэтак доўга, каб памятаць яго?). Вада струменіцца з горла Галіяфа. Ці аднекуль з іншага жэрала. Бадзяюцца рознамоўныя людзі, ад якіх тэатральна ахоўваюць прысадзістыя неабгароджаныя будынкі прэзідэнцкія гвардзейцы, празмерна парадныя. У попельна-блакітных мундзірах з аксельбантамі і ў белых пальчатках. Ім нудна й горача. Нават не расшпіліцца.

Дагэтуль, калі яны яшчэ не дасягнулі мэты, а пераходзілі з вулічку ў вулічку, узнімаліся каменнымі лесвіцамі ўсё вышэй, Дайна цікавілася: напэўна, табе запомніцца імша, ксёндз, хор з гітарай? Так-так. Ты, відаць, усё занатуеш потым. Так, як было. Канечне. Безумоўна. Пакуль гэта самае, здаецца, моцнае ўражанне, прызнаецца Акінчыц. Самае экзатычнае, можна сказаць.

Потым яны маўчалі. Моўчкі ішлі, шукаючы дарогі. Узяўшыся за рукі. Дайна крыху пакрыўдзілася. У галаве Акінчыца пачала тварыцца эпапея з першадрукарскім медалём. Ён не мог адагнаць думкі, дый не хацеў. Цяпер Дайны няма, яна далёка. І Акінчыц узнаўляе на паперы гарачы дзень, чараду каменных прыступак (у-сё вы-шэй-і-вышэй...), бронзавы помнік. Чорную пераспелую, растаптаную шаўковіцу, пчолаў, якія, як напісаў калісьці Ян, «шукаюць вулляў сваіх», падобна якім і людзі імкнуцца да гнёздаў сваіх. Напісаў бог вед калі, у гэтым мураваным горадзе, з каралеўскім мостам са статуямі святых, мостам цераз шырокую раку, якая плыве з горных цяснінаў.

Яны з Дайнай спыняюцца перад нібы-вавілонскай вежай, унутры суверточнымі лабірынтамі рухаюцца ў абодвух кірунках перш дробныя японцы, вандроўная, чужамоўная публіка, каб убачыць сонца і месяц, далягляд, каменныя кварталы, шпіцы з крыжамі і флюгерамі, працяг ракі, горы, каб зрабіць фота ў блакіце. Але ў Акінчыца і Дайны ўжо няма ані сілаў, ані жадання.

А калі не зважаць на ногі, калі аддаць перавагу вачам? Перамагчы сябе, каб узабрацца на дах Златаграда? Убачыць архаічны тэлескоп таго старавечнага астранома, паслугамі якога карыстаўся некалі кароль. Ён не паленаваўся пералічыць нагамі ўсе прыступкі вежы. Вавілонскай вежы свайго каралеўства. Акінчыцу трапляе на язык наіўная думка — накіраваць вока ў бок сваёй Бацькаўшчыны, але ён не агучвае яе. Першадрукар, той не мог не пабываць тут. І вежа яго Вавілонская нагадвае гэтую конча.

**8**

Абапал брамы ў прэзідэнцка-турысцкія ўладанні па жывой статуі гвардзейца, побач праходзяць, спыняюцца каля іх і фатаграфуюцца бясконца. Не служба, а мёд. Як у кіназорак. Ад японцаў няма паратунку. Пстрык-пстрык-пстрык. Паўсюдна яны. Гергечуць сабе. Апанавалі пляцы, вулічкі, пераходы, пляцоўкі падрабязна разбудаванай былой каралеўскай цытадэлі. Яе толькі аднойчы захапілі бошы. Зрэшты, таксама без аніводнага стрэлу. Як у адным даўнейшым апавяданні, у каменны калідор вуліцы шнурам уцягнулася пяхотная калона з баявым рыштункам: у вялікіх жалезных касках, за спінамі ранцы з прытарнаванымі шынельнымі скруткамі, з ваганнем плыні злавесна бліскучых штыхоў, прымкнёных да руляў, якія пакуль, мроячы пра саладжавы прысмак гарэлага пораху, адпачывалі. Наперадзе гарцаваў на белым кані афіцэр з шабляй, за якім крочылі сцяжнікі. Пешымі шыхтамі калона не перапынілася.

Вальяжна выглядалі генералы ў адкрытых легкавіках, матацыклісты ў дарожных плашчах, бронетэхніка грукацела па бруку, моўчкі выхваляючыся гарматнымі калібрамі.

Стары прафесар філалогіі стаяў у мураваным балконе і назіраў, не гэтулькі войска, найболыш цікаўную публіку, якая выклікала ў яго раздражненне. Так было ў апавяданні. Тут вуліца не маўчала ў жаху, не ведаючы, чаго чакаць далей. Публіка трыумфавала, жанчыны, у лепшых сукенках, пасля цырульні, напарфумаваныя, пад моднымі капялюшыкамі ажно млелі ад мышыных вайсковых мундзіраў. Яны трыумфавалі шумней, як цяпер на поп-канцэртах, шчасліва лямантавалі і кідалі пад жаўнерскія абцасы букеты. Швабская меншасць вітала землякоў, узброеных да зубоў. Яны прыйшлі!

Вядомы здымак правадыра бошаў з першых старонак газет. Ззаду, збоку. Ён абаперся на прыаконне, напэўна на самым высокім паверху, у прэзідэнцкім палацы і трыумфальна пазірае згары на сталічны горад, які дастаўся яму без адзінага набою. Першыя старонкі газет, кінахроніка, плакаты, познамкі цаглянага колеру. Ён пануе над горадам, як чорны драпежнік з герба.

**9**

У сталіцы, пакуль Акінчыц адсутнічаў, сабраўся з'езд землякоў. З паасобных частак свету. Дзе яшчэ не растварыліся ў мясцовым насельніцтве ці ў іншай дыяспары. Сапраўдных палітычных эмігрантаў былі адзінкі. Гідзіліся ці баяліся ехаць. Мерапрыемства атрымалася сумнае, нібы ім кіраваў нябачны цэнзар. Ацаніўшы па спісу ўдзельнікаў, начальства вырашыла запрасіць сяго-таго на чай, за кубкам сама сабой узнікла гутарка наконт першадрукара і кніжнай спадчыны. Вёў рэй рэтраград Мядуноў, адказны за культуру.

— Ён і кнігі свае друкаваў на рускай, заўважце. Як у ваду глядзеў. Гэта вялікая мова. Сусветнага значэння. Магутная, багатая. Пі, не нап'ешся. Карыстайся СССР! Агульная для ўсіх. Зразумелая кожнаму. Нездарма рукі пэцкаў фарбай.

— Важная акалічнасць: рускай беларуская называлася. Гэта навуковы факт.

— Чым важная, хто пра гэта знае? Вы, я, ды яшчэ два-тры. Вы народу пакажыце яго кнігу, там ясна напісана: на рускім языцэ.

— Народ не надта дасведчаны.

— Народ у нас харошы. Не трэба так. Ён вам сам скажа: не дурыце мне галаву, таварышы вучоныя, дацэнты з кандыдатамі.

— Нельга аддаваць вырашэнне настолькі важных пытанняў вуліцы.

— А нічога вырашаць не трэба. Мы бярэм на сябе адказнасць, мы адказваем за медаль імені нашага дарагога першакніжніка. Узнагароджваць —наш абавязак. Без нашага подпісу нічога не будзе. Запомніце гэта добранька. Как ён гаварыў, аз есм, іжэ ясі на небесі, пціцы ішчуць гнёзды свае і так далей і таму падобнае. Вот і прыехалі вы, як завяшчаў ён сам, у родныя пенаты.

Мы, дарагія таварышы землякі, ужо адышлі ад камуністычнай ідэалогіі. Мы шырэй глядзім. Вот, дапусцім, кнігі былі рэлігійныя, сам ён, як раньш пісалі, наогул быў манах-адшэльнік. Але гэта не пацвердзілася. Чым ён можа быць карысным сёння? Тым, што ішоў па слядах Кірыла і Мяфодзія. Толькі з кнігай пад пахай. А хіба аб'яднаць славянскія народы больш няма патрэбы? І няважна як чалавека звалі. Ён, як вучоныя пішуць, вазіў кнігі ў Тартарыю, каб прасвяшчаць. Але штосьці яны не зразумелі пераклад ці што, узялі ды спалілі. Плёткі такія былі. Але плёткам верыць, самі знаеце. Ленінград быў тады культурны горад, пры царах. Акно ў Еўропу, што ўсім вядома. Там бібліятэкі, там адукацыя. Хто б кнігі стаў паліць? Раскіньце мазгамі. Кніга была на вагу золата! Карову можна было купіць. Дзесяць, вось мне падказваюць. Цэлы статак. Гэта дарага. У першых калгасах столькі не было.

Землякі з усяго свету зніякавелі. Хто расшырыў вочы, хто апусціў. Гаспадар не спыняўся:

— Але няхай паверым: не прынялі кніг ад незнаёмага іншаземца. Не канец свету. Не выйшла тады. А зараз выйдзе. Мы іхняга мэра першадрукарскім медалём узнагародзілі. Спадабалася, дзякаваў. Газеты пісалі. Будзем спрабаваць. Працягнуць справу. З'яднаць, сшыць. І з югаславамі ўшчыль-

нім дружбу, з братушкамі. Але кой-чаго, канечне, прыдзёцца памяняць. Вось навошта нам, каб наш першадрукар называўся, як гэта некаму хацелася —Ян? Мы ж царкоўнага паходжання, не іншага. Па-наску нават рымскі папа пішацца: І-о-ан і ніякіх гваздоў. Хоць трэсні. Вазьміце газеты. Мы не такія рэтраграды, царкоўныя імёны вяртаць нам не трэба. Досыць Івана. Яшчэ ў песні пелася —«Іванамі да Мар'ямі гардзілась ты ўсягда». Радзімая зямля. Іван. Іван-першадрукар, гучыць дужа хараша, ідэалагічна надзейна. Як герой-багатыр народнай казкі. А Ян —гэта глупства. Навошта Ян? Што за белая варона, дзеля чаго? Можам рэферэндум і ў Івана. І баста. Народ падтрымае. Трэба назад да сваіх каранёў... Ну што, няма пытанняў? Будзем закругляцца.

— Ёсць пытанні.

— Калі ласка, слухаю ўважліва.

— Існуе версія: чаму Ян больш ніколі Тартарыю не ўспамінаў, ездзіць баяўся.

— Цікава. І чаму ж? —насцярожыўся гаспадар.

— Яго маглі трымаць у лёхах і катаваць. Для іх ён лазутчык. Не проста са сваім статутам у чужы манастыр які.

— Ну гэта вы пакіньце. Што ён ім зрабіў адмоўнага? Што такое кніга? Не хочаш, не чытай!

— Захаваўся дакумент. Тартарскі князь угневаўся Бібліі ад схізматыкаў.

— Далікатна гаворачы, вам трэба прыкусіць свае языкі. Рускі беларусу ніколі, вы чуеце? Ніколі не зробіць гадасці. Нават калі рускімі называлі калісьці беларусаў. Разумееце? Гэта ў крыві. Дружба народаў. Проста маглі падумаць, раз кнігі рэлігійныя, без царкоўнай цэнзуры ніяк нельга. А ён жа ні ў каго не пытаўся. Сам надрукаваў. Ну, пагарачыліся. Але не трэба сачыняць. Навадзіць цень на пляцень. Трэба з сябе нац'яналізм выціскаць, па кропельцы. Да пабачэння. Няма часу на марнатраўныя гутаркі.



## 10

У горадзе, дзе Ян кнігі рабіў, дзе выйшла Біблія для карыстання шырокага, у больш блізкія часы існаваў эмігранцкі асяродак, выходзілі паасобныя выданні. Але эмігранцкае кола знікла. Цукар распускаецца ў шклянцы нават з халоднай вадою. Аддаючы сваю салодкасць, спыняючы сваё папярэдняе існаванне.

У новых часах перабралася купка рамантычнай моладзі. Чаму б не аднавіць эмігранцкую газету? Пачаць спачатку. Шырыць вольнае слова з замежжа. І дзіва здзейснілася. Пацягнуліся, як у цёплую кавярню з золкай цёмнай вуліці, пілігрымы з рэспублікі. Забіралі газету —па некалькі паасобнікаў, каб трапляла за калючы дрот. Крыху паржавеў, ды захаваўся. Але так было нядоўга. Друкаваныя выданні зрабілі кантрабандай. Газета на мяжы трапляла пад арышт. Яшчэ нядаўна так здаралася з Бібліяй. У рэтраградаў з гэтым строга. Рукі прышыты як трэба. Суравымі ніткамі.

Аднойчы дзверы рэдакцыі расчыніў незвычайны ўцякач. Адзначаны медалём першадрукара. Рэдактар «Рыцараў Свабоды». Закрытай рэтраградамі газеты. Без грошай, з чырвоным пашпартам у кішэні, тэрмін якога сканчаўся. Яго ўдалося ўладкаваць у старога прафесара музыкі, апошняга з эмігрантаў. Які меў сантымент да першадрукара. Моўчкі дажываў свае гады, усцешаны, што не прыцягвае ўвагі тых, хто паяўляўся на танках.

Калі жалезная заслона адсунулася, і калі яго раптам адшукалі новыя эмігранты, прафесар адчуў стрыманую радасць. Варта дапамагчы моладзі, якая не менш ахвярна ўзялася за справу, каторая аднолеткам каштавала жыцця, але не была агорана. Засталася забароненым плодам, небяспечнай марай, марнай увогуле справай. Але светлай і прывабнай. Неўміручай.

Экс-рэдактара, зусім яшчэ маладога —як ён калісьці, калі працаваў у эмігранцкай арганізацыі, —якому ўдалося ўцячы за мяжу, прафесар прыняў з прыхільнасцю, даў ключы, паказаў пакой і сказаў заставацца колькі захоча. Балазе ў вялікай кватэры прафесар жыў адзін. Уцякач пачаў друкавацца ў

эмігранцкай газетцы, якая, зрэшты, асабліва плаціць не магла. Яму шмат было й не трэба. Досыць, каб у вулічнай закусачнай з'есці смажаную каўбасу з гарчыцай і лустай хлеба. Каву ён піў у рэдакцыі, дзе паяўляўся амаль кожнага дня. А ранкам кавай частаваў прафесар, з якім яны снедалі. Аднойчы прафесар паехаў на водны курорт, і госць застаўся адзін-адным. Кніга, на якую паявілася магчымасць падпісаць дамову, не пісалася. Не хапала свежых уражанняў, новых звестак. Ён спыняўся на вуліцы ля шапікаў з прэсай, браў і праглядаў рускія газеты, каб іх. Гэта як наканаванне. Лепей бы гартаў часопісы з аголенымі дзяўчатамі. Аднойчы абступіла хеўра: цікавімся, як справы на радзіме? Ды не, хлопцы, я наогул не зусім ваш, калі чэсна. Нічога. Адыдзем, землячок, піўка вып'ем. Хлопцы, не магу, справы. Знаем-знаем, грэбуеш. Ну навошта ж так. Давай-ка пойдзем пагаворым. Ды ў мяне і з грашыма не вельмі. Мы частуем... Яны ўчапіліся. Крычэць не будзеш.

Некалькіх глыткоў і ён стаў адчуваць, што правальваецца на месцы. Што эта з табой, землячок, —пачуў скрозь мроіва. Дрэнна стала? Давай дамоў завядзём, дзе ты жывёш? Ды тут, блізка. Адрас скажы... Ён і сказаў. Ніколі паганага стану не меў настолькі. Ачуўся ў прафесарскай кватэры на канапе. Паспрабаваў вочы расплюшчыць, балюча. Пачуў: а што с гэтым? Ляжыць як бервяно. Ды нічога не зробіцца, ачуняе. У паліцыю не пойдзе, бачыш, у яго нават пашпарт пратэрмінавы. Не дзёрнецца.

Грошай прафесар дома не трымаў, але зніклі мастацкія рэчы, скрыпка. Старадрук ацалеў.

**11**

Новы пасол спажываў плён дэмакратычнага ўрада. Пераканаць здолеў мясцовыя ўлады, каб паставіць помнік першадрукару. А тут рэтраграды. У пасла ў руках залатое яечка. Зручная магчымасць культурныя сувязі палепшыць. Бо з астатнім было горш.

Пасольства атрымала факс: пашукаць па архівах, каб давесці, што першадрукара звалі Іванам. Чаму не? Хто шукае — знойдзе! Няхай быў нібыта Янам, што з таго? Трэба ставіць мэту і дасягаць. Калісьці была пастанова даказаць, што яго звалі насамрэч Іоанам. І вучоныя даказалі. Выйшлі кнігі, у кінатэатрах круцілі фільмы, на сцэнах ішлі спектаклі пра першадрукара Іоана. Нават помнік дастаткова вялікі паставілі і надпіс ужо не сцерці, на вякі адліта: Іоан. Кропка. З помнікам амаль неверагодная справа, ён жа не марксіст, а ставілі толькі ім. І раптам столькі бронзы з дзяржаўных фондаў, рашэнне цэка, усё як мае быць. На манаха-затворніка, як тады пісалі, які ўсё пра габрэяў і пра Бога друкаваў, што было аднолькава для цэка. А ўсё таму, што ўдалося з яго свайго зрабіць, Іоана.

Набліжалася гадавіна адкрыцця першадрукарскага помніка, за мяжой, у Златаградзе. Пасол вырашыў: будзе нагода закінуць пачатковы шар. Зрабіць мерапрыемства з чаяпіцем у пасольстве, запрасіць мясцовых навуковых знакамітасцяў і, як бы між іншым, паведаміць, што ніякі ён не Ян, а —Іван (Іоан было царкоўным імем). Гэта новая і вельмі перспектыўная тэорыя, якую падтрымлівае ўрад. Ян —неўласцівае імя для насельніцтва.

Але што ты скажаш: мясцовая славянская бібліятэка вырашыла адзначыць іншую дату —выхад першай кніжкі, якую Ян адбіў «у слаўным месце каралеўскім». І нацдэмы намаляваліся. Пасол падумаў: у вас сваё вяселле, а ў нас —сваё, але бібліятэку вырашыў наведаць. Каб прамовіць слова, зарыентаваць адносна сучаснай палітыкі ўрада наконт першадрукара.

Акінчыц стаяў з першадрукаразнаўцам з метраполіі і другім, які прыехаў з Амерыкі, эмігрантам. Нягучна размаўлялі. Прайшла міма нейкая кабетка. Акінчыц, здаецца, пазнаў яе. Ужо пазней яна быццам бы нерашуча наблізілася, зачала размову: мне пачулася, вы па-мясцоваму размаўлялі. Трымала аберуч дамскую сумку, прыціснуўшы да жывата. Давайце знаёміцца, я сакратар пасольства па культуры. Будзем супрацоўнічаць. Я думаю, што імя першадрукара павінна нас аб'ядноўваць, а не раз'ядноўваць. Яна змоўкла, сумелася. Зусім шчыра, але недарэчна выказалася, сама адчула. Перавяла размову ў бочнае рэчышча. Сам пасол павінен паявіцца! Абяцаў усе сустрэчы на сёння адмяніць... Яны пераглянуліся: што яму

яшчэ рабіць, як не сюды прыйсці? Каму ён патрэбны? Пасол непрыкметнай рэспублікі.

Ён быў лепшым, чым Акінчыц думаў. Выглядаў, зрэшты, класічна па-чыноўніцку: на раскормленага пацука, са шчоткай вусоў, шматзначна зацемненымі акулярамі. Але затое карыстаўся беларускай моваю, што сведчыла пра пэўную ліберальнасць поглядаў. Папярэдні пасол не толькі не ўмеў размаўляць, а нават па-руску толькі з паперчыны чытаў і запінаўся.

Першадрукар музыкі не пісаў, нотных сшыткаў па сабе, прынамсі, не пакінуў. А распачаць крыху аднастайна-гаварыльнае мерапрыемства пажадана было менавіта з музычнага нумара. Афіцыйны, захаваны ў рэспубліцы камуністычны гімн зусім не пасаваў да нагоды. Усіх прымусілі ўстаць пад рэлігійны ў выкананні эмігранцкай капэлы, на словы паэткі, якая памёрла ў антыкамуністычнай эміграцыі. Пасол са світай цяжка падняўся, дэманструючы шырыню поглядаў. Мы не ў метраполіі і са сваімі парадкамі ў чужым кляштарыназаляць не будзем.

Афіцыйны гімн, як яму здавалася, быў не такі кепскі. Тут Акінчыц з паслом згодны. Крыху састарэў, вядома, ідэалагічна. Але тэкст цікавы, разнастайны —і пра кіруючую нябожчыцу партыю, статую Леніна, пра вечнае варожае акружэнне, і пра насельніцтва таксама, што працуе не пакладаючы рук, і дружбу народаў увогуле. Але музыка без жартаў няблагая.

Пасол сказаў з паперкі словы прывітання па-мясцоваму і пачаў нібы здалёк, але традыцыйна: пра рыбы, віры, пчолы і гнёзды. І рэзка з важкай інтанацыяй зазначыў, што землякі сумняюцца наконт Яна, і што новае кіраўніцтва схільна лічыць першадрукара Іванам, што бліжэй і больш зразумела для вясковага народу. Вось вам вытрымкі з тэлеграм ад упаўнаважанымі сялянскіх сходаў, якія аднагалосна галасавалі за Івана.

Ён, канечне, быў не дурны і натуральным чынам прыкідваўся Ванькам, бо не проста ж так яшчэ самому першадрукару падабаўся гэты казачны горад, у якім пасол і году не паспеў пражыць.

Гаварыў каротка, стала памятаючы, што time is money. Начальству, якое любіла гаварыць гадзінамі, тут было б не разгарнуцца, думаў пасол, сканчаючы прамоўку. Апошняй у ёй была прапанова да прысутных называць першадрукара напачатку хаця б Янам у дужках Іванам.

Ніхто, што збянтэжыла пасла, не пратэставаў. А нямая сцэна не зацягнулася, тэатральны акцёр пачаў дэкламаваць пераклады на мясцовую мову, у якіх першадрукар паведамляў пра птушкі і гнёзды, віры і рыбы, пчолы, пра масты і глыбокія вавілонскія рэкі, якія сланам не ўдавалася перайсці і яны мусілі плысці, чаго рабіць не вельмі любілі, бо хутка стамляліся варушыць нагамі.

Пасол адчуваў прыемнасць, пачала сама сабой прыдумвацца падрабязная справаздача аб мерапрыемстве ў эмзээс. Наступны прамоўца чамусьці нахвальваў даваеннага эмігранцкага пасла, якога не прызнавалі рэтраграды, і ні слова не мовіў пра сённяшняга, які толькі што гаварыў у культурна-гістарычным рэчышчы і свядома не чапаў палітыкі.

Пасля прапановы пайсці да пасольства рэспублікі, каб пратэставаць супраць з'іваньвання першадрукара, пасол напружыўся. Падначаленыя сядзелі як мышы пад мятлою. Моўчкі байкатавалі прамоўцу, адмовіўшыся паляскаць. А калі ён досыць ваяўніча сказаў «рукі прэч ад першадрукара Яна» і што «мы яго не аддамо рэтраградскаму рэжыму», пасол падскочыў з выгукам: «Ну гэта ўжо занадта! Занадта шмат палітыкі там, дзе яе быць не павінна».

Атрымаўся экспромт. Бедны эмігрант так спалохаўся, памятаючы, як доўга давялося змагацца, каб вярнуць першадрукару сапраўднае імя. І гэта з зусім недарэчным Іоанам. З Іванам можа быць яшчэ цяжэй.

Ён не перажыў бы, каб на замежным помніку пачалі імя замазваць. Горад быў яго родным, бацькі, з той яшчэ эміграцыі, тут пажаніліся, а потым здолелі паспець у Амерыку, яшчэ да танкаў. Сын, памятаючы аб каранях, даследваў лёс першадрукара і змагаўся супраць Іоана. На Івана сілаў ужо магло не хапіць.

## 12

Акінчыц сядзеў у архіве, каб знайсці новыя звесткі аб першадрукару, сапраўдныя. Каб адшукаць факсіміле. Няхай бы роспіс у бухгалтарскім гросбуху. Якім ён будзе: Ян? Іван?

Калі не ў архіве, ён бадзяецца златаградскімі вуліцамі. Амаль яны, заходнікі. Амаль. Падабенства вонкавае. Лагодныя, перасычаныя ўражаннямі, архітэктурай, перапоўненыя півам, кошты не нарадуюць! Турыстычная Мека Еўропы. Калісьці, у драматычны час, горад прыцягваў рэпарцёраў, дыпламатаў і, як сцвярджалі, шпегаў. Вольналюбнае месца, элітарна-інтэлектуальнае асяроддзе, Сартр на сцэне, Камю! Адна са сталіц выбуховага году студэнцкай рэвалюцыі, адчайна-зухавай, з лозунгамі, плакатамі, мегафонамі, у джынсах з гітарамі і даўгімі валасамі. З півам і молатаўскім актэйлем. «Рэвізіянізм», «контррэвалюцыя», «варожыя падкопы-правакатары-найміты-дыверсанты», «пятая калона ў нашым лагеры» —таўравалі іх са сталіцы СССР чорна-белыя газеты і металічныя радыёгаласы.

Крыж паставіла армія танкаў. Груваcткіх зялёных гаргар са сталёвымі хобатамі. На бруку, трамвайных рэйках і клумбах. Недарэчных сярод гатычных сабораў. Маладзёны крэслілі крэйдай на асфальце зорку са свастыкай усярэдзіне.

Даваенны паэт з Кладна. Ці не такімі ж былі яго бадзянні ў Златаградзе? З лістоў адсюль сёе-тое вядома. Вечна галодны, хворы, мучыўся без пісьмовай машынкі. Пераходзячы раку па старавечным мосце, параўноўваў раку з кладненскай Альбай, настальгічна марыў —О, Кладна! Мая жаданая Мека! З цяжкасцю рухалася праца пра першадрукара, засталася пражэктам задума паставіць яму ў Кладне помнік. Паэзія зрабілася праклёнцем, перашкодай у заробку кавалка хлеба. Скардзіўся ў лістах на паганы, як на ягоную хваробу, мясцовы клімат, на заводскія коміны, марыў вярнуцца як птушка з выраю, каб памерці пад бацькоўскім крыжам. Намагаўся напісаць у сухотным санаторыі аповесць пра Кладна, але марна. Ён аднойчы памёр, была засведчана клінічная смерць. Раніцай у трупярні санітары звярнулі ўвагу, што ён нібы не зусім мёртвы. Ён аджыў. Але ненадоўга.



Раман як гістарычны
выглядае горад, але твая
твая гісторыя яму чужая,
ніяк не трапіць у тэкст.
Памрэш, і не заўважыць,
не будзе закапаць каму
і месца —дзе.

У гатычную сталіцу ўваходзяць швабы. Паэт вяртаецца ў сваю «Меку», але пацехі няма. Пакуль знаходзіць кут, сякуютакую працу, Кладна займае войска з зоркамі на шапках, на танкетках і бронемашынах, больш сціплых, чымсьці швабскія, але нічым не лепшых. Паэт згарае за кратамі, праўдападобна ў склепе былой друкарні, дзе размясцілася карная установа. Магілы няма. Мала што захаваў горад з таго, што меў і што бачыў. Калісьці Кладна амаль суздром выгарэла, у пажары загінулі кнігі. Неасцярожнасць з агнём. Ці наўмысны чын. І ў далёкага Гутэнберга так аднойчы варштат пайшоў з полымем. Першадрукар мусіў вярнуцца ў свой гатычны горад. Дажываць. Зрэшты, яшчэ пажыў як чалавек. Але ўжо без варштата, без новай магчымасці ўзяць у рукі, адчуць пах друкарскай фарбы новага тома.

Акінчыц выпадкова, незнарок ублытваецца ў разамлелую плыню сытых, закормленых, перапоўненых ежай, прысмакамі, слодычамі, дрынкамі. Абмацваючы ў сваёй кішэні зрэдзьчасу колькі манет. Ай, колькі можна! Узяць піва! Якое смачна рэкламуюць рок-мэны на вялізных каляровых фотаплакатах, славутыя замежнікі, якія следам за турыстамі падаліся ў еўрапейскую Меку, каб выступіць дзеля прамоцыі новай кружэлкі. Акінчыцу хапае адной манеты. Бярэ пляшку, адкаркоўвае. Нечакана для сябе, не смакуючы, выжлуктвае з рыльца ўсё адразу. Атрымлівае за парожнюю бутэльку дробны грош. Ідзе далей, перабіраючы цяпер ужо разам з грошыкамі рубчаты піўны корак. Даходзіць да моста, які назваў напачатку вавілонскім. Кінуць манетку ў раку? Шкада, нават дробнай. Вымае корак, няўважлівы позірк. Рука запынаецца ў напаўрэзкім

жэсце. Разглядае. Выйгрыш! Унутры лічба. Недасягальная сума! Назад!

Яму адлічваюць грошы наўзамен металічнага корка, і зусім крыху павагаўшыся ён купляе побач квіток на Bridges to Babilon.

Праходы на пляц, шчыльна забудаваны камяніцамі і храмамі, зусім вузкія, у кожным купкі паліцыянтаў і ахоўнікаў. Акінчыц паказвае свой квіток, апынаецца ў рознагамонкім натоўпе. Пырскае музыка, запальваюцца пражэктары, хаця яшчэ не сцямнела. Моладзь пачынае гарлаць, прытопваць і пляскаць. Па-над галавою праплывае аўтаматычная тэлекамера, узвіваюцца там-сям сцягі. На бруку галоў паяўляюцца дзяўчаты на мужчынскіх плячох.

— Hello everybody! —бадзёра выгукае адзін з «дыназаўраў» —спявак рок-гурта перадпенсійнага выгляду. —Мы хацелі паспяваць вам яшчэ чорт знае калі, але нам ад варот паварот...

— У-у-у! —радасна адгукаецца пляц.

— Мы прагнулі быць разам з вамі. Але не паспелі здзейсніць. Аэрапорт быў абкружаны танкамі. Нам не далі сыграць. Пасадзілі ў «боінг» і адправілі назад да дзядзечкі Сэма. Ха-ха-ха!

— Й-е-э-э! —публіка адказвала эмоцыямі, выклічнікамі.

— Цяпер танкі пераплавілі на «джылет», і мы нарэшце з вамі. Ура! Гэтым разам чыста паголеныя.

Вежу вавілонскую
будаваць змушалі!
Размаўляць аднолькава
Усім загадалі.
Крочыць —лева-права!
Вы не пажадалі!

Е-е-э! —адначасова абазваліся барабаны.

Раптам пляцоўка, на якой грукацеў гурт, узнялася і памкнула наперад, каб навесці масты паміж Еўропай сапраўднай і уяўнай, гіпатэтычнай, як паміж двума берагамі біблейскіх Тыгрыса ці Еўфрата.



**13**

На златаградскіх кладах захавалася, адно пахіленая, брыла магільніцы: гарцуе рыцар са старой магістрацкай пячаткі і — літары. Імя, прозвішча, даты. Магіла на чужыне эміграцкага старшыні ўрада, які пакінуў Кладна, каб памерці тут, ніколі не ўбачыўшы болей «жаданай Мекі». Зусім нядоўга пратрываў у выгнанні. Архіў і пячатку паспеўшы перадаць на смяротнай лажніцы наступніку, лёс якога болей драматычны. Так-так, але і рамантыкі не бракуе. І таемнага прысмаку.

Ляжыць сабе пад магільнай брылай і ў вус не дзьме, падумалася знянацку Акінчыцу. І рыцар твой зусім бяскрыўдны. Але свабодны. Не забаронены, бацькаўшчына за гарамі, дзякаваць лёсу. У яе з рыцарамі размова кароткая, міліцэйская. Часам бывае лепшым мець урад без партфеляў. І памерці далёка ад дому, дзе гінулі ад кулі.

Уцёк ад молата
і тут пад гнётам.
Твой чэрап не раструшчылі,
але пад каменем ляжыць.
Трымаюць так сыры
у бочцы, каб выціснуць
да кроплі сокі.
Навошта? Не трэба
задаваць пытанняў.

Акінчыц стаіць над магілай і пачынае ўсведамляць, што думае нібы думкамі пахаванага, за яго, і ўражваецца радкам, якія ў галаве напісаліся нібы самі сабой.

Гісторыю ўрадавага старшыні Акінчыц чуў сам, але Дайна ёю апантаная. Пабыла толькі некалькі дзён, штосьці спрабавала яшчэ даведацца і далей у Еўропу, шукаць слядоў той кабеты, яго каханай. Але як? Нават на магільных плітах сціраюцца імёны, не вызначыць дакладна літары, як невідушчы абмацаваеш. Чарнілы ў старых дакументах выцвітаюць, уплыў часу непазбежны. І праўда такая: часам людзі рады, што сляды робяцца нечытэльнымі, знікаюць.

Яны стаялі, толькі што адшукаўшы магілу з рыцарам, моўчкі разглядаючы яе. Навокал мёртвыя імёны й твары. Здаецца, што вершнік зараз кульнецца, ногі каня, пахіленага наперад, быццам зблытаныя —дакладна такія —купна выгравіраваныя сярэдневечным майстрам, каб абавязкова змясціць чалавека і жывёліну цалкам. Конскія ногі колам. Алюр, галоп, рысца?

Спачатку ўсё было няблага. Нават болей. Архіў сцёртай з мапы рэспублікі мясцовыя ўлады згадзіліся прыняць у свой дзяржаўны, а старшыні ўрада далі пасаду архіварыўса. А потым спачатку прыйшлі адныя танкі, потым другія. Без пасады і грошай ён захварэў і памёр. Застаўся попел у бляшанцы. У калумбарыі. Заплочана было за некалькі гадоў наперад. Пазней судзіну з попелам закапалі б у агульнай яме з іншымі парэшткамі, якія сталі нічыйнымі. Была дадзена абвестка —як у падобных выпадках —у газеце. Паявілася жанчына і выкупіла урну за сімвалічную плату. Цяпер ужо вядома, што яна захоўвала яе ў кватэрцы. «Вось гэта каханне, —захаплялася Сабіна. —Сапраўдная меладрама. Унікальны выпадак сумесі трагічнасці з рамантызмам. Цяжка акрэсліць словамі». «‹, —Акінчыц згаджаецца. —Яна сапраўды магла баяцца. Ён быў кіраўніком буржуазнага ўрада. Няхай не ўрада зусім, а толькі мары —рамантычнай, прывабнай. Няхай уяўнай установы з аднае асобы. Для іх ён быў вінаваты. Нават калі быў толькі архіварыўсам. І не заўжды. Перад смерцю —хворым небаракам з дому для беспрытульных і жабракоў». «Так-так, яна баялася! І небеспадстаўна. Хіба не так?» «Хто ведае, мабыць. Але яна проста магла не мець грошай. Месца на могілках, злашча мемарыяльных, будзе каштаваць, у такім горадзе пагатоў». «Ты ўсё робіш будзённым. Яны былі закаханымі. Гэта вядома з лістоў. Яна была яго каханнем». «Але нешта ў іх не атрымалася?..» «Канечне. Так і было. Ён не належаў сабе. Гэта раз». «А па-другое, сціплы заробак ішоў на справы эфемернага ўрада, урада на паперы?» Апроч назвы нічога. Самападман. Ці пастава: да канца захаваць годнасць.

Прыклалі да сябе два лёсы,
не скlаліся ў адзін.



Не сталі плодам:
чужына і часы чужыя.
Сваіх не прычакалі.

Дайна марыць адшукаць архіў —некалькі доўгіх скрыняў —тамака, дзе ён І быў пачаткова —у нацыянальным архіве, з каталогаў якога зніклі звесткі пра яго. Ёй здаецца, яна недзе чула, ёй нехта сказаў пад сакрэтам, яна спадзяецца ва ўсякім разе, што знішчаны толькі вопісы, самі дакументы недзе ў склепах застаюцца цэлымі, чакаюць. Акінчыц, наадварот, разважае скептычна: скрыні даўно недзе на Лубянцы, бо архіў быў палітычны. Яны нават з першадрукаром каламуцяць, спрабуюць падкапацца. Не кажучы аб старшыні эмігранцкага ўрада.

Знік архіў. Знік нават попел. Як быццам не было чалавека. І кабета не пакінула слядоў. Калі ўваходзілі апошнім разам танкі, паспела атрымаць замежную візу, тады ўдалося ўцячы тысячам-і-тысячам, да закрыцця мяжы. Мяркуючы па гадох, наўрад яна яшчэ жыве. Дзе магла памерці, невядома. Але Дайне хочацца спадзявацца. Існуе нейкі іншы эміграцкі архіў у замежжы. Яна мае надзею. Няхай мае.

Акінчыцу трэба пашукаць яшчэ адну магілу. У думках на пліце серп з молатам. Хаця ён разумее, што хутчэй яна будзе засім някідкай. Лёс гэтага чалавека таксама чакае ўвагі раманіст. Член КПЗБ. Кляймо партыі шпіёнаў і здраднікаў. «З камуністычным прывітаннем» ад самога таварыша Сталіна. Пацеха дэфензівы. Паляванне. Ад якога больш нельга ўцячы цераз зялёную мяжу, дзе чакае НКВД. Напагатове. У роспачы ён кідаецца ў іншы бок. Златаград. Не паспявае ўздыхнуць з палёгкай, уваходзяць швабы.

**14**

Што будзе з экс-рэдактарам «Рыцараў Свабоды»? Як з першадрукаром Янам? Знікне ў замежжы? З эміграцкай ранай у душы? Ці некалі зможа вярнуцца? Ці верыць ён сам? Рэтраграды прыходзяць надоўга. Ні рыцараў, ні свабоды ім не трэба. Знікнуць у замежжы, не загінуць. Часы іншыя.

Акінчыц у галаве трымае прафесара філалогіі, знаўцу кніг першадрукара. Не знікае з галавы. Калі прыйшлі швабы, ён зразумеў, што наступіў канец для яго. Справа дзён, тыдняў, можа месяца-другога, калі пашанцуе. Нават калі не паказвацца на працы, а паказвацца небяспечна. Калі не выходзіць на вуліцы, што немагчыма. Ці амаль. Прыслугу ён меў. Стаць добраахвотным вязнем самога сябе? Не ўратуе. У іх паляўнічы інстынкт. На прозвішча няўдалае, ці на выраз вачэй габрэйскі. Хоць толькі кропля крыві ў табе, не больш.

Ён не марудзіў, сам сабе здзівіўся. Пакуль не закрыта мяжа, калі сапраўды не закрыта, нельга... Не панікаваў. Дзейнічаў цвяроза, але нібы лунатычна. (Абставіны). Як бывае, калі мусіш не спаць ноччу. Гэта называецца дзейнічаць на апярэджанне. Усё нібы складалася. Горная дарога. Малалюдная мясцовасць. Хуткая рака. Мост. Памежныя будкі. На другім беразе ратунак. Але яго прымусілі вяртацца. Яшчэ ўчора ўсё было па-старому, а цяпер давай дазвол на выезд.

Ён папрасіўся на начлег у прытулак для лыжнікаў. А раніцай яго знайшлі нежывым. Вясковы доктар засведчыў смерць. Сам сябе... палічыў ён. Больш нічога невядома.

Акінчыц летуценіць —што магло быць у партфелі. Страшна падумаць! Мы ніколі не даведаемся. Шкада. Можа быць слоўнік мовы першакніжніка? Прафесар яго складаў. Або малюнкі Яна, якія рабіў мастак з Кладна. Сёння цаны ім не было б. Існаваў таксама накід помніка першадрукару. Асобныя радкі ў дзённіках —падстава. У руках распяцце... Але шкада перш прафесара. Хіба знайсці якогасьці дзядзьку не выпадала, каб цераз раку пераправіў? Хіба не? Мяжы без кантрабандыстаў не бывае, яны як рыба ў вірах. Але ў гвалтоўныя часы не бывае лагодных канчаткаў. Акінчыц запыняе сябе на думцы, што міжволі нібы спрабуе адчуць сябе тым прафесарам, усвядоміць яго адчай і абмысліць варыянты сваіх дзеянняў, каб рашыцца на нешта.

А часы першадрукара? Зусім нядрэнныя. Свабодная язда. Страшныя яны пабылі ад бошаў да канца СССР. Калючы дрот на межах, калі трэба —электраток. Турма за спробу пераходу. А магла быць куля.



А першадрукар, ён быў свабодны як птушка. Дзе жыць і што рабіць. Скрутныя выпадкі здараліся, жыццё —заўсёды цяжкасці. Але за Біблію на мяжы ў Брэсце ніхто не садзіў. Змена месца жыхарства не было здрадай радзімы. Ён рэзьбіў гравюры, каб кніга была не сляпой. Маючы перад вачыма радкі з-пад уласнай рукі, складаў літару да літары, бачыў толькі іх, меў дачыненне толькі з імі. Ён быў бацькам літар і слоў, яны атрымліваліся з паасобных літарынак. Чужых слоў у сваёй славянскай апратцы. Змест іх выглядаў механічным, не рукаробным. Рука не выпісвала кожную літару, не аддавала ёй сваё цяпло. Ён быў гаспадаром варштата з рухомымі літарамі. Варштата, зробленага Гутэнбергам. Ён быў машынай для вырабу кніг. Механічнай прыладай, як ткацкі станок. Гутэнберг меў перад вачыма вінны прэс, калі да змазаных фарбай старонак прыцiскаў аркушы.

Словы прызначаліся людзям. Няхай даведаюцца біблейскія ісціны самі, не чакаючы калі святар раскажа ў нядзелю. Учора быў адзіным ён у наваколлі чалавекам з Бібліяй у руках, а сёння болей —не. У галаве, у руках, у душы быў цэлы сусвет, кірылічна-славянскі, з якім ён наўцям выправіўся ў дарогу, на бацькаўшчыну. З гонарам у душы: бярыце і чытайце.

Як біблейскі пераклад па-англійску ці па-нямецку —на кожны кліpac пакласці не выйдзе, але ўсё ж.

**15**

У бібліятэцы, былой Каралеўскай, захаваліся Янавы кнігі, звычайна паасобнымі часткамі. Некалі вокладка была клопатам набыўцы, чытача. Акінчыцу гэта мала перашкаджае. Напэўна быў ён паліглотам, так намяшаць! Пірог, нават больш складаны торт, у які трапіла ўсё, што апынулася ў кухонных слоіках —арэхі, разынкі, марцыпаны, карыца, каляндра, мак, перац, кмен, хмелі-сунэлі. Месцамі няхай ядомае, але адсутнасць рэцэпта не дазваляе прыгатаваць яшчэ раз. Ён быў вельмі адукаваны чалавек і ведаў, што робіць. Без сумневу. А нам сёння здаецца, што мова не да ўжытку. З адлегласці

часу. Царкоўная лаціна. Па такіх кнігах немагчыма уявіць, як напраўду размаўлялі нашыя прадзеды.

Чаму —не патлумачыш, але ў Акінчыца адчуванне, што за ім не сказаць сочаць, але дыхаюць у патыліцу, яны недзе побач, канкурэнты. Хаця ён не сутыкаўся ні з паслом, ні з культурдарадчыцай. Ні ў чытальнай зале, ні ў прыбіральні. Зрэшты, у іх там нейкія клеркі яшчэ павінны быць. Эмігранцкі пасол, той дзейнічаў у адзінай асобе. Хто іх ведае? Можа яны ідуць па тваіх, Акінчыц, слядох, віжуюць, што ты расшукваеш і што табе трапляецца? Каб скрасці і знішчыць або замяніць падробкай? Чаму не? Каб давесці, што не было еўрапейскага ўплыву, што вы скіфы —азіяты з вузкімі вачыма, нашчадкі перасветаў і чалубееў, як вучылі ў школе камуністы. Што рускія і беларусы —адзін народ, што мова ў іх адзіная. І не можа быць інакш. І выбрыкі Бога, якога абурыла, што будаўнікі Вавілонскай вежы карыстаюцца адной і дзякуючы ёй у іх усё атрымліваецца, проста неразважны ўчынак старога чалавека. Не сакрэт, старыя робяцца жоўчнымі і сварлівымі.

Хаця, Акінчыц, Вавілонская вежа з адлегласці вякоў выглядае сапраўды першай спробай дасягнуць неба, узняцца над цяжкім жыццём, над будзённасцю, вечнай патрэбы дбаць пра кавалак хлеба. Богу таму магло не спадабацца, а сучаснага чалавека можа толькі цешыць. Як радавала саміх будаўнікоў. Пакінуць па сабе грандыёзную пабудову —хіба не мэта, вартая чалавека? Так, вядома, піраміду склалі рабы і вежу маглі прымусіць іх. Але зусім не гэта Бог не прыняў. Не, што б не пісалі ў Бібліі, будаваць агульную вежу зусім не загана, руйнаваць блага, разбураць. Але ў Бібліі ўсё наадварот. Чаму? Only God knows why, як у нейкай песні. Але гэта нічога не тлумачыць. Адказу няма. Ён ведае? І кропка? Пытанняў не задаваць? Бог бывае капрызлівым і дэспатычным. Жорсткім і бязлітасным. Яму ўсё можна.

Балючыя словы не паўстанне супраць Бога. Нічога яму не будзе. Не бойцеся за яго, не перажывайце, калі ён у вас толькі ў галаве нарадзіўся. Забіце ў сабе страх яго пакрыўдзіць, Акінчыц перамагае сябе, каб так падумаць. Не крыўдуйце, калі аб ім скажуць непрыхільна. Што з ім зробіцца? Бог можа



быць філасофскім пытаннем, магчымасць яго існавання. А можа —пытаннем твайго асабістага сумлення. Не быць рабом Бога, быць свабодным, значыць ставіць пад сумнеў, шукаць. Не затыкаць сабе рот.

Не варта з вежай так. Піраміды хіба лепшыя? Акінчыц не мастак, але прывязаны да вобраза старажытай будоўлі. Толькі жаль, што бакшта не захавалася. Можа дзесьці засыпаныя пяскамі падмуркі адно. Што разбурылі шкада. Нічога з сабой зрабіць не можа. Хоць што яму тая біблейская, магчыма, вымысленая? Але мы так можам шкадаваць аб няспраўджаных спадзяваннях, нязробленай значнай справе. Аб рыцарскай краіне. Аб сваім непабудаваным жыцці.

Іншая нечаканая думка прабіваецца скрозь асфальт. Кволая, але яскравая. Каб не былі рассеяныя будаўнікі Вавілонскай вежы, не было б мовы беларусаў, усе людзі размаўлялі на адной. Разбурыўшы адзінства, разбуральнік падбаў пра разнастайнасць. Хіба не так?

Дый месіянства праз кнігу —хіба не вартае подзіву? Збіранне камянёў. Не пацягнулі. Самі яшчэ не акрэсліліся, не вылупіліся як след з яйка сярэдневечнага, толькі пачыналі сябе ўсведамляць. Але адклалі на потым. Не здолелі кнігамі сваімі сябе перш з'яднаць.

Але справа Яна-кніжніка не загінула. Стаў беларус несвядомым прыкладам для камуністаў. Узялі адну мову і ў яе, як у саган з варывам накідалі ад усіх патроху. Інтэрнацыянал. Славяне ўсіх краін, яднайцеся! На трыбуне кожны можа сказаць. І ўсе зразумеюць без перакладчыка. Рускі свет....

Мова Бібліі сёння здаецца якойсьці макаранічнай месцамі. Хіба не без дай прычыны ёю пісаліся школьныя інтэрмедыі, прыдумваліся батлеечныя тэксты, якія мелі паважна-камічны лад. Давала магчымасць спалучаць моўныя стылі і розныя мовы, чаго якраз вымагаў жанр. Першадрукар змяшаў кніжна-замежную з тутэйшай гутарковай. Па-пратэстанцку рашуча. Але нам здаецца, атрымаўся сурагат. Як сёння ўжываць разам лірыку, узнёслы панегірык, канцылярыт, царкоўныя словы і жаргон. А можа мы ставім неўласцівыя пытанні? Не па адрасы? У кнігах, перыёдыцы архіўнай рэха спрэчак:

мова створана Янам для чытання і пісьма, не каб размаўляць. Як лаціна, на якой толькі рэцэпты выпісваюць на лекі. І, хіба, мелі рацыю. Сёння, пагляньце: размаўляюць як атрымаецца, пішуць чым прыгажэй.

Ён мог ўдалечыні страціць моўную глебу, адарвацца ад рэчаіснасці. Тады яму сапраўды нічога не заставалася як з разумным выглядам тварыць сурагат. Прыняты потым за кніжную норму. Эсперанта, зразумелае патроху ўсім суседзям, а цалкам —мала каму.

Калі была часовая адліга, імя ўжо амаль забытага першадрукара сталі вельмі шанаваць. Заўзятары ваяўнічага руху «Прэч непісьменнасць!» сялян, якія не ўмелі чытаць-пісаць, спрабавалі масава вучыць Янавай мове як узору. Чытаць больш-менш навучыліся, размаўляць —на жаль. Схапіліся спрашчаць, злучаць з мовай русакоў. Такая выйшла пастанова партыйна-урадавая. Неадкладна зліцца ў адзіны народ, дзеля поспехаў у класавай барацьбе. Вось вам інструмент, агульная мова. Як падстава для агульнай працы.

## 16

З паходжаннем рэч няпростая. Лепей быць з някідкай, не надта багатай, але краіны з годнасцю. Чымсьці нашчадкам гучнай абрэвіятуры, якую запомнілі грукатам танкаў і тупатам жаўнерскіх ботаў, брэхам «мы вам пакажам, дзе ракі зімуюць!» Дзяржаўны валапюк, ад якога адныя крывяцца ў Златаградзе. На ім Акінчыцам з Дайнай пастаўлены крыж. Яны плывуць у вулічным натоўпе немыя як рыбы і ў душы міжволі зайздросцяць любому папуасу, які тут —сапраўдны замежнік з выгляду, мовы і пашпарту без традыцыйных сялянскіх прыладаў працы наўскрыж.

Размаўляць паміж сабою па-польску? Па-англійску? На мове, якую Акінчыц ведаеш горш за Дайну, але якая чуецца на кожным амаль кроку. Штучная сітуацыя, нязручная, няўтульная. Не трэба нам чужых, у нас ёсць свая!

Страх мовы, якую не адрозняць ад рускай чужыя вушы. Нават калі ў думках выпісваць словы лацінкай. У шынку, дзе яны спадзяваліся пасядзець асобна, у моўным сэнсе нязручна. Два вольныя месцы толькі за сталом на чатырох. Яны сядаюць, бяруць меню, раяцца, усяго колькі сціслых фразаў. Англійскіх, трасца! Маладзейшы сусед, з выгляду, мабыць, клерк —ужо наставіў вушы, ужо паварочваецца да вас і з прыязнай усмешкай вымаўляе сакраментальнае can I help you?

Ім застаецца выконваць камедыю да канца. Часам Акінчыц памыляецца з канчаткам, ці яшчэ недзе абшаснецца. Суседу павінна быць зразумела, што мова для Акінчыца —замежная з замежных. Яму цікава. Добра, няхай ведае: яны ў Златаградзе другі раз, што прыехалі цяпер з Польшчы, і ён нават кажа ў адказ, што вы разумееце па-мясцоваму. Так, разумеем, але не размаўляем. Аднак на пытанне «дык адкуль жа вы?» Акінчыц адказвае з асцярожнай усмешкай: з месца, якое затрымалася ў гісторыі. Няма чым ганарыцца.

## 17

Эміграцыя знікла як вада скрозь пясок, растварылася як парашок кавы, пакінула па сабе адну-адзіную заўважную магілу. Нават не вызначыўшы, дзе пахаваны быў Ён, бо дакладна вядома, што памёр тут; і дасюль немаведама дзе, у якім месцы надрукаваў свае славутыя кнігі, з якіх мы, можна сказаць, свядома і распачаліся. Хоць і крыху заблытана, сумбурна, цьмяна. Дысертацыю тут пра яго абаранілі, нейкія кніжкі-часопісы выпускалі —«Нашчадкі Першадрукара» мы —студэнцкае выданне. І нічога, ніякага плёну. Крыўдна! Марнае жыццё і марны лёс, як сказаў паэт.

На той сходцы ў Славянскай бібліятэцы два краязнаўцы спрачаліся паміж сабой: дзе магла быць друкарня. Здагадкі ёсць, пісьмовых сведчанняў —нямашака. А недзе ж камяніца гэтая павінна стаяць! Тут Еўропа, тут камуністы палацаў, храмаў не руйнавалі, як у Кладне, царкоўнымі абразамі буржуйкі не распальвалі і са старадрукаў цыгарак не скручвалі. Але так ніхто і не патрапіў знайсці, зрабіць сабе за мэту жыцця нават, калі ўжо на тое! Адно наракалі, нудзіліся, сварыліся паміж сабой, нешта высвятлялі —чыя крыўда большая, да-

водзілі ў спрэчках непатрэбшчыну, глупствы, змагаліся хто за Іоана, хто за Яна, шкодзілі па дробязях. Агульна пытанне простае: хто левы, хто правы? Нават такую жменьку здолела раз'яднаць нябачная рука з далёкай, але ўсюдыіснай сталіцы пралятарaў усіх краін.

Акінчыц бадзяўся з крыўдлівымі думкамі адносна іх, Яго, гісторыі і лёсу, сябе самога ў рэшце рэшт. Спусціўся выпіць піва ў скляпок, сядзеў з куфлем моўчкі, разглядаючы сутарэнне, стаў узірацца ў абрысы скляпенняў, перарысаваў іх, убачыўшы падабенства з гравюрай у кнізе, на якой ён адлюстраваў конча сваю друкарню, у якой адначасова разьбілі дошкі, адціскалі старонкі, рыхтавалі фарбу. Сэрца Акінчыца трымцела.

Так-так! Аказалася вельмі падобна. Хутчэй у Славянскую бібліятэку! Зусім не абрадаваліся. Пачалі насамі круціць: чаму тады дагэтуль ніхто не здагадаўся, не расшукаў? Адкуль мне ведаць? —адказвае. Можа, гэта таму, што навукоўцы заўжды паважныя і піва піць —час траціць? Жарт не спадабаўся. І назвы, кажуць, мы такой не ведаем. Тады Акінчыц высветліў, што піўная існуе нядаўна, раней быў проста склеп пад домам. Гэта іх таксама не пераканала. Гавораць: дарэмна вы сваіх геніеў у падзем'е саджаеце (гэта датычыць і мастакоў, якія яго малявалі), друкарні тады былі ў выгодных памяшканнях. Варштаты, папера каштавалі маёнтак. Як сабе хочуць, але піва, калі надарацца часам сякія-такія грошы, Акінчыц пойдзе піць толькі туды. Паабяцаў сам сабе, але не гэтым разам. Калі патрапіць вярнуцца.

## 18

Паўночная мяжа вінаробства, згодна даведнікам, за вокнамі. Нібы сцяна Адрыяна паміж цывілізацыяй і варварамі. Калі верыць даўнім грэкам, што лічылі піва замяняльнікам віна ў напаўдзікунскіх народаў. Віно мясцовыя мелі хоць і кіславатае, але сваё. Для ўнутранага ўжытку. Што да піва, дык піва было цёмнае, густое, сапраўднае, не горш за лепшае баварскае.

Вось зараз, разам з дзяржаўнай, яны мінуюць мяжу вінаробства, і стане халадней у душы. Вінаградная лаза —сонца, цяпло, поўдзень. Далей таксама

некаторыя для ўласнай пацехі цiснуць саматужна дробны вінаград, каб мець узімку літр-другі собскага вінца, няхай каламутнага, сціплага, але ад яго цепліць у грудзёх, калі за акном снежныя сумёты, а дрэвы маркотна голыя, здранцвелыя ад марозу.

Віно сканчаецца, але піва не, наадварот, навокал прыдатныя мясціны для хмелю: наўсцяж палеткі, як у іншых месцах пшаніцы і збожжа. Хмель, ячмень, солад, сусла, якасная вада.

Аўтобус спыняецца назапасіць паліва. Паязджане маюць вольную хвіліну. Частка прагне напоўніць дымам лёгкія. Нехта шукае прыбіральню, іншыя спяшаюцца па піва і колу. Сапраўды, чаму б на апошнія манеты не купіць пляшку? Можа сюды болей і трапіць не давядзецца.

На пляшцы вельмі знаёмая выява! Жняцы —мужчыны сцінаюць сярпамі не проста збожжа, напэўна ж піўны ячмень! Вядомая з кнігі гравюра. І два твары чалавека. Знаёмы герб першадрукара. Надпіс сведчыць, што гэтым чалавекам быў звараны выдатны гатунак піва, і яму дакляравалі месца каралеўскага піўавара, але ўжо не ён сам, а сын пастаўляў да стала вялікасці напой, які сёння вырабляецца абмежавана.

Ян, сапраўды Ян! Ніякі не Іоан! І не Іван. На пляшцы поўнае імя і нават факсіміле (хаця намаляваць можна што заўгодна). Акінчыцу раптам уяўляецца, як пасол скупляе ўсе пляшкі, каб знішчыць. Спачатку —выпіць, канечне. Па магчымасці.

Калісьці ў Кладне рабілі фільм пра першадрукара, і ён жлукціў у перапынках мясцовае піва, закінуўшы галаў, з рыльца, надта было горача. І трапіў з бутэлькай у мясцовыя газеты. Здавалася б, выпадковасць. Але цяпер Акінчыц ведае напэўна, што сапраўдны першадрукар насамрэч быў аматарам піва. Яшчэ больш, паміж ім і півам існуе мацнейшая сувязь. Не проста аматар. Піва любяць мужчыны амаль пагалоўна. Усе яны крыху варвары.

Значыцца, «каралеўскі півавар» тое ж самае, што й каралеўскі батанік, якім стаў першадрукар, калі з кніжкамі му-

сіў кончыць. Атрымаць пасаду пры двары караля было не абы-чым. Не параўнаць з захавальнікам дзяржаўнай пячаткі ці падчашым, але таксама месца нядрэннае. Хаця грошы ён альбо не атрымліваў зусім, альбо з вялікім спазненнем (што вядома з архіўных дакументаў). Хто ведае, хмелем ён мог заняцца, каб мець грош дзеля пражытку, пакрыёма ад караля, які амаль заўжды атсутнічаў. Парады дасылаючы і пажаданні наконт саду з мясцінаў, дзе падарожнічаў са світай. А попыт на хмель зрабіўся вялікі і штогод большаў. Сваё віно не саладзела, італійскае не таннела. Піва варылі заўзята, і паўстане асобны гарадскі цэх піваўараў.

Ну што ж, піва дык піва. Прыдворны батанік атрымаў усе запазыкі, купіў зямлю каля мяжы, дзе танней, паставіў бровар, зрабіўшыся піваварам. Каралеўскім. Хоць гэта былі яшчэ толькі мае здагадкі, не больш. Але ўсё адно, няхай жыве піва! Асабліва першадрукарскае. Pivo! Alus! Cerveza! Beer! І як там яшчэ?

Хаця, што гэта ты, Акінчыц? Землякі цяпер піўныя каралі. А кнігі, кнігі не рэч першай неабходнасці. Першадрукарскія — наогул казус... Ці гэта толькі яму так здаецца?

## 19

Акінчыц раптоўна раздражніўся. Хай не зараз, на мяжы, чакае той самы надпіс. Псеўдаславянскі шрыфт. А-ля першадрукарскі. Назва краіны. Якой ён да лямпачкі. І якая быццам чакае з баянам: ю а вэлкам, павесялю кадрыляй! Ну што за літары? Нібы арнамент фальклорны на рукавах кашулі. Паказушная народнасць. У шрыфце гэтым нібы падступнасць. Нябачная яўна. Падэсць заўсёды не навідавоку. Яна пад скурай, пад паверхняй.

У Акінчыца няма адчування, што яму надзейна, што за старадрукам Яна як за сцяной. Гонар і павага яму, вядома. Без яго нібы як без рук. Ёсць на каго абаперціся. Але кнігі ад Яна як чамадан без ручкі. І Біблія —не прачытаць. Нават калі захочацца.



Яму муляе, што закідаць той Бібліі сёння —блытаць часы. Як блытаюць, шукаючы ў старажытным манускрыпце адказы на пытанні сённяшняга дня. Людзі няхай статычныя ў душы. І з біблейскіх часоў істотна не маглі змяніцца. Але жыццё, глыбіня, абсягі... Пакінь у спакою стары фаліянт, Акінчыц. Дзе там! Не магчыма не думаць. Бзік.

Літары на мяжы як скамарохі дурасліўыя, быццам пасля пары куфляў. Яны будуць чакаць. Што, вярнуўся? А куды табе яшчэ падзецца?

Краіна рэтраградаў. Учорашніх людзей. Абрыдла! Не даюць быць кім хочаш. Быць рыцарамі. Назад у багну, у азіятчыну. Да Іванаў. Няхай ён існуе, няхай, той рускі свет. Што Акінчыцу? Яны жывуць як людзі, а гэтым хто вінаваты, з жоўцю што справіцца не могуць? Ніяк не можа вытрымаць выпрабавання жыццём без узрушэнняў той Іван. Кінуць-рынуць сверб, растаптаць. Сыпаць соль на раны. Апынуцца ля разбітага карыта. Шукаць вінаватых. Ненавідзець прыдуманых ворагаў. Чорт у іх сядзіць. Самі сябе не любяць, думалася Акінчыцу. Але ты кляніся ў любові. І на будаўніцтва вежы. Хапай рыдлёўку, бяры тачку, пайшоў, давай! Варушыся! Пабудова адметная, каб рабіць імя сабе, пільна спатрэбілася. Як бывала з пірамідамі ды зікуратамі. Пастанова мовам зліцца ў адну. І ніякіх жартаў. А хто паклаў сваю цагліну першым? Першадрукар, хто ж яшчэ? Дзе добрыя намеры, бывае дарога ў пекла. Жахлівы цар намаляваўся, не замарудзіў. Як дахаты прыйшоў. Караць і катаваць. Асабіста не грэбаваў. Любіў кровушку вельмі, слова гэтае падабаў надзвычай. Кнігі друкара паліць. А як жа!

Што ж ён нарабіў, Ян-кніжнік? Навошта такія кнігі? На такой мове? Навошта з думкай пра іх? А яны вогнішча. Яны цябе за каршэнь і на гак. Яны з цябе душу вымуць, пачакай. Ад сябе адмовішся. Акінчыц адчуваў, што сябе накручвае. Не трэба, не варта, але без развярэджанай раны нецікава. Ды што кнігі, яны друкарню спалілі першую. Якое вогнішча тартарскае запалымнела, зашугала! Гарыць папера знакаміта.

Акінчыца грызе час-часам думка аб сваёй вежы, беларускай. Свая палохала. Што скажуць суседзі? На чужой будоўлі прасцей. Працу дадуць, пайку. Толькі цэглу кладзі і ні аб чым

не думай. Любая імперыя —спробы скласці сваю Вавілонскую вежу, хіба не так? Адзін цар, царква (або іх знішчэнне), адна мова. Усіх сагнаць на будоўлю. Усіх змусіць. Мы, смыліць Акінчыцу, трапілі ў шчыліну паміж жорнамі. Дзве палавіны, два пачаткі. Левае паўшар'е —захад, левае —усход. Ці наадварот, неістотна. Дзве душы. Як у друкара два твары. Дзве істоты ў чалавеку, дзве сутнасці. На раздарожжы. Усе арміі патопчуцца. Акінчыцу не трэба на брані ў Еўропу. Акінчыцу хочацца жыць у Еўропе. Быць сваім. Не змагацца з літарамі. Не думаць пра хібнасць алфавіту. Не баяцца слоў. Не гідзіцца краінай, не чырванець. Але як? Не змагла з рыцарам, дурнічка. Паспалітая кабеціна з ордэна маці-гераіні...

Хоць якая, але вежа была. Стаяла на плошчы. Вайна ашчадзіла. У пастанове было —захаваць. Калі немцаў выгналі. Няхай стаіць. Але знянацку дынаміт, выбух! Каб вочы не бачылі вежаў. Каб стрэлкі не цікалі, не паказвалі мясцовы час. Шасцярэнькі, колцы, падвагі. Феерверк з гадзіннікавага механізму. Калісьці і першадрукар цыферблат бачыў, і паэт. І тысячы іншых назіралі, як цячэ час. Акінчыц быў пазбаўлены такой магчымасці. Яна прысутнічае толькі ў душы. Як Вавілонская бакшта беларусаў. У памяці выявы. Якой яна была. Не зусім Вавілонскай, ясна. Але новай будаваць не мелі. Патрэбы не разумелі такой. Нялічныя не маглі зрабіць за лічных. Супольную справу. Што стварала дэпрэсіўны фон жыцця. Дух часу быў не беларускі. Ленін стаяў на плошчах. Першадрукару карцела рукам змяніць імя.

Вежы павінны стаяць на сваім месцы. Без вежаў горад робіцца прыгнечаным, абцятым.

Урэшце свая вежа —што, як не ідэя? Нябожчык СССР існаваў, пакуль ідэя не ператварылася ў іржу. БНР была ідэяй, з якой ляжыць пад брылай з рыцарам чалавек на златаградскіх могілках. Яна не авалодала душамі, так. На жаль. У рэтраградаў рамантычных ідэй няма. Яны моцныя жалезнай хваткай.

Дайна, яна вырашыла не вяртацца. Дый навошта? Буслоў чакаць і праводзіць? Журыцца за першадрукара? Хаця яна вызвалілася. Не перажывае як Акінчыц. З ім не згодна. Няхай Ян хацеў даць кнігі ўсім славянам, як Гутэнберг друкаваў для ўсіх немцаў. Слава яму! І няхай застанецца ў гісторыі, спрэчкі навошта? Адну кнігу ў рукі ўсіх славян. Адна Біблія і шмат рук. Бярыце і чытайце! Хто карыстаецца алфавітам ад першых асветнікаў. А хто не: выбачайце. Так, у яе ўсё лягчэй, так жыць можна. Без стрэмак у душы.

І вяртацца не трэба Дайне. Навошта ёй назад? Каб падзівіцца, як Яна зробяць Іванам? Не трэба вяртацца ў краіну скасаваных рыцараў. Дзе першакніжнік марыянетка ў руках рэтраградаў. На Акінчыца гравітацыя мацней уплывае. Прыпадабняючы да птушак ці рыб, шукаюць якія гнёзды ці віры свае.

Але яму не хочацца прызнавацца, сказаць сабе ўголас: ты ўсё прыдумаў. Так, напоўніў невядомую частку жыцця Яна звесткамі з жыццярысу Гутэнберга. Чаляднік, што пашлюбіў дачку майстра, не пакінуў у драўлянай шыльдзе прозвішча Гутэнберга. Ён аказаўся здольны, ён прыдумаў усім вядомы гарт. У яго былі рукі і галава на месцы. І піва існуе. Пшанічнае. Як смакавала зяцю. Нагадвае аб ім. «Шофэрхофэр», з прозвішчам у назве. Так і бывае ў жыцці... Сам варыў. Як файна бывае спалучаць хвацкія справы: друкаваць і варыць. Ці добрая пена? Добрая. Ваша здароўе. А як адбіткі выйшлі? Удала, сёння вельмі ўдала. Атрымалася як мае быць. Пацеха для вачэй. Будзе што пачытаць.

Дзе кнігі, там агонь. І гутэнбергава Біблія трапляла, курчылася ад гарачыні. Няхай каштавала як рагулі. Нейкая падэсць у ёй. Схізма. Механічная рэч. Хіба не д'яблам спакушаны быў той, хто наважыўся? Святая кніга мае быць рукаробнай, ад манахаў-перапісчыкаў. Няхай гарыць падобна ерэтыкам, а мы памолімся за душу Гутэнберга. Як яго, Ёгана?

# РЭВЕРАНСЫ

Грунвальдскія схілы жаўцелі пожняй. Стракатай стужкай расцятыя на сектары для машын. Памыліся мінеральнай вадою, нехта здолеў пагаліцца, Акінчыц не стаў. Рыцарскі лагер стракацеў шатрамі і палаткамі. Наводдаль кантрасна знерухомелі два гелікоптэры. З неба апусціўся наступны, да яго кінулася чарада людзей: чыноўнікі, вайскоўцы, рэпарцёры. З вялізнай чорнай цыгарай мікрафона па-над галовамі. Колькі жаўнераў лянотна глядзелі на рэдкіх цікаўных. З дзвярэй выбраўся літоўскі прэзідэнт. Публіка чакала. На двух флагштоках хваліліся літоўскі і польскі сцягі. Калісьці флагштокі былі тры: бела-чырвоны, арол, Пагоня. Рыцар на кані, якога беларусам забаранілі мець... На металёвых стойках пляцоўку атачылі вялікія чорныя гучнікі, чулліва фіксуючы чаканне трыбуннага чынавенства. Урыўкі банальных фразаў. Акінчыц адчуў сябе за кулісамі.

«Пане прэзідэнце! Шаноўні паньства!» Ах, колькі слодычы ў прамовах! Колькі мядовасці! Станоўчасці колькі, найвышэйшай ступені! Два народы, менавіта яны —літоўцы і палякі перамаглі хціввых —самых моцных, наймагутных, найбольш узброеных сярод усіх —тэўтонаў! Пане прэзідэнце, якога яшчэ сіропу падліць —з малінаў, марэляў? —куды яшчэ пацалаваць?! А можа дадаткова лыжачкі цукру? Калі ласка! Два народы, гэткія сяброўскія, якіх няма болей у Еўропе! Мір-дружба, братэрства па зброі! Эўрыбадзі хэпі! Акінчыца ледзьве не званітавала. Ад крывадушнасці і маны. «Слаўнае і вялікае войска геройскіх літоўцаў пасля грунвальдскай перамогі кудысьці раптам знікла! Адно паваявала крыху з палякамі ў дваццатым годзе (навошта хлусіць, пан прэзідэнт?!), капітуляваўшы потым, як патрабаваў молатаўскі ультыматум. Без адзінага стрэлу. Як армія баязліўцаў. Рукі ўгору —дый годзе! Не заўважыць беларусаў, як тая шаўка —вялізную жывёліну, элефанта, раздзьмухаўшы шэрую мышку ў баявога слана... Неперscore можнае літоўскае войска —недарэчны «голы кароль». Зарабілі на беларусах, на карку іхнім. Магілёўскія, мсціслаўскія... харугвы. «Войска літоўцаў». Пане прэзідэнце, нех пан не муві таке бздуры! Зрэшты, Акінчыц насамрэч не быў гэтулькі жоўчным. Пра тое ж самае ён падумаў значна спакайней, болей апатычна. Дваццаць гадоў літоўская Вільня была пад польскай акупацыяй, дваццаць гадоў на нажах, і гэта —мір-дружба?

Знянацку з дынамікаў загучала старажытная «Багародзіца», якую змрочна-нетаропка войска заспявала калісьці, перад самай сечай. Тэўтонаў было болей, яны былі мацнейшыя вонкава. Яны былі дома. Навокал нямецкія вёскі з нямецкімі назвамі і насельніцтвам. Таненбэрг, напрыклад. Родныя сцены дапамагаюць. Іншае войска атачаў з флангаў шчытны лес, непрыветны, варожы. Яны бараніліся «Багародзіцай», напаўнялі сэрцы гартам. «Госпадзе!» —зусім не па-польску, і пагатоў не па-жмудзінску спявалі ваяры. Акінчыц адчуў стрыманыя радасць і гонар. Але фанаграма патрэбна была, каб новая польска-літоўская хваля скасавала апошнія рэшткі надзеі на саломіну. Польска-літоўскае вайсковае майстэрства, моц, гарт! Новы моцны штуршок да супрацоўніцтва грунвальдскага тандэму —НАТО! Помнік героям Грунвальду аздаблялі пасярэдзіне з бела-чырвонымі і трохколернымі блакітныя з азімутам паўночна-атлантычныя сцягі. Абапал вартавыя. Высокі літоўскі госць узнагароджвае камандзіра механізаванай дывізіі імя караля Уладыслава Ягайлы ордэнам Гедыміна. Ура! У адказ польскім крыжам адзначаецца літоўскі палкоўнік Ёнас Жукас, абвяшчаюць дынамікі. «Жукас? Пшэцеж то поляк!», —абзываецца самазадаволена публіка навокал. Лішняя падстава для Акінчыца аблаяць саманадзейных гаспадароў. Нават жука беларусам не пакінуць!

Акінчыц назірае за прамоўцамі, стоячы спінай да падзеі. Ззаду на вялікім экране начальства адлюстроўваецца падрабязна, з усімі жэстамі, паваротамі галавы, усмешкамі, з мімікай, з чытаннем кавалкамі —дзеля перакладчыка —тэкстаў. Тэмпература двухбаковага братэрства дасягае максімуму. Абодва прэзідэнты прадстаўляюць урбі эт орбі —упершыню! —«літ-поль-бат», як гаворыць віленскі госць. Супольны міратворчы батальён. Яго жаўнеры прысутнічаюць тут, на

гістарычным месцы, са зброяй у руках! і г.д. На гергетанні Акінчыц адключае дыктафон. Ужцякс, ужцякс. Задаволіўшыся пахвальбамі адзін адному, прэзідэнты выконваюць наступны пункт праграмы, урачыста крочаць за афіцэрамі-венцаносцамі да помніка —чатырохкантовага слупа з высечаным грубым камнёвым тварам. Прэзідэнты вызвалены нават ад абавязку ўскласці вянкі. Адно расправіць стужкі —двух і трохколерную адпаведна. Дзенькі, дзенькі... Публіка захвалявалася, нагадваючы пра віхуру ў шклянцы з вадою. «Ідзь бліжэй. Тэраз. Зачэкай!.. Пане прэзідэнце! Тутай!» —экзальтавана-фамільярна заклікае падыйсці бліжэй захопленая кабетка перадпенсійнага веку. І хапаецца на хвілю за яго руку. Шчаслівы момант для абывателя. Зрэшты, Акінчыц узнімае аберуч сваю «мыльніцу», бачачы вокамгненна штосьці накшталт спалоху, дробнай, хутчэй, занепакоенасці у вачох абодвух, але болей у бліжэйшага —у паляка. Пстрык! Бэндзе зд'енце.

Калі абодва галавы вяртаюцца на прыступкі подыума, штосьці робіцца з экранам: прэзідэнты зеленеюць, нібы фантамасы, асабліва госць. Тэхнічная служба напэўна мітусіцца, зялёны колер чаргуецца палосамі. Нехта падыходзіць да экрану з відэакамэрай і здымае. Акінчыцу робіцца зусім нецікава, прэзідэнцкае сюсюканне з харцэрамі. Часам, супольнага аддзелу таксама не зрабілі? Літ-поль-харц? Наўскасяк цераз пагорак крочаць у барвовых шатах лучнікі-падлеткі ў бок месца бітвы, да якой яшчэ шмат часу. Але там ужо займаюць пазіцыі іншыя. Акінчыц хавае фотаапарат, кіруе ў рыцарскі табар. Там сваё жыццё, рыцараў не цікавяць кітайскія цырымоніі, салодкамоўныя аратары, юбілейная мітусня. У іх пануе жыццё старавечнага горада. Гандлёвыя рады. Гэты прадае шабеткі скураныя на талеры. Кат за грошы літасціва дае пабыць у шкуры пакаранага злачынцы. Галаву і рукі кабеткі замыкае у драўляным шчыце, бярэ ў рукі бізун. Уперад, як размахнуцца і ашчадна пасцябаць, прамаўляе ў досыць куртуазным духу: «Які пенькны ма тылэк! Пан монж ма быць бардзо задоволёны!» Муж сапраўды побач у захапленні стараецца зрабіць чым паболей кадраў уяўнага пакарання сваёй багданай. Але ўвага гледачоў ужо пераскочыла на калегу ката, вельмі маляўніча-сярэдневечна апраненага, з суцэльным каўпаком на галаве, у якім толькі шчылінкі для вачэй. Бацькі з замілаваннем назіраюць, як іхні сынок кладзе на калоду галаву, і просяць ката крыху затрымацца з узнятай над хлопчыкам сякерай, каб паспець зняць за свае грошы сапраўднае кіно для хатняга ўжытку. Каб паказаць потым суседзям, калегам, бабулі!

Звястун з драўлянай вежы абвяшчае: дакладна а шаснаццатай паўторна адбудзецца славутая пераможная дубровенская бітва. Рыцары з розных земляў заклікаюцца, каб прынялі чынны ўдзел у валечнай падзеі, а слухачы —запрашаюцца прыйсці і забяспечыць відовішчнасць упершыню ладжанай «повтурцы» гістрачынай вялікае перамогі. У спектаклі, бяскрыўднай інсцэнізацыі, у якой ролі распісаныя наперад, маналогі канкрэтызаваны хроністамі. Дзе напэўна ж няма месца для імправізацыі, для магчымасці штосьці змяніць, засяродзіцца на чымсьці нетрадыцыйным, звярнуць увагу на іншае, пра што не пажадаў або забыўся распавесці храніст. Пацеркі, бурштын, каралі, пярсцёнкі, рыцарскія сыгнэты. На вачох адбіваюць фальшывыя манеты. Mennica —паведамляе шыльда. Можна купіць талер, солід або дынар. Але Акінчыцу цікавей пастаяць каля друкароў. Паназіраць, як з дрэварыту адбіваюцца старыя выявы: лоўля селядцоў для Гданьскага порту або герб Пагоня грунвальдскіх часоў. Другі друкар тлумачыць публіцы, што грунвальдская грамата адбіта адмысловай фарбай, прыгатаванай паводле старых алхімічных рэцэптаў. Што сама папера выраблена гэтак жа —па-старасвецку. З канопляў. Тоўстая, рохкая, на ёй бачная кратчастасць рэшата. Але папера белая, кідка новая. Нетаропка майстар прымацоўвае знізу на вяроўцы цяжкую сургучовую пячатку ў драўляным футарале, якіх побач вялікі запас. І спакусна, і занадта муляжна. Подпіс на грамаце зусім чамусьці не каралеўскі: «Таварыства аматараў Грунвальду» ці штосьці падобнае. Акінчыц ідзе далей, бачыць спартаванне рыцараў, вершныя практыкаванні, гарматкі —як сапраўдныя. З чыгуну ці, можа, з бронзы.

За агароджай малады жаўнер у чырвоным бярэце размаўляе з тэлефона-аўтамата. У чарзе дамы і багаты шляхціц. У дрэвах камуфляжны гарадок, дзе падрыхтаваны пачастунак

для найвышэйшых гасцей. Начальства чакалі пасля харцэрскіх прамоў бранябойныя аўто і бус —для летувіса, каб правезці сто метраў да сталоў. Блізка ўваходу чакае публіка, каб пабачыць, як дзяржаўныя галовы, пачаставаўшыся, падзяліўшы перамогу на двох, з'едуць. Акінчыц будзе сядзець у аўтобусе і пабачыць, як праедзе спачатку гаспадар-паляк, за якім самотны у вялізным аб'ёме аўтосалона былы амерыканскі пенсіянер. Іх нібы-Грунвальд не зацікавіў. Гульні вайсковыя дзейных палітыкаў цікавяць толькі сучасныя. А-ля НАТО. Акінчыц кіруе на пагорак, жвава крочаць у бок баёвішча астатнія рыцарскія дружыны. Несучасныя сцягі, не разабрацца хто дзе. Ён выбягае наперад, проста на яго рушыць не цугам, а грамадою, нейкая амаль хеўра. Ваяўнічыя твары, гыркі, латы і шлемы: разыйдзіцеся! прэч з дарогі! швабы крочаць! Акінчыц чым хутчэй націскае на гузік, каб сыйсці з дарогі, але не даціскае да канца, кадр не атрымліваецца. Як шкада! Быў бы самы цікавы. Хапіла б аднаго. Але каб усе нашыя пралікі былі гэткія. У Акінчыца на пад'ездзе выпала шкельца з акуляраў, ён напалову сляпы і, нават хацеўшы, не ўбачыць спектакль напоўніцу.

Ягайла. Сярод пешага войска ён на кані выглядае надзвычай выйгрышна. Вышэйшым на дзве галавы адразу, сваю ды конскую. Акінчыц, на жаль, бачыць пасрэдна. Акуляры! Пагатоў з-за спінаў ужо відаць няшмат.

Але палёт Ягайлы з каня Акінчыц не прапусціў, даволі падрабязна ўсё заўважыўшы. Кароль на кані. «Чалавек дробнага розуму і малых здольнасцяў», —як амаль паспявае падумаць пра яго Акінчыц словамі польскага храніста. Можна сказаць, што не паспявае. Кароль гатовы ўзначаліць перамогу. Войска не павінна чакаць! Асаблівага запрашэння. Хаўрусніцкая артылерыя моцна залпуе. Каралеўскі конь, спуджаны агнявой пальбою, кідаецца ўперад, наўскасяк поля. Першым разам, аднак, збраяносец паспявае схапіць яго сяк-так за аброць, сяк-так стрымаць. Новы залп! Яшчэ мацнейшы. Конь ляціць стрымгалоў, вершнік крыжам пляскаецца аб дол плазам. Енк зляканага гледача, усе ўражаны. Гучыць сірэна хуткай дапамогі. Натоўп рассоўваецца, прапускаючы машыну. Наводдаль па пагорку рухаецца другая сярод людскай гушчы.



Бітва зачынаецца, рыцары б'юцца каля хуткіх дапамог, што затрымаліся хвілін на дваццаць, Акінчыц не мае гадзінніка. Яго нельга было везці? Ці медыкі спрабавалі вярнуць войску слаўнага пераможцу хаця б пад заслону? У Акінчыца няма адказаў. Ён бадай па-хрысьціянску шкадуе, але не можа таксама стрымаць мінімум зласлівасці, які дапускаецца ім, як прадстаўніком абражанай нацыі, выкрэсленай, выкасаванай, як слова з песні. Фанабэрыя далася ў знакі. Беларус не можа не бачыць у здарэнні наканаванасці. Што, хіба лягчэй стала, што нас замаўчалі? «Беларусы славутыя сваёй храбрасцю на вайне»! Няўжо не чыталі паэта, якога прысабечылі сабе разам з іншымі беларускімі. «Пруская вайна» —гэта ж менавіта пра ваш Грунвальд чортавы!

Па-над валечным спектаклем парахавая хмара. Мацней і гучней паліць, безумоўна, польска-літоўская артылерыя. Крыжацкая адказвае менш імпэтна, толькі аднойчы, перад самай паразай, нямецкія гарматы выбухаюць папросту вулканічна. Кам'ё зямлі ляціць па-над галовамі тых, якія яшчэ не стаміліся махаць мячамі. Жаўнеры ў натаўскай форме і касках, абсеўшы джып колеру хакі, з цікавасцю сочаць за архаічнай вайной. Ягайлы ўжо няма, хуткія дапамогі зніклі нейк раптам, неўпрыкмет. Хаця, магчыма, жаўнераў болей цікавяць рыцарскія д*а*мы, якія знаходзяць сабе нават нейкі занятак у самы пякельны час, не пакідаючы тэатру вайсковых падзей. Наплывае набрынялая хмара згары, растварае дажджом рэшткі парахавога дыму. Акінчыц пад парасонам паварочваецца і пстрыкае «натаўскую ваеншчыну». Дождж перастае. Заканчэнне дзеі. Шмат хто кідаецца, каб убачыць рыцараў зблізку, памацаць, сфатаграфавацца. Акінчыц таксама пстрыкае. Спачатку робіць здымак гарматкі на козлах, праз якую гэтак фатальна давялося перапісаць гісторыю. Нішто сабе гакоўніца! І следам за публікай кіруе туды, дзе ліецца піва і пажыраюцца каўбаскі. Грунвальд напалам захапілі «Акоцім» і «Жывец». Навокал тысячы галасоў, на эстрадзе загучаў рок-гурт. Асобна самотны, дзьме жаласліва ў сваю дуду выкапаны шатландзец. На полі нядаўняга спектакля страляніна і велізарная парахавая хмара. Спецаддзел «Гром» дэманструе свае здольнасці. Але большас-

ць публікі «ма то в носе» ды п’е сабе піва. Ёй ужо хапіла, яна спакушана каўбаскамі і «грахувкай». Машыны пачынаюць раз’язджацца. Іх тысячы. Калі Акінчыц апынаецца ў аўтобусе, выбухае залева. Поле ператвараецца ў гліняную куламесу, машыны буксуюць, а яму хочацца дамоў: досыць!

Беларускае вогнейка ніяк не запальваецца, мінаюць гадзіны. Усім разам корпацца вакол яго няма сэнсу дый нецікава. «Гайда да літовак!» —прапануе нечакана археолаг. Бярэцца піва, некалькі бляшанак, і яны ўтрох апынаюцца ля вогнішча, над якім два кавалкі расцятай жывёлы, засмажанай і напэўна гатовай да ужывання. Хутчэй, удвух, два гісторыкі, Акінчыц пры іх. Піва прымаецца, але гасцям прыходзіцца хадзіць, як якім катам, мудрагелістымі шляхамі, але лепей мясам праз гэта не пахне. Збіраюцца да сваіх паненак мужчыны, выкапаныя лясныя жмудзіны. Сярод іх сціплы дзед у драўлянай, няновай бутафорскай кароне. Вітаўт. Прабачце, Вітаўтас. «Чым ён займаўся, калі Ягайла ляснуўся?» —міжволі падумалася Акінчыцу. Расчараваныя гісторыкі рэціруюцца. Не дапамаглі салодкамоўныя жарты і намёкі. Літоўкі застаюцца ў цэнтры увагі, з імі ўсім хочацца зрабіць фота. Даводзіцца вяртацца. У табары экзатычныя рыцары з рознакаляровымі пасмамі і нават брывамі. Гэта, нечакана, свае. Але, як тлумачыць археолаг, які ўсё ведае, яны —«рускамоўныя», і з імі не хоча сябраваць купка свядомых рыцараў, якія ўмеюць па-беларуску. Білінгвістычны канфлікт з грунвальдскай афарбоўкай. Акінчыца гэта крыху забаўляе, хаця ён таксама злёгку пагарджае тымі, якія не адчуваюць эклектыкі: усё адно, як у савецкім кіно, дзе эсэсаўцы размаўляюць паміж сабою па-руску. Заставалася пачуццё няпраўдзівасці. Нехта прапануе выкарыстаць на дровы агароджу дзённага грунвальдскага спектакля. Вогнішча сапраўды распальваецца і ўбіраецца ў сілу! Даходзяць чуткі, што рыхтуецца рыцарская бяседа, для якой засмажаны на ражнах дзікі. Акінчыц з прыяцелямі бачылі, як састаўляліся ў адзін доўгі сталы і лавы абапал. Ды што рыхтуецца, ужо распачалася, мяркуючы па мужчынскіх галасох! Чаму мы не рыцары, а толькі гледачы? —пачынаюць шкадаваць каля вогнішча. І —о дзіва! —суседскі рыцар прыносіць адзін на ўсіх шмат вепручыны. Пакаштаваць. Акінчыцу таксама даводзіцца адкусіць разок. Смаката!

Акінчыцу не стаіцца, сесці нельга, трава мокрая. Ён ідзе на гукі сярэдневечнай музыкі у рыцарскі табар. І трапляе нібы на здымачную пляцоўку. Упершыню ён паміж рыцараў перад трыо ў чорных шатах з архаічнымі інструментамі ў руках. Лера мае выгляд падоўжанай скрыначкі без аніякіх аздоб з ручкай пры баку —каб круціць. Незразумелы драўляны інструмент накшталт ліры, якой яе малявалі старажытныя грэкі. І апошняя —дуда, болей сёння вядомая як «валынка» нават сярод беларускамоўных рыцараў. А якія спевы! Пра рыцара Раланда і ваяванне сарацынаў, маўраў, іншых схізматыкаў. Спявакбаюн, які з ліраю, апавядае, уперад як спяваць, пра што будзе чарговая балада. Наступная —пра славутага Рышарда-Ільвінае сэрца, які вяртаўся з крыжовага паходу і трапіў у вязніцу да каварнага, зусім не сарацына, а найхрысціянскага аўстрыйскага князя. Чакаючы за кратамі свайго выкупу, кароль напісаў сумна-чароўную песеньку. Каб публіка ведала, існавалі дзве версіі —правансальская і французская. «То шпевай по-провансальску!» —патрабавальна выгукае адзін з рыцараў, злева ад Акінчыца. Хвілёвая паўза, і баюн лагодна тлумачыць, што «каб усіх пагадзіць прысутных, ён праспявае зараз па-польску». Акінчыц абарочваецца і пачынае разумець, што навокал адныя рыцары і дамы, ён адзін —белая варона. Ён вяртаецца да вогнішча. Публіка, згуртаваўшыся вакол агню, якім ужо можна сагрэцца, пачынае патрыятычныя спевы пра «магутнага Божа», «шчыльныя рады», у канцы агучыўшы Яся, які «касіў канюшыну». Але Акінчыца цягне назад, да трубадурскіх мелодый. Раптам на чорным небе расцвітае феерверк. Цёплы, вабны. Не халодны, чымсьці злавесны, як дома.

Вакол вогнішча пачынаецца працяг дзённай размовы. «Латышы мягчэйшыя, да нас болей падобныя, чымсьці гэтыя». —«Дзе яны ваявалі? Толькі паліцэйскія батальёны. У сябе жыдоў душылі і ў нас лютавалі, спецыяльна прысылалі». —«Мой дзядзька расказваў, у Клецку стаялі літоўцы. Гадкія былі. Калі дзяўчына якая адмовіцца, не пойдзе танчыць з іхнім, абавязкова адпомсціць». —«Беларускіх батальёнаў да

іх не пасылалі. Толькі іх да нас, сваіх бо не было. Прысылалі карнікаў —хахлоў ды летувісаў». —«Але, хлопцы, літоўцы нам усё адно не ворагі», —перапыніў раптам археолаг. Аднак Акінчыц ужо не пачуў, ён пайшоў назад, крыху іншай дарогай. Каля шатра сушылася, ці папросту была развешана рыцарская шата. Не пазнаючы сябе самога, ён хуткімі рухамі ўсё зняў і пайшоў далей. За дрэвамі перапрануўся, склаўшы сваё джынсавае адзенне ў рукзак... За рыцарскім бяседным сталом было цёмна, але баляванне не закончылася. «За Бялорусь!» —пачуў Акінчыц, прычым двойчы, мабыць —тост. «Нашы праводзяць агітацыю», —падумалася яму. «Бялорусіні! Літвіні!» —не вельмі цвярозым голасам зноўку выгукнуў хтосьці нябачны. Акінчыц падыйшоў бліжэй. «Хоць ту, рыцэжу, —пачуў ён, —выпій з намі піва правдзівэго рыцэрськего. Чэнстуемы» «Добжэ, дзенькуе», —адказаў ён і прыняў бляшанку. Моцны хмялёвы смак, крыху саладжавы, ледзь-ледзь. Чымсьці знаёмы смак. Вогнішча на хвілю асвяцілася агнём. Сапраўды — Dortmunder! Які падабаўся Акінчыцу, і які, як ён заўважыў, калі было яшчэ няцёмна, жлукцілі рыцары. Піва, якое прадаецца ціха, без рэкламы. Пры беларускім вогнішчы пілі разрэкламаваныя і недарагія «Акоцім» ды «Жывец», якаясьці добрая душа ўзяла па блоку. Накшталт колішняга жыгулёўскага, амаль кіславатае. Міжволі паверыш абывательскаму: што празмерна рэкламуецца, лепей не купляць.

«Такі пожондны рыцэж і не хцэ таньчыць!» —Акінчыц зразумеў, што гэта —да яго. «Завшэ до дыспозыц'і пенькных пань», —амаль не марудзіўшы адказаў ён фальшывую фразу, якая скочыла на язык. «Пані ту тылько една», —пачулся адказ. «В такім разе —затаньчмы!» —празмерна гулліва выгукнуўшы, не даў ён дагаварыць, сам сабе ў думках дзівячыся. Якраз пачаліся гэткія скокі, нібы карнавальны пляц у каменным горадзе вырашыў святкаваць перамогу безупыннымі скокамі, пакуль усе не паваляцца. З боку рыцарскай бяседы адно выбухалі агнём петарды, рвучы паветра. Гэта толькі паддавала імпэту танцоўным парам. Акінчыц схмялеў ад разумення таго, што ён не вылучаецца з усіх, і ніхто не зважае на яго, прыняўшы за свайго. Які ўдзень хадзіў сцяной на сцяну ў латах і шоламе, з мячом і тарчай. Падман! Але ўсе яны астатнія таксама так ці інакш удзельнікі маскараду, пераапранання, удаваньня прыдуманых асобаў. Яны —больш, Акінчыц крыху меней. Хіба гэта правіна? Рыцары яго пачаставалі, прызналі за свайго! Чаго ж яшчэ? Думкі снаваліся ў галаве віхурай, як танцоры, як яны з ягонай дамай. «Ніштаватая полечка, даволі пекная. Я нават не ведаю яе імя», —падумалася адначасова яму. Надвор'е было халаднаватае, але Акінчыцу даўно зрабілася горача. «Умеш таньчыць!» —крыкнула яму скрозь узмоцненую музыку полька. «Ты —ешчэ лепей!» —у самае вушка адказаў ён. «Сама вем!» —вясёла чым гучней прамовіла яна. А музыка, музыка сапраўды была сярэдневечнай толькі зместам, па выкананні, а асабліва сваім гукам, была яна надзвычай сучаснай. Дзяўчына пастуквала ў ручны барабан. Побач граў на акустычнай гітары яе калега. Два астатнія рабілі гуку кожны за двух: электрычная гітара і галаслівая флейта, у горле якой сядзеў мікрафон. «Хцэм почэнстоваць цебе бэнедыктынэм. Ходзь зэ мной!» — знянацку спыніўшыся, пацягнула яна яго за руку. Музыка паранейшаму віравала. «Чаму б і не? —падумалася яму. —Чаму б не пагрэць душу? Калі я апошні раз піў той бенедыктын?..»

У шатры яна на хвільку схапілася за бутэльку, крыху лыкнуўшы, і перадала Акінчыцу. «Здрове пенькных пань! —паспеў вымавіць стандартную глупоту ён і патлумачыў больш-менш самавіта: —Кеды трунэк рыцэрскі, то для чэго втэды рыцэр не може его трохэ выпіць? Тым бардзей з пенькнэй дамэй». Сказаў і здзівіўся, што яна не здзівілася, бо адчуў, што загаварыў чамусьці, як яму здалося, з нямецкім акцэнтам. «Што за дурата? Хіба ўжо зап'янеў?» —узьнікла ў галаве думка. «За пань тшэба і по раз другі і по раз тшэці», —патлумачыла яна, спачатку таксама адпіўшы з рыльца. А потым яны кахаліся. Гэта здарылася раптоўна, быццам маланка запаліла стог сена, а доўжылася не хвіліны. Пакуль з ночы даносілася музыка. А музыкі, змяніўшыся, не стамляліся доўга. «Мано Вітаутас», —выдыхнула яна і яны, як у прорву, праваліліся ў сон... На дасвецці Акінчыц цішком выбраўся вонкі, здзіўляючыся сам сабе. З лёгкім пачуццём прыкрасці. Падаўся ўбок, перапрануўся пад хмызом, пакінуўшы на ім вопратку. Зусім не

рыцара, а —збраяносца! Дзверы аўтобуса не былі замкнуты, некалькі асобаў дасыпалі ў нязручных паставах. Таксама не мелі спальніка і палаткі. На сядушцы ляжала «Газэта Альштынска». «Запрошаны рыцары з Англіі, Францыі, Італіі», —прачытаў Акінчыц запозненую навіну. Ніякай англійшчыны ён не чуў. Апроч як польскай ды, хіба, русскай, іншай ад рыцараў не было чуваць. «Нават лабасы па-польску шпрэхалі, —падумаў ён. —А сам —што?» Прачнуўся ён, калі пачалі вяртацца начоўнікі з табару. Вочы расплюшчваць не хацелася. З іхняй размовы Акінчыц зразумеў, што нехта прывесіў на флагшток з літоўскім бел-чырвона-белы сцяг. «Самі ж і павесілі», —уцяміў ён. Амаль усю дарогу ён спаў. Спыніліся пад'есці ў памежным горадзе. Была пятніца, Акінчыц замовіў рыбу па-грэцку —у моркаўцы з поліўкай. І куфаль піва. Апроч «Акоціма», іншага не было. Ён адарваўся ад талеркі і ўбачыў за шыбай, на другім баку вуліцы, на сцяне піўную-акоцімскую рэкламу з казлом. З надпісам: «А Грунвальд, стары, паменташ?» «Ешчэ як!» — адказаў моўчкі Акінчыц.



## БАНАЛЬНЫ КРАЯВІД У РЭШТКАХ ПРАМЕННЯ

Местачкоўцы разыходзіліся з чырвонага, свежазбудаванага касцёла. Амаль насупраць у праваслаўнай каплічцы служба зацягвалася. Побач капліцы была магіла ідэолага паўстання. Сцены распінала быццам патурбаваны вулей, перапоўнены агрэсіўным гудам, гатовы вымкнуцца вонкі, атакаваць. Моладзь выбралася з аўтобусаў і нерашуча тапталася паміж касцёлам і могілкавай цэркаўкай. У руках былі забароненыя сцягі. Чакалі, хто курыў, хто размаўляў. Бацюшка чамусьці марудзіў. Кожнага году паўтараўся адзіны дзеяцяг. Дачакаўшыся прыезду астатніх, ставалі ў калону, з вянкамі і кветкамі, са сцягамі і рушылі задворкамі паміж гародамі і магіламі.

Магіла ацалела, але раскалоўся камень, пачаў разбурацца жалезны крыж, надпіс знік. Імя і прозвішча, даты. Некалькі літар лацінскіх захаваліся. Пра магілу ведаў сёй-той, але нікому яна не была патрэбна. Апошні краязнавец, адчуўшы, што знядужвае, занепадае, напісаў у «Рыцара на кані». Прыехалі маладзёны, з імі каваль. Залілі расколіну свінцом, паднавілі крыж —старасвецкі арнамент з вінаграднага лісця, прымацавалі шыльдачку. І з'ехалі. Наступным разам іх было шмат. Са сцягамі, прамовамі, з малітвай. «Вы памерлі, каб жыла Бацькаўшчына!..» А ззаду —бабкі-цёткі: «Даляры, Амерыка, прадацялі, нац'яналісты!» Натхніліся ў бацюшкі, наглядзеліся тэлевізара, наслухаліся радыё ды мясцовых начальнікаў. Вось так і здавалі паўстанцаў калісьці карнікам, —перамаўляліся маладзёны.

Пры выйсці з могілак бабулькі ваяўніча плявузгалі: «Узяць бы перастраляць усіх...» І гэтак кожнага разу. Чакаць надакучыла. Колькі можна чакаць, і чаго? Самыя нецярплівыя пачалі шыхавацца ў калону, разгарнулі наперадзе чырвоны транспарант з немалым тэкстам. Наконт «агульнакраёвага фэсту, прысвечанага памяці ўсіх палеглых герояў вызволь-

нага руху часоў антыцарскага паўстання». Яўна супярэчнага афіцыйнай прапагандзе. Улады спаборнічалі ў святкаванні ўгодкаў губерній і епархій. Называлі адзін аднога губернатарамі, прэвасходзіцельствамі і прэасвяшчэнствамі, заказвалі мастакам партрэтныя галерэі царскіх урадоўцаў і генералаў ад інфантэрыі, якія калісьці ў мястэчках і пушчах палявалі сціплыя аддзелы паўстанцаў.

Адзін з уладальнікаў эпалетаў і Уладзіміра на шыі ляжаў з другога боку капліцы. Паўстанец, які ніколі не ўдзельнічаў у паўстанні, не даведаўся аб яго пачатку, памёр заўчасна. Ён рыхтаваў збройны чын на патаемных кватэрах, нелегальных сустрэчах, нарадах і ў паездках інкогніта. Асабіста ён не закупляў зброю, не вербаваў добраахвотнікаў, не навучаў у лесе карыстацца стрэльбай. А толькі наладжваў, дамаўляўся і накіроўваў. І таксама ствараў ідэалогію, распрацоўваў планы, займаўся падпольным друкам. Службовай марай кожнага «прэвасходзіцельства» было трапіць на яго след, высачыць, схапіць. Але яны не ведалі нават ягонага імя. Асабіста яны нават маглі быць з ім знаёмыя, магчыма спатыкаліся на прыёмах і балях, за картамі, пілі разам шампанскае. Аднак яны не ведалі хто ён.

Усё развязалася быццам само сабой. Ён раптам моцна захварэў і неўзабаве памёр. Паплечнікі ў труне даставілі яго за тысячу амаль вёрстаў і без цырымоній пахавалі ў мястэчку. Панавала позняя восень. Золкі, сцюдзёны вецер, халадэча, пырскі ёдкага дажджу. Магільны капец хутка абляпіла мокрым лісцем. І ніхто не даведаўся, куды знік таямнічы каспіратар і ці існаваў увогуле. Паўстанне распачалася, але недарыхтаванае, у неспрыяльны час, у кепскае надвор'е. Сваёю смерцю ён як быццам прадвызначыў вынік. У наваколлі з'явіліся паасобныя магілы паплечнікаў. Інсургентаў, касінераў. Са сціплым крыжам, без надпісу. У лепшым разе. Схопленых карнікі закопвалі і пушчалі зверху коней — каб ані знаку. Тых, хто загінуў са стрэльбай. Іншых вешалі на пляцах з вердыктам палявога суда і знішчалі трупы. На ягонай магіле быў пастаўлены трывалы крыж, пазней.



Хай сабе! Можна й пачакаць! Паселі ў аўтобусы ды машыны і пад зыркімі сцягамі з белым і чырвоным, якія рэзалі вочы мінакам, праехалі па цэнтральнай вуліцы шэрага соннага мястэчка — да нягеглага помнічка ідэолага. Пастаўленага ў кароткую адлігу, як прадстаўніку навукі мясцовага паходжання. І рэвалюцыйна-дэмакратычнаму публіцысту. Высветлілася, што ён вітаў перадачу зямлі сялянам і выступаў за рэформы ў сельскай гаспадарцы. І быў супраць абшарніцкіх уладанняў. Марксісцкія вучоныя не раскапалі адно, што ён рыхтаваў паўстанне. Хаця кадэбэ бадай ведала, але моцна трывала мода на ўсё антыцарскае, антыпамешчыцкае, антыпанскае.

Помнічак паставілі. Але някідкі, і сапраўдны нейкі нягеглы, аматарскі. Хаця ляпіў нейкі лаўрэат, але мабыць у перапынках паміж пленумамі і асноўнай працай — вылепліваннем галоў Правадыра, якое тады яшчэ не паставілі на канвеер. Дый часу далі замала. Як заўжды — пастанову прынялі і — чым хутчэй!

Спыніліся на другім канцы вуліцы. Акінчыц разам з усімі апынуўся каля паўстанскага ідэолага. Але уперад іх з'едліва ушчувалі мясцовыя жыхаркі: «Бралі б лепей рыдлёўкі, ды на дзялку. Альбо ў калгас — бульбу збіраць». Несувымерна высокі пастамент і бюсцік зверху. Штосьці было сказана завучана-патрыятычнае. Паклалі кветкі, аднекуль выступіў апазіцыйны бацюшка, таксама з восеньскім букецікам, у фіялетавай шапцы. Пачуццё няўтульнасці не пакідала. Цёткі выконвалі ролю штрэйкбрэхерак напалам з афіцыйна зададзенай роляй vox populi. Грамада перайшла вуліцу, у гайніку стаялі па чарзе: савецкі абеліск, нейкі хуліганскі Ленін, помнік паўстанцкаму палкоўніку і проста новы пастаменцік, яшчэ без нічога. Мясцовыя гаварылі, што Козел хоча паставіць нібыта Сталіна. Проста неверагодна! У сённяшнія дні... Дый дзе ён яго возьме зараз?

Козел — тутэйшы галава. Пасля першага такога здарэння са сцягамі лямантаваў на мясцовых актывістаў. «Перавешалі і правільна зрабілі! І з вамі гэтак трэба! Дэманстрацыю мне ўчынілі, мітынг! Са сцягамі забароненымі!» Сёння не было відаць нават міліцыі. Проста дзіва. Адно тлумачэнне. Толькі — што мала набраў галасоў, выбыў з гульні. Дакладная прык-

мета ў закулісных справах, што ты Козел атрымаў чорны каменьчык, што на табе паставілі крыж... Дарма стараўся. Пляц уладкаваў пад вокнамі домсавецкімі, як перад Домам урада. Леніна пераставілі толькі часова, як у газетцы напісалі, але вяртаць не сталі. Занадта несусветны выгляд, непрафесійны. А якога яшчэ маглі прыслаць у глухменнае мястэчка, амаль пушчанскае? Быццам кідаецца з сякерай наперад. Скажоны твар, бародка мангола-татарская, жудасная пяцярня. Вобраз з карціны пра мужыцкае антыфеадальнае паўстанне ў нечарназемнай губерні.

Сказалі слоўка, паклалі кветкі, сцерлі белы надпіс-лаянку пад літарамі Bog і Ojczyzna. Замест барэльефа —арлы, якіх паабрывалі пры камуністах, а потым назад прычапілі. Паехалі на могілкі. Заехалі з тылу, вырушылі доўгай калонай пад сцягамі, паміж магіламі і магіламі. За нядаўні час могілкі перакінуліся цераз агароджу і хуценька наблізіліся да падворкаў з гародамі, пунямі і дамамі. Бабулькі дбайна чакалі, але быццам той Козел страцілі ранейшы імпэт і агрэсію. Штосьці балбаталі непрыхільна, але псаваць надмагільную ўрачыстасьць ушчэнт не наважыліся... Святочна-сцяжная калона выехала за горад. Не зважаючы на нядзелю, на палетках уздоўж варушыліся вяскоўцы, штосьці збіралі. Яны разгіналі спіны і глядзелі ўслед. На месцы бацькоўскай сядзібы паўстанцкага ідэолага пад высокім крыжам гаварыліся прамовы. Што людзі цёмныя, пушчанскія, што не ведаюць, кім ён быў, за што змагаўся, трэба ім тлумачыць, і яны толькі дзякуй скажуць. Іранізавалі: убачыўшы святочныя сцягі на палетках калгаснікі маглі падумаць, што змянілася ўлада, прынамсі ўзгадалі, што сёння выхадны, і працаваць нельга.

На месцы сядзібы адныя падмуркі. Як скінулі камуністаў, паклалі вялізны камень з шыльдай, але ў камуністычным жа духу: рэвалюцыянер-дэмакрат, супраць паноў, за сацыяльную справядлівасць і дружбу народаў. Нават выйшла пастанова — адбудаваць дом і зрабіць музей, але потым козелы зноў вярнуліся... Заехалі затым у пушчу. Каўбаса, сала. На вогнішчы юшка, налівалі палонікам у пластыкавыя шклянкі. Некаторыя вынялі бутэлькі. Частка маладзёнаў выпіла занадта. Пад хвоямі хлопцы спявалі для публікі з’едліва-іранічныя антырэжымныя песні... Назад Акінчыц ехаў побач з прафесарам, які прабачаўся, што нечакана для сябе выпіў ладна з мясцовымі пушчанкі. Вельмі захапляўся імі, што супрацьстаяць Козелу. Зрабіўся сентыментальны. «Прыехаць бы сюды, і жыць у пушчы, і пісаць. Альбо ў мястэчку. Хаця там хутка адурэеш. Ад правінцыйнасці, ад Козела, ад цётак». Так-так, згаджаўся Акінчыц.

«Прырода —вось галоўнае, —шчыраваў прафесар. —Мы апроч асфальту і бетону нічога не бачым. Пагляньце, якое сонца! Апошняе праменне. Ніхто амаль з мастакоў такога не адлюстраваў. Няпоўнае, кволае. Звычайнае —зыркае, чырвонае... А краявід які!» Даволі банальны, нечакана крыху запярэчыў Акінчыц. «Так, звычайны, някідкі, —пагадзіўся прафесар. — Такі любіў маляваць Бялыніцкі-Біруля. Не сосны выносістыя, магутныя, карабельныя, як у Шышкіна». Ён жа іх тут у пушчы знайшоў, заўважыў Акінчыц. «Так. Але Бялыніцкі-Біруля звычайна маляваў прыроду сціплую, чэзлыя бярозкі, кустоўе, неба ніякае, нізкае. Сотні карцін —і ўсё няўтульнае надвор’е, няпэўны час, прырода трывае паміж зімой і вясною».

Калі аб’язджалі мястэчка, Акінчыца ўразіла велізарная статуя гегемона, які абапершыся на меч памерамі з бервяно пільна ўзіраецца ў бок буржуазнай Еўропы. Статую пафарбавалі ў чорны колер... Сонца ператварылася ў цёмна-жоўты жаўток вясковага, не магазіннага яйка. Яно павінна было знікнуць над ланцугом пакрытых лесам пагоркаў на даляглядзе, якія Акінчыц у думках заўжды называў гарамі. Ён заўсёды шкадаваў, што горы былі несапраўдныя, і нічым не маглі дапамагчы паўстанцам.

## АНАБІЁЗ

Цёмна. Ноч. Мяжа. Стаяць і стаяць яшчэ. Лепей не думаць. На мяжы час спыніўся, на мяжы нічога не адбываецца. Мяжа здранцвела. Халодна і няўтульна. Змрочна й трывожна.

Час запавольваецца, ператвараецца у вату. Часавая твань. Дрыгва. Адвечны беларускі стан. Магчыма, гэтак чакаюць узняцця, паступовага, каб быць ратавальным, а не балесным, нават смяротным, узняцця на паверхню, да вольнага паветра, на свабоду, на адкрыты прасцяг. Хаця невядома што там чакае. Магчыма, шторм, непрыяцель, гібель. Але водная нетра азначае адназначна смерць. Яна —варожая стыхія. Глыток паветра, хутчэй! Але яна цягне долу, засмоктвае.

Пад'язджаеш, становішся ў чаргу. У канцы хваста не выпадае думаць пра пакуль недасягальны шлагбаум, які, быццам у пячору Алі-бабы, вартуе доступ у памежную зону. Міжволі азіраешся праз пяць-дзесяць хвілін. Ззаду —больш нікога! Якое расчараванне. Яны будуць, будуць, якія спазніліся. Якія заўжды спазняюцца. Якая палёгка, што яны існуюць, што вы не заўжды будзеце апошнімі. Трэба толькі дачакацца.

Гумовы час. Спачатку больш-менш спрабуеш змагацца з ім, авалодаць. Прыкра, але прыкрасць трэба трымаць у сабе, спрабуючы нейтралізаваць. Не зважаць, рабіць выгляд, што табе гэта зусім няважна, што ты абыякавы, што не заўважаеш часу. Што час не існуе болей для цябе. А толькі думкі, якія запавольваеш, каб яны не гарцавалі, не спяшалі, не снаваліся, не ляцелі стрымгалоў праз агароджы з калючага дроту. Наперад-наперад! Ва ўтулак, на чацвёрты паверх, пад чырвоную дахоўку, да сваёй кававаркі.

Далучыцца да чаргі, першым часам быць апошнімі. Быццам тыя, хто падапрэ ззаду —спрэс мілая публіка —«дзякуй вялікі!», «прабачце», «калі ласка». Людзі з бел-чырвона-белымі нумарамі. Зусім не анёлы. Кабаны, якія навыперадкі пхнуцца да карыта. Зусім не ціхамірная чарга на вадапой. Не дружалюбныя сланы, зебры і гіпапатамы. Ззаду —нахабныя шакалы, якія адно чакаюць хвілі, каб выхапіць здабычу з-пад чужой мысы. Ён нават не задрэмле за рулём. Дораш папросту зачытаецца, можа крыху будзе летуценіць. Досыць хвіліннай няўважлівасці, да гукаў звонку, да жыцця чаргі. Маруджанне. Толькі секунды, пакуль не запрацуе рухавік. І ўжо наперадзе, дзе зрушылася чарга, на вызваленае на дзве-тры машыны месца, як акулы, як якіясьці піранні ўлазяць, усмоктваюцца ў чаргу ўдвая больш. Ззаду вокамгненна перад намі наўскасяк становіцца адзін пірат на аўдзі, каб вы не зрушыліся, і перад ім апынаецца ў чарзе цэлая міні-калона, адкідаючы вас назад у часе.

Трэба перамагчы сваю нямоц, не наракаць і не абурацца, нават моўчкі, у думках. На мяжы пануюць звычаі саваны. Шакалы і гіены заўжды напагатове. Яны толькі не рэкламуюць сваіх жаданняў, яны да пары-часу прыкідваюцца авечкамі. Але навука ў тым, каб не быць авечкай самому. Каб трымаць порах сухім. Каб мець свой тытунь і не пазычаць запалкі і соль. Адчувай сябе, як у разведцы. Ані на кога не спадзявайся, апроч самога сябе.

Успамінаецца млява гіпермаркет. Вялізная стаянка, сотні машын. Гіганцкае памяшканне з барамі, кавярнямі, рэстарацыямі, з крамамі камп'ютарнай тэхнікі, з сотнямі лядоўняў, дзясяткамі тэлевізараў і мікрахвалёвых печак, з абутковымі крамамі, а таксама —з адзеннем, з джынсамі, з мэбляю, з ювелірнымі вырабамі, з цукернямі. З аграмаднай залай самаабслугі —ад парфумы, посуду, музыкі, да каўбасных і булачных, да канцтавараў, малочных, піўных, да харчоў для катоў і сабак. А яшчэ —пральныя машыны, электраімбрыкі, міксеры, спадарожнікавыя антэны, падушкі і коўдры, керамічныя гаршкі, кветкі і розныя дэкарацыйныя расліны. А калядныя цацкі і ўпамінкі? Сярод шэрагаў з даброццем рухаліся тысячы людзей.

У полі цёмныя здані —спінамі да аўтамабільнага шнура... Калісьці ўздоўж дарогі паставілі нябачаны цуд —біяпрыбіральні. Іх даўно няма. Няма ніякіх. Так што лепей запаволіць жаданні і рухі, апынуцца ў часовым анабіёзе. Самапрымусам. Скасуй жаданні.

Няма чаго думаць, каб пакінуць чаргу. Выйсці з шыхта. Каб з'ездзіць у крамку на недалёкую чыгуначную станцыйку. Там і прыбіральня ёсць. Раніцай вы заязджалі. На дзвярах пачакальні адзіная аб'яўка: «Хто знайшоў увечары на лаўцы белую вязаную кофту, вярніце за вялікае ўзнагароджанне» і —тэлефон па тым баку мяжы, у Горадзе.

Кепскія жарты з чаргой. Нават рахманыя робяцца рашучымі ў прадчуванні, што мяжу вось-вось перакрыюць і надоўга, вельмі надоўга. На цэлы год. На трынаццаць месяцаў, калі быць зусім дакладным. Але потым, вельмі не хутка, —аркестр, бела-чырвоная стужка, шампанскае. Не выключана, што савецкае, і гімн «Яшчэ Польска не згінэла!» Што толькі не прымроіцца ў такі час, у такім месцы і ў гэткім стане.

Чарга —жывы арганізм. Жывы і зменлівы, ягоная нерухомасць падманлівая. Гэта нерухомасць катафея альбо большага драпежніка —афрыканскага тыгра. Напружаная, напятая. Знерухомленасць перад скачком лаўца, рэзкага, маланкавага і бязлітаснага. Чарга толькі замёрла, замёрла ў прадчуванні руху, са стоенай прагай рухацца. Гэта як стрымліванне жадання. Так-так, яна то стаіць, калі пруцянее, падае тэмпература цела, тулаваў машын. То пахапкамі робіць рухі, секундна мкне наперад, каб зноў стрымацца. Рух гіганцкага вусеня. Голаў прапаўзе і спыніцца, падцягваючы астатнія часткі. Стрымана-аднастайны, хаатычны, з пункту гледжання часу, рух. Караван у пясочным бязмежжы. Рух, манатонны як жуйка. Сутаргавы, механічны рух-бязрух.

Заўжды трэ' быць напагатове, на варце, не спаць, не траціць пільнасць. Гульня ў кошкі-мышкі. Альбо пан або прапаў. Не дазваляй сабе быць безуважным, Дораш, —наперад!

Пірацтва квітнее, пакуль не пройдзе жолнеж і не выдасць аркушыкі са сланянём. З пачарговым нумарам і нумарамі вашае машыны. Тады ўжо не ўплішчышся, бо паляк выганіць потым. Але чаму ён не йдзе? «Жолнеж любі шпеваць, шпеваць любі жолнеж», —саладжава-бадзёрая радыёпесенька з тваіх школьных часоў. Далей штосьці было пра дзяўчын, якім вельмі падабаюцца жолнежы. Бог вас усё ж любіць, інтэлігентных, досыць памяркоўных, зусім нешакалаў. Паляк дасць вам



апошні талон —400-ы. Круглая лічба, нават выглядае прыемна. Але злодзеяў, якія увапхнуліся перад вамі, Бог, значыцца, любіць таксама не меней? Ці, калі яны нявернікі, дык не ў ягонай кампетэнцыі? Гуляюць самі сабе, не раўнуючы як тыя каты? Хай сабе блюзнерства. Але даруй, Божа, скаваным, спаралізаваным, у аблозе, але якія не страцілі людское годнасці і аблічча. Ва ўсякім разе, вам хочацца так думаць.

Наіўна было спадзявацца. Так-так, яны лезлі і надалей, плішчом, праз прахоны паміж вялізнымі фурамі, якія сцяной адцялі ўзбочыну з легкавікамі ад усяе дарогі. Гадаўё, —лянотна думаецца табе. —Даражэнькія браткі-беларусы. Хоць палякі таксама змрочна жартуюць: «Поляк поляка утопі в лыжцэ воды». Праходзіш «лікбез» не выходзячы вонкі, інтуітыўна пачынаеш разумець падспудныя механізмы, адчуваць падводныя плыні, усведамляеш, што зараз плішчацца не тыя, хто спадзяецца праехаць уперад вас. Папросту самым апошнім (хочацца сказаць —заднім) карціць стаць першымі, калі жолнеж зноўку пойдзе ўздоўж чаргі выдаваць нумары. Адразу пасля вас.

А што было раніцай, яшчэ цёмнай, лістападаўскай? Калі гэтак жа дзясяткі і сотні машын прабіваліся праз мяжу навыперадкі сюды, у гэты бок. І ўсе ведалі, што крыху пазней будуць імкнуцца ў адваротным кірунку. І вы, вы крыўдзілі, нават зневажалі іншых, не хочучы таго, бо прарываліся з левакамі, якія плацяць, каб зусім не стаяць у чарзе. Вы таксама заплацілі. Трэба ведаць каму плаціць. Цяпер ты баішся, каб цябе не апанавала штосьці накшталт клаўстрафобіі —боязі застацца па вонкавы бок калючага дроту. Галоўнае не нецярплівіцца, стрымліваць сябе, не нервавацца, выклікаць нірвану.

Нечакана рэй пераняллі жанчыны. Яны рэгулююць рух. Кіруюць сутаргавымі штуршкамі калоны, каб шакалы-мужчыны болей не ўлезлі. Адважныя і зухавыя, з папяросамі ў роце, даражэнькія родныя зямлячкі камандуюць з цёмнай халоднай вонкавасці: майна, майна, віра! Зрэшты, тая, што ў пярэдняй машыне за рулём, у чырвоным опелі, яна таксама з тых, хто нахабна ўлез перад вамі. Галоўная мара пірата

ператварыцца ў добрасумленнага грамадзяніна, у такога, як усе. Мусіш дараваць.

Ноч, халадэча. Большасць падарожных імкнецца грэцца ў машынах, час-часам заводзячы рухавікі. Хто мае запас паліва. Але звонку пастаянна адбываецца якісьці броўнаўскі рух. Уздоўж чаргі ўзад і ўперад шныраць нейкія людзі. Раптам іх стала болей, адныя жанчыны. Жаночы рух. Гэта спіртавозкі. Яны пераехалі мяжу цягнічком, здалі кантрабандны алкаголь і прыйшлі «на падсадку». Ходзяць шукаюць вольнага месца, але да вас не сядаюць, занадта пераборлівыя. У вас WAT, баяцца, што доўга чакаць на КПП. Так, яны плацяць долар і пераязджаюць мяжу. Жанчын многа. Дзясяткі, можа быць, сотні, цяжка вызначыць. Гэта адбываецца штодня, штоночы. Пакуль не закрыюць мяжу.

Добра, што ты купіў у маркеце этнічныя спевы, «галасы Афрыкі». Аднастайна-тужлівыя песні саванаў, пустэльні і джунгляў. Якія дзіўным чынам адпавядаюць сітуацыі і твайму стану. А звонку рэчаіснасць не гэтак варожая, як непрыемная. Мужчыны —шакалы, так. Жанчыны болей нагадвалі высакародных тыгрыц, якіх лад жыцця зрабіў крыху вульгарнымі. Заплюшчваў вочы і ўяўляліся афрыканкі, гнуткія, зграбныя, шакаладныя. З дзіўнымі вітуніцамі на галаве, з экзатычнымі нізкамі караляў на шыі. Басаногія, у нясціплых topless, з бюстамі, якія не ведаюць станіка. Бессаромнасць, якая шчырая і натуральная. Прачынаўся, чуў з цемры за шыбаю —«курва!» Няясна напачатку было, хто канкрэтна лаецца —ці мясцовыя, ці свае. Хоць часам апошняе рабілася відавочным праз лаканічныя дыялогі. —«Ты —курва!» «Сама ты!» «Я курва? Здурэла?» «Да, ты —курва самая настаяшчая!» «Да пайшла ты! Ад курвы слышу». «Обе вы курвы парадачныя», —скептычна-павучальна прагучаў мужчынскі голас. «А ты курвіметр. Чудак. Разве ево спрашывалі мненія? Самі разбяромся. Без пастаронніх казлоў усякіх. Сваю жонку вучы». Але ён ужо не чуў альбо папросту не рэагаваў.

Усё сціхла. Спрэчніцы ператварыліся ў міралюбных лагодных жанчынак з тэлерэкламы з пральным парашком, гігіенічнымі падпаскамі, ружовым духмяным мылам або з голымі попкамі і памперсамі. Пашукалі, напэўна, у кішэнях, вынялі тытунь. У цямноце ўзніклі два рухомыя вугольчыкі. Раскурылі люльку міру. Шкада звяроў, —гаворыш ты. Вы ўспамінаеце апошнюю газету. Там пра заапарк. І фотаздымак ільва. Вялікага сумнага льва ў цеснай клетцы з тоўстымі прэнтамі. У іх столькі паміpае жывёлаў —жах! Леапард памёр, язык абклала. Каб была стрэльба з ампуламі, яго выратавалі б. Чаму яны купляюць новых, не маючы умоў? Чаму? Такіх прыгожых і высакародных.

«А, курва-маць! Я тобе покажэ!» «Но цо, курва! Цо ты мі покажэш? Цо? —я пытам! Драню! Вудкэ хцэш!» «Мам ці в носе!» «А то прошэ бардзо! І поцалуй мне в дупэ!» «Ежа до твоей дупы! Жэбы, жэбы...» «Ідзь до д'ябла!» «Ні дзень добры, ні поцалуй мне в дупэ,..» —міжволі ўзгадалася табе польская прымаўка, адпаведнік «ні здрасці, ні дасвіданья». Ты заснуў. Ачуўся, калі Дораш апусціў шыбу, і жолнеж каля шлагбаўма выразна прамовіў: «Остатні самоход».

Дома, на дасвецці, душ, кава. А потым знайшлася ў шуфлядцы прызабытая «Крама». «Польскі бізнэс» —песенька. «Поцёнгем поспешным поехалі до Польскі... Жоне лосіны, собе —мальвіны і едэн панасонікс... А гдзе, пан, вашы дэкляраць'і?... Злотувкі тшэба памяняць на даляры, а в Міньску даляры памяняць на зайцы... Курва-курва-курва маць!» Доўгі, аднастайны —пад рух цягніка, стары шлягер. Праслухаў і адчуў сябе амаль што персанажам. Хаця «зайцоў» ужо няма, і ласіны з «мальвінамі» зношаны даўно, польскі бізнес застаўся. «Курва-мацы!» Мяжа жывая. У мяжы свае законы, недрукаваныя. Тамака ўсё робіцца бізнесам —пачак цыгарэт, пляшка, талон на праезд, месца ў чарзе або ў машыне. За ўсё трэба плаціць.

Наступнай раніцай вы з Дорашам зноўку былі на мяжы. Каб запісаць галасы шчасліўцаў, якія паспявалі ў апошні вагон. Вельмі шкадавалі, што шлагбаўм апусцяць. Хвалілі крыху няшчыра пагранцоў і мытнікаў і лаялі жолнежаў і цэльнікаў —«То яны каву п'юць, то гарбату, то курацьь, то яшчэ што-небудзь. Ні халеры працаваць не хочуць...» Калі вярталіся, за вамі ехалі жыгулі, як прыліплі. Усе абганяюць, яны —не.

Нібы вучні аўташколы. Вы перад аўтакранам зусім сцішылі рух, яны ледзьве не хадою паехалі. Гэтак назіркам да самага горада цікавалі. Вы былі з хвастом прынамсі да тытунёвай фабрыкі. Сумневу няма, начальнік іхняй канторы ўсяго толькі на новай ладзе ездзіць. Але ўсё гэта лухта ў параўнанні з памежным трываннем. Галоўнае, рэпартаж з мяжы пачулі па абодва бакі калючага дроту.



## ЦЫТРУСАВЫ ГАЙ

Даўно гэта было. Аднойчы патэлефанаваў В., сказаў, што робіць перадачу аб Грузіі і грузінах. Папрасіў, каб падрыхтаваў скрыпт аб грузінскім класе, ці існуе ён дагэтуль? Я гэтага не ведаў. Памятаў, як крыху раздражнялі літаўры ў прэсе: грузінскі клас адкрыўся! Колькі ў нас тых грузінаў? — думалася мне. Хутка беларускіх не застанецца. Іх і не стала...

Дамовіліся сустрэцца з грузінскім актывістам на Стэфана Баторыя. Кавалевіч, сказаў я. Ён назваўся. Прозвішча забылася. Больш мы не сустракаліся. Ён павез да сябе. Вакол пляца, паўз тэатр і нібы-касцельны фасад банка. Высокія цыгары ёмістасцяў піўзавода. Мост, рака. Пры дзвярах стаяла клетка з папугайкам. «Папуна», —сказаў гаспадар на птушку лагодна.

Фільм, зроблены мясцовай студыяй тэлебачання. Дзеці паўтараюць за настаўніцай па-грузінску хорам: «Мая любімая Радзіма, чаму ты смуткуеш?» Чыноўнік апавядае аб уцекачах. Сам гаспадар, пад гальштукам, за сталом прамаўляе тост. Першае адкрыццё: нашы грузіны —вымушаныя перасяленцы з Абхазіі. Давялося ратавацца ад вайны. Мне прапанавалі каву. Я не адмовіўся, хаця не хацеў кавы.

Неўзабаве ў кухні новы знаёмы гаварыў тост, хоць яшчэ не было і паўдня. Пад акном быў вінны склепік. Няроўнымі шэрагамі стаялі вялізныя бутлі з цёмным віном і мноства меншых. Няўжо з грузінскага вінаграду? —не ўстрымаўся я. Не, канечне. З малдаўскага, крыху з мясцовага, растлумачыў гаспадар і прапанаваў есці. Гэта мамаліка —дзяжурная грузінская страва. А гэта —сацыві. Жонка не сядала за стол, толькі завіхалася.

Сацыві аказалася смачнымі курынымі кавалачкамі ў барвовай поліўцы. Мамаліку бралі разам з сацыві, але быў і хлеб — разагрэты на пары. Мамаліка —лусты маннага пудзінгу, яе трэба есці рукамі. Была яшчэ марынаваная капуста з буракамі, як называлася, не памятаю. У народа з традыцыямі кожная страва мае адметную назву, падумаў я сабе. Найбольш увагі

было, як ні дзіўна, сулугуні, якім мяне таксама накармілі. Такі сыр з магазіна —не вельмі сапраўдны, хоць так называецца, каб ведаў. Свой сулугуні гаспадыня робіць з сыра «Нарач», вымочвае яго —і досыць. У краме здзіўляліся: шмат заўжды бярэ, а цяпер ужо ведаюць.

Не падумайце, што мы даволі выпілі. Я нават першы келіх не дапіў. Сёе-тое запісваў і стараўся не пакінуць нічога на талерцы, хоць не быў галодным. Не люблю марнаваць ежу. І каб гаспадыню не пакрыўдзіць. Атрымліваецца, праўда, абразіў гаспадара, не ацаніўшы належна віна. Ну, але мне, як заўжды неабходна было вярнуцца і адразу напісаць аб пачутым...

Там ужо выспявала ўсё —выбух, грузінафобія. Тут былі сваякі. Наведаўся да іх на самым пярэдадні. А як зашугала — забраў хуценька сям'ю. І маці... Яна сказала мне: сядай, не стой —калі я глядзеў відэафільм. У бацькі калісьці быў вялікі сад мандарынавы. Сорак гектараў. Што з ім цяпер?

— Нас тут некалькі сем'яў, па шэсць-дзесяць чалавек нават, і дзеці, і бабулі, —тлумачыў грузінскі актывіст. —Мы хацелі, каб дзеці не забылі грузінскую мову, каб маглі пісаць, размаўляць. Мы ўсё адно тут часова, усё адно калі-небудзь вернемся дамоў.

Ён апавядаў, а я пачаў усведамляць, што павінен зайздросціць ім, купцы людзей, нібы занесеных ветрам са сваіх родных субтропікаў, з марскога берага, з места пальмаў, бамбукавых і мандарынавых гаёў у прахалодны горад каштанавых і алычовых дрэў. Свае роднай моваю нават дома размаўляць не хочуць.

— Мы вернемся. Калі-небудзь. Гэта не можа працягвацца бясконца. Але калі гэта здарыцца, я не знаю. Нашы дзеці павінны ведаць гісторыю і ландшафт сваёй бацькаўшчыны. Грузінскую літаратуру... Мяне адзін чыноўнік спытаў: а ў вас кірыліца ці лацінка?! Ды грузінскае пісьменства дзве тысячы мае гадоў!

— Свой шрыфт адметны, —падтрымаў я.

— Канечне! Ён што, каньяку грузінскага не бачыў? Які ж ён начальнік? Гнаць такога трэба, калі агульнавядомага не ведае.

— Звычайная адукаванасць вымагае, канечне. Але яны перш свайго не ведаюць і ведаць не хочуць.



— У нас ужо паасобныя з'ехалі. Хто ў Расію, хто ў Грузію, з дапамогай камісара вярхоўнага. У мяне пляменнік ажаніўся, жонка-беларуска, мову вучыць. Давядзецца ж калі-небудзь паехаць. У Грузіі сорамна не ведаць грузінскую мову.

Ён паказаў здымак. Хударлявы чарнявы хлопец і бялявая дзяўчына ў нявесціных шатах. Вясельная пара на пляцоўцы перад тэатрам, з якой бачны рака і зарэчны горад. Стаяць, шчаслівыя, пад Пегасам, які скочыў увышыню і замёр.

— Пакахалі адно аднаго, як былі студэнтамі, —апавядаў гаспадар гаварліва. —Братавая мая мясцовая. Так што пляменнік напалову беларус, але грузінскі. Я на вяселлі сватам быў. Але трошку адрозніваецца у вас. «Горка» крычаць —гэта недапушчальна для нас.

— Я таксама не люблю. Калі пачынаюць крычаць п'яныя, патрабаваць.

— Цалавацца навідавоку, у прысутнасці старых. Гэта нельга, гэта занадта. У спачывальні рабі што хочаш. А пры людзях трэба, каб ганарова было, трымацца паважна. У нас тост не за маладых гавораць, а —«за цара і за царыцу». У грузінаў разводы рэдкія.

Я не выпытваў, чым займаецца гаспадар. Сказаў неўзабаве, што выпякае лаваш.

— Але не заўжды добры атрымліваецца, —меў магчымасць я выказаць сваё меркаванне.

— Мука розная бывае.

— Я так і думаў.

— І сапраўды лаваш, гэта калі печ такая, каб унутры на сценках можна было выпякаць яго.

— Я аднойчы еў такі. Каля Пяцігорска рэстаран з вежай «Арлінае гняздо». Абапал горы. Рачулка бяжыць, пякарня і проста з акна прадаюць гарачы, рукі апякае.

— Трэба грошы, трэба печ адмысловая. «Гамсахурдзія-печ».

— Гамсахурдзія?.. Ягоны бацька пісьменнікам быў?

— Раманы гістарычныя пісаў.

— Я бачыў у кнігарні, у скупцы збор твораў... Цікава. Гамсахурдзія-печ.

— Я думаю, што замала хацець дабра свайму народу, я думаю, што трэба ведаць, самае галоўнае, як гэта зрабіць...

Гаспадар не супраць рабіць грузінскі кетчуп —з алычой, якой у горадзе шмат. Але прасцей будзе пакуль пячы разам з лавашам хачапуры.

Перад Калядамі сапраўды ў «Баторыі» сталі прадавацца хачапуры —праснакі з сырам памерам з сярэднюю піцу. Неўзабаве іх ужо цяжка было купіць.

«Баторыя» —гандлёвы дом, прыбудаваны да «Батароўкі», колішняга палаца караля, у лёхах якога ягоны труп прэпаравалі два італійскія эскулапы. Цяпер там музей уродцаў. А злева —праз вуліцу, Фарны касцёл. Да грузінскіх прысмакаў гэта не мае дачынення. Але новы знаёмы сказаў, што хачапуры будуць прадавацца менавіта ў «Баторыі». Сёння я там быў, набыў хачапуры, вяртаўся паўз «Батароўку» і касцёл. Быў вельмі марозна халодны вецер.

Мы разагрэлі з жонкай хачапуры, налілі па талерцы супу, пакроілі каўбасу. Духмянае хачапуры было вельмі апетытным.

— Дзякуй нашым грузінам, —мовіў я.

— Мая стрыечная сястра капрызіла, калі прыязджала да бабулі: хачу хачапуры, хачу хачапуры! —загаварыла жонка. — Бабуля гатавала добра, але яна хацела хачапуры. І так —з акцэнтам каўказскім. Яны жылі ў Тбілісі. Тая бабуля закармлівала ўнукаў каўказскімі стравамі. Але ў цёткі з дзядзькам не ўсё ладзілася. Хаця яна такая смуглявая, як яны, але —славянская душа. Як котка з сабакам. Яны разышліся.

— Твой бацька аднойчы расказваў, як лятаў у Тбілісі іх мірыць.

— Яго мама паслала.

— Палешука. Зрэшты, ён так распавёў усё цікава. Райскі горад. Як не было білета назад, з гэтым заўжды існавалі праблемы, і як начальнік аэрапорта, даведаўшыся, што беларус, частаваў па-царску і паіў каньяком. Як у кіно. На жаль, я нічога тады не занатаваў...

Учора мы глядзелі хранікальны фільм пра «мандарынавы рай». З часоў вайны нічога не змянілася. Усё занядбана. Пустыя дамы, пакінутыя грузінскімі сем’ямі. Сухумскія малпы знішчаны альбо загінулі пасля. У гадавальніку з пяці тысяч засталося вобмаль. Напалоханы вайной. Дагэтуль трымаюць надгаладзь, няма чым карміць. Хоць мандарыны ёсць, пакуль няма зімы. Мандарынавыя дрэвы абсыпаюцца, як у нас яблыні і алыча. Паданку паядаюць цялушкі і каровы сваімі шырокімі зяпамі. Перад намі таксама ваза з салодкімі мандарынкамі, з чорнымі ромбікамі налепак. Гэта —мараканскія мандарыны.

# МАНДАРЫНАВАЯ ВАЙНА

Па Радыё-Крок сказалі ў навінах, што выйшаў пяцісоты нумар «Рыцара на кані», і што рэдактарам калісьці быў я —цяпер, маўляў, карэспандэнт замежнай радыёстанцыі. Нішто сабе рэклама. У краіне, дзе лепей не звяртаць на сябе ўвагі. Пазней заходзіў Карповіч, фатограф, прыносіў здымкі: я з калегамі трымаю першы нумар газеты. На наступным з друкарскай машыны выпаўзае неразрэзаная стужка газетных паасобнікаў. Але мяне не было дома, калі ён заходзіў.

Для юбілейнага нумара якраз і напісаў —як мы рабілі першы, які атрымаўся экспромт, як друкары выкарысталі замест чырвонай іншую фарбу, і шчыт з рыцарам апынуўся на белабэзава-белым пасе газетнай шыльды. А ўвечары была пагулянка ў рэстарацыі. У зарэчнай. Не хацелася ехаць, побач з домам, у Старым горадзе можна было лепей пасядзець. І апошнімі днямі дзьмулі жудасныя сцюдзёныя вятры, амаль мост хістала. Былі запрошаны госці, але ніхто не прыехаў. Што нікога, апроч сваіх, не будзе, стала ясна толькі за сталом.

Мне трэба было прамовіць, чаго вельмі не люблю, не кажучы аб тостах. У газеце напісаў, што яна пачала выходзіць вясною надзеяў, а паўтысячны нумар будзе датаваны прадвеснем амаль безнадзеі. А сказаць я меркаваў аб тым, што ў нас застаўся толькі адзін рыцар на кані. Папяровы рыцар, вершнік у газетнай шыльдзе. Апошні ў краіне, дзе пасьпяшаліся пазбыцца іх. Разбіўшы ўсе гербы. Як раней рабілі з абразамі, крыжамі, званамі. Хватка ёсць. Нікуды не знікла. Я й сказаў, але пачаў з іншага, з прозы, з Алесі Абрамаўны, з мандарынаў.

Мы з новым рэдактарам першыя апынуліся на месцы. Сустрэла прыветная жанчына —старэйшая распарадчыца альбо метрдатэль, —як нам больш падабаецца, сказала яна. Ён пацікавіўся яе імем. Яна назвалася: Алеся Абрамаўна. Звонку габрэйскага ў ёй нічога не было. Бацька быў габрэем, маці беларускай, узяла ды распавяла сцісла сваю жыццёвую гісторыю. Сам здзіўляюся, чаму, так знянацку незнаёмым расказаць.



З яе, з Алесі Абрамаўны, і распачаўся мой тост. Я сказаў, што напісаў учора апавяданне пра «мандарынавы рай», пра Абхазію, дзе ніколі не быў, пра тамтэйшую вайну. А сёння раптам у рэстаране пачуў дадатковыя звесткі. І цяпер маю дылему: дапісаць апавяданне, якое было зроблена ўсяго за дзень, ці лепей зрабіць яшчэ адно? Для аўтарскага самалюбства важна ўсведамляць, што ты здолееў за дзень. Такія развагі, зусім не цікавыя астатнім, дапусціў я тады. Ну, а потым сказаў усё, што хацеў пра рэдакцыю, пра газету.

Можна прызнацца, я быў крыху нудным. Аднак пісьменніка гэта не павінна палохаць. Увесь час, які застаецца пасля рэпарцёрства, пасля дбання пра каву і ежу, імкнешся абдумваць наступныя апавяданні. У гэтым —лад жыцця, сутнасць, яго соль. Бо яно, на жаль, зусім страціла смак. Яно нават не прэснае, а —ніякае. Як за Брэжневым, калі здавалася, што ён перажыве ўсіх. Амаль без каліва аптымізму, без надзеі жыццё траціць сэнс. Я штосьці такое і сказаў. У стылі стрыманага аптымізму, як я гэта называю звычайна. Хай мы дачакаемся тысячнага нумара «Рыцара на кані», але баюся, што цяперашні Грызлоў будзе вельмі доўга. А з рыцарамі ў яго размова кароткая. Такі ў мяне атрымаўся расцягнены, ледзьве не па-каўказску мудрагелісты тост. Праўда, мне запярэчылі, што лепей спадзявацца на восеньскія змены, на выбары... Ну, тады я зычу «Рыцару на кані» стаць пухкім штодзённікам, —закончыў я.

Алесю Абрамаўну захапіла моўнае пытанне. Упершыню сутыкнулася з людзьмі, чыя размова адрознівалася ад заўсёднай п’янаватай аднамоўнай гамонкі. Мова гучала ў рэстарацыі, як замежная. Гэта выклікала ўспаміны. Калі яна пасля інстытута апынулася ў Грузіі, яе ўразіла спрыянне грузінаў іншым. У школах вывучалася абхазская і асяцінская. У Тбілісі нават нядзельная габрэйская школка існавала. Ну так, у нас такога уявіць было немагчыма, пагадзіліся мы з рэдактарам.

Для яе важна было закрануць габрэйскую справу. У Грузіі ніхто не зважаў на габрэйскае прозвішча. Пра гэта яна некалькі разоў сказала, маючы, хіба на ўвазе, што ў нас інакш. Мы слухалі. Прозвішча, зрэшты, больш не мела да яе дачынення, ёй засталося ад мужа грузінскае. Адчувалася, чалавеку трэ-

ба выказацца. Калі ласка! Гісторыя жыцця ў горнай краіне і вяртання дахаты, на свае берагі. Яе паслалі на цэлюлозны камбінат —побач з абхазскай мяжой. Сапраўдная новабудоўля пяцігодак. Думалі сплаўляць са Сванетыі тульпаннае дрэва па рэках і рабіць паперу. Не газетную. Фруктовую, загортваць цытрусавыя. Самі ведаеце, асабліва ў Абхазіі столькі мандарынаў расло. Ну, вядома.

Балесная тэма —абхазская вайна. Нядаўні фільм пра мандарыны, якія прападаюць, і жыццё цяперашняе ў Абхазіі, якая абвясціла сябе незалежнай. І шаснаццаць тысяч забітых.

Нейкая ў ёй туга адчувалася адносна той Абхазіі, папросту штосьці скрушнае. Муж ці памёр, ці знік. Быў археолагам, раскопваў разбураныя абхазскія крэспасці і храмы. Якая раскоша —старажытнагрэцкія падмуркі, рымскія —часоў Юстыніяна, генуэзскія, асманскія. Вялікі абхазскі мур... Ім хацелася сваіх мандарынаў, распараджацца ўраджаем. Раней дазвалялася толькі частку прадаваць самім, астатняе здавалі дзяржаве, а на расійскай мяжы грузіны спынялі ўсіх, хто не меў дазволу на вываз. Яны думалі, што адасобяцца, зробяць мяжу з рускімі зусім адкрытай і гайда прадаваць мандарыны. Але яны самі мяжу закрылі. Навокал заняпад, у мандарынавых гаях пасвяцца каровы, цытрусавымі кормяць собскую жывёлу. А грузінам давялося ўцякаць. Карціна —вачыма Алесі Абрамаўны.

Што мы самі ведаем пра грузінскія справы? Нашаніўскія зацемкі пра віно і Гамсахурдзію? Нейк замала ён пабыў. Шум, скандал, і знік, не дабыўшы. Ці памёр. Ці забілі. Як з тым археолагам. Гамсахурдзія сам падштурхнуў абхазаў. Аднавіў канстытуцыю пачатку дваццатых, дзе Абхазія не існавала. З таго самага часу панаехала грузінаў, абхазы ператварыліся ў меншасць. Гамсахурдзія скасаваў аўтаномію, і Абхазія абвясціла незалежнасць. Вайна. Не ведаю, выходзіць з грузінаў кепскія жаўнеры. Кіно адметнае рабілі, віно —прынамсі цяпер —прысылаюць добрае. А ўспомніць калі, у ранейшыя часы: грузінская гарбата —смецце, каньяк у газетах нават раілі не купляць.

Так, кіно якаснае, высокі нацыянальны дух, не адмовіш. Але гэта там, у Грузіі, а мы бачылі гандляроў з чамаданамі кветак, гаспадары ў гасціне, напышліва-фанабэрлівыя, з пачкамі чырвонцаў. Гатэлі, таксоўкі, рэстараны. Чорныя «Волгі». Чорная ікра, сыгнэты залатыя, каньяк, «Аэрафлот». Дзе тыя прадаўцы гваздзікоў сёння? Альбо дзе віцязі ў тыгровых шкурах? І хто ведае месцазнаходжанне магілы таго Цанавы? Сталін, Берыя. Радзіма фантасмагарычных злодзеяў. А Цанава асабіста дапытваў Ларысу Геніюш, маладых удзельнікаў падпольнага руху. Асабіста. Жыве Беларусь!

Ну, а ў рэстарацыі як распачалася потым! Музыкі з'явіліся. Мы ўжо даўно сядзелі, нікога не чакаючы болей, пілі бурболістае. За іншымі сталамі публіка вячэрала з гарэлкай і віном. Не люблю рэстаранаў, рэстараннай музыкі, пагатоў танцаў! Прымусіць мяне танчыць ці піць гарэлку —амаль немагчыма. Але ўсё пайшло ходырам!

Музыка грала безупынна, хтосьці замовіў для «Рыцара на кані» —«Паміж Польшчай і Расіяй —полька беларуская!» Сярод талерак якраз бутэлькі з «Полькай» і стаялі. Смех, плясканне, перазвон келіхаў. Галава! Галава будзе балець ад «Полькі», наракаў сусед.

Насупраць сядзелі тры мужчыны, пілі каву, мінералку, мелі пляшку «Полькі» і не танчылі. А палове адзінаццатай яны ўсталі з-за стала, і я таксама пайшоў. Месца заняла наступная тройка, якая трымалася да позняе ночы, пакуль рэшткі рэдакцыі не разышліся. Проста назіраць ім стала нецікава, і давай выклікаць на спрэчкі: што старшыня краіны, які ёсць, будзе лепшым і надалей, чымсьці Астроўскі са сваім рыцарам. Хтосьці з нашых паслаў іх, не маючы ніякіх ілюзій, адкуль яны.

На вуліцы вецер быў шалёны, але не дапамог. Дома я пераканаўся, што прасмярдзеў, як заўжды, кухонным чадам: вусы, галава, усё адзенне. І гэта —прыліковая рэстарацыя. Давялося мыцца з галавою, хоць было позна, кашулю запхнуў у пральную машыну. Зрабіў сабе кавы без кафеіну. На лядоўні выстава цытрусавых налепак —з мандарынаў, аранжыкаў, з лімонаў і грэйпфрутаў. Бананавых багата. Іспанія, Марока, Эквадор. Каўказскіх няма.

Мяне што ўразіла ў аповедзе метрдатэлькі. Што збор ураджаю ў снежні. Мандарыны трэба зрываць узімку, напярэдадні

нашых Калядаў. Калі спяшацца, сарваць у лістападзе, нясмачныя будуць. А што снежань —там жа субтропікі, у Абхазіі. Пальмы, у гарах парудзелыя дрэвы, калі ў нас у такі час лісце ўжо даўно абляцела, збуцвела пад нагамі. Але зацягваць са зборам ураджаю нельга. Нельга, каб снег пайшоў. Вось чаму, выходзіць, у нашым маленстве самымі рэдкімі і жаданымі ў навагодніх падарунках былі менавіта мандарынкі з амаль адзінага саду, якім была Абхазія. Доўгі і складаны шлях! Пакуль распараджэнне пачынаць збор з маскоўскага «галоўцытрусплоду» прыходзіла ў Тбілісі —у цэка, ва ўрад, у міністэрствы і ведамствы, затым яно перасылалася ў Сухумі, дзе існавалі свае ўстановы. Пазней даходзіла да калгасаў і саўгасаў. Адваротны шлях уяўляецца не меней мудрагелістым: зводкі, паведамленні, рапарты —колькі дзе сабрана і да якой даты. Зноў-такі, сплаў па горных рэках тульпаннага бярвення ад гордых сванаў, якія потым падтрымалі у вайне грузінскі бок, цэлюлозны камбінат, садавінная папера, скрынкі, якіх заўжды не хапала, грузавікі, таварныя вагоны, станцыі і паўстанкі, раз’езды, тупікі.

У нас ёсць мастак-абхазец. У горадзе апынуўся яшчэ да іхняй вайны. Хобі ў мастацтве —жанчыны. Я быў аднойчы на выставе. Не хацеў ісці. Якраз вайна трывала, а я спачуваў грузінам. Можа таму, што за абхазаў ваявалі казакі барадатыя, наёмнікі расійскія. Але журналісту не да сантыментаў, —пераконваў я сябе. Запомніў ягоных жанчын —нейкіх фантастычных, чырвоных, зялёных, фіялетавых, дзябёлых, як стоды багіняў плоднасці і ўраджаю ў старажытных культах. Дзе ён вышукваў узоры? Сярод сухумскіх пляжніц ці, можа, на сценах пячораў? Тлумачыў, што яго заўсёды захаплялі мора і жанчыны сваім падабенствам: угнутасці, пукатасці, угнутасці, пукатасці, —паўтараў ён любоўна.

У мяне стаяла на падлозе парожняя бутэлька з-пад грузінскага віна. Упершыню трапілася ў краме. Большая экзотыка за французскае ці італьянскае. О, часы! Пакінуў да наступнага вынасу смецця, каб лепей разгледзець этыкеткі. Столькі звестак! Месца вырабу —Кахетынскі рэгіён. Гатункі вінаграду, дата розліву, тэмпература захавання і спажывання. Цэлая бутэлечная паэма: «Археалагічныя ды іншыя навуковыя даследаванні пацвярджаюць, што восем тысяч гадоў таму ў Грузіі з дзікай вінаграднай лазы вылучылі культурны гатунак і прыгатавалі першае віно. Грузія —калыска віна». Вось табе маеш. У Старым запавеце, здаецца, сказана, што першае віно прыгатаваў пасля сусветнага патопу Ной. У суседняй Арменіі, на гары Арарат. Але, можа, я слаба ў біблейскай гісторыі арыентуюся.

На бутэлечнай этыкетцы мужчыны змоўніцкага выгляду прыблізна з пачатку ХХ стагоддзя. Накшталт баёвых адзінак з наганамі пад пахай. Шэрагі бутэлек на насценным стэлажы. Стары здымак у цёмна-карычневых адценнях. Эмблема —крылаты вершнік з дзідай.

# HEADACHE

А пошняй ноччу гэтак галава забалела, думаў капцы. Міжволі ўзгадаеш Фрыдэша Карынці, ягонае «Падарожжа вакол майго чэрапа», як яго спаралізавалі жудасныя галаўныя болі, як павезлі ажно ў Стакгольм, як зрабілі трэпанацыю чэрапа і аперацыю на мозгу. І ён гэта чуў, і ўсё на паперы распавёў. Зрэшты, гэта зараз я пра гэта падумаў. Тады, уначы мысліў аб знаёмцы, ён таксама на жыццё ганарарамі зарабляе. Калі вярнуліся з паўднёвага мора з жонкай, дачка кажа: а ці ведаеце —з Юрам нашым ліха. Што такое? Вось інсульт здарыўся. У цяжкім стане ў шпіталі.

Я прачнуўся а трэцяй гадзіне. Каля дзвюх, значыцца, паспаў, больш за паўтары. Правае паўчэрап'е суцэльна смылела, немагчыма зрабілася ляжаць. Перад ноччу трэ' было ўзяць таблетку, не схацеў штосьці ўперад з'есці, каб не на пусты страўнік, паспадзяваўся, што пройдзе, а стала горш. Ніколі ў жыцці не балела настолькі. У кухні я з'еў яблык і праглынуў адразу два лекі для галавы, добра што былі. Зайшоў у лазніцу і паўзіраўся ў сябе ў люстэрку: што, браце, кепскія справы? Сапраўды падумаў пра хуткую, узгадаў, што нуль тры з майго тэлефона не набярэш. Хаця хуткая побач, метраў за чатырыста. Падумаў пра знаёмца.

Мы з жонкай былі ўражаны. Ён працаваў як гадзіннік, любіў паўтараць я. І раптам. А мы з ім зусім яшчэ не старыя. Адпачываць, аказваецца, усё ж трэба, паўтараў я крыху разгублена. За амаль дзесяць гадоў упершыню зрабіліся адпачыннікамі. Хаця я і разважаў: а ці варта? Адзінай мэтай стала —рытмоўна працаваць. І ў мяне гэта збольшага атрымлівалася, толькі тады адчуваў жыццёвы тонус, смак. Як важна максімальна доўга весці рэй, не згубіць жыццёвага пульсу, паляўнічага спрыту. Перапынкі ўсё адно конча здараліся. Падзеі сканчаліся альбо, як любілі паміж сабою паўтараць мы —мы аб іх нічога не ведалі. Любы ад'езд, пагатоў адпачынак —заўжды «выпадзенне з кантэксту», у думках гаварыў я сабе. Вось чаму



пачаў не любіць, нават пабойвацца далёкіх падарожжаў. Адзіна важнае —раніцай з кавай апынуцца за столікам: камп'ютар, чорны тэлефон на сцяне, e-mail. Што, дзе, калі?

Кот таксама абудзіўся, у яго з гэтым хутка. Ходзіць, яўкае. Тры гадзіны! Ну, палашчыў яго крыху. Галава ж рэпаецца! Ён не сунімаўся. А я сяджу ўпоцемках на канапе і не магу сядзець. Хадзіць па кутах? Але нейк прылёг, на іншы, левы бок. І заснуў. Каты, яны адчуваюць усё. Ён прыйшоў і лёг уверсе падушкі, мне на галаву. Я прачнуўся, яшчэ было цёмна, і не адчуў болю.

Так, жонка, канечне, яшчэ ўставала дагэтуль. Спалохана: ты што? Сам не ведаю, такога болю ніколі не адчуваў галаўнога. Захацелася свежага паветра, адчыніў фортку. Гэта ж собіла. Забалела вока, калі глядзеў доўгае кіно пра амерыканца, які трапіў у кітайскую турму. Не люблю такое, але глядзеў. Мы разам сядзелі з жонкай на канапе. Пачаўся другі фільм і зноўку, як на ліха, амерыканскі. Раней былі адно савецкія, цяпер спрэс амерыканскія. Пагатоў узгадаў, што бачыў яго некалі, але даглядзеў. Балела не толькі ўжо вока, якое я спрабаваў нават заплюшчваць, але й паўгалавы. І дзеля таго, што ўсе пры канцы памерлі? Дакладней сказаць, усіх перастралялі.

Жонка нараніцу выказала меркаванне: можа ў цябе ціск раптам узняўся? Альбо? Альбо —хто яго ведае. Магнітная бура. Ці мароз крыху зменшыўся... А увогуле нехалодна, лагодная зіма. У акне насупраць ёлка з міготкіх лямпачак дагэтуль танчыць. Хаця нават іхні стары новы год тыдзень, як мінуў. Вось жа радасці! Паглядзім, што ў канчатку года будзе. Ну, вы мяне разумееце: прэзідэнцкія выбары наперадзе і гэтак далей. Будучыня ў смузе. Што да мяне, я стрыманы песіміст. Ці ўмеркаваны. Адным часам, па шчырасці, спрабаваў пабыць аптымістам стрыманым. Нічога не выйшла.

Тыднем раней сядзеў пад рэдакцыяй «Газеты» у камп'ютарнай фірме. Ставілі дыягназ майму працэсару. Сам яго стан, зрэшты, не так мяне цікавіў, як файл з апавяданнем новым, якога не скапіяваў. Майстар меладраматычна крыжаваў рукі пасля доўгіх маніпуляцый: капцы. Колькі гэта будзе каштаваць? —нарэшце пацікавіўся я. За вокнамі падаў зімовы дождж. Над дзвярыма замежнага консульства насупраць залаты

каралеўскі арол ператварыўся ў латуннага, а гербавы шчыт з чырвонага стаў блякла-ружова-кісельным. Страта апавядання, якое пісалася амаль паўмесяца, спаралізавала далейшую працу над новай кнігай. Я чалавек старамодны, спачатку пішу ў сшытку, а дачка крытыкуе. Вось і напісаў адразу ў камп'ютары.

Назаўтра паехаў у сталіцу на сустрэчу з чытачамі. Спачатку ўсё здавалася фатальным. Мы стаялі на ганку бібліятэкі, з арганізатарам. Ён крыху нерваваўся: ніхто амаль не прыйшоў.

А потым з усмешкай увайшоў Глобус, вельмі нечакана для мяне. Ён стаў гаварыць, што для яго таксама важна, што Дзіна Буцаці напісаў свае кнігі, што ён працаваў у газеце. Сказаў, што апошнім разам у Рыме трымаў у руках Corriere Della Serra. Умацавала мяне яшчэ больш мажная постаць празаіка Астрожскага, які захіліў на хвілю праймо дзвярэй. Мы прыязна з ім павіталіся на адлегласці, як толькі я заўважыў яго. Можна й пачынаць. Я падрыхтаваў міні-прамоўку аб літаратары з правінцыі. Хаця, канечне ж, я не лічу ўлюбёны горад правінцыяй. Мая прамоўка пачыналася словамі «У нашай цэнтралізаванай краіне пісьменнікі радасна мянялі жытні хлеб на сталічныя пернікі...»

Пасля прачытаў урывак са свайго эсэ «Аб трох гарадскіх краявідах», якое толькі што выйшла ў часопісе, а затым пасля-моўе да маіх «Цэнзарскіх нажніц»: што мая проза ёсць спробай уцёкаў у літаратуру ад газетнай навалы. Што цэнзарскія нажніцы, пакуль яны ў шуфлядзе, сваім існаваннем нават могуць надаваць натхненне, але толькі да часу, пакуль цэнзары не робяцца пракурорамі. Я не без гонару паведаміў, што большасць аповедаў напісаў у горадзе з каралеўскімі каранямі, з аленем Святога Губерта на гербавым шчыце.

Уначы адчуў у аўтобусе, што захаладзіўся ў новых, але восеньскіх чаравіках. Трапіўшы на паўдня ў сталіцу, дзе ляжаў снег, якога не было ў нас. Выпіў дома рэшткі Passport-whisky, але гэта ўжо не магло дапамагчы.

У камп'ютарнай фірме крыху ніякавата паведамілі, што файл ураtаваны (неверагоднымі высілкамі, у чым сам я пераканаўся), што ў ім два аповеды —пра мяжу і —пра гільяціну. Менавіта першы мне й быў патрэбны. Яго не ставала, як цагліны ў сцяне. Нідзе не друкаванае яшчэ апавяданне абышлося мне ў «пяць амерыканскіх рублёў», —назваў зусім малую цану майстар. Галаўны боль скончыўся.



А потым з жонкай хварэлі і даволі моцна. Не тое што напісаць, прачытаць штосьці сур'ёзнае быў не здатны. Проста ляжаў і глядзеў у акно на зіму. Калісьці пра такое марылася ў маленстве. Снег на вуліцы, а дома цёпла. Лекаў хапала, ежы таксама, нават кашэчыя харчы я напярэдадні назапасіў. Усё, апроч хваробы, было нібыта добра, але не хацелася чытаць, слухаць музыку, пагатоў глядзець «скрынку». Я ляжаў і думаў, што асноўнай часткай ў жыцці, як высветлілася, была апошняя дзесяцігодка. А выніке? Не наважваешся ўжо нічога чакаць, па-сапраўднаму не верыш і не спадзяешся. І няма больш жаданняў. Нават green-card не хочацца.

Гэта, мабыць, праява нашага фаталізму. Продкі ляжаць у гэтай зямлі, і мне ў ёй пахаваным быць. Хіба што ўперад напішу яшчэ некалькі кніжак, сам факт друку і прэзентавання якіх ужо не выклікае эмоцый. Захутка, можна сказаць, прызвычаіўся. Але папросту гэтак наканавана, маё прызначэнне ў тым, каб у гэтай краіне на гэтай мове прамовіць, выгукнуць колькі лішніх слоў аб свабодзе.

# РЭПАРЦЁР У ГОРАДЗЕ

Калі без філасофіі, чым ёсць нашае жыццё? Простая сума ўчынкаў, падзей. Колькасць авіяпералётаў, адпраўленых лістоў, прачытаных кніг і напісаных, калі такія ёсць, або —у рэшце рэшт —гадзінаў сну, ці гадзіннікаў, якія меў, плюс — колькі разоў галіўся, завязваў вузел гальштука, укідаў бюлетэнь у выбарчую скрынку, лічба кубкаў кавы, келіхаў, кілішкаў, куфляў. Як калісьці салдатамі два гады вымяраліся колькасцю з'едзеных яек, даўжынёю складзеных разам кавалачкаў масла, прыблізнай лічбай выкарыстаных цюбікаў зубной пасты і бляшанак ваксы.

Лета адымае ўвагу. Вось я! Я паўсюль! Так, яго смак цягучы, быццам з печы пахнула, водар, яго гукі, рэзкія, скажоныя... Дзе папера? Пакінь. У спякотнае надвор'е нічога не выйдзе. Бракуе іскры. Не выкрасаецца. Бездапаможнасць, якой ніхто не бачыць. Бясплённасць, аб якой ніхто не падазрае. Марнасць, ад якой нікому, зрэшты, ніякай шкоды. Лета лашчыць, лета шэпча: досыць пісаніны. Лагодны чэрвень, цеплыня, залевы. З акенца пад чырвонай дахоўкай назіраеш людзей, сабак, машыны. Сочыш за пульсам дажджу, за колерам неба, за маланкамі. За тым, як хутка макрэе чарапічны дах і мыюцца галубы.

Жыццё ў гістарычным квартале, а не ў спальным раёне. Якія ж былі пярэбары! Усё побач: кнігарні, установы, касцёлы. Кавярні, кінатэатрык («Халодныя закускі» Бэртрана Бліе, «Чырвоная пустэльня» Антаніёні) і драматычны, некалі каралеўскі, аптэкі, помнікі. І бадай тры прыемных месцы. Паддашша з катом і кнігамі, катэдра з Маткай Боскай і, магчыма, дом з бел-чырвона-белым языкастым сцягам на фасадзе. Стары, але няўтульны дом. Нечаканы сцяг, быццам гэта кіно... А лета запавольвае і размякчае. Пазбаўляе прагі да барацьбы. Стаміўся ад жыцця, ад фіглярства, ад бязглуздай палітыкі, ад свайго рэпарцёрства і ўласнай бязраднасці. Не, мова пакуль ідзе не аб капітуляцыі, не пра белы сцяг. Але калі ён не сыдзе, станавіцца «чалавекам на балоце, як усе»?



Як пераадолець страту сэнсу? Як аднавіць тады само жаданне існаваць тут? Працягваць змаганне, супраціў. Прынамсі тое, што называецца ўнутранай эміграцыяй.

Пасля сарака, дасягнуў сваіх мэтаў ці не, расчароўваешся, не знаходзіш болей сэнсу.

Даплыў да сваёй выспы пясочыстай пасярод багнаў, выпаўз, аддыхаўся. І што далей? Ратуе толькі тое, што можна выйсці на вуліцу і абавязкова сустрэць кагосьці, хто думае як ты і як ты пакутуе. Але яшчэ трымаецца, не ўцёк. А прамінула дзесяць год! Яна зацвіла як ружа. Вы спадзяваліся, што кветнік разбуяе. Што суседзі будуць захапляцца прыгажосцю вашых кветак. Але пустазелле заглушыла далікатную расліну. Хаця вы спрабавалі, як маглі, палоць, паліваць, чорт з імі, з шыпамі! Білі па руках, начаплялі кайданкі, трымалі па турмах. А кагосьці больш няма. На апошняй імшы ксёндз наракаў: адныя прыйшлі да Бога, чакаючы нейкіх дабротаў для сябе, а не дачакаўшыся, адмовіліся. А чаго маглі чакаць вы?

Рэпарцёрства. Высочваць, віжаваць. Нагадвае паляванне. Няхай не любіш паляўнічых. Аднак быць вольным стралком, што можа быць лепей? Вычэкваць, быць напагатове. Але газеты такія безабаронныя. Суды, змена шыльдаў. Зусім не сезонная лінька, не безбалесная змена змяінай скуры. Газеты трацяць назвы, як мы свае гады. Ну-ну, вышэй галаў! Рэпарцёрства, у рэшце рэшт, злучана з пачуццём свабоды.

Калісьці хацелася забыцца на палітыку і рабіць часопіс з прозай, эсэ, зацемкамі, з дыскусіямі і падарожнымі нататкамі. Але гэта ілюзія, міраж. Няўдзел. Хай лепей штодня шукаць, знаходзіць і паведамляць навіны. Гэта лёс. Кожны дзень —абавязак пісаць, і пісаць шмат. Вядома, гэта ўрэшце вынішчае. Твая тысяча слоў ператвараецца ў абмежаваны лексікон. Каб толькі хапіла сказаць: дзе, што, калі? Газетная мова, газетныя апавяданні. Свядомасць і думкі. Уелася ў мяне, як друкарская фарба ў далоні метранпажа.

Аднойчы паэт уявіў сабе Радзіму шыпшынай. І кветкі з пладамі, і шыпы таксама. Яму дасталіся шыпы, ім усім, большасці. Нам —таксама. Шыпы пераважаюць у самой нават назве, з іх усё пачынаецца. Мы сабе вярталі забытую еўрапейскасць,

рыцарскае аблічча краіны. Але з нас былі кепскія садоўнікі. І нас было мала. Дворнікі ў ботах і фартухах з мётламі ўсё знішчылі, засталіся калючкі, чартапалох. Кветнік зменшыўся да прыватных памераў.

Лета дзевяноста нейкага. Мы ўпершыню выбіралі... Першы й апошні раз. Абранец стане пастаянным... Такое ж нібыта лета. Яно з адлегласці ўяўляецца суцэльна спякотным. Але так толькі здаецца. Перш надарыліся вельмі мокрыя і халодныя дзянькі. Мы тады былі больш наіўнымі, прынамсі мелі тады яшчэ надзею. Тым летам трапілася ў рукі «Невыносная лёгкасць быцця», якая ўзрушыла, вельмі закранула. Сабіна была якраз у Хельсінках. Спачатку ездзіла па літоўскую візу, потым у Вільню, каб прыдбаць фінскую.

Так, Сабіна была ў Хельсінках, а я чытаў Кундэру і міжволі ўяўляў персанажаў рамана, якія апынуліся па розныя бакі калючага дроту, але мяжа мне уяўлялася зусім не чэхаславацкая, зусім не. Хацелася не верыць, але я прадчуваў. Праўда, заканчэнне таго летняга рамана было іншым, не кніжным. Сабіна вярнулася на наступны дзень. Калі ўсё стала вядома і памерлі ілюзіі. Цудоўным і хуткім «Сібеліўсам» даехала да вакзала з браневічком, з цяжкасцямі і непрыемнасцямі дабралася да ледзьве не палявога аэрадрому, дзе ўжо ў летаку, пад гуд прапелераў, пачула ад інтэлігентнай, крыху чапурыстай суседкі, «выбралі абы-што».

Тады «Невыносная лёгкасць быцця», сёння «Востраў Крым», які толькі што прачытаў. Калі жаданне аддацца Вялікаму брату, справакаванае, гіпэрбалічна раздзьмутае, агучанае, размільёненае афіцыйнымі рупарамі, заглушае, прыдушвае, забівае пачуццё ўласнае годнасці, здольнасць разважаць, знішчае адчуванне самаахове, даводзіць да трагікамічнасці, да гістарычнага фарсу. Крыўда маленькага чалавечка за волата, якому не схацелі падначальвацца іншыя чалавекі. Неўсвядомлена-эгаістычнае спадзяванне на дармовы сыр. Патаемнае замілаванне да сябе асабіста: ніхто з ім не хоча, толькі я...

Надуманая маральная адказнасць краінкі за суседнюю імперыю. Любоў прыніжаных і зняважаных бывае эгаістычнай. Самаразбуральнай любоўю. З банальным заканчэннем. У адказ на слабасць, а самапрыніжэнне —гэта слабасць, у адказ —неба —бясхмарнае, над усёй Іспаніяй, неба —засмечана крыжамі летакоў і парашутнымі дзьмухаўцамі. Захоплены аэрапорты, памежныя пераходы, вайсковыя базы, а праспекты запоўнены, быццам статкамі няўклюдных мастадонтаў, калонамі бранятэхнікі. Гэта называецца «Цяжкай хваробай кахання да цябе», як у песні.

Скаргі самому сабе, расчараванне ў газетах? Усё проста. Няма поступу. Цягаеш славэтны валун на гару, і нічога не змяняецца. Наадварот, усё заўважна горшае. Час пазбаўляе сілаў і жадання, пазбаўляе сэнсу. Столькі гадоў на змаганне з ветракамі! Але нічога іншага не ўмею. Ходзіш па вуліцы з заўсёдным, кепска прыхаваным неспакоем: а раптам дзе што здарыцца, і не будзеш ведаць. Альбо даведаешся са спазненнем. Стан штодзённага лёгкага стрэсу, быццам крыху нападпітку. То адрэналін чужаніцы ў напаўварожым горадзе, то азарт паляўнічага...

Журналісты абрываюць вішні ў садзе апазіцыйнага палітыка. На даляглядзе высокі белы касцёл з зялёным дахам. Гаспадар знаёміць з сям'ёю і домам. У краіне выбарчая кампанія, ён удзельнічае. Улада раздражняецца, апазіцыя раўнуе. Адчуваюць, што ў яго ёсць шанцы, імкнуцца замаўчаць яго. Для палітыка горш не бывае. Хаця шанцы якія? Паўдзельнічаць у спектаклі. На большае разлічваць глупа... Ён дэманструе адкрытасць, усмешку. Ён —іншы.

Як мы залежым ад адной даты, ад гэтай падзеі! Быццам наступіць вечная зіма!

Не рухацца, не з'язджаць. Сядзець поседам. Не страчваць пільнасць. Боязь уласнай адсутнасці. Які можа быць адпачынак, якія мора ды пальмы?! Сёлета не для нас. Вядома, усё гэта ўжо было аднойчы. Што залежыць ад пісакі? Рэпарцёры —як франтавыя сувязісты. Але які вынік, калі нават сціснуць зубамі, злучыўшы часткі перацятага дроту, калі навіны будуць адмоўныя і безнадзейныя?.. Ты ўстрымаўся ад прамення і хваляў? У краіну, апанаваную перадвыбарным трымценнем, перасоўваецца паўднёвы сквар. Як незразумелы цяжар на

грудзі ў глыбокім сне. Абмежаванне любой дзейнасці, адзіная думка —«калі скончыцца?», адно жаданне —перачакаць. Знясільваешся, нават нічога не робячы.

Лухта! Усё гэта лухта! Я не хачу болей! Колькі можна чакаць?! «Залацістага яснага дня». Колькі цярпець? А калі жыць? Чаму іншыя могуць жыць як людзі? Ужо сёння! Чым мы горшыя? Які тады сэнс? Шкада, шкада, што нельга адразу з няволі ў свабоду трапіць, не марачы нават аб ёй, не адчуваючы патрэбы. Суседзі, яны змагаліся. Змагаліся! За касцёл, школы, за сваё войска, а не за якоесьці —з сярпом і молатам на чырвоных зорках...

Рэчаіснасць існуе на іншай мове, падзеі адбываюцца на ёй. У яе рэчышчы дзяржава робіць свае справы. Працуе, весяліцца, загадвае і выконвае загады. Усё жыццё, нат маўклівая частка трывае на гэтай мове. А мы, хто мы тады? Калі трапляем ў яго пастку? Абыякавага ў лепшым разе, калі непрыхільнасць не на паверхні. Мы не зусім дома. Нас церпяць. Са сцятымі зубамі. Мы не такія, як усе. Наш стан не назавеш утульным, не разняволішся. Наша жыццё з прысмакам унутранай эміграцыі. З хісткім станам.

Ах, якая салодкая думка: акапацца на сваім паддашшы. Востраў Крым паветраны. Каб адасобіцца ў думках. Лесвіца ўгору, кабінетная эміграцыя. Замуравацца ў думках ад гэтай краіны і пісаць эпапею, раман-цагліну, пра няўдалы рух да свабоды, пра недарэчны ланцуг падзей.

Хаця, а ці застанецца здольнасць пісаць, унутранае гарэнне?

Шуфляда можа застацца пустой. Калі пісаць падпольна страшна... Калі перасталі баяцца, кінуліся да шуфляды: пуста. Абышліся без паперы, без пісьмовай машынкі, хаванай у лесе ў дупле дрэва. Не было пладоў, не было і ахвяр. І ў гэтым шчасце. Нэндзнае наскае шчасце. Бо яны некалі нас... Цэлыя саюзы пісьменнікаў знішчалі, цэлыя акадэміі навук і ўніверсітэты. Гісторыя заўжды можа паўтарыцца. А што ёй? Твая гісторыя чужая, але іншай у цябе няма. І ты заўжды гатовы аддаць сябе ёй на раздзіранне. Наскі фаталізм... А за вокнамі літаўры бітвы за ўраджай, базар з казацкім хорам, воплескі, якія ператвараюцца у авацыі.



Што нам рабіць? Нельга не існаваць у сваім часе. Толькі быць, прысутнічаць, але не жыць па-сапраўднаму. Я толькі пабуду і пайду да сябе... Нельга адкладаць сваё жыццё, калі не даспадобы рэчаіснасць. Нічога не выйдзе. Гады паміраюць у чалавеку, унутры нас застаецца ўсё менш часу, менш жыццясілы. Дык што ж рабіць?

Не пражыць сваё жыццё толькі таму, што не задавальняе навакольнае? Што ты ў ім іншародным целам сабе здаешся? Пакласці свае гады на другую шалю? Каб пераважыць цяжар чыгунных дзён, жалезабетон курантаў? Час важыў, але не меў зместу. Ён прыгнятаў сваёй пустацеласцю. Але якая мела неверагодную шчытнасць, нібы сціснутае паветра. Гэта была, на першае вока, вага з нічога.

Некалі нам будзе ўспамінацца апошняе лета падабенствам надзеі. Калі разумееш, што спадзявацца без сэнсу, але хочацца бадай схлусіць сабе. І нейкая надзея ў душы сапраўды цьмее. У яе няма свядомасці, ёй невядома, што нельга падманваць. Паветраныя замкі не існуюць. Кропка. Але нам хацелася рыцара назад. Мы адчувалі сябе яго дзецьмі.

Краіну напоўнілі іншай кроўю. Толькі каб ачысціць, сябры! Таксама кроў, таксама чырвоная. Ды нязвыклая. Група, рэзус —усё не тое, не сваё. І думкі якіясь самажэрныя. Ну як жа так? Чаму?! Мовы адрозныя. Вось чаму. Так, няхай роднасныя, няхай, але словы, бывае, азначаюць зусім іншае. Або супрацьлеглае. Як у таго народа, хто круціць адмоўна галавой на знак згоды...

Жоўтыя кветкі перад распяццем ад спёкі падвялі. Ззаду, за лавамі дурэлі дзеці. Ксёндз нагадваў словы Евангелля, заклікаў любіць адно аднаго і раздаваў аплаткі. У касцёле было горача амаль як на вуліцы. Дзверы трымалі адчыненымі. Ён прамаўляў без асаблівага энтузіязму, яму таксама было зацёпла. Гаварыў на вядомую, але не самую частую ў казанях тэму. «Стукайце і адчыняць, прасіце і атрымаеце». І паўшчуваў, што не ўмеем маліцца і ўвогуле лянуемся. Ведае, што гаворыць.

Нарэшце арганіст на месцы. Ну давай. Узняліся з лаў. «У імя Айца, Сына і Духа Святога. Амэн. А зараз —асновы нашай веры». Сталі завучана паўтараць за ксяндзом... Вады ў

купелі было даволі, звычайна на дне толькі. Ногі распятага нагадвалі лялькy з пап'е-машэ, фарба сцёрлася плямамі. Яны здаваліся ўспацелымі ад спякоты і вільготнасці. І я адчуў гэта, калі дакрануўся вуснамі перад выхадам. Гмах хутка спусцеў. Апошнім па высокіх сходах спусціўся ксёндз да шэрагу легкавікоў, якія сталі перад касцёлам. З ім быў служка з металічным вядзерцам са святой вадою, трымаў яго аберуч. Толькі што яны слухалі яго, а цяпер чакалі, стаўшы кожны асобна ля дзверцаў машыны. Урачыста-паважныя твары. Быццам ордэн атрымаюць. Ксёндз лёгкім крокам рухаўся ўздоўж аўтамабіляў. Нейк вясёла апырскваў капоты і вернікаў, мачаючы ў святую ваду свой квач. На добрую дарожку. Памагай Божа!

Хаця што такое Бог? Абстракцыя. Як наша краіна. Існуе толькі ў галовах. У сэрцах. У душах. Але няма на зямлі. І на карце толькі межы і назва. Назва без зместу. Проста слова. Шыльда. Так, як Бог. Якому да лямпачкі, што першымі апынаюцца апошнія, каб лічыць сябе багамі. Ставяць ногі на катурны, прыклеіўшы бараду і вусы. На галаве парыкі быццам з габлюшкі. І штучныя цярновыя вянкі. І крыж вось. Дубовы, моцны. Не зламаць. І цвікі. Вялікія, жалезныя.



# ГУБЕРНЯ

Ён спрытна ўскараскаўся ў высокае стрэльчата-гатычнае праймо былога акна. Яго падтрымлівалі, падпіхвалі, смакуючы наперад спевы. Ён устаў з каленяў, выпрастаўся, залямантаваў, узняўшы, замахаўшы рукамі. Яму падалі гітару. «Песня касцюшкоўцаў», марш іхні!» —абвясціў блазнавата-радасна. «Рубон!» —абазваліся здолу захоплена, хоць не вельмі згуртавана. Спявак выняў інструмент з падарожнага футарала, нетаропка спраўдзіў гучанне. «А зараз слухайце»:

«Наш Касцюшка добры быў,
Ён маскалі моцна біў!
Ля-ля-ля. Ля-ля-ля.
Ён маскалі моцна біў!»

— Закароткая атрымалася. Не паспелі прыдумаць пабольш. Дый што казаць, мужыкі. Толькі наважыліся, толькі косы навастрылі, а тут —Мацяёвіцы, апошні раз пораху панюхалі. І —фініта ля камедыя. «Не загінулі мы і не згінем, пакуль ты нас наперад вядзеш... Нашай слаўнай крывіцкай Пагоні мы не зганьбім, мы ўславім яе», —уголас як бы ўспамінаючы тэксты, прагаварыў ён без спеву, не кранаючы струнаў, і раптам грымнуў:

«Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон!..
Біце ў сэрца іх, біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!»

— Вой, не, гэта занадта сумная, безнадзейная наваат. «Дзе наш Кастусь, дзе наш змагар!» Не, а гэта ўжо не з той оперы. Лепей кракавяк праспяваю, калі хочаце.

— Хочам! Хочам! Спявай!

— Ну, добра. Дык слухайце. Касінерскі кракавяк:

«Гэта што за сцяг лунае
Над акопам годна?
Залаціцца зноў наш сцяг
Колераў народных
Дына-дына-дына,
Любая Айчына!»

— Гэта ўжо весялей, праўда? А зараз яшчэ пра Пагоню будзе і пра арла. І пра косы, само сабой, —і ён праспяваў яшчэ некалькі радкоў, як і абяцаў.

— Ну што, хлопцы, дзеўкі! Штосьці пальцы здранцвелі, прымярзаюць, як у Карбышава, струны зусім ледзяныя. Варта ўжо даць слова нашаму шаноўнаму кандыдату на прэзідэнта. Я вас ужо разагрэў, як мог. Ура! Прывітаем госця!

— Дарагія землякі! —інтэлігентны валявы мужчына ў акулярах з тонкай апраўай загаварыў упэўнена і спрактыкавана. —Што засталося па Касцюшку?! Нічога! Наспа, дзе дом стаяў. Нават памяць знішчылі. Нацыянальны герой такіх вялікіх краін! Дыпламаты прыязджалі замежныя. З кветкамі, з вянкамі. А дзе нашы сталічныя янычары? Помнікі сувораўскія даглядаюць, музей. Касцюшку —ні помнікаў, ні музеяў. Добра, людзі тутэйшыя крыж паставілі, камень. Ды шыльду бронзавую злодзеі скралі. А дзе міліцыя, дзе ўлады мясцовыя? Спяць у шапку. Янычарскую музыку слухаюць. Я быў у швейцарскім музеі Касцюшкі. Яны там зноў быццам сутыкнуліся. Суворaўскі таксама ёсць музей. Я быў першым адсюль палітыкам, які наведаў музей слаўнага нашага земляка. У кнізе ганаровых гасцей —роспісы самых вядомых палітыкаў, нашых —ніводнага. Яны ўсе ў сувораўскім спяшаюць засвяціцца. Мне было прыкра. І сёння я найлепей усвядоміў: мы павінны пайсці на гэтыя выбары і перамагчы. Каб шанаваць нашых уласных герояў, а не ворагаў, якіх ушаноўвае начальства.

— Янычары яны! Манкурты!

— Так, янычарства —гэта хвароба... бяспамяцтва, паняверкі. Гэта —нянавісць да сваёй Айчыны, якую пасеялі ў нас ворагі.

— Касцюшка не перамог, мы —пераможам!



— Дай Бог.

— Ну, вось. Як нас вучылі, гісторыя сапраўды рухаецца па спіралі, —нечакана зноўку пачаў мовіць спявак-гітарыст, і здараюцца неспадзеўкі, запрашаю ўсіх да вогнішча пагрэцца ля касцюшкаўскіх падмуркаў «сувораўскай», мароз пятнаццаць градусаў. Гэта ж не жартачкі!

— Няма «сувораўскай», толькі «сталічная»!

— Чорт з ёй! Абы сорак градусаў.

Акінчыц аглядаў публіку, палац, лес, зіму. Увагу прыцягвалі ксяндзы. Іх ён заўважыў яшчэ каля каменя, на месцы сялібы. Купка мясцовых патрыётаў. Луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Прыезная моладзь ажыўляла сцэну. Спецслужбіст бесцырымонна фільмаваў. Спрэчкі, гутаркі, філіпікі. Малады мужчына ўбаку ў чорным строгім паліто, у чорным лямцавым кепі з апушчанымі на вушы берагамі. «Пшышэдл пастор: чарна колумна слув», —міжволі ўзгадаў Акінчыц шатландскага паэта ў польскім перакладзе. Так, ксёндз вылучаўся з усіх відавочна, але Акінчыц чамусь не адразу скеміў, што гэта менавіта ксёндз. Папросту не чакаў убачыць. Не чакаў таксама па сутнасці нічога не ўбачыць. Чатыры гадзіны ехаць, каб паглядзець на месца, дзе калісьці была сядзіба, ад якой —ані следу! Яго загушкала, чаго не здаралася вельмі даўно. Аўтобус вёз не новы, але прыстойны, прычым для далёкіх рэйсаў, на мяккіх рэсорах. Ехаў не дарогай на сталіцу, самай ажыўленай, па якой прызвычаіўся падарожнічаць Акінчыц, а ўбок ад населеных гарадоў. Праз вёскі і сялібы, праз пушчу. Як карабель плыў паміж засыпаных снегам дрэў, якія ззялі на сонцы, праз сумёты абапал, якія зіхацелі і серабрыліся, цераз марознае блакітнае неба. Здавалася, гэта павінен быў быць шлях на Поўнач, у Лапландыю, а не ў адваротным кірунку. Спыніліся аднойчы ў пушчанскім мястэчку, здранцвелым і аснежаным. Амаль сляпіла сонца. На старых камяніцах паміж царквой і касцёлам усе шыльды яшчэ размаўлялі па-беларуску. Цуд, казка! Потым аўтобус пачало падгушкваць, ён раптоўна зарываўся носам, ляснуўся сподам раз-другі. Пад коламі гарошыўся стары брук, месцамі ўжо з ямінамі, запарушанымі снегам. Шафёр мусіў запаволіць язду.

Праз дарогу ад каменя хваёвы лес крыху перавышалі дзве вежы. Вельмі шчытны, цёмны і змрочны лес. Дома, у энцыклапедычным томе Акінчыц убачыў, што палац калісьці быццам стаяў адразу за домам Касцюшкаў, ствараў задні план, дэкарацыю. Хвояў жа не было зусім. Мастак відавочна зменшыў адлегласць, інакш палац атрымаўся б замалым. Яшчэ — гмах стаяў на пагорку, узгадалася дома Акінчыцу. Мастак гэта праігнараваў... Мароз адчуваўся, марна стаяць далей не было сэнсу, і публіка пацягнулася ў палацавы бок, дзе ніяк не распальвалася вогнішча. Адно дым слаўся.

Палац уражваў слядамі варварства. Чырвоная, як перапечаная цэгла, з рэштакамі тынкоўкі сцены, —быццам шкуру здзерлі з мядзведзя. Аз-букі-ведзі —лемантар далучаных да пісьменства тубыльцаў, якія спярэсцілі муры сваімі імёнамі і паведамленнямі. Хто каго кахае, хто з кім якую піў гарэлку ў палацавых рэштках. Сучасны летапіс недарэкаў. Акінчыц не ведаў, як яшчэ ахарактарызаваць убачанае. Здаецца, нічому не здзіўляешся, але знянацку ўразішся. Каб жа зрабіць палац для паляўнічых (хоць ён і не любіў іх), для аматараў зімовага адпачынку, для агратурыстаў, выратаваць. Марныя думкі!

Агонь нарэшце запалымнеў, апаноўваючы хвойнае галлё. Як рыбалоўцы навакол пасталі маладзёны з пруткамі. Засквырчэлі каўбаскі, празрыста напоўніла шкляначкі гарэліца. Гамана запанавала ля мёртвых муроў.

У дарозе моладзь працягвала жлукціць гарэлку.

Падрэмваючы, Акінчыц змагаўся з гармідарам у галаве, спрабуючы вылучыць з заблытаных пачуццяў думкі, высновы. З рэчаіснага ладу яму хацелася апынуцца ў метафарычным. Разважалася яму ў прыблізна такім рэчышчы... Кажуць, немагчыма ступіць у адную раку двойчы. Гэта не пра нас. У нас усё здараецца. Колькі не трапляем у ваду, столькі разоў няўдала. З аднолькавымі памылкамі. Адразу з галавой. Ані разу не патрапілі броды даведацца. Або падрыхтаваць чоўны, каб перасягнуць плыню ўраз. Ужо не кажу пра пантоны, масты. Начыталіся кніжак. Падыйдуць бліжэй да ракі нерашуча і быццам чакаюць, пакуль вада расступіцца ўбакі. Альбо перасохне ці хоць бы змялее рэчышча, каб апынуцца на процілеглым беразе, дзе ўсё інакш, дзе сам сабе гаспадар. Дзе сонца ззяе і ззяе, дзе не трэба чакаць недаедкаў з чыйгосьці стала, дзе можна размаўляць як умееш, дзе няма ні паноў ні таварышаў, дзе каровы самі просяцца: падаі! Дзе дрэўца з райскімі яблычкамі чакае. А, зрэшты, хто іх ведае, чаго яны сабе там думаюць і ці думаюць увогуле? Заахвоціць, падбухторыць, каб толькі схадзілі зірнуць на «раку часу», удаецца заўжды меншыню. Большасць абыякава застаецца на месцы, нязрушна як крушня на ўскрайку поля. Ні ворыва, ні мурог, ні лес. Так, абы-якая мясціна.

На шляху спаткалася мястэчка мёртвымі аркадамі разбуранага палаца, памеры нават цяпер уражвалі, унутры нагадваючы галерэямі бадай Калізей. Грандыёзныя дэкарацыі да спектакля, назву якога ўсе забылі. Тэатральная трупа распалася, акторы раз'ехаліся, гледачы паўміралі. А калісьці сюды прыязджаў сам кароль. Урачыстая кавалькада, ганаровая варта, залпы ў паветра. Баль, шампанскае, прыдворная капэла, танцы. Увечары феерверк і спектакль у палацавым тэатры. Хтосьці пачаў апавядаць, пераўвасобіўшыся ў гіда. Акінчыцу не захацелася слухаць, вярнуўся ў аўтобус. Сумна, пагатоў калі ўбачыш аднойчы на ўласныя вочы.

Рака, рака часу, яна можа існаваць напраўду. Адным досыць на другі бераг паглядзець, на віры, на адважнікаў, якія кідаюцца ў плыню на скрут галавы. Адно няпраўда, што ніхто з нашых не бачыў заходняга берага, што ніхто плаваць не ўмее, думалася Акінчыцу. Толькі што беларусы добрыя выканаўцы, вісусы, героі залатой зоркі і белага арла. Яшчэ паэт трапна зазначыў. Не сваю, маўляў, чужую долю баранілі. Пад чужымі, карацей, сцягамі ўміралі.

Нацыя жаўнераў і падначаленых, служак. Генералы здараліся, але з чужымі аксельбантамі. Вось і гэты. Не, ён, канечне, стараўся. За нашу і вашу свабоду. Але, як заўжды, не атрымалася, не пашэнціла. «Мамо, не хачу да польскага войска ісці», —пісаў у лісце Касцюшка. Гэта не Акінчыц прыдумаў ці вышукаў недзе, паляк адзін расказаў.

За вокнамі бялелі гарызантальныя краявіды, калісьці мясціны ваенных дзеянняў, баёў паўстанцаў з карным войскам.

«Возьмем косы і янчаркі,
Пачнем гордыя гнуць каркі!..»

Нейкі архіўны шукальнік надрукаваў песню. Тэкст. Музыкі ніхто не ведае. Памерла, знікла разам з апошнім касцюшкоўцам.

Акінчыц задрамаў. І не бачыў гарадской гары, на якой некалі быў некалі вялікі каменны крыж, паўстанцам ад нашчадкаў. Цяпер статуя салдата, можна схавацца ад дажджу ў пастаменце. Як і ад снегападу. Гадзіны працы: ад дзесяці да васемнаццаці. Унутры гарыць агонь. Крыж узарвалі. Бульдозер зламаўся, калі зрабілі спробу абысціся без дынаміту. Салдат глядзіць у бок мяжы: не дазволім!

Абудзіўся ў горадзе, аўтобус дробна трымцеў ля светлафора. Спыніліся ў месцы ад'езду —на пляцы Касцюшкі. Акінчыц тут жыў у старасвецкай камяніцы, дзе быў Касцюшкавы штаб калісьці. Побач захаваўся былы каралеўскі тэатр, сёння —тэатр марыянетак. І нават трыўмфальная брама. У гонар нейкай перамогі. Забылася, якой. Ватэрлоа? Але пры чым тут Ватэрлоа? Хутчэй з нагоды далучэння новых зямель і прыезду імператара. Брама не надта значная. Цэглы не хапіла напэўна. А можа тэрміны ціснулі. Акінчыца часам не пакідала адчуванне, што ён жыве сярод гістарычных дэкарацый. У горадзе існуе пад дахоўкай камяніца з архіўнымі зборамі. І рэдкі дакумент. Аб вызваленні з-пад прыгону сялян, складзены Касцюшкам у швейцарскай старонцы. Рамантык! Вызваліў былых сваіх прыгонных, якія яму ўжо не належалі. Ён жа —выгнанец, эмігрант! Якія могуць быць сяляне? Цікава, ці чулі яны, ці даведаліся, ці атрымалі магчымасць напраўду пацешыцца свабодаю, вызваленнем з-пад прыгнёту? Дакумент быў перасланы сюды і тут захоўваецца. Так, а зрабіў Касцюшка гэта перад сваёй смерцю. Цікавае супадзенне: у той жа час у віленскай шляхецкай зборні мясцовыя масоны прапанавалі абмеркаваць магчымасць скасавання прыгнёту. Але Акінчыцу невядома, ці напраўду звязаныя гэтыя дзве падзеі.

Дома ён адкаркуе нарэшце пляшку каньяку, дагэтуль недатыкальнаю. Пасля марознага падарожжа напой здаўся глыткамі халоднага агню, які раптам выгравае знутры, робіць зіму надзвычай прыемнай. Акінчыц не ўстрымаўся і ад кавы. Моцны густы водар «Чыба». Хаця апошнім часам кава таксама магла перашкодзіць яму заснуць. Але пасля марозу, пасля дзённага ўстрымання. А кава з каньяком? Цымус! Паўстанцкая вайна —уцёкі зайца ад паляўнічага, заблытванне слядоў, спробы ашчэрыцца, напалохаць чалавека з ружжом касой-літоўкай. Нават падручнік быў выдадзены —як рыхтаваць косы да бою і як карыстацца імі. Што ж, калі грошы выдаткоўваліся адно на баляванні, на маскарады і феерверкі, зброю замянялі косы. Кавалі, напаліўшы лёзы косаў, распраставалі іхнія пяткі, рабілі па дзве дзіркі для цвікоў. Існавалі баёвыя стандарты: тронак павінен быў мець даўжыню ў чатыры локці —каля двух з паловаю метраў і шырыню ў дзве цалі. Своеасаблівыя смяротнікі. Яны атакавалі бегма калонамі, каб быць крыху менш падступнымі для стралянiны, але заставаліся суздром безабароннымі, пакуль не дабягуць да варожых пазіцый. Калі толькі дабягуць...

Засынаў Акінчыц з прыемнымі думкамі аб тым, што назаўтра ўдасца стрэліць прынамсі ў дзявятку. Апошнім часам не хапала цікавых навін. Нядзельная паездка —лепей не прыдумаць... Абудзіўся дастаткова рана і нечакана зусім лёгка, адчуў прызабытую бадзёрасць. Хуценька пагаліўся, прыгатаваў кавы. Уключыў ранішнія тэленавіны, чаго таксама апошнім часам нейк не рабіў. Што-што-што? Памёр знянацку Мурашка, мясцовы ваявода.

Калі ўчора быў марозны сонечны дзень, дык цяпер распачалася зусім найсапраўднейшая зіма, як калісьці. Ужо ўдзень стала замятаць. Акінчыц выйшаў разгледзецца. Сцягі на дахах былі спушчаны да паловы флагштокаў. Нават на крамах хуценька павывешвалі іх з чорнай стужкай, абвясцілі жалобу.

Вярнуўшыся, уключыў тэлевізар. Бляклыя твары чыноўнікаў у кабінетах. Разгублена паўтараюць, што Мурашка да ночы сядзеў на працы, што назаўтра збіраўся таксама ранымрана за кабінетны стол.

Цяжка сёння паверыць, але ваяводам быў да Мурашкі Астроўскі, кандыдат апазіцыйны на выбарах. Дык ён сказаў, што Астроўскі —ганебная пляма на станоўчым аблічча горада.

Астроўскаму не даравалі, што зрабіў у горадзе пляц Касцюшкі. Калі жывеш у адным месцы гадамі і штодня наперадзе, «на барыкадах», дык аднойчы раптам пачынаеш разумець, што можаш засесці і напісаць хроніку тутэйшага жыцця. Усё бачанае, чутае, пераджытое прысутнічае ў тваёй галаве, заўжды з табою. Не, Астроўскі зусім не ідэальны. Вуліцу Сувораўскую назваць імем Касцюшкі не згадзіўся, пабаяўся. А на пляцы напісалі, што —Касцюшкі, толькі якога? Можа, Іван Іваныча —дырэктара рамбыттэхнікі? Іранізавалі паміж сабою не задаволеныя цалкам патрыёты.

Гораду сняцца сны з князямі і каралямі, з паўстанцкімі генераламі, яны выклікаюць спрэчкі. Гэты горад заражае гістарычнымі рэмінісцэнцыямі.

Капцы са святам губерні. А як Мурашка марыў! Заманулася, далёкаму ад гісторыі, ад букляў, парыкоў, ларнетаў, ад штуцараў, багінэтаў, ад шабляў, ладунак і можджараў. На што замахнуўся... Тут была жыўцом раскроена краіна... Адбылася трагедыя, а ён —баляваць, маскарад учыніць. Жаданне застацца ў гісторыі. Першым губернатарам быў Мурашоў, апошнім — Мурашка. Якое супадзенне! Партрэтная галерэя: ад Мурашова да Мурашкі. Карціны замоўлены мастаку-партрэтысту. Будуць развешаны ў былым каралеўскім палацы. Там менавіта, дзе на кавалкі разрэзалі і знішчылі тую далёкую прыгожую краіну з уніяцкімі цэрквамі, касцёламі, з замкамі, з соймамі і соймікамі, з канстытуцыяй і магдэбургскім правам, з прывілеямі з пячаткай... Гэх! Усё было растаптана жаўнерскімі ботамі. Бліскучую сталіцу ператварылі ў горад-губернск. І яму заманулася гэта святкаваць!

Так, менавіта. Прыязджаў абвясціць свой губернскі ўказ сам цар! Мурашку захацелася зрабіць урачыстасць на ўзор царскай. Гісторыкі рушылі ў пыльныя архівы, іх прыспешвалі. Усяго знайсці не ўдалося, поўнай справаздачы аб падзеі. Мусілі дадумаць. Падрыхтавалі, выдрукавалі, якраз знаёміўся Мурашка ў свае апошнія гадзіны. Рабіў заўвагі ў тэксце.



У сцэнарыі: чыноўнікі, афіцэры і салдаты гарнізона, акторы, усе —у тэатральных шатах, у парыках, буклях. Вядома, што цара сустракалі менавіта ў тэатры. Рабіць урачыстасць у самым лепшым памяшканні —у каралеўскім палацы цару хапіла густу і далікатнасці, каб адмовіцца. Сабора прыдатнага не знайшлося. Зрэшты, у цара быў не рэлігійны настрой, нядаўна ён задушыў уласнага бацьку падушкай, не важна, што чужымі рукамі.

Аздобленая, святочная зала. Паветра прарэзваюць гукі горнаў. Трубачы шыхтуюцца абапал сцэны. Урачыста абвяшчаецца: самадзержац розных унутраных, далучаных і захопленых земляў! На кані выязджае Яго імператарская вялікасць, ролю павінен выканаць вядомы актор Квачэнка. Каня трымаюць за аброць два парадныя генералы. Цар зачытвае ўказ, які прысутныя слухаюць, стаіўшы подых: «Загадваю —дзеля найхутчэйшага і найзручнейшага ўсім новападданым правасудства, а таксама заможнасці, росквіту і шчаслівага жыцця пад нашай абаронай —утварыць ад сённяшняга дня губерню Зэмландскую. (Шумныя апладысменты ў зале). А для ўнутранага мясцовых абывацеляў кіравання і іхняга паміж сабою судоўніцтва і дзеля большай спакойнасці і бяспекі тут мною зацвярджаецца галоўная кватэра і дзейнае вышняе кіраўніцтва, якое злучае ў сабе чатыры аддзяленні, а менавіта —скарбнае, крымінальнае, цывільнае і эканаміцкае. І з нашага імператарскага загаду прызначаецца на пасаду губернатарскую тайны саветнік Мурашоў, кавалер святой Ганны».

За сценамі гучаць гарматныя залпы, публіка апантана пляскае, гучаць фанфары. Патрыярхі шчодра хрысцяць праз паветра ўдзельнікаў урачыстасці, кадзяць кадзілы. Хор выконвае штосьці «Пераможны раздавайся гром». Паказ алегарычнай сцэнкі «дзвюхгаловы арол перамагае аднагаловага» у выкананні балетнай трупы. Вайсковы аркестр. Пранос пераможных і пераможаных сцягоў. Наступная сцэнка: касцюшкаўскія касінеры здаюцца сувораўцам. Апошнія лагодна прымушаюць іх перарабіць косы назад —для прыгатавання сена. Над сцэнай запальваецца круглая лічба. Дзея ператвараецца ў святкаванне ўгодкаў губерні, якім яно магло ўяўляцца першаму

губернатару з паплечнікамі ў царскія часы. Удзячныя сяляне, карагоды, піва ў бочках, снапы. Трыумфаванне рамёстваў: молаты і сярпы, плугі, бароны, а таксама навук —мікраскопы, цыркулі, кельні.

Заслона. Канферансье віншуе публіку, на сцэну на біс выходзяць удзельнікі сцэнічнай урачыстасці. Паклоны, паклоны. Шампанскага! Гронкамі гараць на сценах электрасвечкі. Вялізны кандэлябрззяе, робячы падзею надзвычай святочнай, папросту бліскучай. Слугі ў ліўрэях і парыках, у белых пальчатках разносяць падносы, прапануючы публіцы разлітае ў келіхі бурболістае віно. Ля дзвярэй пруцянее варта з музейнымі стрэльбамі, з пазументамі, аксельбантамі, шаўронамі. У бутафорскіх ківерах. Цьмяна блішчаць металёвыя часткі — бляхі, спражкі, ладункі, у якіх гарачым агнём адбіваюцца лямпачкі. Халодныя іскры бенгальскіх агнёў, канфеці, петарды. Спажыўшы дармовае шампанскае, публіка выплёсківаецца у фае, калідоры, на лесвіцы. Грае прыдворны аркестр, музыка праз дынамікі ўзмацняецца і чуецца ва ўсіх закутках. У кулуарах і ў закуліссі адбываюцца святочныя танцы. Мазуркі, галопы, кракавякі, паланэзы, венскія вальсы, танга, полькі і кадрылі.

Мурашка мысліў унесці ў празмерна тэатралізаваны, перасалоджаны сцэнарый прадметна-канструктыўны лад. Урачыстасць будзе адбывацца ў новым тэатры. Яму хацелася, каб уручаліся граматы на сцэне, каб быў міні-парад пантанёраў, якія адзначылі гадавіну інжынерных войскаў цара Пятра. Не давала спакою адно думка, што кароль, калі яму давялося адмовіцца ад пасада, падпісаць адмову, вельмі плакаў. Пра гэта расказалі гісторыкі. Мурашка не любіў каралёў, але звестка гэтая яго нейк бянтэжыла. Збіраўся ў музей паглядзець на муляжы ў строях —каралеўскім і губернатарскім. «Нічога, Масква слязам не верыць. Паплачуць і перастануць. Слёзы кракадзілавыя», —думалася яму блытана, калі гартаў сцэнарый.

Дзень пахавання. Пляц, статуя, гарматны лафет, гмах, чарга з вянкамі. У Акінчыца на сцяне гравюра: на тым жа пляцы шыхты паўстанцкіх аддзелаў. Сцягі, сцяжкі, косы, пікі, багнэты.



У цэнтры Касцюшка. Зачытвае паўстанцкі «Універсал», жаўнеры і касінеры прымуць затым прысягу на вернасць Айчыне і паўстанню. Касінераў выбілі з горада суvoраўскія жаўнеры...

Акінчыц назірае, як пад роспачны жалобны марш нясуць труну вышкаленыя, як алавяныя жаўнерыкі, суvораўцы ў чорнай форме, следам —узнагароды на падушках і вянкі, цэлая калона з вянкамі. Труна прыцягвае ўвагу: адметны, даволі знаёмы знак.

Праз дзень ці два ён успомніў. Разгарнуў энцыклапедыю: эмблема масонскай ложы. Існавала некалі ў горадзе. Першы губернатар асабіста трымаў кельню і цыркуль.

# РЭПРАДУКЦЫЯ БРЭЙГЕЛЯ

Няма, знікла са сцяны кнігарні вялікая рэпрадукцыя Брэйгеля. Кнігарня. Шыкоўныя альбомы. Фламандскія майстры. Трыумфаванне біялагічнага: разяўленыя раты, шчокі ў лоі, чэравы. Мясістыя далоні ў тлушчы. Шэрагі кумпякоў, барвовыя каўбасы. Медзяныя селядцы. Гронкі рабцаў, індыкаў. Чвякаюць прожары. Рагочуць, расплюхваюць віно п'янюгі. Круглагрудыя фламандкі з глякаў падліваюць чырвонага або бурштыннага —у шклянкі, куфлі. Сонца залаціцца ў струмені. Шалёныя скокі. Распаленыя, потныя, гуллівыя, пажадлівыя. Танчаць апантана. Трасучы шарамі грудзей. Ведаеш, калі занадта вялікая галава, гэта сведчанне анамаліі. А бюст? Калі апошні памер? Ва ўсякім разе —гэта келіх з коптурам.

Дзьмуць у рогі і дудкі, танчаць смычкі, танчаць пальцы па струнах. «Рэжуць жыдкі у дзве скрыпкі, —успамінаецца мне ўпадабаны калісьці верш, —трэці на трубе равець, а чацверты — на басэтлі і тахту нагою б'ець». Вух! Малююць карціны тутака ж. Шталюгі, пэндзлі, мальберты. Шыкоўныя азадкі і клубы. Як пяяў паэт. Цьмее золата ў вачах, вабяць магутныя грудзі... А рэпрадукцыі больш няма. Адчуваецца, што яму падабаўся Босх. Але ў яго менш містыкі, сымболяў. Або зусім часам няма. Гэткай празмернасці, нагрувашчання ўсяго-усялякага. Болей жыцця, якім вылучаюцца толькі паасобныя босхавы працы. Само жыццё. Са скарыністымі хлябамі, з дымкімі талеркамі поліўкі, з місамі апетытнага мяса.

А вось Брэйгеля-Малодшага болей вабіла іншае. Збор падаткаў, напрыклад. Памяшканне, перапоўненае паперамі, дакладней стосікамі, перавязанымі шпагатам. Відавочна, што не грошы. Тады купюраў, бадай, не было. Толькі паўнаважкая манета. Паперы паўсюдна. На паліцах, у шафе, на канторцы, стале, на падлозе сярод пакоя, пад сталом. Стоячы за ім, якісьці ідальга, сеньёр з разумным тварам чытае адную. Чарнявы ідальга, гэткі іспанскі акупант. Побач —службовец, можа які пісарчук. І чарга просьбітаў без капелюшоў, толькі жанчына, якая нагнулася, у белым каптуры. Вось такі Малодшы Брэйгель.

Яны любілі тады ўсякі гешэфт маляваць. Тавар-грошы-тавар. Адлюстроўваць рэчаіснае жыццё. Несвядома ілюстраваць будучыя падручнікі па палітэканоміі. Мянялы, ліхвяры, зборшчыкі падаткаў. Акуляры без дужак, парыкі, грудкі талераў на стальніцы. Учэпістыя вочы, прагныя да падліку пальцы. Сярэдневечныя рахункаводы і бухгалтары. Касіры, інкасатары. Банкіры. Яны любілі, між іншым, пазіраваць. І добра плацілі майстрам за шыльды, маляваныя алеем. І за тадышнюю рэкламу, якой была і карціна Брэйгеля Малодшага. Пра якога сёння памятаюць ускосна. Толькі таму, што калі аднаго дагэтуль называюць Старэйшым, значыцца быў і Малодшы.

З рэпрадукцыяй было так. Заходжу ў «Кнігарню пані Элізы». Побач з кніжнымі шэрагамі некалькі друкаваных рэпрадукцый пад шклом у рамах. І гэтая са сляпымі. Славуты Брэйгель. Жудасная, фантасмагарычная, але такая сапраўдная сцэна. Калісьці экранізацыя мяне вельмі ўразіла з гэтым даўгалыгім Лембітам, эстонцам. «Ціля Уленшпігеля» экранізацыя. Я тады хадзіў у ботах кірзавых, мусіў хадзіць. Кіно круцілі ў салдацкім клубе. Дакладней, гэта быў вельмі прыліковы — на добры кінатэатр альбо дом культуры —будынак. З чорнай кавай у чайной і з салдацкай біт-групай на чале з прапаршчыкам Ламброзам.

Я ўвайшоў, ужо калі сеанс пачаўся. У чорнай зале нябачныя былі браты па зброі. Зелянковая маса з чорнымі пагонамі, з марамі пра жанчын і дэмбель. А тут сярэдневечная карціна. Адно з самых захапляльных месцаў з падручніка па гісторыі. Ветразёвыя караблі на вуліцах. Сярод спічастых сабораў, вежаў, званіц, замка, палацаў, ратушы, кляштараў, купецкіх дамоў і гандлёвых радоў. Гёзы апаноўваюць затоплены горад. Ілюзія была глыбокай. Я трапіў нават не ў кіно, а ў іншае, кранаючае жыццё, адрознае ад майго цяперашняга абсалютна.

Я не бачыў, як гасла святло, не бачыў цітраў, пагатоў абавязковага перад фільмам «тэлечасопіса» —з традыцыйным Брэжневым, з пенсіянерамі Палітбюро, з героямі пяцігодак і малайцавата-засяроджанымі ахоўнікамі Айчыны ад агрэсіўнага НАТО. Я апынуўся адразу ў тым часе. Я быў калі не сярод

намаляваных людзей, дык перад карцінамі фламандскіх майстроў, якія ажылі, зрабіліся рэчаіснымі. Да войска я жыў у прыбалтыйскім горадзе. Ён быў чужы мне, з яго мовай, нават шрыфтам вулічных шыльдаў, з яго жыццём і гісторыяй. Але бадай не таму, што ён мне не падабаўся, было хутчэй наадварот. Папросту чужы і ёсць чужы. Калісьці тамака жмогусы пабілі крыжакаў. Высозная званіца гатычнага касьцёла дамінавала. Каменны салдат з «ппш» —«воін-пераможца», згодна двухмоўнаму подпісу. Вялікі помнік незразумелым тады паўстанцам 1863-га. Непадалёк ад нашай школы.

Хто памятае той фільм, мяне зразумее. Вялікая была спакуса у фільмоўцаў. Яны гэтую карціну Брэйгеля са сляпцаміператварылі ў кінасцэну. Атрымалася з надзвычайнай сілай. Акторы ажывілі старое палатно, надалі рух персанажам, узбагацілі дзеянне, працягнулі ў часе. Падабенства ўражвала. Той жа краявід, фарбы, знаёмыя постаці. Каб гэта ўбачыў сам Брэйгель...

Я адразу звярнуў увагу ў кнігарні на рэпрадукцыю. Дасканала выкананы друк. Фарбы, кожная рыса. Дыхтоўная рама, шкло. Усё бліскуча. Доўга я хадзіў глядзець на яе. І ўрэшце яна знікла. Вось вісела-вісела, непарушна. Але знікла. Нехта купіў. Не я.

Вяртаўся са сталіцы апошнім аўтобусам. Дзяўчына побач запытала, калі ён будзе ў Беластоку. Я адказаў прыблізна. Ля самай гарадской мяжы аўтобус збочыў на панямунскую запраўку. Затрымка хвілін на пятнаццаць. Ноч. Каля паловы трэцяй. Штосьці я сказаў суседцы наконт панямунскай сядзібы апошняга караля. Дом з калонамі захаваўся. Партрэты. Марчэла Бачарэлі. Кароль за столікам: чарніліца, пяро, рукапіс. Далонь на клепсідры, вадзяным гадзінніку. На левым мезеным пальцы круглы сыгнэт. Кароль у шлафроку з футраной аблямоўкай. Рамантычна глядзіць убок і некуды ўгору. Альбо іншы партрэт, пэндзля Вігі-Лябрун. У строі прыблізна стагоддзя XVI-га з карункавым каўнерам. На грудзях на ланцугу бляха з цьмянай выявай. Капялюш з шыкоўным страўсавым пяром. Кароль са свежым адкрытым тварам, з прыхаванай у вуснах усмешкай. З левай рукой, зухава ўпертай у бок. Калісьці такі партрэт вісеў у панямунскім палацыку.



Што я ёй яшчэ там сказаў? Ці не пра маўклівы сойм? Я, які ніколі не загаворвае сам, не распытвае, не заляцаецца ў дарозе. Ніколі. Што са мной здарылася? Аўтобус прытармазіў перад мостам, і яна выйшла следам за мной. Я падумаў, што яна ўпершыню едзе ў Беласток, бо яе пытанне... Але чаму яна падумала, што я туды еду?

Назаўтра чакае горад. Бяру ў кішэню дыктафон. На вуліцы спёка і сумёты тапалінага пуху. Першымі стаяць мужчыны, на жэрдках два ліхтары і крыж. Самі яны ў кароткіх накідках чырвоных, за імі хлопчыкі —у белых, далей дзяўчынкі ў камізэльках, як быццам нацыянальных польскіх, у вяночках са стужкамі. А следам пяць дзяўчат у блакітных доўгіх сукнях з блакітнымі вяночкамі трымаюць вялізны ружанец. Адна —у цэнтры з крыжам аберуч, да якога ружанец мацуецца. Часткі ружанца накшталт вялізных гуркоў або дыняў.

Звоніць ручны званок... Дзяўчаты нясуць падушачкі, харугвы з жоўтымі стужкамі. Матка Боская. Яе трымаюць на плячах чатыры дзяўчыны ў доўгіх белых сукнях. У туфліках. Сукні з накідкамі, аблямаваныя чырвоным. Увесь час звоняць у званок. Далей зноўку дзяўчаты гэтак жа на плячах нясуць выяву Маткі Боскай. Мужчыны. Харугвы. Зноў выява Маткі Боскай. Чатыры пажылыя жанчыны ў белых хустках. Яшчэ харугва. Звоніць званок. Нейкі святы. Званок, дзіцячыя галасы, гоман. Звоніць таксама звон. Шоргат падэшваў. (Эфект праслухоўвання гуказапісу падобны, як падчас прагляду відэазапісу. Ты заняты адлюстраваннем выявы, падрабязнасцяў. Або імкнешся вачыма запомніць паболей, дробязі і пераказаць максімум на стужку. У абодвух выпадках ты заклапочаны відэашэрагам, а потым дзівішся паліфаніі гукаў, запісаных адначасова, але якіх ты амаль не памятаеш).

Чатыры жанчыны такую цяжкую нясуць Марыю, што трымаюць яе на ўзроўні ніжэй за пояс. Дзіцячыя галасы. Звоніць звон у бліжэйшым касцёле. Хлопчыкі аберуч трымаюць вялікі ружанец, адзін з іх зусім маленькі, гадкі два. У белых шатах з чырвонымі накідкамі. Гукі жаночых абцасікаў. Жаночы спеў. Ахоўнікі ў чорных гарнітурах. Аператар са штатывам, з маленькай відэакамерай. Харысты з паперамі ў руках. Мужчына —

гучнагаварыльнік. Чатыры рупары за спінай, счацвяроныя званочкі ў руках. Адначасова ён чалавек —званіца. Следам самі біскупы без шапачак. Адзін з іх пад балдахінам з цяжкім крацыфіксам у руках. Напоўніцу спяваюць птушкі.

Пад парасонам старая манашка з кіёчкам.

Я магу абыякава праходзіць паўз газетныя шапікі, прымушаць сябе не заходзіць у кнігарні, грэбаваць крамамі, куды імкнецца публіка. Магу не ўключаць тэлевізар, што звычайна і раблю. Але ўсё адно гэтае жыццё складаецца з тысячаў і мільёнаў дробязяў, нюансаў. І думка ўвесь час пульсуе, і немагчыма адмежавацца ад рэчаіснасці, ад навакольнага жыцця, якое енчыць, лямантуе, спявае, плача, нема крычыць, гаворыць living рознымі галасамі,ператвараючыся ў галас. І мне непатрэбна і нецікавая тая штучная зорка Памэла з сіліконавымі цыцкамі.

Чаму мне падабаецца Брэйгель? Таму што мне даспадобы ўсё натуральнае, строгае. Позняя готыка, а не якое-небудзь ракако. Брыгіцкі касцёл, Францішканскі, але зусім не езуіцкі. Груба кажучы, мне падабаецца папросту кавалак шынкі, а не парсюк на талерцы, напоўнены моркаўкай і ўсякай гароднінай. Я болей люблю чорную каву, а не капучына з узбітым шумам, з насыпаным шакаладам зверху. Не анёлы, мадоны, завітушкі, кветачкі, а рэальныя сцэны жыцця даспадобы. Мужчыны, жанчыны, рыбіны, кумпякі. Яны бачылі жыццё гэткім прадметным, насычаным, поўным, што перапаўнялі свае карціны людзьмі, рэчмі, жывёламі. Ім хацелася зрабіць жыццёвыя сцэны максімальна змястоўнымі, адлюстраваць такімі на сваіх карцінах. Як мне часам хочацца напоўніць сцісла і канцэнтравана сённяшнім жыццём свае апавяданні, сваю прозу. Жыццём з коптурам. Крама, наладаваная таварам, ежай, бляшанкамі, бутэлькамі, пачкамі, скрынкамі. Процьма машын на вуліцах. Кнігарні, перапоўненыя каляровымі кніжкамі. Поўныя газет кіёскі.

Брэйгель, Брэйгель. Калісьці ён намаляваў карціну пад назвай «Краіна дурняў». Каб ён жыў сёння... У горадзе з гербам аленя Святога Губерта. Што б ён мог намаляваць сёння? Краіну маўчуноў? Людзі з закрытымі ратамі, якія быццам набралі вады. Людзі з вінаватымі ўсмешкамі на тварах, з баязлівымі вачыма. Людзі з безнадзейнасцю ў вачах. З фатальным выразам вачэй. Краіна баязліўцаў, краіна людзей, якія спыніліся перад затокай Чырвонага мора. Страх свабоды. Краіна людзей, якія баяліся выціснуць з сябе рабства. Людзі, якія грэбуюць усім сваім, а значыцца сабой.

Брэйгель, карціны якога ажыўлялі ў экранізацыі Шарля дэ Кастэра. Кіно, якое перадавала эпоху, дзякуючы фарбам фламандскіх мастакоў. Незабыўнае ўражанне, што зрабіла кіно, якое я глядзеў, калі жыў у казарме. Ціль Уленшпігель, сярэднevечча. Казарма, боты, пад'ёмы, пайка, мацюкі. Уражанне ўзмацнялася гэтым кантрастам. Я быў вельмі маладым і мне бадай хацелася туды, апынуцца ў кіно, менавіта не сярод гледачоў, а сярод дзейных асобаў, трапіць у іншы свет з гэтага чужога і варожага для мяне. Разам з гёзамі заплысці ў затоплены горад і вызваліць яго ад ненавісных гішпанцаў.

Я не мог начытацца паэта, які пісаў пра фламандскае мастацтва старавечных майстроў. Пра грудастых жанчын, пра славэтныя кумпякі, пра куфлі з півам і віном. Пра свавольныя п'яныя танцы, пра гэтую празмернасць ва ўсім. Пра пагулянкі, якія адначасова пераносіліся на палотны, маляваліся з натуры. Брэйгель. Было б занадта згодна канонам, каб мой аповед аб рэлігійнай працэсіі закончыўся калекамі, падобнымі ягоным. Якія б маляўніча працягвалі рукі да ўдзельнікаў крыжовага ходу ў спадзяванні на міласціну.

Магчыма, што я сам сабе крыху супярэчу. Строю кепікі з сучаснай сэкс-бомбы і захапляюся сярэдневечнымі фламандскімі карцінамі з грудастымі кабеткамі. Гэта быў пратэст, я разумею. Супраць бляклых жыццёвых копій, супраць панавання ў мастацтве штучнаватых жанчын, якімі былі мадоны з дзіцяткам на руках або хай без яго. Яны адмаўлялі штучнасць, нежывыя каноны. Іхні пратэст быў жыццястаноўчым. Не раўнуючы з марфіністамі першай паловы мінулага стагоддзя, якія разразалі вочны яблык галяком, ды займаліся іншымі гідкасцямі, разбураючы, знішчаючы чалавека разам з мастацтвам. Бюст Памэлы выклікае хутчэй думкі не аб грудзях фламандак, але аб штучных цяглiцах культурыста ў. Аб усім гэтым не пішуць вершаў. Тут няма паэзіі.

# РАЙСКІЯ ЯБЛЫЧКІ

**1**

Райскія яблычкі за вокнамі. Нечакана аснежаныя, быццам здзіўленыя. Упершыню напаткала зіма. Часовая, восеньская, але снежная як мае быць. Яшчэ ўчора-заўчора ты ішоў праз стары парк, засыпаны жоўтай лістотай. Трымаючы над галавою шырокі парасон. Растаптаныя каштаны пад нагамі выглядалі жаласна. Сваёй марнасцю выклікаючы неакрэсленую шкадобу. Як слівы, якія заўжды непазбежна пачыналі гнісці пад дрэвам у суседнім двары, казытліва пахнучы браджэннем. Дарэмныя сокі.

Пад вокнамі непатрэбныя нікому чырвоныя райскія яблычкі. Крамяныя, прыгожанькія, але дробныя-дробныя. Болей нагадваюць нават чарэшні, а зусім не яблыкі. Дрэва расце ля ганку старой камяніцы, дзе мастацкая школка. Яшчэ нядаўна дзяўчаты-падлеткі спрабавалі нарваць яблычкаў, якімі сёння абсыпаны дол. Ты першы раз, дзівячыся сам сабе, заўважыў, што на дрэве райскія яблычкі, а не проста дзічкі. Увёсну яно прыцягвала буйной квеценню. Але немагчыма было сабе ўявіць тады яго абсыпаным дробнымі чырвонымі пладамі.

**2**

Дождж, суцэльны дождж. Бляклае неба. Няма чаго ўспомніць. Не, усё было больш-менш пакуль, толькі часам здаецца, што балансуеш на мяжы. Абы не было горш, як той казаў. Стары чырвоны «Ікарус». Трасецца да мяжы. Повен пенсіянерак. Інтэлігентных і звычайных. Вясковая бабулька, сціплая і добрая. Хавае ўсю дарогу тандэтныя цыгарэты, дробныя пакуначкі. Прызнаецца, што вязе таксама кіло цукру і паўкіло пернікаў. Грашовыя заробкі. Мінулым разам замежны мытнік адабраў у яе пернікі.



Перад самым шлагбаумам выходзіш. Падае дождж. Ты самотны пад парасонам. Як вартавы пад «грыбам». З будкі выходзіць памежнік: што ты тут робіш? Клеіш на твар падабенства ўсмешкі. Тлумачыш, размаўляеш лагодна, вымаеш з кішэні пашпарт. Ніякіх чэргаў, патрэбных табе, тут няма. Няма ўвогуле машын. А з другога боку паглядзець немагчыма. Табе гэта было вядома наперад, але ты павінен зрабіць рэпартаж з мяжы. Мусіш, хаця выразна ўсведамляеш хісткасць уласнага становішча. «Уезд і ўваход у памежную зону забаронены». Парушэнне памежнага рэжыму —і гэтак далей. Гэта не іншая мяжа, дзе кіламетровыя чэргі, сотні людзей, цэладзённае жыццё. Дзе нікому ты не патрэбны. Калона жыве жыццём рухомай вёскі. Адбываецца рознаякі гандаль, робіцца гешэфт. Людзі спяць, ядуць і наведваюць прыбіральню —як звычайна. Тут мёртва. Тут ты —аб'ект пільнай увагі. Спяшаюцца гэта пацвердзіць два маладыя афіцэры, якія накіроўваюцца да цябе з нейтральнай зоны. Межы бываюць розныя...

Мёртвая дарога. Калісьці вельмі ажыўленая. Яе журботнасць падкрэслівае, узмацняе восеньскі краявід, золкае мокрае надвор'е. Безжыццёва выглядае прыдарожны касцёлік без вокнаў, які рамантуюць. Калісьці гэта была дарога жыцця, дарога гурманаў, дарога па каўбасу. На водны курорт. У еўрапейскія кавярні і рэстарацыі. У іншамоўнае асяроддзе. Без пашпартаў і візаў.

Гэта была субота.

**3**

У нядзелю ты мок пад дажджом ля вясковая аселіцы. І не ты адзін мок. Поплеч стаялі вясковыя дзядзькі, цёткі, бабулькі. І публіка гарадская. Парасоны былі не ў кожнага. Вяскоўцы, асабліва старыя, увогуле рэдка імі карыстаюцца. Ці грошай не маюць і звычкі, ці лічаць гарадской завядзёнкай. А можа іх папросту не завозяць у сяльпо.

Толькі што зацэментавалі вялікі дубовы крыж. Яго неслі каля дваццаці мужчын. Паставілі ў зямлю метры на два ці болей углыбкі. Закідалі каменнем, залілі растворам, умаца-

валі гранітную дошку. Спачатку ў ганаровай варце пасталі былыя акоўцы. Затым іх замянілі рыцары. Луналі сцягі. Над ксяндзом трымалі парасон, як у кіно. Калі асвячэнне крыжа і палявая імша закончыліся, дождж раптам знік, на свінцовым небе намалявалася бляклая сонечная пляма. Потым улады будуць патрабаваць спілаваць яго. (І спілуюць уначы). Але гэта будзе потым...

**4**

Каля статуі, —вялізнай амаль непраўдападобна, на гарадскім пляцы стыхійны мітынг. Пад вокнамі ў начальства, яго чакаюць, упарта не разыходзяцца. Чаканне зацягваецца. Выходзіць са світай крыху болей сярэдняй рукі чыноўнік. Нечакана з мегафонам, які трымае як недарэчную прыладу. На твары ўсхваляванасць, абуранасць і падспудны страх. Яму выпала стаць аратарам, весці недазволены мітынг. Ён так і паведамляе публіцы: гэта —мітынг без дазволу. Катэгарычна, жорстка, безапеляцыйна. Але ўмыць адразу рукі не атрымліваецца. З яго роляй парламенцёра.

У першыя шэрагі праплішчваюцца жанчынкі. Ты стаіш наперадзе з прышпіленым мікрафончыкам, з дыктафонам у кішэні. Папросту насупраць мегафона, які перадаецца з рук у рукі. З чынавенскіх у чынавенскія. Яны тлумачаць, спрабуюць давесці нейкія інструкцыі, пастановы, загады. Ніякавеючы перад абураным натоўпам. Адчуваючы сябе ў чужой дзеі, у не сваёй ролі, выцягнутымі з кабінетаў на вольнае паветра, як рыба з вады. Ім яшчэ адпавядала б гаварыць агульнаслоўныя святочныя прамовы да працоўных калектываў на афіцыйных мерапрыемствах. «Ды пачакайце! Не ўсе адразу! —зрываюцца яны. —Дайце дагаварыць да канца...»

Ты пачынаеш усведамляць, што знаходзішся ўжо менавіта ў натоўпе, а не на мітынгу. Кабеты, кожная са сваім енкам міжволі старалася прабіцца наперад, бліжэй да начальства, каб выгукнуць у вочы, у твар. І ты з першых шэрагаў апынуўся раптам ўсярэдзіне, не рухаючыся, стоячы на месцы. Усчаўся галас, не раўнуючы як на кірмашы. Адначасова гаварылі, крычалі, абураліся мабыць дзясяткі чалавек.

Мужчына ў цывільным непарушна рабіў аператыўную відэаздымку. Фільмуючы цябе, мітынговак, асабліва якія не маўчалі. А таксама завадатара, які прывёў іх на пляц, выклікаў на размову начальства. Мажны, хутчэй нават гладкі, даволі высокі і з выгляду больш-менш лагодны, вонкава дабрадушны. З крыху пракудніцкімі вачыма. Ніякай абуранасці і злосці, ніякага адчаю. Мітынг пачынаў нагадваць шторм у шклянцы з вадою. Ажно начальства не вытрымала кірмашовай атмасферы і, тэатральна-абражанае, апусціўшы мегафон, пакінула пляц са статуяй і непаслухмяным незгаворлівым натоўпам.

Людзі ў плямістых мундзірах павялі завадатара ў сваю «мянтоўку». Гэта недалёка. На гутарку. Хоць ясна, што —пратакол складаць. Якія з ім могуць быць гутаркі?! Увесь натоўп рушыў следам, ператварыўшы стыхійны мітынг у шэсце, амаль у дэманстрацыю.

Завадатара завялі ў камяніцу ў стылі мадэрн. З разбяных высокіх старасвецкіх дзвярэй адразу выбеглі ў зухавых берэтах амонаўцы. Публіка запоўніла пространь паміж пастарункам і управай «кэй-джы-бі», якія стаялі насупраць —праз вулічку. Перад міліцыяй стаялі машыны, і публіка згуртавалася пад вокнамі КДБ, што выглядала надзвычай кашчунна. КДБ заўсёды выклікаў страх. Час зацягнуўся. Ажно нарэшце завадатар з нетраў пастарунка паведаміў па мабільным тэлефоне (музычны званок чула ўся вуліца), што паабяцалі неўзабаве выпусціць. Натхнёная публіка знянацку пачала выгукаць прозвішча завадатара. Нават шыбы затрымцелі. Сустрэлі яго радасна-стыхійным пераможным галёканнем. Два грузавікі спецвойскаў, якія напагатове грэліся ў пастарунку, атрымалі адбой і каманду ў сталоўку.

**5**

Назаўтра на пляцы каля статуі начальства задавальняла гурманскія патрэбы жыхароў. Пляц кірмашаваў. Страйкуюць рынкі? Няхай людзі купяць ежы на мітынговым месцы. Лепей

есці, закусваць, адпачываць, чымсьці бунтаваць. Учорашні мітынговы дзень надарыўся сцюдзёны, вятрысты, шэры. Цяпер з апошняе восеньскае сілы грэла, цешыла сонейка, нібы ўлады разагналі хмары. Часовыя вулічныя шынкі з фальклорнымі падворкамі —з вясковымі платамі і збанамі зверху, з вялізнымі гарбузамі, кашамі з бульбай і буракамі. Са сланечнікамі толькі з гарода. З лавамі, на якіх уладкаваны натуральных памераў лялькі вяскоўцаў. З кавунамі замест галоў. Гарманісты гралі прыпеўкі і кадрылі. Народ піў гарэлку ды піва, закусваў піражкамі і кулябякамі. Шынкі і вяндліны, смажаніна са смакам кідаліся у вочы. Па кірмашы хадзіў, ацэньваючы —ці добра весяліцца публіка, учорашні начальнік з мегафонам у руках перад мітынгоўшчыкамі. Яго твар, здаецца, не змяніў напружанасці за дваццаць чатыры гадзіны...

## 6

Праз дзень ці два вы сядзелі ў машыне на ростанях, ты і твае візаві —Алекс і Вальдэмар, старыя аматары рок-н-рола. Стаялі яшчэ некалькі машын. Чакалі замежных дыпламатаў. Бацюшка запрасіў. Хацеў, каб салідна. І для падтрымкі. Хітрун. На вуліцы халадэча, таму грэліся. Слухалі рок-дыназаўраў. Чакалі іншыя, вы хутчэй атрымалі сабе ролю назіральнікаў. Вы слухалі старыя мелодыі, часам абмяркоўваючы выканаўцаў. Сціслыя меркаванні на іхні конт, успаміны, звязаныя з маладосцю, калі слухаць такую музыку было амаль злачынствам лёгкай ступені цяжкасці.

Вялікі магутны аўтамабіль —сама моц, хуткасць —імклівa наблізіўся і рэзка спыніўся. Вонкі выбраліся замежнікі ў акулярах. Дэлегацыя з бацюшкам на чале, з абразом, з пірагом і букетамі рушыла да іх. Вы з цікаўнасцю назіралі. Бацюшка гаварыў прамову. Госці частаваліся, затым з іх счышчалі цукровую пудру. Вецер! «Замест хлеба з соллю яны піраг салодкі паднеслі», —даволі скептычна пракаментаваў Алекс. «Увогуле гэта ўсё занадта. Навошта каравай, навошта кветкі? —азваўся Вальдэмар. —Дый абраз навошта з ручніком?»



Бацюшка падышоў да вас і растлумачыў свой план. Замежнікі паедуць наперадзе, іх, як дыпламатаў, павінны прапусціць у мястэчка, да падмуркаў бацюшкавай царквы, якую перашкодзілі будаваць. А за імі прарвемся ўсе мы, —падсумаваў ён. Алекс, апусціўшы шыбу, выслухаў яго і асцюдзіў: нават калі нас прапусцяць, што вельмі сумнеўна, потым усіх паасобку конча аштрафуюць. А падтрымліваць рэжым штрафамі супярэчыць нашаму жаданню. Дый замежнікаў могуць не прапусціць, —і дадаў. —Яны ўсё могуць.

Вы счакалі, каб не апынуцца сярод удзельнікаў —у калоне. Каб заставацца назіральнікамі. Дарога ляжала ўздоўж мястэчка. Усе ўезды вартавалі міліцыя і вайскоўцы. Любую калюжную вулічку. Вы не хавалі іранічнага захаплення... Бацюшка, чарнеючы расай, жэстыкуляваў, штосьці тлумачачы ахове. Калона рассыпалася. Машына дыпламатаў стаяла каля будкі дарожнага паста. Уезд на калгасную сядзібу вартавалі быццам браму сакрэтнага аб'екта.

Важданіна задоўжылася. Вы назіралі з адлегласці. Замежнік нервова хадзіў вакол і размаўляў па спадарожнікавым тэлефоне. Каля вас спынілася машына, поўная мужчын. Яшчэ дзве стаялі абапал уезда ў мястэчка. Пазней выявілася, што адна каманда. Машына, якая вартавала вас, рушыла за дыпламатамі. Астатнія дзве адначасова пакінулі варту і паехалі ў бок райцэнтра. Алекс зірнуў на гадзіннік: васемнаццаць, канец працоўнага часу.

Так-так, замежнікаў прапусцілі, калі скончыўся рабочы дзень. Яны хацелі каб усё па-людску: і з вернікамі сустрэцца, якіх уціскалі, і з начальствам мясцовым паразмаўляць. А ў начальства ўжо рабочы дзень закончыўся і яно не абавязана. Можна было падумаць, што тут надзвычай стаміліся ад замежных дэлегацый і дыпламатычных візітаў. Дыпламаты, аднак, усё не вярталіся. «Можа іх арыштавалі? Не можа быць!.. Хаця ў нас усё можа здарыцца...»

Паўз мястэчка чарнела аўтастрада. Вы чакалі на раздарожжы. На стаянцы побач прадавалі не гарачыя сасіскі і каву, а дзіцячыя цацкі —вялікія надзіманыя і плюшавыя. Пад няўтульным шэрым мокрым восеньскім небам такі гандаль выглядаў

яшчэ больш марным і бязглуздым. Ты ні разу не заўважыў, каб нехта спыніўся і зацікавіўся дзіцячымі звяркамі. Цацачная крамка выглядала быццам сумны маскарад.

Пачало шарэць. Гандлярка згарнула сваю крамку, пацягнула вазок з цацкамі ў бок мястэчка. Наперадзе йшла дзяўчынка з сабачкам, які вымыкаўся ў яе з рук, саскочыў на асфальтоўку, дзяўчынка пабегла, каб злавіць яго. Вазок з плюшавымі звяркамі нагадваў балаганчык перасоўнага цырка. Знянацку адная цацка адарвалася і ўпала ў гразь. Здаецца, малпа. Гандлярка панура цягнулася, не заўважыўшы страты. Алекс адчыніў дзверцы і, секундна памарудзіўшы, крыкнуў: «Бабуля, звера згубілі!» Яму давялося паўтарыць. Яна пачула, спынілася і падабрала малпу. Нейк маркотна. Вы паспелі заўважыць, што жанчына зусім не старая, адно па-старэчы захутаная ў хусціну. Алекс зніякавеў.

Замежнікі не вярталіся. Гэта ўсё болей рабілася дзіўным. Няўжо іх усё ж арыштавалі?.. Успомнілася, як год таму, такім жа восеньскім часам у мястэчку асвячалі падмуркі будучай царквы. Эміграцкі святар, які з памылкамі чытаў тэкст і гаварыў з моцным акцэнтам. Дыпламат, які чытаў паперу на замежнай мове, незразумелай нікому з цётак і бабулек. Але спачатку ён падрыхтаваў уступ на беларускай, старанна вывучыў нацiскі.

Зусім сцямнела, зрабілася папросту чорна. Думалася пра тое, што начальству не давала спакою царква, на якую ў іх ніхто не прасіў грошай. Пра тое, колькі высілкаў яны змарнавалі, каб перашкодзіць, каб, нарэшце, разбурыць храм. Па-варварску. А тут, на ходкім раздарожжы, дзе павінна стаяць аўтазапраўка, дзе падарожны шынок павінен зававабліваць гарачай кавай і прынамсі хот-догамі, дзе усё павінна асвятляцца ліхтарамі і міжволі прымушаць аўтападарожных спыніцца, тут было цёмна, няўтульна і мёртва.

І вельмі маркотна. Вы сядзелі без святла, моўчкі, нават музыку ўжо не хацелася слухаць. І, галоўнае, не ведалі што рабіць далей. Уначы штосьці магутнае з моцным святлом раптоўна і хутка праляцела міма. Як балід, як метэор з альбома (машынальна падумалася табе) «Fireball» Deep Purple. У вас амаль не было сумневу, што гэта бацюшкавы замежнікі.



Вы вярталіся бязлюднай дарогай. Прытармазілі ў цемры, калі трапілі ў зону дзеяння мабільнай сувязі, каб перадаць паведамленне. Што дыпламатаў не пусцілі да вернікаў, не падпусцілі да царквы. Затрымалі і склалі пратакол, пра што вам удалося даведацца. З рухавіком змагаліся рок-дыназаўры. Вы слухалі старыя хіты. Размовы засталіся ззаду.

Бацюшка аказаўся рамантыкам: у краіне яжовых рукавіц трэба любіць ярмо, не свабоду, не самастойнасць выяўляць, пакору. Яму хацелася не залежаць ад іерархаў, якія служаць уладзе, звяртацца да вернікаў на роднай мове. Нішто не прамяніста: кволы іерарх, які ўратаваў беларускае слова ў сваёй капліцы ў далёкім замежжы, амаль пазбыўся паствы, бацюшкава царква была шанцам вярнуцца на дахаты духоўна, каб прымірана адчуваць у руцэ крыж перад абліччам блізкай смерці. Была...

## 7

Першы снег, як першая закаханасць, нетрывалы. Распускаецца на непрамерзлай яшчэ зямлі, на траве, на пакуль даволі цёплым асфальце, нібы духмяная пена ў ваннай. А потым доўга і нудотна, з перапынкамі, падае маркотны і ёдкі восеньскі дождж. Райскія яблычкі, быццам здзіўлены абыякавасцю да сябе, нават птушак яны пакуль не цікавяць. З цягам начных прымаразкаў паступова абсыпаецца лісце. Яблычкі галеюць чырвоным россыпам. Як аздобленыя гірляндамі на навагодні час вулічныя дрэвы. Потым яблыньку спляжаць...

Бацькоўскі садок каля рэчкі, якая праз некалькі кіламетраў трапляе ў Нёман. Лета атрымалася спякотнае. Для вінаграднічка бацькавага найспрыяльнае надвор'е. Але потым неабходна ўпільнаваць, каб вераснёўскія прымаразкі не знішчылі ўраджай ці, прынамсі, каб не папсавалі. І вы з бацькам па тэлефоне пачалі ўмаўляцца. Каб разам паехаць і пазрываць гронкі. І табе, як звычайна, кожнага разу будзе штосьці перашкаджаць. У цябе не атрымалася, і бацька паехаў з суседам. І той яму дапамог абсячы вінаградную лазу. Бязлітасна, як ты потым змог пераканацца. Чым яна яму перашкаджала?

Абвіла сцяну, сягнула да вільчыка? Гэта ж вінаград! У цябе не ўзнялася б рука.

Сумны настрой спараджаюць восеньскія садочкі. Пусты дом з мансардай. З астылым агменем. З пыльным сеннікам. З плеценымі матамі на масніцах. Праз плот прапануе жоўтыя вераснёўскія плады лімоннік. Абцяты вінаград з апошнімі гроначкамі сярод рэдкай лістоты. Сіне-чорныя ягадзіны ў пажоўклай траве. Пад абцяжаранымі ўраджаем дрэвамі яблычныя паляны. Вы з бацькам выбіраеце ў траве самыя вялікія і найлепей захаваныя яблыкі. Немагчыма ўстрымацца, каб не ўзяць прыгожы жаўтаваты —нібы парафінавы з вітрыны —і не адкусіць, не зважаючы, што адваротны бок ужо згнілы. Адзін такі яблык выгрызены са споду. Ты бачыш, што ён ляжаў на кратовай норцы, і кладзеш на ранейшае месца.

Старая сумная позневосеньская казка. Пра дзяўчынку Цалёўку, сляпога крата, з якім яе пашлюбілі, цёмны падземны лабірынт. Пра надзею, ластаўку, вырай і далёкую вабную краіну, дзе заўжды лета. Стаіш наверсе перад расчыненым акном. Падаюць яблыкі. Чуеш, як скрозь лістоту абарваўшыся ляціць яблык. Глухі стук. Наступны не толькі чуеш, бачыш, як падае на зямлю. Трэба з'язджаць.

Райскія яблычкі не абсыпаюцца, трымаюцца моцна, учэпіста, самааддана. Як усе вы, большасць, але пачынаюць гнісці. У рэшце рэшт не сарванае і не знесенае ветрам лісце ападае, творачы жоўта-рудаватую палянку пад дрэвам. Каляровая пляма на шэрым аблічча восені. А яблычкі застаюцца на дрэве. Што такое, па сутнасці, змяніць краіну, горад? Свой пакой, вуліца, цень дамоў. Змяніць няўтульную сумную познюю восень на вечнае гарачае лета. Ананасы, гранаты на вулічных дрэвах, цытрусавыя, вялізныя крамяныя яблыкі з бананавым прысмакам.



## САРГАСАВА МОРА

### 1

Вэнджаных вугроў калісьці я каштаваў. Аднойчы ў маленстве. Ніштаватыя. Але, мабыць, не нёманскія. Калі я нарадзіўся, летувісы паспелі збудаваць на рацэ Ковенскую ГЭС, і яна ўжо дала ток. Слупы з дратамі крочылі нават на хутары. Ім электрычнасць, вяршкі, нам —страты. Нованароджаныя вугры не змаглі звычайным шляхам латва трапіць дахаты, дзе гадаваліся іхнія бацькі, з Саргасава мора. Дзверы былі замураваныя. Там, дзе ніколі не было дзвярэй. Хаця ім гэта было невядома, іх вёў сюды інстынкт. Яны былі маладыя і недасведчаныя... Расчараванні беларускія і страты, і пачуццё лёгкай абражанасці: намі, як заўсёды, пакарысталіся. Нашай вадой, нашай ракою. Яе фаўнай. Але ніхто не падумаў, каб абурыцца. Нават думак такіх не паўстала. Ужо высачылі і схапілі апошніх лясных братоў. Пачалі вяртацца з-за калючага дроту паэты, якія баяліся як агню смелага вольнага слова. Што там вугры? Нават думаць аб Саргасавым моры забудзься.

Недзе на Манхэтэне, прыдушаны настальгіяй, літаратар марыў аб Нёмане, які плыве з-пад Святое гары. З беларускіх крыніц і меншых рэк збіраючы ваду, каб прымусам аддаць на суседскі алтар. І міжваенная сталіца асвятлялася зырка. Дзякуючы савецкай уладзе і яе планам электрыфікацыі. Зацьмелі лямпачкі ў IX-м форце, у чаканні турыстаў. І ў музеі з каменнымі львамі на ганку. З рыцарскім узбраеннем усярэдзіне. З пантофлямі з тканіны для наведнікаў. Каб не драпалі даваенны паркет. Заззялі рэчы ў музеі чарцей.

Яны прыбылі з вольнага плавання, ў нёманскія затокі, дзе жылі бацькі. Бетонны мур ім гэтага не дазволіў. Яны мітусіліся, гойсалі ў пеністай вадзе, прыгаломшаныя, збітыя з тропу. Утварылася кубло, калонія вугроў, якія дарэмна, за тысячы міляў спяшаліся. Каб набыць роднае котлішча. Іх не пушчалі.

А тым, каму настаў час паспяшацца ў мора, таксама спыняўся перад плацінай, а многія гінулі ў турбінах ГЭС.

Нёманскія вугры ледзьве выжылі. А з рэстараннага меню зніклі. Ды, зрэшты, якія тут маглі быць рэстараны? Абкамаўская сталоўка лічылася лепшай за рэстаран. У славутай авальнай —быццам яйка —зале Новага каралеўскага калісьці замка. Канечне, яшчэ існавала сталіца. Вакзальны рэстаран, «Свіслач» пры гасцініцы «Беларусь» —з адкрытай тэрасай, з кратамі, зарослымі плюшчам. Нібы за мяжой. А ўрадавая сталоўка? Найлепшыя стравы, самыя памяркоўныя кошты. Кармілі па-рэстараннаму, але затанна, як у сталоўцы. Але вугры са стала зніклі. А зрэшты не шкада. Чаму я павінен шкадаваць? Хай ужо лепей нёманскіх вугроў з'елі тыя летувісы, якія трымаліся свайго. І дзякуючы якім, значна пазней, у нашыя дні нават мы атрымалі прывідную незалежнасць. Хто ў нас мог разлічваць на тых саргасавых вугроў? Таварыш П., які распальваў з гасцільні «Якар» партызанска-грамадзянскую вайну, засылаючы дыверсійныя групы НКВД? А потым адмовіўся за нас ад Беласточчыны. Таварыш Ц., таксама, каб вырашаць за нас, кіраваць намі і катаваць нас. Кат, імя якога баяліся вымавіць уголас. Або тав. К., які абжэрся вуграмі і памёр яшчэ да будаўніцтва ГЭС. Пышнае пахаванне «віднага дзеяча», як мовілі газеты, спецурадавая камісія. Поўны набор тытулаў: член мясцовага ЦК, дэпутат працоўных, упаўнаважаны міністэрства нарыхтовак СССР па БССР. Як жа шчыраваў на ніве нарыхтовак! Не забываўся ні аб чым, нат' вугроў нёманскіх дасылаў да крамлёўскага стала. Калі ласка, таварышы правадыры, прыемнага апетыту!

Але не толькі вугроў пазбавіла нашых нёманцаў злашчасная ГЭС. Чырвоная рыба таксама апынулася адцятай ад сваіх рачных нерастовішчаў. Як заўжды ў саветах: адных не пушчаюць назад, іншых не выпушчаюць на волю, нават часова. Не паспелі, нічога не ведаючы аб планах улады, выплысці ў Балтыку іншыя вандроўныя «прэсна-салёныя» рыбіны. Апынуліся ў пастцы. У чатырох сценах роднай хаты. За знянацку апушчанай жалезнай заслонай. Толькі птушкі маглі яшчэ ўзняцца па-над калючым дротам, каб пабачыць егіпецкую старонку. Пазабіваць або пасаджаць у клеткі пакуль не выйшла, хаця ўлада нацыяналізавала іх разам з рэкамі, азёрамі, сенажацямі і пушчамі. На іхнія пералёты глядзелі скрозь пальцы. Маўклівыя птушкі не маглі расказаць людзям пра жыццё за жалезнай заслонай. І рыбы не маглі, але яны сталі бязвіннымі ахвярамі грандыёзных планаў. Лес сякуць, трэскі ляцяць...

Як мяжа падзяліла па жывым вёскі і мястэчкі, так плаціна —раку. Тады гэта было звыкла. Краіны, расцятыя напалам, гарады, перагароджаныя жалезабетонным мурам. Раз'яднаныя сем'і, без надзеі нават на ліставанне праз калючы дрот. Кумжа, рэдкая рыбіна, выжыла. Рарытэтная і каштоўная. Трапіла ў нашую чырвоную кнігу. З проста кумжы зрабілася кумжой нёманскай. Ні аб чым не падазраючы, калі настала адпаведная часіна, касякі кумжыныя згуртаваўшыся, пакіравалі ўніз па рацэ, да мора. І з гора амаль усе загінулі. Цэлымі касякамі, спачатку знянацку, несвядома. Не паспеўшы скеміць, трапляючы ў жорны, у мясарэзкі ГЭС. Затым —на скрут галавы, самагубча, за сваімі роднымі і ўлюбёнымі. Выжылі адзінкі, яны вярнуліся назад. Каб потым, штогод ажыццяўляць падарожжа, абцятае напалову. Штогадовае паломніцтва да сцяны плачу. Яны траплялі з прэснай вады ў прэсную, а не ў салёнае мора. І набавіўшыся ў вадасховішчы, наслухаўшыся няроднага гергетання рыбалоўцаў і адпачыннікаў, вярталіся да родных славянскіх берагоў. Наступныя пакаленні кумжы гадаваліся ў абмежаванай прасторы, нічога не ведалі аб сваяках у вольным марскім свеце і нават аб яго наяўнасці. Пра існаванне мора напачатку стараліся паведаміць старыя бацькі. Але ці шмат вартыя звесткі аб плодзе, якога ніколі не бачыў і не каштаваў?

У планах партыі было павярнуць рэкі назад, каб плылі ў адваротным кірунку. Для кумжы гэта магло абяцаць выйсце праз шлюзы і рэкі ў іншае мора, цяплейшае і больш салёнае. Хаця, ці адчула б яна патрэбу ў забытым імкненні да падарожжаў? Невядома. У партыі не хапіла пораху. Потым ляснула ленінская АЭС і рэкі, якія плылі ў больш салёнае мора, сталі радыяцыйнымі, і рыба ў іх. І здзяйснілася тамака штосьбіблейскае, жахлівае прадказанне, прароцтва, страшэнная

кара. Увогуле, тое, што калісьці першадрукар важка падкрэсліў —«рыбы, плывушчыя па моры і ў рэках рыбы, чуюць віры свае» і пра людзей таксама —усё сёння зрабілася нерэчаісным. Людзей падзялілі, звяроў, нават рыбін. Адзін паэт, свабодны, але без шанцаў вярнуцца, пісаў у хмарачосах кнігу аб зняволеным чужынцамі Нёмане, які плыве з-пад Святое гары. Другі, зняволены ледзь не палову жыцця, вяртаецца. Амаль ужо не меўшы надзеі не толькі на вяртанне, а нават на жыццё. Са знішчаным духам, са страхам, які загруз, як асколак у тулаве. Ціха радуецца ў душы, піша оды і панегірыкі. І каб ніякай палітыкі. Ніякіх згадак пра свабоду. Максімум —пра сівыя валуны, якія спаўзлі з паўночных гор, як ворагі. Але гэта, маўляў, не паўторыцца. Скалісты ледавік болей не спаўзе на грудзі нашае зямлі, не прыцісне. Крушні не будуць нас пужаць, іх размелюць жорны часу. Нёман у яго —чарадзей, які абдымае, цалуе і прыціскае да грудзей. Двухсэнсоўная ідылія. Калі суседзі ўжо перацялі раку, ён раптам напісаў вершык, што яе не здолелі адолець і ніхто хваляў не спыніць. Спазніўся? Заплюшчыў вочы? Ён ужо не адкажа.

Рыбіна, зняволеная плацінай, яна, браткі мае, дасягае метра даўжыні! І гэта ў нас! Дзе любой плотцы радыя. Каралеўская рыбіна. Высакародны выгляд. Стрыманая расфарбоўка. Прыгожыя чорныя плямкі на тулаве і горным плаўніку. Прыгажосць і годнасць драпежніка. У самцоў узнікаюць ружовыя плямы, калі настае час нерасту, увосень. Моладзь жыве ў прэснай вадзе да сямі гадоў і сыходзіць у мора. Сыходзіла. Salmo trutta. Але і гэтая, якая апынулася ў рачным палоне і мусіла прыстасавацца, можа знікнуць.

## 2

Мяне аднойчы спыталі: як ты наконт дэльтаплана, ці хацеў бы, ці не збаяўся б? Я, здаецца, адказаў, што не рызыкну —на халеру? Можа таму, што ўсведамляю: ад мяне чакаюць менавіта гэтага. Я не хацеў здавацца лепшым. Хаця ў глыбках душы я быў амаль упэўнены, што наважуся. Урэшце я таксама магу на скрут галавы, таксама быць безразважным, каб адчуць прысмак магчымай небяспекі. Дэльтаплан. Дэльта-пла-ан! Я хачу лятаць! Часам не хапае слоў. Час-часам у іх табе не стае смаку, глыбіні, сэнсу, моцы. Яны здаюцца прэснымі, шэрымі, зусім невыразнымі. Недасканалымі словамі, не адпаведнымі сваёй ролі, надзеі, з імі звязанай. Стандартныя цагліны, а не рознаколерныя адрозна-памерныя валуны. Дэльтаплан. Зрэшты, не Бог-вед-што. Само слова. Аб'ёмны каркас з падручніка па геаметрыі-трыганаметрыі. Але, задумаўшыся, са словам злучаем уяўленне не аб рэчы, а —аб адчуванні. Адчуванні лёту, крылаў, лунання. Ты не бачыш геаметрычнай рэчы. Яна згары. Пад табою —адно рака, горы. Зямля. Каровы, дрэвы, дамы, вёсачкі, горад. Шэры, бетонны. Навокал —далягляд.

Наша нёманская плаціна не атрымаецца вельмі высокай, але досыць нянізкай, каб пасля разбегу смела кінуцца, і быць падхопленым паветранымі хвалямі. Як птушка, узняцца вышэй і рушыць па-над плыняй. Каб адчуць сябе крыху Сэнт-Эксам. Вёскі па берагох —тыя мястэчкі, якія авіяпісьменнік параўноўваў са статкамі, якія ён пасіць згары, як уважлівы пастух.

Высокі бераг нёманскі ў разрэзе —разгорнутае палатно геалагічнае гісторыі. Ці проста будаўнічы матэрыял. Коўш экскаватара —не шуфлік археолага. Спачатку рэдкасці палеалогіі, не знойдзеныя экспанаты гісторыі жывёльнай, як быццам для музея старажытнасцяў. Затым жылыя клеткі хрушчовак, шэрыя брэжнеўкі, інтэрнаты і як вышыня дойлідства райкамы-выканкамы, палац культуры хімікаў. Фабрыкі-заводы. І універсітэт марксізму-ленінізму, можна проста палітпрос. Канечне, пэўны хіб існуе ў развазаннях. Птушыныя яйкі, з якіх ніколі не нарадзіцца пяшчотным пісклянятам, іх кідалі ў цамянку. Нібы шкада. Але тады царкоўныя муры прастаяць да нашых дзён. Муры, якія спявалі галаснікамі, схаванымі ў іх. І прызначэнне храма —спяваць, радаваць вочы маёлікавымі крыжамі, што на сценах. Або ўзяць ружы, падстрыгаць іх раніцай марыў Сэнт-Экс. Іх пялёсткі абрываюць тонамі. Але жаночая парфума, мабыць, вартая таго.

Ды што геалагічныя знаходкі, горад не шкадуе культурнага слою. Стаіць на тысячагадовых падмурках, экскаватары нястомна грызуць іх. Для мяне ўсё адно, як зрываць з царкоўных

званіц званы, каб здаць у жалезнае ламачча, пераплавіць на краны, у якіх вечны насмарк. Царкоўныя крыжы —на штабы ці на сыгнэты. На юбілейныя манеты для замежных калекцыянераў, на медалькі. Жыць, не ўсведамляючы глыбіняў, жыць кузуркай-аднадзёнкай. Сцены размаўляюць з табой галасамі старажытных рыбін, марскім пошумам ракавін, шэптам вадарасцяў, гіганцкіх папарацяў і секвояў. Але толькі з табою, бо ты намагаешся, прагнеш аднавіць, пачуць іхнія галасы. З іншымі сцены мовяць тэледыктарамі, радыёкропкамі, сямейніцкай лаянкай, шумам у водаправодных трубах, капяжом няспраўных кранаў. У вушах, варта заплюшчыць вочы, крыху уяўлення, —быццам чую рух мацерыкоў, як яны разыходзяцца. Як трэскат нёманскіх крыгаў. Як ламанне панцыру ў паўночным акіяне. Як распад айсбергаў у цёплых водах. Кубікі лёду ў шклянцы з дрынкам.

## 3

Я лячу і спяваю, за спінай магутнасць крылаў. «Цячэ Нёман, пан-гаспа-ада-ар!» Я —моцны! Я надзвычай, неверагодна моцны! Амаль ідылія, мір-спакой. У аэрапорце за горадам мёртвы сезон. Ланцугамі прыкаваны «кукурузнікі». Якая нуда для ахоўніка! Але варта ёсць варта. Няхай ноч, мароз пад сорак, усё замяло, а ты цягніся аглядаць тыя «кукурузнікі». А сам ніколі не лятаў, не ўзялі лётчыкі ні разу.

Былі вайсковыя аэрадромы. Адзін не дзейнічае, на другім няма паліва. А запасны, у лесе, аддадзены калгасу пад сенажаць. Яшчэ адзін, блізка ад Нёмана, фермеру, дзвесце сорак га. Няхай гаспадарыць! Мёртвыя лётнішчы. Ніхто не перашкаджае. Ляці сабе, як бясшумны лятак.

Некалі пісьменнік-лётчык пісаў, разглядаючы зямлю з паветра. З вышыні зазіраючы ў цьмяныя куткі жыцця. Сачыняў на божых вышынях. І якімі глыбокімі здаюцца прыпавесці ў «Цытадэлі»! Пра пустэльных качэўнікаў, пра бербераў, пра садоўніка. Хаця, можа я і памыляюся. Што ён пісаў? Што можна разбурыць храм і збудаваць з камення іншы, але ён не будзе лепшым. Аднак ніхто потым не даведаецца аб разбурэнні, бо камяні маўчаць. Прымусь іх разам збудаваць вежу і зробіш іх братамі, пісаў ён. Значыцца, абвяргае Бога, біблейскія аксіёмы? І чым далей, філасофія апошняга твору спараджае ўсё болей супярэчлівыя пачуцці і думкі. Вартыя пагарды тыя плямёны, якія паўтараюць чужыя паэмы і ядуць чужы хлеб... А калі хлеб свой, а паэмы чужыя? Ва ўсякім разе мне лепей вядомы такі прыклад.

З лёту зямля —макет мясцовасці у вайсковым класе. Зменшаны для гульні, да сувымераў памяшкання тэатр вайсковых дзеянняў. Дарослыя мужчыны нібы ўзгадваючы маленства гуляюць у вайну.

Цяга ў неба нібы па традыцыі падтрымлівалася. Але не ўвогуле, а толькі пад строгім кантролем. Каб ніякай самастойнасці, ніякай самадзейнасці. Слова «самадзейнасць» афіцыйна станоўчае, набывала нечакана адмоўны змест. Максімум — запускайце лятаўцоў, паветраных змеяў саматробных. Якія прывязаныя да рукі. Гуляйце ў любоў у неба! Мадэлі планераў —чым дрэнна? Паветраныя шары, дзейныя канструкцыі самалётаў? Не трэба! Выклікалі падазрэнне. Ніякай самадзейнасці! А прыватны самалёт —немагчымая рэч, крамола. З'ява з заходняга кіно, чужога, варожага ладу жыцця. Гурткі юных авіямадэлістаў —прыступка. Наперадзе аэраклуб, вучылішча. Дзяжурыць у паветры, ахоўваць у небе межы, ваяваць над джунглямі. Перавозіць на далёкія адлегласці камандзіровачных і адпачыннікаў. Або, у горшым разе, распыляць над палеткамі ядахімікаты і угнаенні. Пакуль у калгасаў будуць грошы плаціць.

Некалі яшчэ ўдавалася ўцячы. Калі пашанцуе. Пакуль не было суцэльных шэрагаў калючага дроту на тысячы кіламетраў, уздоўж усёй мяжы. Аніводнага месца без калючага дроту, «сістэмы», без узмоцненай аховы. Калючы дрот, вышкі, пражэктары, гайні нямецкіх аўчарак. Цэладзённая пільнасць, суцэльнагадавая. Заўжды напагатове тысячы, дзясяткі, сотні тысяч узброеных людзей. Ніхто не падлічваў сабекошт. Празмернай ахова, пільнасць? Ніхто не задумваўся над мэтазгоднасцю. Грошы не лічылі. Мэта апраўдвала ўсё. Каб не выпусціць. Абвешчана, канечне, было інакш —каб не пусціць

шпіёнаў, дыверсантаў. Але ў іх зусім прайшоў імпэт. Даволі хутка. Дый уцячы цяпер ніхто не спрабаваў. Такая спроба выглядала самагубчай. Але замок не вешалі. У мяжы існавалі «дзверы». Аглядалі з ног да галавы. Зазіралі ў адтуліны. І асабліва пільна у вочы: што ў думках? Ці не завербаваны, калі вяртаецца? Ці не здрадзіць, калі выпускаюць? «Здрада сацыялістычнай айчыны» —жахлівае злачынства, горш не прыдумаць. Над кожным здраднікам цяжэла дамоклавым мячом «адплата» і «усеагульная пагарда працоўных». Пільныя ахоўнікі межаў, чытачы ў чалавечых думках, рагаталі з амерыканцаў, з дэтэктара. Грошы няма куды падзець! Толькі тут ведалі што рабіць з грашыма. Выдаткі рэч незаўважная. І на татальную ахову межаў. Хто б мог падумаць, што яны няўхільна разбуралі бюджэт.

**4**

З Нёмана каралю лавілі самую смачную, шыкоўную рыбу. Тую самую, якая калісьці ціхамірна вандравала ў мора і вярталася дахаты. Каб апынуцца часам на патэльнях, у рандэлках, на ражнах, неўзабаве на сталах, у вялікіх парцалянавых талерках і —канчаткова —у жыватах манарха і світы. Любімыя каты таксама не забыты. Але не толькі. Чым далей, тым болей ратоў: замежных пасланнікаў і чужых ваяк. На сваіх хранічна не хапала грошай. Калі ты баляў не даеш, цябе няма. А баль каштуе як гармата. Пасланнікі чужыя не дадуць купіць гармату, а балявать —будзь ласка. І віна паболей!

Загнаны быў ён у кут, кароль, якому наканавана было стаць апошнім. Не існавала для ўцёкаў мажлівасці. Толькі думкі такія маглі быць. Але думкі марныя. Француз у свіце, уцякач ад рэвалюцыі. Шар для палётаў у паветры на малюнку. Схемы Леанарда. Дамок у пушчы ўспамінаецца, падрыхтаваны для Русо. Быць птушкай, з крыламі? Ляцець? Куды? Да мора? Прусакі. У горы? Аўстрыякі. Няма куды. З усіх бакоў недабрадзеі. І можна толькі досвед свой узгадаўшы: ты на высокай вежы, уявіць прыбылізна, што бачыць птушка ў лёце. За горадам навокал табары жаўнерскія. А што далей? Там паляванне, ганчакі. Залпы паляўнічых, беражыся! Радзівілы? Хто ж яшчэ?

**5**

Зямля спачатку проста глеба, прыроды частка, яе аснова. Грунт для раслін і дрэў, пазней для злакаў. Зямля як месца для жыцця звяроў і чалавека. Зямля як гаспадыня. Гасцінная для тых, хто дбае. І звочыць не паспелі, зямля набыла паднявольны стан, яна належыць. Гаспадары з'явіліся, нядаўна дзеці, нядаўна ўтрыманцы. Ніколі больш нічэйнай ёй не быць, сабе ніколі не належаць. Я не ўглядаюся ў яе, я ўдумваюся. У думках розныя плямёны і народнасці. Раней за іх цяжка ступаюць дыназаўры, маманты. Яшчэ раней тут акіян, балоты, лес трапічны, тундра. І горы, і пяскі, вулканы.

Наперадзе цывілізацыі, культуры, вызнанні, мовы. У гродзенскіх ваколіцах збіральнікі арэхаў і карэння, а рыба ў Нёмане і звер у пушчы, не прападуць. Галоўнае, мець цвёрдую руку і ўспамінаць абавязкова бога ці багоў. За кожным дрэвам свой хаваўся. Дзе сёння? Зніклі? Ці багі бясследна не знікаюць? Хаваюцца дагэтуль? Не ведаю. Магчыма былі знішчаны. Або эмігравалі. А можа смерць ад старасці іх напаткала. Хто ведае. Вядома толькі: стоды спалены былі. Каменныя разбіты. Забыты, занядбаны, выкінуты з галавы. Апынуліся на сметніку разам з бітым гліняным посудам.

**6**

Апошні ледавік спыніўся ў месцы, называным Пераломам. На Нёмане яно. Зямля на поўдзень беларуская сягоння, на поўначы жывуць літоўцы. Я пралячу ад Пералому да плаціны. Стаянкі старажытных жыхароў па берагах мне будуць спатыкацца. Пастух, рыбак, араты. Рыбак быў першым. Плыве на лодцы Тамаш Траякоўскі, рыхтуюць сеткі Барсукевічы браты. Ля берага рыбаляць Ванюшкевічы, асобна Тамашэўскі і, здаецца, Данілевіч, у метрычных кнігах захаваўся як Лаўрэн.

На востраве сярод вады намёт, расцяжка: мы супраць ГЭС! Начуюць маладзёны, якім не хочацца ў палітыку, але пабунтаваць ахвота. Мне давядзецца запісаць па тэлефоне іх, каб даць на сайце аргументы. На востраве знаёмы знайшоў аднойчы сякерку продка, якога можна ў думках мець за першажыхара цяперашняга Гродна. Ідэя пабудовы ГЭС эколагам не даспадобы. Я бачу са старога моста, як яны плывуць: плыт ратаўнічы і на ім пікет. Што да мяне, я больш спакойны. Калі ёсць ковенская ГЭС, чаму не мець сваёй? Канечне, у душы сарказм у адказ на лозунгі, на прапаганду.

Энергетычная бяспека, незалежнасць! Наша вада! Няхай працуе! Усе гарадскія лямпачкі запаліць. Што ж, няхай.

Хоць раз па-людску: не затопяць старажытныя стаянкі, а пусцяць археолагаў спачатку. І могілкі дазволена ўратаваць. Шкада, што патурбуюць косткі, але па грэка-каталіцкаму абраду за душы малітва будзе. Тут жылі людзі-уніяты, продкі нашы. У сваёй царкве яны злучалі быццам два крыжы, два светы, Усход і Захад.

А я лячу, лячу. Плаціна пада мной, натоўп. Чыноўнікі з нажніцамі, разрэжуць зараз стужку. Ім хочацца сказаць прыгожа пра турбіны, пра ваду, якой не дадзена лайдачыць больш. Пра лямпачкі ў дамах і школах. І раптам бачу я: насустрач мне гаргара старажытная, археаптэрыкс мабыць. Жах! Спушчуся лепей на плаціну, далучуся да натоўпу.

**7**

Вугры, яны прывыклі супраць плыні, ісці далей ад мора, жыць у вярхоўях рэк. Жыццё вугра —хаванне ў норах, між карчамі, у падводных зарасніках. І падрыхтоўка да апошняга чыну. Калі ты ацалеў, і час настаў, то выбірацца маеш у салёную ваду праз збудаваныя рачныя перашкоды. У далячынь Саргасаву! Інстынкт цябе вядзе ў яго гушчары, мора невядомага, што ў акіяне. Ікру пакінуць і з ёю сілы страціўшы памерці. Дарога небяспечная чакае. І самкі, і самцы павінны згінуць у падводных джунглях. Жыццёвы абавязак перад сваім вугровым богам. Але загінуць пасля выканання.



Мясцовы чалавек не разумеў: чаму няма ні самак, ні самцоў, чаму вугры аднолькавыя? Не ведаў, што падзел выразны наступіць толькі перад шляхам у далячынь, на нераст. Чаму Саргасава? Ніхто не ведае. Адны гавораць: там была праточная вада, пакуль не сталі разыходзіцца мацерыкі, Грэнландыя. У часы, калі не стала дыназаўраў, у вельмі старажытныя часы. Ніхто не ведае дакладна...

Мяса вугра, таварышы, багатае тлушчамі якасці высокай. Запабягае, вядома, узмацненню сардэчных і сасудзістых хвароб. І дабратворна ўплывае на едаковы арганізм. Там спалучэнне вітамінаў, мінеральных элементаў, там натрый, калій і так далей. Бялкі карысць даюць, багатым на якія было заўсёды мяса. А тлустыя кіслоты амега-тры? Цаны няма! Еш ты вугроў, і вочы чырванець не будуць, іх запаленне абміне, чытаць не бойся, плойма шрыфта не нашкодзіць. Калі вугра ты маеш на стале, старэнне скуры запаволіш асабістай. І цымус адмыслова вэнджаны вугор. Так неабходны для мужчынскага здароўя. Калі ён вэнджаны —спыніцца немагчыма, дру*г*і! Такія смакі! Вугровая пячонка далікатэсам лічыцца з далікатэсаў. Ды што казаць: такая ежа на стале —на асаблівы выпадак бывае толькі. А з вэнджаным калі наведаешся ў госці, бутэлька добрага віна ніколі не зраўнаецца па шчодрасці дарунка. Але паколькі рыба рэдкая, нераспаўсюджаная, паколькі не з прадуктаў першай неабходнасці, хутчэй не на вітрыне, а пад прылаўкам, то вывучана была ўсё ж недастаткова —як уплывае на празмерных едакоў. Ці цалкам усё ў ажуры, ці можа быць таксама дрэнны вынік, калі не можаш устрымацца ад чарговага вугра. Бывае вугар небяспечным, часамі шкодзяць уласцівасці, калі гурман празмерна любіць, спыніць сябе не можа. Калі залішняя вага. І ёсць хваробы, пры якіх пасля талеркі на вячэру з пакаваленым вугром хутчэй не лепей стане вам, а горай. Калі праблемы з жоўчным пухіром ці з печанню. Калі гастрыт хранічны, астма, таксама трэба асцярожным быць.

Здыміце шкуру са сваіх вугроў, пакройце на кавалкі і ў каструлю, каб крышку масла смятанковага на дне. Затым грыбы парэжце, французскую цыбулю, пятрушку. Прыперчыць, падсаліць, само сабой. І каліва мускатнага арэху. Увага: а зараз

шклянку хересу і кропельку вады. Усё разам на агонь, каб паступова закіпела. Дастаць вугра затым і ў цеста, слаёнае найлепей. У каструлі будзе соўс. Мукі дадаць, а загусцее —сок лімонны. Заліць кавалкі рыбы і нарэзаць варанага яйка зверху, жаўткі найлепей, няхай іх будзе некалькі. Накрыць начынку цестам, змазаць рэштками жаўтка і ў печку.

Другі рэцэпт: суп рэдкасны на смак, таксама з вугра. Лупіць не трэба, каб ён не страціў смаку. Памыць наўперад, нацерці соллю, знутры таксама, выняўшы вантробы. Усё нескладана. Пажадана свежая пятрушка, араматны сельдзярэй, цыбуля, як заўсёды, дзве шклянкі зялёнага гарошку і чорны, крышку. Як закіпіць узвар, вугра кладзіце. Увага: сорак пяць хвілін варыць, ніяк не меней. Існуе меркаванне ад прадзедаў-дзядоў: калі недаварыў вугра, ты сам сабе нашкодзіш, са страўнікам праблемы будуць і можна напсаваць здароўю.

Упаўнаважаны па нарыхтоўках больш за ўсё на свеце любіў вугроў. Ніякія баравікі, ніякі эскалоп ці качка не дакажуць. Так, канечне, і кумжа, кумжа, яна смакуе вельмі. Лімончык, каньячок. У крышталёвых кілішках на ножцы. Добра быць важным чалавекам, займаць пасаду не абы якую! Але вугры, вугры, яны самыя-найсамыя. Ну так бывае: на стале месца няма ад страў і закусак, а чалавеку падай дранікаў. Ці без кавалка сала абед не абед. А таварышу ўпаўнаважанаму па нарыхтоўках СССР у БССР вугры смакавалі мясцовыя. Вугры беларускія, падабалася ў думках яму вымавіць. У мясцінах, адкуль ён паходзіў, іх не было, не вяліся ніколі.

Якое чакала паляванне, не рыбалка, а сапраўдныя табе ловы! Такое мерапрыемства мясцовыя адказныя таварышы падрыхтавалі перад яго пераводам у міністэрства. Каб запомнілася назаўсёды. Яны няхай хаваюцца звычайна, няхай празмерна асцярожныя і скрытныя, калі зрабіць ім перашкоду, грэбляй перакрыць раку, то заварушыцца трава ад руху рыб змяіных. Запаляцца знянацку фары, салдаты выскачаць з машын лавіць вугроў. Сам ён брыдзіцца ў душы, дый страхі абуджаюцца. У начной карціне жахі несвядомыя робяцца сапраўднымі. Ды ён персона важная, пасядзіць у машыне, у бяспечным месцы.



Ноч страшная чакала. Хто голымі хапаў рукамі, хто палкай малаціў, хто сеткі меў для лоўлі рыбы. Рухавікі ўзравелі, запалілі фары, кінуліся з кузаваў, з дзвярэй. Хто меў ліхтарык, хто паходню запаліў. Упаўнаважанаму стала млосна. Такога не чакаў. Любіў вугроў, але пабоішча такога не жадаў. І Месяц, Месяц як на злосць, быў памагатым бязлітаснага палявання. Няшчасныя вугры выслізгвалі з рук, жыццё сваё ўратаваць рабілі высілкі. І ратаваліся, не ўсіх пабілі.

Начная пагулянка па першым часе не выйшла вельмі радаснай, здавалася вугры не лезлі ў горла, але кілішак па кілішку, апетыт палепшаў. Упаўнаважаны СССР, са змрочным напачатку выглядам, не браў нічога, апрача вугроў, нібы зацяўся. У рэшце рэшт апошні раз пабаляваць заўсёды трэба з густам, напоўніцу, каб потым было што ўспомніць. Каб не шкадаваць.

Раніцай арыштавалі кухараў. З горада прыбылі оперупаўнаважаныя міністэрства дзяржбяспекі. Ноччу адказны таварыш з міністэрства нарыхтовак памёр. Мясцовае начальства кляла вугровае паляванне, чакала арышту. Балела галава пасля выпітага. Оперупаўнаважаныя трымалі ў галаве справу дактароўшкоднікаў. Кухары замест дактароў для мясцовага ўзроўню дапушчальная замена. Можа нават ордэн дадуць. А раптам сувязь з ляснымі братамі?

Кухараў, якія гатавалі вугроў, маглі расстраляць, але не расстралялі. Таварыш Сталін памёр, а таварыша Берыю арыштавалі... Калі адказны таварыш паміраў не сваёй смерцю, на вокладцы следчай папкі паяўляўся нумар артыкула і словы «тэрарыстычны акт». Паступіла каманда артыкул замяніць, кухары атрымалі невялікі тэрмін. Ніхто так і не зразумеў: чаму памёр у росквіце гадоў упаўнаважны па нарыхтоўках? Праз гады даследчык судмедэксперт зрабіў дапушчэнне ў кандыдацкай працы: мяса старых вугроў можа быць шкодным. Вугры, якія накіроўваюцца ў апошні шлях, а менавіта іх налавілі ў далёкую трагічную ноч, былі адназначна старымі. Другое: гвалт, учынены паляўнічымі, выклікаў жах у няшчасных, залозы ўнутранай сакрэцыі маглі пстрыкнуць у кроў шкодныя рэчывы. Што магло атруціць мяса. Аднак калі памёр толькі адзін чалавек, упаўнаважаны па нарыхтоўках, ён мог проста

абжэрціся, зрабіў выснову даследчык. Медыцынская карта не захавалася, але па здымках сёння можна зрабіць выснову, што памерлы вёў нерухавы лад жыцця, меў лішнюю вагу і хваробы ўнутраных органаў.

Камісія па пахаванні віднага дзеяча мінстэрства нарыхтовак СССР раздумвала як быць. Паставіць труну ў Доме ўрада, зважаючы на значнасць нябожчыка пры жыцці? Ці ў Палацы прафсаюзаў, каб з ім маглі развітацца чым большыя масы працоўных, зважаючы на прыход больш лагодных часоў.

Спыніліся на Доме ўрада. Каля труны прайшлі прадстаўнікі ўсіх значных працоўных калектываў. Цырымонія працягвалася цэлы працоўны дзень. Жалобнікі пакінулі па сябе процьму вянкоў са стужкамі. У гэтым было штось язычніцкае. І двухсэнсоўнае. Або дзякавалі чалавеку, які забіраў харчы. Або падсвядома спадзяваліся, што ён быў апошнім.

Назаўтра вагон з труной адышоў ад перону ў бок Масквы.

**8**

Не ведаю хто як, я адчуваю сябе хутчэй няўтульна. Сняцца трывожныя беларускі сны. Мяжа на мностве замочкаў і замкоў. Калючы дрот, сетка рабіца. Прасунуць нос, руку? Пракалупаць дзірку, каб вока прыкласці? А што там? А як там? А нават рот прыкласці, дыхнуць вольнага паветра. Як яно? Ці лепшае? Ці адрозніваецца?

Вежы з аўтаматычнымі кулямётамі. Проста з Берліна. Не здавайце ў металалом, геносэ. Няхай сэканд-хэнд, толькі дзякуй скажам. Гут! Інжынеры няхай прыедуць, наладзяць. Яшчэ будзе карысць, навошта ламаць? Мяжа —рэч свяшчэнная. Не для таго будавалі, каб парушаць.



# ЦЫФЕРБЛАТ

Не люблю, калі пасля Калядаў раптам мароз зусім раствараецца ў паветры, падае ціск. Ходзіш як прыгаломшаны. Сонца знікла разам з холадам. Шэры каламутны дзень. Снег спакваля траціць свае якасці. Нябачная падэсць знішчае яго моц і здароўе. Яго бадзёрасць, яскравую бель. Як кавалак рафінаду ў шклянцы з гарбатай знікае навідавоку. А наперадзе прывід мокрага Новага году. На сцяне сапсаваны гадзіннік і ў шуфлядзе таксама. Нядобрая прыкмета? Вядома: лепей, каб усе стрэлкі рухаліся, каб адлюстроўвалі змены часу. Каб дзялілі жыццё на хвіліны-гадзіны. Але, спыненыя або жвавыя, гадзіннікі адбіваюць рэчаісны стан нашага жыцця.

Не зіхатліва, не срэбна, не іскрыста? Не надта святочна. Не параўнаць з леташнім. Ніякіх падстаў для аптымізму тады быць не магло. А вось жа нейкі імпэт, навізна, хоць і беспадстаўныя, былі. Чаканне нейкай прыемнасці лунала ў зімовым паветры. Адчувалася ў жвавасці мінакоў, усмешках, радасных выгуках. Хаця чакаць бадай не выпадала. Але так зроблены чалавек. Спрыялі настрою навацыі. У дадатак да своеасаблівага ўнутранага стану, неакрэсленых надзеяў. Упершыню некалькі асветленых уначы камяніц. Халодныя неонавыя феерверкі. Зіхатлівыя агеньчыкі у вокнах. Ялінка з каляднай музычкай на банкаўскім балконе. Ці яна сапсавалася цяпер? Хаця, здаецца, банк ляснуў. Доўга хадзіў па рынку. Гірлянды з лямпачак разглядаў. І раптам пераканаўся, што абыякавы да іх.

Перад Калядамі званок з радыёстанцыі, папрасілі штонебудзь «прыгожае і мілае». Пайшоў да касцёлу. Спачатку на ганку пачакаў з дыктафонам у руцэ, пакуль не пачне адбіваць час гадзіннік на званіцы. Мароз пстрыкаўся.

Бом-бом-бом! Спяшаўся мой гадзіннік ці адставаў вежавы. Перад шопкай стаялі на каленках. Дзяўчаты. Малады мужчына ўзняўся з каленяў неўзабаве, як укленчыў ты. Спачатку паражагнацца, затым агледзецца. Каб запомніць і пераказаць, што тутака —у стайні, дзе нарадзіўся хлопчык, —ёсць. Здаецца,

фігуры людзей і жывёлаў іншыя, чымсьці летась. І яны перастаўленыя, сцэна зроблена крыху інакш. Але запомніць парадак, падрабязнасці заўжды цяжка.

Задачка з маленства: на стале раскладзены рэчы, якаясьці знікла, ты напружваеш візуальную памяць.

Рука цягнецца па дыктафон. Адчуваю на сабе погляд гладкага маладога ксяндза, які назірае седзячы ззаду і, здаецца, выдае за ахвяраваныя грошы аплаткі (галоўнае —не сказаць: прадае). І ўвогуле абапал людзі. Моўчкі моляцца. Ці думаюць. Гаварыць у дыктафон, нават ціхенька, не выпадае. Перажагнацца і ўстаць. Краем вока заўважыць недаверлівы ксяндзоў позірк. Памачаць пальцы ў каменнай купелі са святой вадою, перажагнацца, прыкласціся вуснамі да ўкрыжавання. Выйсці і паведаміць у дыктафон што бачыў. Мужчыны, паставіўшы лескі, абкручвалі статую святога у фасаднай нішы шнуром з лямпачкамі.

Я вярнуўся дахаты і напісаў: «СЁННЯ ЗРАНІЦЫ КАТЭДРАЛЬНЫ КАСЦЁЛ АЗДАБЛЯЛІ ІЛЮМІНАЦЫЯЙ. УПЕРШЫНЮ НА БОЖАЕ НАРАДЖЭННЕ ЁН БУДЗЕ АСВЕТЛЕНЫ». Яшчэ больш незвычайна: «Падсвечвацца таксама будуць статуі апосталаў на фасадзе. 24 снежня ўвечары заўжды адбываецца «пастэрка». Так называюць набажэнства, прысвечанае нараджэнню Езуса Хрыста. З пачатку дня ў Катэдры можна было набыць аплаткі, якімі каталікі дзеляцца падчас вігілійнай вячэры.

Штогод у касцёле да гэтай даты «шопка». Імітацыя вядомай біблейскай сцэны. Маленькі Езус у яслях. Навокал фігуры — людскія і жывёлаў. І наторкана ялінак. Дзеці павесілі на іх выразаныя з паперы рознакаляровыя сэрцы. Кожны напісаў імя і пра свае добрыя ўчынкі, зробленыя да дня народзінаў Хрыста. «Я прапыласосіла і прыбралася ў сваім пакоі». «Я не слухала музыку, не танчыла, дапамагала маці і добра вывучыла урокі». «Я сябравала з коцікам, лашчыла яго і падлівала яму малачка».

Сядзеў і марудзіў з адпраўкай. Заманулася дадаць, што спаўняецца трыста гадоў з часу асвячэння катэдры. Трэба ўдакладніць. Безвыніковыя пошукі. Не адказвала касцельная канцылярыя. Заўпарціўся, стаў траціць час. Асвячалі катэдру двойчы. Другім разам —дзеля палітычных разлікаў. У горад прыбыў, вельмі баявы і ваяўнічы, цар-імператар. Шмат кавалерыі, рушніц, гарматаў. Штандары і барабаны. Яго запусцілі разам з каралём у катэдру. Ліса з маскай авечкі.

Ужо тады на катэдральнай званіцы паказваў еўрапейскі час стары ратушны дзыгар. Ратушу разбамбавалі. Гадзіннік дзівам ацалеў. Вельмі дарагі быў механізм. Рэдкі, паасобны механізм. На ратушы гораду не асабліва шанцавала. Была яшчэ адна, ды яе зруйнавалі самі пераможцы. Дарма што ацалела пасля апошняй вайны. А ратушны гадзіннік нейк захаваўся, выпадкова. У самім факце, у яго нетрываласці, пэўны сымбаль. Гэта горад, дзе ўсё можа здарыцца. Могуць рэквізаваць храм, перарабіць яго на швальню, паставіць канвеер, а могуць і адразу зруйнаваць, каб зверху —танк або статую.

Вось такі ў нас горад. Але я паспяшаю ў каралеўскі палац, там гадзіннікі. Каб потым напісаць першыя радкі — вялікімі літарамі —«САМЫ СТАРАДАЎНІ ГАДЗІННІК КРАІНЫ ЗНАХОДЗІЦЦА МЕНАВІТА Ў НАШЫМ ГОРАДЗЕ. СЁННЯ Ў АВАЛЬНАЙ ЗАЛЕ ПАЛАЦА ЦЭЛАЯ КАЛЕКЦЫЯ РАЗНАСТАЙНЫХ ГАДЗІННІКАЎ». У перадсвяточныя дні на такія паведамленні попыт. Хочацца прыгожага, прыемнага, што стварае настрой, не дае зусім замаркоціцца.

А зараз сядай ды пішы: «Гараджанам паказвае час ратушны гадзіннік. Ён на высокай званіцы Катэдральнага касцёла. Адкуль бачна ўсё. Гучыць вельмі самавіта. (Гук). Яго стары цыферблат сёння ў авальнай зале Каралеўскага палаца. Вельмі вялікі, ляжыць на падлозе. Навокал мноства гадзіннікаў. Пераносныя, камінныя, карэтныя, марскія хранометры. Гаворыць захавальніца гадзіннікаў сп-ня Віслава: «Усяго іх тут каля дзевяноста. Толькі палова заводзіцца, і яны працуюць. Цяжка іх заводзіць, таму што яны такія чулыя. Трэба, каб роўная паверхня была. Гадзіннікі —яны як жывыя істоты. Мы гаворым пра іх, што яны ходзяць, б’юць. І хацелася б, каб усе яны без вынятку зараз хадзілі».

Але паказваюць час толькі чатыры. Вось як гучыць падлогавы гадзіннік. (Гук). Нямецкі. Побач англійскі падлогавы,

XIX стагоддзе. Ён не заведзены. У палацавых памяшканнях адчуваецца подых гісторыі. Ён стаў апошнім прыстанкам караля. Аб тых часах нагадвае адзін экспанат. Гаворыць музейны супрацоўнік: «Ёсць у нас сонечны гадзіннік XVIII стагоддзя. Зроблены ў 1781 годзе на нашых землях. Па замове прадстаўніка роду Бучынскіх. Гэты гадзіннік зрабіў майстар Ігнаці Манувер». І дадае: яна ганарыцца, што гораду дагэтуль адмервае час знакаміты вежавы: «Наш гадзіннік —адзін з найстаражытных у Еўропе. Яму амаль пяцьсот год. Гэта ўнікальны помнік сярэднявечнай механікі».

Пры буржуазнай рэспубліцы ў горадзе існавала сваё ювелірна-гадзіннікавае прадпрыемства. Адзін буднік можна сёння ўбачыць у Каралеўскім палацы. Буржуям трэ’ было мець свой час, замаўляць яго, уплываць, кантраляваць. І каб усё прыгожа. Не проста стрэлкі з цыферблатам, але ў залатым футарале, у аздобе каштоўных каменьчыкаў. А без аздобы мог купіць любы. Але залунаў чырвоны сцяг. Вырабляць гадзіннікавыя механізмы дазваляліся толькі ў далёкім горадзе. За высокім чырвоным мурам. Дзе вызначалі час.

Вось жа, для гадзіннікаў патрэбны асаблівыя, але аднačасам папросту —нармальныя ўмовы. Нар-маль-ныя. Як чалавеку —чыстае паветра, крынічная вада, сонца. Крама з кітайскімі гадзіннікамі —насупраць гмаху нашай улады. Драўляныя, нават лакаваныя асады, але цыферблаты бутафорскія. Выгнуты кардон з намаляванымі лічбамі, бляшанымі стрэлкамі. Тандэт. Кітайскі шлях уладам вельмі даспадобы. Крама з кітайскімі. Майстэрня са старымі савецкімі, якія хранічна псуюцца.

Свой пясочны кабінетны гадзіннік былы кароль забраў у халодную чужую сталіцу, сам адпраўлены туды пад хатні арышт. У доўгія белыя ночы пясок абыякава перасыпаўся ў колбах, выклікаючы сум у экс-каралеўскай душы. Галоўны палацавы гадзіннік, які аздабляў порцік, разам з каралём вывезлі ў якасці трафею. Замест яго павесілі гербавага драпежніка. У імперыі не павінна быць у нікога свайго часу, час —адзіны —царскі. Войны, змены сталіц, межаў. Імперыя вярнулася. І заманулася знішчыць касцёл з гадзіннікам. Каб не паказваў час, каб не маліліся, і не было над горадам крыжоў і крылатых людзей з музычнымі трубамі. Як проста! Ба-бах! —і пустое месца. Бог абараніў святыя муры, але гадзіннік улады спынілі. І —пломбы свінцовыя.

Каляды. У далёкім Рыме дождж. У ватыканскай бібліятэцы рамонт. Святы Айцец чытае сваё каляднае пасланне не з вышыні бібліятэчнага акна, а седзячы на вуліцы пад павецю. Два сказы віншавання. Каб загучалі па чарзе пяцідесят пяць моў! Чаканне са стоеным сэрцам. «Дарагія беларусы! Вясёлых калядных святаў!» А ў адказ цішыня. Нечаканыя слёзы ў Агнеты ў вачах. Аркестр карабінераў у чорных жандарскіх —часоў Гарыбальдзі —капелюшах з плюмажам. Батальён італьянскага войска. Бутафорская з выгляду папская гвардыя з алебардамі і дзідамі.

А віна мы так і не пасвяцілі. Што ж, вып’ем так.

«Што яны нам навязваюць гэтага замежнага Санта-Клаўса!.. У нас свой славянскі Дзед Мароз», —шчыруюць на вуліцы дзве кабеткі. А як жа Святы Мікола? Ужо не славянскі? Трагікамічнасць жыцця. Тэлебачанне настойліва паўтарае сюжэт пра хату Дзеда Мароза. Лапландыю не любіць. На экране размаляваная Снягурка у велізарным какошніку, якіх не бывае. На сталічнай фабрычцы расфарбоўваюць для елак зоркі з сярпамі-молатамі, шары і дзядоў-маразоў старарэжымнага выгляду.

З Новага году не запомнілася нічога. Можна сказаць, што нічога. Папросту начная вячэра. Ды электрычнасць знікла а другой гадзіне. Расфіранілі вокны, запалілі рэшткі свечак. Паўсюль выбухала, лётала па небе з галаслівым посвістам. Але без весялосці, без пераможнасці. Гэта штосьці няўлоўнае, суб’ектыўнае, але лунае ў паветры. Адчуваецца ў мінаках. Цяпер не заўважыў. Так, яшчэ не атрымалася ружовага шампанскага купіць. Нічога не зробіш.

Раскруціў драцяны жгуцік, зняў фальговы каптур, абхапіў корак. Але спачатку скасаваў загрыміраваны тэлетвар. У руцэ келіх. Няветлыя вочы са штучнай саладжавасцю. Кіславаты брут, выдаваны за паўсалодкае.

Хіба што «Тры каралі», улюбёны дзень, пакінуў у душы штосьці падобнае да святочнасці. Яны прыйшлі з ўсходу прыві-

тась немаўля, з вавілонскай старонкі. Сцёршы леташні надпіс на дзвярах, я вывеў крэйдай наноў: К+М+В і пазначыў год. Каспар, Мельхіёр, Бальтазар.

Гадзіннік у пакоі. Загадкавы рух стрэлак. Гук знікае, яго не чутно, толькі відаць, што стрэлкі не спыняюцца. Цік-цік-цік-цік, —бязгучна. Невытлумачальна. Секунд праз колькі яны зноўку выразна гучаць. Як сэрца абрываецца знянацку, дзядзька, зрынаецца ў калодзеж, у бяздонне. Колькі разоў у гарадскіх дзеях абрывалася сэрца часу, замірала, сцятае. Перапынялася хада вялікага гадзінніка. Псаваўся або спынялі, дэкрэтам ці звычайным загадам.

Ратушны гадзіннік доўга стаяў. Забаранілі накручваць. І майстры неўзабаве перавяліся. Па-над горадам панавалі спыненыя стрэлкі. Раптоўны інфаркт. Людзі жылі, не ўзнімаючы вачэй. Звонку гэта не Бог вед які гадзіньнік. Звычайны цыферблат, так, механізм старасвецкі, але яго нябачна. Мінакі не падазраюць аб яго веку. Такія рэчы не цікавяць натоўп. І што шэсцьдзясят хвілін прыдумалі ў старажытным Вавілоне — зусім цёмны лес. Будаўнікі вежы прыдумалі для нас час! Наш вежавы дзыгар адлічвае хвіліны па-вавілонску! Вядома, гэта не пражскі і не мюнхенскі, з каляровымі рухомымі фігуркамі, з механічнай батлейкай. Рух па колу пад старавечную музыку нябачнай катрынкі. Карагод, прадстаўленне, якое паўтараецца штогадзіны. Гэтага ў нас няма. Нашы кляйноты схаваны ад пабочнага вока.

Уражанне ад старога цыферблата на музейнай падлозе. У памяшканні, дзе кароль падпісаў акт адрачэння, дзе скончыліся старыя часы. Вялікі цыферблат на паркеце. Пакінуты панцыр чарапахі —усё, што ад яе засталося. Змяіная скура. А таксама —чамусьці —вялізныя сеткаватыя крылы кузуркі. Гіганцкага коніка, саранчы. Грэгара, які ператварыўся ў насякомае, у прусака. Цыферблат няўлоўна нагадвае і стары герб на фасадзе. Аграмадную сцёртую манету, знойдзеную археолагамі. Гінею з Гуліверавай кішэні. Нават рыцарскі шчыт, прыпетаваны да замкавай брамы.

Аскомны Старановагод. Рэшткі салютаў. Шумавінне святочнасці. Але ты ўжо даўно спаў. Нічога не чуў і не ведаў. І не хацеў. Нараніцу снег пачаў імпэтна раставаць, дажджыла. Каб наступнага дня снегу не засталося і —з пэўнай вінаватасцю —каб запанавала студзеньская адліга, амаль вясна. Снег знік, ілюмінацыя пагашана. Яліну рэжуць сярод лужын на дровы перад бронзавай статуяй дзядзькі у фуфайках. Адно расквечвае пачарнелае вільготнае неба асветлены касцёл. Святочны сілуэт відаць здалёк. Апроч цыферблата. Ён цёмны. Таямнічасць часу. Схаваны рух стрэлак. Няможнасць ведаць час, спраўдзіць са сваім гадзіннікам пры наяўнасці вялікага вулічнага, старадаўняга і дакладнага. Ён пануе над горадам. На касцельных шпіцах яго ахоўваюць арханёлы.

# КОННЫ ПОМНІК З ПАП’Е-МАШЭ

Мокры чарапічны дах, пахмурны дзень. Кастрычнік, але дагэтуль цёпла.

Адзіная падзея меланхалічнай нядзелі: памылі у ваннай ката рэштkамі шампуня, прывезенага калісьці з Англіі. Мокры, ён разгублены і вельмі мілы. «Твайму мілачку спадабаўся б віскас», —фраза з пражскай рэкламы. Ах, калі ж яна была, тая Злата Прага ў тваім жыцці! Як заўжды, спадзяешся ледзьве не наступным годам зноў пабываць тамака, дзе было добра. Але гады пачынаюць чаргавацца, не паспяваеш за імі. І вось табе непатрэбныя раней візы, і рэйсаў аўтобусных менш.

Галава караля нашага, з бронзы пазірае зверху, з калоны ўнутры касцёла побач з купеллю ў нагах укрыжаванага Хрыста. Ногі з чырванаватымі пацёкамі ад памады, сляды якой наслойваюцца. Гэта ў царкве, куды ты аднойчы трапіў, бацюшка непрыхільна у вочы адхвастаў жанчыну на памінальным набажэнстве: тут вам царква, а не танцы, напамадзілі сабе вусны, як нейкія гуляшчыя! У царкве жанчынкі ў хустках закручаны, вочы пакорлівыя. Як у мусульманак. Але часам дальбог успомніш аб забароне царкоўнай маляваць вусны, калі апынаешся перад распяццем з рэшткамі памады на нагах.

У апошні вераснёўскі дзень незвычайна цёпла, нібы лета не скончылася зусім. Такі лагодны верасень рэдка здараецца. Калі ласка, адпачні на астачу. Пасля спякотнага нервовага лета без возера, без мора, толькі з каламутнай ракой пад асфальтным мостам. Лета без лецішча, без лесу, без прыроды, лета на распаленым бруку пад цагляна-чарапічным дахам, пасярод аўтамабільнага чаду. Верасень маленькі дарунак, падабенства палёгкі. Каб не зусім ужо адразу са спёкі ў мокрую золкую халадэчу, без дня сапраўднага адпачынку. Пара куфляў піва пад ценем парасона —не ў лік.

Пражскі помнік нагадваў віцязя, магутнага асілка ў латах, якісьці кітайгародскі стыль. Ваявода Хаванскі вершна вырушыў на крымчакоў. Мода існавала ў мастацтве: былінна-легендарныя вобразы, казачныя, дэманічныя постаці. Славяншчына, магутная купка, матывы паганства. Помнік вялікаму князю з жалезным воўкам у нагах зусім іншы. Памкнёны наперад, і конь не цяжкавагавы, і сам князь не ацяжэлы. Але горад з помнікам апынуўся за калючым дротам. Дакладней, мы за ім, за калючым. Толькі першую хвілю цяжка скеміць —каму лепей: хто дасылае паветраныя пацалункі з вагоннага акна, ці хто застаўся стаяць на запляваным, засмечаным семкамі пероне. Конныя каралеўскія помнікі, на жаль, на другім баку.

Калі быў там апошнім разам, у горадзе з нечаканай гарой пасярэдзіне, быццам гузак на галаве, на якой вартавая вежа і сцяг, які лунае свабодна і годна, я сфатаграфаваў каралеўскі помнік, каб у рамцы павесіць на сцяне, але не зрабіў дагэтуль. Хіба ад падсвядомай зайздрасці? Жалезны воўк. Вядомая летапісная гісторыя... Князь сасніў воўка, які быў жалезным, і той жалезны воўк загадаў ці параіў яму пабудаваць на гэтым самым месцы горад. Горад пераходзіў з рук да рук, з адной моўнай стыхіі трапляў ў іншую, апынуўся за калючым дротам і даволі надоўга, але захацеў дыхаць вольным паветрам, прыехалі танкі, была кроў, але кайданы ўпалі, горад уцёк з-за калючага дроту. Вымкнуўся на волю. А жыхары паставілі помнік заснавальніку сталіцы —князю і яго воўку.

Нашага караля называлі чалавекам з жалезным поглядам, якога баяліся хаванскія загоны. Нямецкі падарожнік пакінуў апісанне: кароль выязджае ўрачыста са світай з замка на гары і калідорам вуліцы рушыць да касцёла на набажэнства. Абапал месцічы, сярод якіх немец, якога так уразіла працэсія, сама атмасфера, што ён неўзабаве сеў з паперай і чарніліцай, узяў пёрка і напісаў пра ўбачанае. Пра дрыжыкі, якія выклікаў міжволі грос кёніг, які здаваўся жалезным.

Не дасягнуўшы катэдры, кароль спыніўся і стаіць дагэтуль на пляцы ў гайніку. Конь, напэўна, шчыкае траўку, апошнюю восеньскую, якая чэзне навідавоку, неўзабаве буцьвее, жоўкне і пятрэе на марозе. А кароль не з’язджае. Уся яго світа даўно пахавана на цвінтарах і ўнутры храмаў, у лёхах. Ад апошніх захаваліся часам магільныя пліты, напаўсцёртыя надпісы. Хто апынуўся ў зямлі, зніклі дазвання. Няма даўно крыжоў, ба-

гародзіц, анёлаў, няма надмагілляў. І саміх могілак няма. Ані следу. А косткі ператварыліся ў глебу. А кароль запыніўся у одуме, не кранаецца з месца.

У горадзе з вольнай ад калючага дроту часткі мапы якія хочаш помнікі. Маршалкі, кардыналы, каралі... А не толькі чыгунныя богачалавекі. Правадыры, наркамхарчы. Людзі з маўзерам пры баку. Вольны вецер, вецер зменаў заблытваецца незразумелым чынам ў калючых дратах, у сеціве «сістэмы». Людзі неабазнана лезуць напраскі цераз драты. Скрозь калючыя агароджы чалавеку працярэбіцца амаль немагчыма. Наважваюцца толькі тыя, хто ў сваіх азіяцкіх стэпах і пустэльнях не ведае пастак і суцэльнага драцянога сеціва, хто паняцця не мае, што трапіць у вольны свет з нявольнага — складаная і небяспечная справа. «Сістэму» рабілі і ўдасканальвалі, каб ніхто не мог уцячы адсюль. Працавалі дбайна, адбіўшы не толькі ахвоту, але самыя нават думкі пра ўцёкі... Даўным-даўно «сістэма» працавала адно супраць звяроў, якія не ведалі абмежаванняў і не падазравалі, што існуюць дзяржаўныя межы. А тым болей аб людскай падэсці, разлічанай на іх, лясных насельнікаў, якія, адрозна ад людзей, захоўвалі сваю свабоду, наколькі атрымлівалася.

Непрыемныя словы «візавы рэжым». Падобныя на спружыну або на гумовы эспандар. Шархоткае сцябло асоту ці чаратовае, вострае як лязо. І штосьці ад замкнёнасці: вокны з кратамі, дзверы, тэрыторыя, абгароджаная калючым дротам. Рэжым. Зона. Уваход па пропусках. Уезд па візах. Кантроль. Падазронасць, непрыязнасць, адсутнасць усмешкі. Падзел на людзей двух гатункаў.

Кароль здранцвеў. Разам з канём. Можа гэта міраж? Здань караля? Што ж, мабыць, гэта найболей праўдападобна. Беспрытульная постаць, якая растане як туман, як дым, як смуга. Скрозь якую пройдзеш, нічога не адчуўшы. А большасць нават нічога не заўважыць. Бо заўважаць у гэтым разе, значыцца ведаць, любіць, адчуваць піэтэт. Мець пашану ў душы, ганарыцца і пакутваць. Наяўнасць нябачнай оптыкі? Кантактных лінзаў? Ці можа, вочы нармальныя ў меншасці, здольнай бачыць не толькі вонкавае. Меншасці, якой не



паспелі ці не патрапілі кропнуць атрапін, каб змянілася рэзкасць зроку, бачанне навакольных рэчаў.

Жывыя статуі. Людзі не ведаюць што яшчэ вымысліць. Чагосьці ўсё карціць... Ім замала быць самімі сабой, бачыць свой твар у люстэрку, яны станіліся ад сябе. Ім патрэбны не пластычная аперацыя, а маскі. Ім хочацца вылузацца з уласнай скуры, скочыць вышэй галавы, укусіць сябе за локаць. Быць людзьмі, хома сапіенс ужо нецікава. Гэты стан ім здаецца прэсным, без смаку. Ім заманулася стаць манекенамі. Ператварыцца ў маўклівую постаць, у статую, у камень. Яны прагнуць быць акторамі, выконваць ролі, іграць. Нават калі няма звычайных здольнасцяў, не кажучы пра талент. Уласнае імя ім непрыемнае. Ім хочацца кідкіх гучных прозвішчаў, артыстычных мянушак.

Усе квіткі дашчэнту разабраны, каб паспець у іншую краіну да «дня ікс», да візавага рэжыму. Доўгая чарада машын перад шлагбаўмам, у баку ад якога разыходзяцца шэрагі калючага дроту. Золкая шарая нервовасць у нейтральнай зоне. Падрыхтаваныя да неспадзевак і каб выконваць любыя каманды. Нявыспатыя і скалелыя трымаюць пашпарты напагатове кожную хвіліну. У акенца ў разгорнутым выглядзе, толькі ў разгорнутым. Каб не ўзлаваць. Тварам у анфас, вочы ў вочы, нікуды не паварочваць галаву, не глядзець убок. Спраўджанне ў якіхсьці зашмальцаваных сшытках. Пячатка.

Лясь! Можна у «фры шоп», чаму б і не? Ці будзеце вы што-небудзь браць? Не-не. Адказаў па прывычцы. І адразу пашкадаваў —апошні раз да візавага рэжыму... Буду! У цеснай крамцы ажыятаж, гармідар: ваш фрышопны талон, тры хвіліны на выбар. А вось пляшка палінкі, мадзьярскай палінкі, якую піў кароль, асабліва ў маразы. Ён не толькі падабаў віно, віно сваёй радзімы, у тваім горадзе, які таксама палюбіў, атабарыўшыся ў Старым замку на гары над самай ракой.

У пабе у вольным горадзе з вальяжнай публікай, за вокнамі бронзавая статуя Ягамосці. Ганаровы погляд, шляхецкія вусы, крывая шабля-карабэля пры баку. Бараніў ад хаваншчыны, фундаваў храмы, друкаваў кнігі. Піва ў пабе, дата на фірмовым куфлі —«1790». Так-так, тут шануюць традыцыі, тут памяць маюць не абцятую. Табе не хочацца лішнім разам нават не

прыніжацца, а звыкла крыху наракаць, твой прыяцель канечне ўсё зразумее, ён ставіцца да вашых праблемаў спачувальна... Але як стрымацца, як не сказаць, калі тут старанна адшукалі ў архівах першыя ўзгадкі пра бровар яго мосці і старанна з гонарам напісалі дату на піўных бутэльках і бляшанках.

Яшчэ горада ніякага не было, адно палац з паркам і дзветры брукаваныя вулічкі. Але сапраўдны палац, міні-Версаль, згодна тадышнім друкам.

Ну й што, Вацлаў? Мой горад даўным-даўно у «Сівітатэс орбіс тэрарум» названы быў сярод найгалоўных гарадоў свету. А ў наступным новы кароль пацвярджае ранейшыя прывілеі жыхарам і вызваляе саладоўні і бровары ад падаткаў, якімі абцяжарыў іх папярэдні манарх з нагоды зацягненай і знясільнай вайны з кітайгародцамі. Хаця вайна працягваецца. Але піваробы прызвычаены на ўсім ашчаджаць, яны падмаладзілі гарадское піва, пазбавілі моцы на трыста год. Ах, кароль, ах каралеўскія прывілеі! Яны зніклі ў кітайгародскіх архівах, трапіўшы ваеннымі трафеямі разам з касцельнымі званамі, са штандарамі і гарматамі.

Ты вяртаешся, вы паступова мінаеце шэрагі калючых дратоў, нейтральную тэрыторыю, падазрона-пільную варту, шлагбаўмы, зноўку драты. Каралеўская сталіца, нарэшце! Вітаю цябе, замак апошняга ўладцы ў кароне! Цытадэль на гары. Мост высока па-над ракою, якая гэтак моцна шырока плыла ў каралеўскія часы. Кава дома. Памежны трафей —вялікая бутэлька палінкі. Палінка —гэта, ведай, —«драй эпрыкот брэндзі». Цымус! У каралеўскім замку падзея: успомнілі пра караля, якога скульптуры займаюць нечакана цэлую залу —з тулавам і без, на кані, на манаршым пасадзе, бюсты, галовы, барэльефы, з выробленым тварам і —без вачэй, носа, з рукамі без далоняў, бронза, медзь, чыгун, гіпс... Аўтар —адзіны. Якісьці здранцвелы, ці папросту засмучаны. Ён прызвычаены да майстэрні, да самоты, гады рабіў у чатырох сценах каралеўскія скульптуры. Пасярэдзіне макет коннай статуі, на сцяне фотапанарама гарадскога пляца. Штосьці незвычайнае! Вяршыня каралеўскі помнік. Скульптар прыклеіў выяву на фоне гайніка. Ён сціпла прызнаецца, што марыць, калі-небудзь на пляцы убачыць сапраўдны помнік.



Густыя гукі сярэдневечнай музыкі, камерны аркестр ажыўляе мелодыямі мёртвую скульптуру. Віно ў кілішках нагадвае пра каралеўскія склепы. Калі ён памёр, у замкавых лёхах знайшлі пяцьдзясят адную бочку з віном, якое ён не паспеў выпіць. Кулуары. А ці ведаеце, ён сапраўды баяўся атруты. Нездарма дагэтуль спрачаліся: ці не быў атручаны? Бо надта хутка і дзіўна памёр. Ён выпісваў з замежжа сродкі ад атруты і нават сам імі карыстацца рыхтаваўся. На каго толькі не думалі! А найперш —што жонка. Так, яна была старая, яе матка любіла атруты. Ён уцёк сюды не проста, каб паляваць аленяў, якія бадзяліся за гарадскімі мурамі, дачка палясоўшчыка мела ад яго сынка пазашлюбнага. Напраўду? Трэба не баяцца архіваў. Калі ён памёр, сам Папа Рымскі прыслаў удаве залатую ружу...

Непазбежнасць надыходзіць з нуля гадзінаў ночы, кажучы па-вайсковаму. Трэба ўставаць у цемры, званкі з кішэннага тэлефончыка, сонныя апатычныя галасы. Язда на няблізкую мяжу, якая спатыкае неспадзявана пустатой перад шлагбаўмам. Сумныя шапікі, у якіх зрабіліся непатрэбнымі пісьмовыя машынкі, на якіх адстуквалі пашпартныя дадзеныя ў ваўчарах. І танна, і хутка —можаш праязджаць цераз шлагбаўм. Ніколі болей. Званок з далёкай радыёстанцыі, паведамленне ў жывым эфіры пра першыя гадзіны візавага рэжыму. Вяртанне з выпадковым падарожным да гарадской ускраіны. Паўгадзіннае калыванне ў перапоўненым аўтобусе з потнымі шыбамі, з цяжкім паветрам, з заціснутымі апатычнымі пасажырамі, збольшага —жанчынамі, я агледзеўся: прывабнымі часцей маладымі спадарынямі, якім бы крочыць на подыумах, аздабляць вокладкі модных часопісаў, здымацца у вядомых рэжысёраў.

Гаспадар вялікага, але старога мерседэса, з якім вяртаўся з мяжы, наракаў на памежныя парадкі, дакладней на падзел сваіх на звычайных і прывеліяваных, перад якімі нават мытнікі —як служкі. Для якіх усё па-за чаргой, усё хутка, якія з памежнікамі запанібрата, у якіх усё куплёна. Спыніліся на чыгуначным пераездзе, чакаючы амаль пусты нетаропкі цягнічок. У памежную зону шмат пасажыраў не бывае. А палякі? Паназірайце, калі яны працуюць самі па сабе і калі прыязджае іхні камендант. Звычайна са сваёй будкі не паказваюцца, а тут —праштампавалі пашпарты і чакаюць наступных, напа-

гатове. А калі няма начальства іхняга, чакаем мы немаведама чаго. З немцамі, ды з астатнімі, ездзілі ж людзі далей, —гэтак паспрабуй толькі працаваць. Усе гавораць: нашая мяжа самая брыдкая, яны паводзяцца як паны, не ведаю... Мы сябе адчуваем людзьмі другога гатунку... Прастукацелі колы цягнічка, выклікаючы званкі на пераездзе, узняўся шлагбаўм. Я дапяў, што ён перавозіць паліва праз мяжу, хуценька здае і вяртаецца. Як кошты павялічыліся, даводзіцца мяшаць салярку з газаю. Такі, ведаеш, бізнес.

Атрымаў і-мэйл з краіны, якая не ведае, што такое калючы дрот. Яны двойчы на год адпачываюць: цёплае мора, горы. Апынаюцца часова пасля дарагой краіны ў таннай, дзе ўсё «вэры чып». Але гэта іх не пазбаўляе ад традыцыйнага спліну. Яны змагаюцца з ім штовечар у пабах з «Гінэсам», у сяброўскім коле, на частых каляжанскіх пагулянках. На возеры у фітнэс-клубе, пабудаваным з дрэва у скандынаўскім стылі. Унутры —нібы апынуўся на дракары вікінгаў. Басейн, саўна, джакузі. Аднак усё гэта не ўратоўвае ад дэпрэсіі. Яны мусяць наведваць сваіх псіхааналітыкаў, якія «вэры экспэнсыў». Што ж тады нам казаць, што рабіць мне? Без мора і гор, без пабаў і псіхааналітыкаў? Набыць пляшку таннага французскага віна з-пад крыса і даражэйшага кіце-кэту, паслухаць добры рок і палашчыць свайго ўлюбёнага ката: мур-мур-мяў.

Калі ўчора не было візаў, а сёння яны ёсць, гэта як раптоўныя маразы пасля цёплых дзянькоў, але маразы, якія надыйшлі натрывала. Можа й не навечна, але вельмі надоўга. У душы штосьці сціснулася, як абуджаны страх, шкадоба да самога сябе, клубок непрыемных думак, пачуццяў. Учора іх не было, а сёння яны —непазбежнасць, дадатковая перашкода на шляху па-за калючы дрот. Як не было спачатку жалезнай заслоны, халоднай вайны, а потым яны на дзесяцігоддзі вызначылі існаванне з вечнымі страхамі, падазронасцю, варажнечай. З падзелам на два светы.

Не паспеў вярнуцца, як лопнулі мяхі набрынялых хмараў, разам з дажджом пасыпаліся на галаву каляныя каштаны. Зырка-жоўтыя кляновыя, барвовыя каштанавыя лісты хутка страцілі сваю мастацкасць, намоклі і паплылі, брукаваная вуліца утанула ў вадзе. Рачулка як звочыць набрыняла, узнялася



на выбрукаваныя берагі і памкнула пад мост, побач з якім дожджж бязлітасна хвастаў гранітны бюст паэткі. Больш не будзе цяпла, надоўга не будзе лета. Немагчыма ўхапіць яго за хвост, як дзяўчыну. Мокне на рацэ плывучая рэстарацыя «Каўчэг». Ніхто не хоча больш піва. Яе завядуць у затоку, прышвартуюць, каб увёсну не сарваў крыгалом. Не будзе больш і вулічных рок-канцэртаў ля бара «Піўная бочка». Актор, які выканаў ролю караля, нягегла і непераканаўча, спрабуе перад люстэркам апанаваць ролю, і пакуль яшчэ ён не задаволены сабой.

Гэта цяжкі крыж, але гэта і пячатка абраннiцтва. Гульня, свавольства. Ніякага канвеера, ніякай установы. Спі, чытай, ездзі па грыбы. Вечаровая праца, праца дзеля прыемнасці і задавальнення натуральных амбіцый. Калі толькі роля табе адпавядае. Калі не другарадная і калі лепшую не атрымала табе непрыемная асоба, якой ты не так зайзросціш, але папросту не любіш яе, у горшым разе пагарджаеш. Ці мала за што можна пагарджаць? Канечне, могуць сказаць, што гэта не па-хрысціянску. Але тэатральная трупа —не дванаццаць апосталаў. Зрэшты, часам можна ўбачыць аналогію з апошняй вячэрай. Можна, але параўнанне будзе перабольшаным. Часцей здараецца накшталт: чаму ён ідальга, а я служка? Чаму Дон Кіхот... Ну, тут больш складана, справа густу, асабістых перавагаў. Але чаму, чаму ён кароль, а я толькі блазан, га?!

Пашэнціла стаць каралём. Але як пераўвасобіцца на вулічным свяце, калі навокал смажацца шашлыкі, а ў цябе на сняданне быў бутэрброд з сырам, калі побач нязрушна стаіць Вялікі Правадыр, як статуя Камандора, навокал салдацікі зухава спяваюць «цыганку-малдаванку», парабкі з бярвення будуюць першую гародню, а спецназ зухава ламае аб галовы некандыцыйную цэглу і не жуючы глынае айчынных жаб, каб не трапілі ў рот французам? Каралеўская мова прагучала праз сіпаваты мікрафон зусім непераканаўча, сам адчуў. На караля адразу забыліся, і ён, спусціўшыся з вулічнай сцэны, прысеў пад парасонам і папрасіў выпіць, але гэта было на свяце забаронена.

Апаноўваць ролю без грыму цяжка: у люстэрку звычайны твар з натоўпу. Штораз «тынкаваць»? Ты не жанчына, каб

кожны дзень мазацца. Грым трэба эканоміць, у тэатры гэта — адвечнае. Скура пачала за столькі часу рэагаваць алергічна. Хіба што браць маску альбо каралеўскае адзенне хаця б да пояса. Не-не, усё адно цяжка. Цяжка паспрабаваць уявіць, што ў цябе... Што жонку цябе прымусілі ўзяць у якасці «нагрузкі» да каралеўскай кароны, і ёй значна больш гадоў, чымсьці табе. Што яна за жанчына —невядома, удава ў жалобе. Матка яе была атрутніцай, і ты пабойваешся, каб здольнасці ды імпэт не перадаліся старой дачцэ. Ты замаўляеш у замежных краінах сродкі ад атруты, асабліва добрыя, кажуць, у іспанскіх алхімікаў. Але іспанскія алхімікі мусяць хавацца ад вельмі руплівых «дамініканскіх сабак».

Каб пераўвасобіцца ў ролю па-сапраўднаму, трэба уявіць, што ў цябе трафічная (але ж слоўка!) язва нагі, што ў цябе велізазныя ныркі, як у вала, амаль як у спакладанага барана. Так напішуць прыдворныя лейб-медыкі у справаздачы, якую надрукуюць кніжкай пад псеўданімам. А яшчэ, яшчэ ў жоўцевым пухіры знойдуць камень, а пратоку закаркуе другі —памерам з мускатны гарэх. Канечне, сам кароль гэтага не ведаў, яму папросту было кепска, вельмі кепска. Але ж актор ведае і не можа адмовіцца ад гэтага ведання. Паміж ім і каралём у гарачцы фаліянты наступных —за некалькі стагоддзяў падзеяў, цяжар пражытых гараджанамі гадоў.

Паспрабаваць легчы і ўявіць. Але дзе? У цеснай грымёрцы на прыстаўленых усутыч крэслах? Дома на канапе? Ці пайсці і легчы цішком на сцэне, каб ніхто не бачыў, у цемры, быццам у сутарэннях? Што ў цябе зроблена лекарамі «апектура» —дзірка на назе, цераз якую сплывае гной з раны, якой не наканавана загаіцца. (О, як жа яна брыдзілася тваёй смярдзючай нагой, нашчадніца вялікага італійскага роду, каралеўская ўдава і паўторна —каралева пры каралю з нагой, якая не перастае гніць). Сабака ўкусіў, звычайны, не «дамініканскі». Мабыць цякучая рана болей вызначыла штодзённае жыццё будучага караля, чымсьці што іншае. Ён заўжды адчуваў яе, яму ўвесь час балела, ён ніколі не мог забыцца на яе, ягоны адвечны праклён. Спачатку яе загаілі. (Каралеўскія медыкі найлепшыя!) Яе, але не агнішча інфекцыі. Пачало пруцянець цела. Рану ўзрэзалі скальпелем і прымацавалі пас з жалезнай шпількай, каб вярэдзіць рану, каб сыходзіла дурная матэрыя.

Так-так, актору няпроста ўявіць сабе падобныя пакуты, ён спрабуе хадзіць з вялікай канцылярскай кнопкай на назе. Атрымліваецца кепска, ці праўдзівей зусім не атрымліваецца. Але, мабыць, дарэмна шкадаваць караля, у каралеўскія часы былі распаўсюджаны вярыгі, і для яго, як для добрага верніка, адна шпілька гэта зусім не гіена агнёвая. Хутчэй адзнака боская. Бо Ён жа таксама цярпеў за нас і быў укрыжаваны пры Понцкім Пілаце... Для актора тут складанасць. Уявіць рэлігійную экзальтацыю нябожчыка магчыма, адчуць —хутчэй не. Пайсці пабыць у храме —гэта можна. Але каб маліцца... Актор дагэтуль не вызначыўся. Нібыта Бог ёсць, павінен быць, прынамсі. Але ў сталых гадах пайсці пахрысціцца, наведваць набажэнствы? У царкве барадатыя дзячкі, мноства бабулек, жанчыны, і не прысядзеш каб пра сваё падумаць. Увесь час нібы ў чарзе ці на мітынгу. У касцёле цікавей, музыка, але ксяндзы выглядаюць занадта па-замежнаму, занадта па-ватыканску ці што.

Магу сабе уявіць, як актор стаіць у музеі перад своеасаблівай мадэллю каралеўскай коннай статуі: драцяны каркас. «Шкілет, на які засталося нарасціць мяса», —фраза на адкрыцці выставы, як мог пачуць і ён. У тэатры я толькі глядач, як астатнія. Да пастаноўкі дачынення не маю. Яны звычайна любяць п’есы мёртвых аўтараў альбо вельмі далёкіх, спраўджаных. І каб не плаціць ганарару. Мая п’еска патрапіла да гістарычных угодкаў. На прэм’еры я сяду на балконе, каб разгледзець уяўнае анатаміраванне уяўнага трупа. Мне таксама цікава, як усё будзе адбывацца, як увасобяць усяго толькі словы на паперы ў руху, дзеянні, у відовішча. Я таксама часам прагну відовішчаў, тэатральнай гульні, умоўнасцяў. Якія не падобныя да жыцця, аднак пад уздзеяннем якіх часова на жыццё забываешся.

Запануе халодны снежань, як і ў далёкія ад нас часы, у тыя дні і гадзіны, калі Ягоная каралеўская мосць пасля не зацягненых пакутаў памёр. Я апрануся, выйду з дому і пайду праз Стары горад, дзе калісьці ён жыў і дзе заўчасна памёр. У тэатры я са школьніцкай цікаўнасцю буду назіраць згары,

што адбываецца на сцэне. Мне добра вядома наперад, што ён павінен двойчы апынуцца на анатамічнай лажніцы. З яе пачнецца дзея і ёй жа скончыцца.

Рыхтык псіхалагічнае выпрабаванне для выканаўцы галоўнай ролі. Якія там у іх нажы ў тэатры? Лязо знікае ў тронку? Кроў? Не, мабыць, крыві быць не павінна, ён скалеў, пакуль яны спрачаліся, пакуль не дайшло да скальпеля.

Я уяўляю, як сяджу на балконе на прэм'еры і думкі мае снуюцца ад выканаўцы ролі да самога нябожчыка. Я выйду з дзвярэй і ўбачу танк, які так і не дачакаўся дэмантажу, як і наш Вялікі Правадыр, і стаіць руляй насустрач аўтамабільным калонам з-за мяжы. Але пакуль я не бачу самога танка, а толькі ўзгадваю пра яго. Я бачу на сцэне таго, які пажадаў быць пахаваным там, дзе памёр, бо любіў тут жыць. Растлумачыць гэта цяжка: любіў ды ўсё. Ён не мог ведаць, не мог чакаць, што яго труп зрэжуць нажамі эскулапы. Не мог нават уявіць, што спачатку зробяць, як схацеў: забальзамуюць і пакінуць на спачын у касцельных лёхах. Але з вясной выцягнуць на свежае паветра і сонечнае святло, паставяць дамавіну у катафалк і з аховай вырушаць у бок цяперашняй мяжы, якой тады не існавала.

Каралі павінны быць пахаваны з каралямі, нават калі ён быў замежнікам і не размаўляў па-іхняму. Нябожчыкі аднолькава маўчаць. Мне зробіцца смешна ад думкі пра візу: сёння патрэбна віза, каб выехаць адсюль туды. А каб вывезці нябожчыка? Дазвол консульскай службы і процьма папер. А бюракратычная вадзаніна? Ён мог бы і застацца назаўжды тамака, дзе хацеў спачываць з уласнай волі. Што вязеце? Караля. Альбо —дамавіну з нябожчыкам. Такое аднойчы было. Іншага караля, які таксама рэзідэнцыю меў у нашым файным, але не сталічным горадзе, вярталі праз калючы дрот. Дыпламатычныя працэдуры. Пагрузка, чыгунка, перачэпка вагонаў. Атмасфера сакрэтнасці. Вайскоўцы, урадоўцы, памежнікі, шпегі ў цывільным. Калі дамавіну даставілі да канчатковага пункта і ўзнялі века, шкілет не ўбачылі, адно рэштткі ботаў, шпоры, тронак ад шаблі, акраўкі каралеўскага паланціну з гербамі і несапраўдную, тамбаковую карону.



# ЁЗАФ РАТЦЫНГЕР

«Бам-бом, бам-бом, бам-бом!» —гулі званы над брукам і дахамі жылых камяніц, палацаў, храмаў і турэмнымі будынкамі. Гук ляцеў скрозь вуліцы, як у лабірынтах. Рэха адбівалася ад сцен, вокнаў, аканіц, мансардаў, дахаў і комінаў ды скакала, як мячык, сярод камяніц, рухаючыся ўлукаткі, самымі нечаканамі траекторыямі, рыкашэтам.

Імя новага Папы я пачуў па польскай радыёстанцыі і пабег у касцёл. Горад апусцеў. У каменных будынках побач з касцёлам забрахалі сабакі, гуртом абазваўшыся на званы. У былым кляштары, цяпер за высозным мурам, турма строгага рэжыму.

Апошняя вечаровая імша звычайна скарочана, хто быў, хуценька разышліся па дамах, і толькі тады на ўвесь свет абвясцілі імя новага Папы. Hamebus Papam! «Папу абралі, Папу абралі!.. —суцэльна, у якойсьці тэнарнай афарбоўцы гучала ў небе бронза. —Новы Папа ёсць ужо! Імя вядома!» Але ўсе заспяшаліся дахаты, не дачакаўшыся. Панцыры парасонаў, настаўленыя каўняры.

На дыктафоне —шоргат маіх падэшваў, віскат гумовых апонаў на турэмным рагу. І —праз усё —званы, званы, званы. Толькі сабак у запісе няма, яны выконвалі хорам свой вартаўнічы звяглівы спеў за таўшчэзным, неадольным пабеленым мурам. Калі подбегам спяшаўся трапіць у касцёл, зайграла музычка, я атрымаў SMS ад замежнага прыяцела: «He certainly looks like a Pope». Трэба зрабіць рэпартаж для радыё, запісаць галасы ксяндза і людзей.

У Ватыкане падаў дождж і свяціла сонца. Наша надвор'е было падобным. З неба ляцелі рэдкія дажджавыя кроплі, ёдкія, стала халадаць. З-за рогу, як поўху, кідаў у твар вецер наводліў жмені халодных кропляў і нават калючага жвіру. Касцёл убачыў здалёк —у канцы вуліцы —як у канцы калідору. Званы загучалі, калі я быў за дзвесце крокаў.

Бабулькі спяшаліся да свайго вязання, да коцікаў, якім трэба даць крывянкі ці ліверкі ці падсыпаць кіці-кэту. Дахаты,

да сваіх пенсіянерскіх клопатаў і страхаў, ад якіх ратуе толькі музыка і спеў храму. Вязанне, коцікі, круцыфікс на серванце, К+М+В на дзвярах, манная каша на пліце. На сцяне фатаграфія ці некалькі. Жаніх, брат ці бацька ў форме польскага ўлана. Чакаюць пакаёвыя кветкі, трэба не забывацца паліваць. Катоў запрашаюць да касцёлу толькі раз на год, у дзень заступніка братоў нашых меншых, каб папырскаць святой вадою.

Архаанёлы на шпіцах касцельных званіц загулі ў трубы свае: «Новага Папу атрымалі, Новага Папу! Радуйцеся, парафіяне!»; яны дзьмулі ў нашараваныя бліскучыя трубы і пакручваліся ўлева-управа. Арганы зарыпелі сваім раматусам, спрабуючы, паступова аднаўляючы ў памяці, узгадаць ухвальныя гімны, якія выконваюцца з гэткай выключнай урачыстай падзеі. Яны паўтаралі моўчкі на памяць уступы традыцыйных імшалаў, спеваў, якія выконвалі ў нядзелі і штодня.

«Гораду і ваколіцам». Абвяшчалі жыхарам суседніх вуліц, ад навакольных кварталаў да Фарштадта ды ўсяго іншага гораду за шырокай ракой. Сын Марыі ды Язэпа абраны нашым новым Папам!.. У турме больш за ўсіх слухалі званы, асабліва апошнімі днямі, калі хавалі старога Папу і абіралі новага. Званы гучылі ў камерах, заглушаючы сабачы брэх знадворку. Вязні і ксяндзы слухалі званы пароўну.

Навіна атрымалася запозненай. Кардыналы гатовыя былі абвесціць яе пляцу Святога Пятра, усяму першаму Рыму і астатняму свету значна раней, значна. Столькі эмоцый, мільёны слоў радыё- і тэлекаментатараў, тысячы гадзін сукупна эфірнага часу, які каштуе вельмі-вельмі дорага, бо рэклама чакала, столькі здагадак, калі ўсё было ўжо вядома, прынамсі некаторым, столькі чакання...

Усё праз гэтую сікстынскую печку. Печку-галандку, якой даўно не карысталіся. Праўда, яе агледзелі, каб не было бомбы. На дах залезлі, нават знялі металёвы комін, нашаравалі яго, дымаход таксама агледзелі пільна і падрыхтавалі, само сабой. Але працавалі зусім не камінары, а супрацоўнікі бяспекі ў камбінезонах камунальнай службы. Усё стала больш празаічна, няма былой тэатральнасці.



Разам з кардыналамі ў капліцы замкнулі абслугу, лекараў, але толькі не апальшчыка. Ну, здавалася б, што складанага: ёсць крамныя навошчаныя пруткі, папяровыя пакеты з вугалем, ёсць адмысловыя вялікія запалкі. Але ўсе страцілі ўмельства, будзённыя навыкі былых часоў. Ламалі навошчаны распал, запалкі выпадалі з рук, варушылі качаргой, дзьмухалі: агню, сапраўднага роўнага, упэўненага агню не атрымлівалася, толькі кволае падабенства —адвядзі вочы на хвілю, і ўсё згасне. Няма дыму без агню, а агонь не распальваўся, нібыта каб працягнуць задавальненне ад трымцення тых, хто чакаў, калі нарэшце абвесцяць імя, якога прагнулі пачуць тысячы на пляцы Святога Пятра і мільёны —у свеце.

Кардыналы зніякавелі, яны нерваваліся, што спазьняюцца. Што падумае Пан Бог пра іхнюю марудлівасць і няздатнасць у некаторых справах? Ім зрабілася няёмка нават адзін перад адным. Не будзеш жа тлумачыць іншым, што дома не маеш печкі ці каміна, а калі маеш, дык распальваеш не сам. Усё гэта недарэчна атрымліваецца, але рытуал, традыцыі... У пэўным сэнсе сёння гэта выглядае як правілы гульні, якіх нельга парушаць, як сцэнар для спектакля, у якім не прадугледжваецца імправізацыі.

Дымы над горадам, утульныя шлейфы ў неба, якія сведчаць пра цяпло ў дамах, пра згатаваную ежу, пра кіпень у чайніку для гарбаты, пра спечаны гарачы хлеб. Цяпер дымы засталіся толькі ў падручніках з выявамі старых гравюр. Рамеснікі на Падоле —кушняры, шаўцы, пекары; дым над дахамі. Каралеўскі падворак на месцы, дзе пазней паставілі палац, —дым з высокіх комінаў. Коміны на старасвецкай камяніцы біскупскай курыі ўвечары і ўначы асвятляюцца —нібы вежачкі на даху.

Камінар сёння хіба жыве ці папросту працуе ў турме. Толькі там яшчэ дзейнічаюць коміны, і з іх часам узнімаецца белы дым... Гэтая прафесія амаль вымерла, як занятак майстра, які рамантуе механічныя друкаркі.

Штосьці даўно не бачыў камінара ў горадзе, толькі падумалася мне, але адразу перапыніўсябе : а ці бачыў увогуле? Ці шмат людзей напраўду бачылі жывога камінара? Мабыць,

у нашым горадзе ніхто ўвогуле яго не сустракаў, можа, толькі ўяўленне мае.

Сам я калісьці бачыў камінара насамрэч, прынамсі той першы выпадак у жыцці запомніў назаўсёды. Гэта было ў Нямеччыне, у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Я быў школьнікам, а нямецкі камінар —даўгалыгім маладзёнам з роварам у руках. У яго быў выгляд і прылады сапраўднага чысцільшчыка комінаў: чорны цыліндар на галаве, чорнае трыко і вадалазка, чорныя чаравікі і чорны ровар з прытарнаванымі шчоткамі, упэцканымі ў сажы. Я стаяў і глядзеў моўчкі, пакуль той не сеў на ровар і, зірнуўшы з усмешкай, не паехаў сваёй дарогай.

Мне ўспамінаецца сюжэт на «Euronews», «No comment»: у акне цяперашні нябожчык Папа і дзеці —дзяўчынка з хлопчыкам, трымаюць па беламу голубу. Ляціце! Заляцелі ў пакой. Нямоглы нават звонку Папа ўзяў аднаго, што сеў на прыаконне, падкінуў як здолеў, голуб вярнуўся ў пакой. Затым абодва апынуліся на прыаконні. Што зробіш, Папа іх асвяціў знакам крыжа, і яны нечакана паляцелі... Папа быў добрым чалавекам, усмешка хітравата-сарамлівая, але прывабная. Аднойчы я перакладаў голас Папы для радыёэфіру.

Цяжкасці перакладу. Ён гаварыў на італьянскай, якой я не разумеў, запіс атрымаўся кепскі, але ў мяне быў тэкст, зусім на іншай мове, значыць зноў перакладай, —падвойны пераклад. Дыкцыя ўжо была парушана. Цяжкасць была і ў тым, што я бачыў недакладнасці, што датычаць святарскай мовы, але не мог іх выпраўляць адвольна, толькі зважаючы на памяць аб касцельных казанях, якіх даўнавата не чуў.

Так-так, я перакладаў голас Папы, гаварыў, можна сказаць, ягоным голасам. Несамавітае здарэнне, незвычайны выпадак. Прыгода, падобная да выканання тэатральнай ролі, калі ты не маеш дачынення да тэатру і акторства... Я патрымаў у руках бутлю vino de mesa, але выпіў лямпку каньяку. «За Ратцынгера», —вымавіў сам сабе, пакруціўшы кілішак, у якім алейны след напою расцякаўся па сценках... На каленках сядзеў мой кот. «За Ратцынгера», —паўтарыў я, і ў гэтым прозвішчы прагучала штосьці сярэднявечна-жалезнае, штосьці тэўтонскае. І павеяла тымі яшчэ першымі місіянерамі, якія хрысцілі, каб стаў каралём, Міндоўга ў Навагрудку. Ратцынгер. Дальбог, гучыць як Вялікі Магістр рыцарскага ордэна.

Быў там і старэнькі кардынал адсюль, але ў Сікстынскую капліцу яму ўваход быў забаронены. Кардынал, якому не дазволена галасаваць, занадта стары. Адно маліцца за ўдалае заканчэнне. Цікава, за каго б ён аддаў голас, каб апынуўся ў канклаве? Што, кот, ты мяне слухаеш так уважліва? Табе цікава? Так, цікава, а ці кожны ксёндз марыць у глыбках душы стаць Папам, як аўтары кніг мараць пра Нобеля? Ты не ведаеш? Так, ты не ведаеш, я таксама.

Ты хацеў бы ў тым Ватыкане пажыць? Не знаеш? Я таксама не ведаю. Хіба што папскім гвардзейцам пабыць. Гэта і не замежны легіён, і не тэатральная масоўка зусім. Калісьці я марыў апынуцца ў рыцарскіх латах ці адзецца старавечным жаўнерам. Можа, і цікава было б у кірасе з алебардай, у вольны час хадзіць у звальненне ў Рым, ездзіць на мора, у Венецыю, спыняцца на некалькі дзён і пісаць. Цябе я таксама вазьму з сабой, калі надумаю, не бойся. Ці хіба папрасіцца на ватыканскае радыё? Як ты думаеш? Ніяк?

Коцік у Папы таксама мусіць быць, ты не думаеш? Увогуле каты ватыканскія мусяць існаваць. Павінен жа нехта мышэй лавіць у Базыліцы Святога Пятра?.. Калісьці я глядзеў фільм пра рымскіх катоў. Жывуць у разваліна Калізея. У абавязкова павінны быць каты, цэлая гвардыя катоў. Кашэчая ахова харчовых прыпасаў ад мышэй.

Дакладная прыкмета, што ў кватэрцы стала халадней. Кот, як малое дзіця, не злазіў з каленак, калі я пісаў, забіраўся на рукі, калі ўставаў, і мы так разам хадзілі, каб запарыць кавы, узяць кніжку, уключыць святло. Асабліва падабаўся яму мой швэдар, нібы кальчуга, за якую можна было трывала ўчапіцца кіпцюрамі. Кот забраўся пад коўдру і ўладкаваўся як яму было ўтульней. Рука мая звыкла пачала перабіраць поўсць, крыху казычучы найлепшага прыяцеля. Бог стварыў катоў, каб людзям было весялей жыць, паўтараў я сабе, пакрысе засынаючы.

Сніў, як у нямецкім мястэчку, накшталт таго, дзе мы жылі з бацькамі ў ГДР, каштую каву па-кардынальску і папскае печыва, а гаспадар гаштэта частуе бясплатна as кактэйлем «Ратцынгер» з каньяком —ну як, ці смакуе? Калі мы трапілі ў ГДР, мяне перш уразіў смак печыва, адрознага ад «шахматнага» і «цаліннага», як торт ад батона. Згадка пра гэта нейк мімаходзь узнікла ў спячай свядомасці. Затым адбылося мікшыраванне кадраў, ці я папросту часова праваліўся ў прорву сна без відэашэрагу. У чорную бездань, дзе на глыбіне няма святла, як у апраметнай пячоры, да якой з паверхні кіруе доўгі лабірынт. Нейкі старэнькі ў святарскай шаце зазіраў у вочы і пытаўся: ці даўно быў на споведзі? І я пачырванеў у сне.

Назаўтра даведаўся, што новы Папа з вулічнымі катамі па-сяброўску. Яны за ім зграямі ходзяць. Асабліва тыя, што жывуць за нямецкім касцёлам. Добра, што не Сярэднія вякі, падумалася мне, калі за такое сяброўства абвінавачвалі ў чараўніцтве.



# ЯК МІЦКЕВІЧА ВЯРТАЛІ

Англічан некалькі стагоддзяў турбуе шэкспіраўскае пытанне, грэкам хранічна не спіцца праз гамераўскае. А беларусы доўга пакутавалі над міцкевічаўскім. Як гэта ўраджэнец тутэйшай зямлі, сын тутэйшага шляхціца раптам мог стаць нацыянальным паэтам у літоўцаў, якія яго лічаць самым літоўскім, хаця ён быў славянінам па бацьку, габрэем па маці і не меў жмудскай крыві?

І некаторыя замежнікі дагэтуль у непаразуменні. Бо прамовіў у роспачы і здзіўленні польскі даследчык: як так магло здарыцца, што вялікі польскі паэт беларуска-габрэйскага паходжання напісаў па-польску «Літво, ойчызно моя!», маючы на ўвазе цяперашнюю Беларусь...

Саміх беларусаў яшчэ заўсёды ўражвала і абурала, што Адам Міцкевіч, пахваліўшы ў сваіх сарбонскіх лекцыях іх саміх і мову іхнюю, не пакінуў на ёй зусім ніводнага радка, не кажучы пра вершы. Зрэшты, па-літоўску ён тым больш ніколі не пісаў, але ад гэтага беларусам не лягчэй.

І вось аднойчы надарыўся шанц заявіць пра свае правы на паэта, якога паміж сабой бессаромна падзялілі суседзі. Але тут раптам на вялікія ўгодкі Адама галоўны галава абвесціў чамусьці год Пушкіна, які быў маладзейшым за Міцкевіча. Памылачка атрымалася. Што зробіш, калі часам з арыфметыкай здараюцца праблемы. Але потым начальства вырашыла памылку затушаваць, спехам пачалі рамантаваць родны паэтаў Навагрудак. І стварылі нават спецкамітэт, каб адзначыць угодкі на ўзроўні. А мяне запрасілі ад пісьменніцкай арганізацыі ўдзельнічаць, паколькі я Міцкевіча люблю і нават маю ягоны бюст. Стаіць галава паэта на стале, за якім я займаюся літаратурнымі справамі.

Такім чынам, нас сабралі ў райвыканкаме на нараду. Прыехаў са сталіцы ўрадавы куратар літаратуры і мастацтва. Верагодна, каб даказаць, што Міцкевіч ніякі не Адомас Міцкус, як яго калісьці абазвалі здуру суседзі. Але гэта, мабыць, толькі

я так меркаваў з уласнай наіўнасці. Размова набыла з самага пачатку нечаканы кірунак. Загаварылі пра мясцовага Леніна, які развальваўся навідавоку, замест рук меў куксы —з арматурай замест пальцаў. Слова далі прадстаўніку мясцовай улады, які стаў апавядаць пра яе тытанічныя высілкі, якія хутчэй нагадвалі Сізіфаву працу.

— Мы ўжо спрабавалі сваімі сіламі яму рукі прыляпіць, у сэнсе —пальцы і далоні цэлыя. Адсыхаюць, як на злосць. І колер не супадае, людзі гавораць: Ленін у пальчатках. Нос таксама рассыпаўся ад часу, з праваленым носам стаіць, народ смяецца. Але мы разумеем, што без помніка як без рук. І перад замежнікамі нельга каб чырванець.

— Ён павінен застацца дамінантай у горадзе, —загаварыла разумнымі словамі Дар'я Макараўна Бурдзюкова —ідэалагічная начальніца. —Святы розныя —да каго кветкі? Да яго. Рапарты герояў жніва, выступы святочныя.

У піянеры прымаць. Як у старыя добрыя часы. А калі кветкі панясуць да гэтага самага паэта, а не да правадыра —што будзе?! Што ён тут самы галоўны?! Што скажаце, спадар пісьменнік? —нечакана запыталася Дар'я Макараўна.

— Я, а што я магу сказаць? Калі параўнаць мастацкія ці моўныя асаблівасці, то Уладзімір Ільіч быў яўна не паэтам. Але мы калісьці вывучалі спецкурс «Ленін —майстар некралога» і метафары —«палітычныя прастытуткі», «сяўружына з хрэнам» —аб творах апанентаў. Што яшчэ? «Ліберальныя ваніты», калі ласка.

— Ну, гэта ўжо, ведаеце... —паспрабавала мяне перапыніць ідэалагічная начальніца. Але мне неабходна было дакончыць думку: «Замест Леніна лепей паставіць Міндоўга, альбо хопіць проста Міцкевіча».

— Горад без галавы не можа быць, —адсекла Бурдзюкова. — Леніна мы ні на каго не прамяняем. Ён у нас у сэрцы. А паэтамі быць усім не абавязкова. Некралогі таксама некаму трэба пісаць.

— «Паэтам можаш ты не быць, грамадзянінам быць абавязан», —падтрымаў даму крыху гулліва ўрадавы прадстаўнік Загібалін і працягнуў з іншай —дырэктыўнай —інтанацыяй. —Старшыня дзяржавы паставіў задачу: даказаць тым, якія хацелі паміж сабой нашага паэта падзяліць надвая, нам нічога не пакінуўшы...

— І каторыя ў НАТО... —не вытрымала Дар'я Макараўна.

— Так, пішчом лезуць у агрэсіўны блок. Дык мы ім павінны даказаць, што не горш разбіраемся ў паэзіі. Такую задачу паставіў сам старшыня краіны. І гэта яшчэ не ўсё. —Дзяржава згодна даць грошы на рамонт вашага райцэнтра і помніка. Каб не пляснуцца тварам у гразь перад замежнымі дэлегацыямі, —важка зазначыў чыноўнік. —Хаця ў нас клопатаў хапае без вашага Леніна: сяўба-касьба вось-вось, бітва за ўраджай і «Дажынкі».

— І на прыбіральню грамадскую, калі ласка, дайце грошай, —раптам, не чакаючы слова, загаварыў раённы начальнік з жабрачымі ноткамі ў голасе. —Перад музеем стаіць старая: хмары мух, пах непрыемны. Турысты скардзяцца. Разбурыць ніхто не дазваляе —на балансе ў мінкульце стаіць —сам Міцкевіч туды хадзіў, гаварылі. Дый на новую ніколі няма грошай, увесь час трэба змагацца за прывагі, за надоі. Туалет —наша балючае месца, таварыш прадстаўнік урада, наша ахілесава пята.

— Ладна-ладна, будзе вам клазет, —з усмешкай лагодна паабяцаў Загібалін.

— І пажадана, каб ачкоў па пяць-шэсць з кожнага боку —і для хлопчыкаў, і для д зяўчынак, —нейк цнатліва дадаў мясцовы бюракрат, —каб усім хапіла. Нам жа турызм трэба развіваць, асабліва замежны, патрабуюць...

— Ну, я ж сказаў: будзе вам туалет —з літарамі «мэ» і «жо», —шырока пасміхнуўся ўрадавы чыноўнік, —але я хачу канкрэтна пачуць, што ў нас атрымліваецца з помнікам Ільічу?

Абласны архітэктар пачаў па-вайсковаму сцісла і дакладна тлумачыць свой план. Старога Леніна —дэмантаваць. Новага паставіць не пасярэдзіне, а збоку пляца. Сталічныя скульптары-лаўрэаты запатрабавалі цану... Кажуць, спецыялістаў па Ільічу раз, два і няма, усе на вагу золата. Але мы зробім інакш. Мы возьмем у падвале вялікую белую галаву правадыра, якая стаяла раней у абкаме. Атрымаецца «і дзёшава, і сярдзіта».

— Брава! —не ўстрымаўся Загібалін, які не хаваў лагоднага гумору. —А зараз, таварышы, пяройдзем да абмеркавання самога паэта, яго, так сказаць, вартасцяў і паэтычных здольнасцяў.

— Але ў жаданнях трэба сціпласць, раздражнілася Дар'я Макараўна. Калі так далей, яшчэ захочуць ратушу сваю назад на месца ўнівермага. І завод пладова-ягадных він перарабіць у манастыр. А мы не можам здаваць свае пазіцыі на ўсіх франтах. Туалет няхай будзе, турыстам трэба.

Слова далі гісторыку. Хваляўся чалавек. І перш пахваліўся, што застаўся на марксісцкіх пазіцыях, чым вельмі ганарыцца.

— У Парыжы Міцкевіч уступіў у секцыю нудыстаў, шпацыраваў па Елісейскіх палях «у чым мама радзіла». У Стамбул да турак пацягнуўся. Ці бачыце, хацеў падтрымаць агрэсію. Стаць героем Крымскай вайны. Чаго яму там не хапала? Зноў гарэм у Бахчысараі зрабіць? Бясслаўна памёр у турэцкім духане ад антысанітарыі. Увогуле, як ён пра нашых рускіх афіцэраў у сваім «Тадэвушы» напісаў? Ганьба!

— Папрашу без эмоцый, —загадаў Загібалін.

— Прабачце. Я толькі хацеў сказаць, што ён стаў рэакцыйным паэтам пасля таго, як перастаў сябраваць з Пушкіным і ўцёк на Захад. Гэта, кажучы па-сучаснаму, здрада рад зіме, артыкул 58-ы —25 гадоў альбо вышка нават.

Начальства, як мне здалося, злёгку нават зніякавела. Сітуацыю ўратаваў, як ні дзіўна, абласны архітэктар, які сказаў, што цяпер Ленін будзе кантраляваць становішча — глядзець менавіта ў бок Міцкевіча, да якога раней стаяў спінай і нічога не бачыў, што робіцца ў Доме-музеі.

— Ну, добра, —перарваў яго Загібалін, —хопіць. З помнікам вырашылі, з туалетам разабраліся, якія яшчэ праблемы?

— Пікетчыкі стаяць на вуліцы, —з трымценнем азваўся прадстаўнік мясцовай улады.

— Пікетчыкі? Якія пікетчыкі? Што ім трэба?

— Школу польскую патрабуюць. У горадзе Міцкевіча трэба, каб польская школа была.

— Мы ж ім далі адказ! —знервавана выгукнула Дар'я Макараўна.



— Так, далі. Ім адказалі, што палякаў у нас можна па пальцах пералічыць, і школу адкрываць немэтазгодна. У нас ужо і беларускай школы няма, хоць беларусаў —колькі хочаш. І нічога, ніхто не абураецца.

— Правільна! —згадзіўся прадстаўнік ураду. —У нас усе выдатна разумеюць нашу рускую мову. І дзякуй богу, як кажуць. Ну што, таварышы, закончым на сёння. А што ў Леніна такая вялікая галава будзе стаяць, гэта справядліва —ён пяцьдзясят пяць тамоў напісаў, а колькі гэты ваш Міцкевіч?..

На святкаванне ў Дом-музей наш дзяржаўны старшыня запрасіў суседніх галоваў —«прошэ пана!», «лаба дзена!». У райцэнтры так рыхтаваліся, асфальт як падлогу мылі. Гаспадар краіны з замежнымі панамі павінен быў, згодна сцэнарыю, пасадзіць дубкі, замест лядашчых, пад якімі любіў бавіць час Адам Міцкевіч з каханкамі. Затым гаспадар свята меўся зрабіць выступ пра паэзію.

Народу сабралася паглядзець на высокае начальства! Наперад выйшаў мужчына пад гальштукам у светлым гарнітуры, з рыдлёўкай у руках. Натоўп скалануўся. Ніхто не пазнаў самага галоўнага. «Няўжо-няўжо цяпер кіруе іншы? А гэты куды дзеўся? З тэлевізара?» Але раптам нехта пазнаў першага міністра Лангова, які звычайна пакорліва ў тэлевізары выслухоўваў гняўлівыя закіды старшыні, таму ніхто яго як след не запомніў. Маўчуноў народ не запамінае і не любіць.

Але натоўпу нічога не тлумачаць, што здарылася. Журналісты хутка разнюхалі, што самы галоўны ўзлаваў і не прыехаў, бо адмовіліся ад візіту «лабас» з «пшэкам». Напісалі: дзякуй за запрашэнне, але ў вас тут парушаюцца на кожным кроку правы чалавека... Але якія адносіны мае вялікая паэзія да славэтных правоў чалавека? Начальства так і не ўцяміла. Грандыёзнае свята было падпсавана. Затое сёння ў землякоў вялікага паэта ёсць новы Ленін, праўда, без рук, але гэта нават і лепей. І ватэрклазет, пра які яны марылі, таксама ёсць. Так што і турысты нарэшце ўздыхнулі з палёгкай.

# ЯНЫЧАРСКАЯ МУЗЫКА

Дружба народаў у нас на першым месцы. Начальства ні пра што іншае думаць, бывае, не хоча. Не выйшла ў Палітбюро, у нас выйдзе. І ўсе будуць глядзець як на прыклад. Раскажу пра ўседзяржаўнае свята дружбы народаў.

Статую на плошчы, ля якой мелі віраваць гапакі і лезгінкі, аздобілі стужкамі і шарыкамі, на кепку надзелі купальскі вянок, прыставіўшы пажарныя драбіны. Рыхтавалі жароўні. У паветры нібы зачыныў лунаць шашлычны пах свята. Шашлык страва ўсеагульная. Для адных са свініны, для другіх з курачкі і гэтак далей. Пад паветкамі раскладаліся і развешваліся на круках каўбасы, шынкі, кумпякі. Пагулянка абяцалася знакамітая. Начальства любіла падкрэсліваць: няхай памеры ў нас сціплыя, народаў лічба значная. І не стаіць на месцы, расце. Штогод болей. І ўсім хапае квадратных кіламетраў, панажоўшчыны, вендэты няма. Сябруюць, пушчанка на стале, гарэлка з баабаба, мацуюць дружбу.

Над галовамі праплыла птушка, бусел, якая прыклад аддданасці рэспубліцы: колькі не ўцякае у вырай, заўжды вяртаецца на папас, у буслянкі. А дзе іх толькі не ўбачыш —на дахах, дрэвах, слупах і воданапорных вежах. Мужчыны неслі кола ў рознакаляровых стужках. Кола —рэч важная. Без яго слуп сярод купальскага вогнішча быць не можа. Кола —каркас, спод буслінага гнязда. Публіка на тратуарах радавалася кожнаму новаму народу. Ад свята да свята іх рабілася больш, а калона —даўжэйшай... За колам крочыў самы свежы народ, які трапіў на карнавал упершыню, —янычары.

З какафанічнай музыкай, з тулумбасамі, турэцкімі барабанамі, у якія рытмоўна ўпервалі, малацілі іх сваімі палкамі, самі незвычайна шараварныя, голыя вышэй нагавіц. У сяго-таго з гледачоў прачынаўся міжволі генетычны страх да злавеснага і бязлітаснага янычарскага войска. Рупары падавалі янычараў як інтэрнацыяналістаў, якія перамаглі ў сабе моўныя забабоны, комплекс местачковай адасобленасці. За янычарамі рухаўся



а-ля гарэм —маскарадныя наложніцы ў празрыстых шатах з бліскучай мішурой, з бразготкамі ў руках, яны прытанцоўвалі, дэманструючы танец жывата ў руху. У «Дзяржаўнай газеце» тлумачылася: гарэм быў міжнацыянальным утварэннем, а гарэмныя выхаванкі нараджалі дзяцей розных народаў.

Калісьці пры каралях, асабліва пры апошнім, пры Станіславе Аўгусце, званым часам Далікатным, якраз мода існавала на янычарскую музыку, на крывыя ятаганы, атласныя шаравары, турэцкія чубы, чырвоныя фескі і розныя тулумбасы. А таксама на каву, якую тады напачатку называлі якраз на турэцкі лад кахвай або кафай. Прыемна было панству часам пасмакаваць чорна-смалісты дымка-гарачы напой на балкончыку замкавага палаца на высокім ды стромым нёманскім беразе, усведамляючы, што самі, голыя ад шараварaў, раз'юшаныя янычары пакуль яшчэ не дабраліся да тваіх вышыняў, дзе замкавы пагорак рэгулярна засыпае белымі глыбокімі сумётамі на некалькі месяцаў, а рака сцінаецца ад сцюжы.

Размахвайце сваімі ятаганамі колькі заўгодна! Так і адбылося на карнавале. Танцы з бутафорскімі крывымі шаблямі, з кінжаламі ды гуцульскімі сякеркамі, каля статуі на плошчы, перад плоймай.

Каралеўскую янычарскую капэлу складала збор-дружына: пара служак-мурынаў, татарскія ахоўнікі, музыкі балетнай трупы, апранаў іх тэатральны кравец. Галасу янычары ўчынялі шмат, рачылі вочы, рабілі непатрэбныя рухі —не раўнуючы як у будучым нямым кіно, гіперактыўнасць удзельнікаў у якім мусіла пераконваць гледачоў, што на экране напраўду жывыя людзі. Не здатныя ні хвіліны пасядзець на месцы. Зусім не манекены.

Янычарская капэла грала на вайсковых парадах, на балях і маскарадах. І на каралеўскіх пікніках. Суперніцтва паміж каралём і князем Радзівілам нечакана пачалося. У караля была зграбная, не празмерная янычарская музыка. Вялікі турэцкі барабан-бухала, пара меншых, сем медзяных труб, пяць шалмеяў —накшталт габоя і дзве талеркі. Князь Радзіловіч зрабіў сабе большы аркестр. Сем барабанаў вялікіх, два тулумбасы, дзве талеркі, ажно шэсць сурмаў і дзве флейты. Кароль без

музыкаў нікуды не рухаўся, заўсёды трымаў на кожную нагоду. Янычарская капэла на пахаваннях, Божа наш! Какафонія! Дырыжыраваў музыкамі капэльмайстар Шнуроўскі.

Цяпер у каралеўскім палацы музей. Ад караля ў вітрыне застаўся кальян, якім любіў карыстацца, слухаючы янычарскую музыку, джэзва і дзве шпоры. Тулумбасы і ніякія інструменты янычарскай капэлы не захаваліся. Але ёсць калекцыя крывых ятаганаў. Народы вадзілі паглядзець. У рэшце рэшт і кароль, і князь Радзівіл займелі не толькі капэлы, але й янычарскія харугвы —ганаровую варту...

На плошчы каля статуі народы стаялі «каробкамі», паўзводна, як звычайна на дзень Вялікай перамогі. Увага! Мікрафон! Гарадскі галава сказаў прамову пра аб'яднаўчую місію —злучаць Поўнач з Поўднем, варагаў з грэкамі і Захад з Усходам, янычараў з астатнімі. Плямамі палітры: твары, апраткі, пальмнеў пляц. Стракацелі сцягі на флагштоках. Весялей выглядала змрочная звычайна статуя, аздобленая да свята.

Так, але я яшчэ не сказаў усяго пра спеўнае і танцоўнае шэсце, а яно месцамі нагадвала рыхтык біблейскія сцэны, асабліва калі крочылі бедуіны з вярблюдамі альбо палесцінцы з асламі. Жывёлу пазычылі ў заапарку, карову для індусаў —у прыгарадным калгасе. Як у кіно выглядалі зулусы з паскамі на клубах, у плаўках з пальмавага лісця папуасы і абарыгены з баёвай размалёўкай твараў ды з бумерангамі ў руках. Дзе іх толькі адкапалі?

А галава наш (вось неспадзеўкі!) не проста так прамовіў, як на шэраговым мітынгу. Калі патрабуе болей працаваць, мецць лепшыя паказчыкі і павялічваць лічбы, не! Ён усіх прыгаломшыў: выехаў на кані а-ля князь Радзівіл. Караля ўлады не любілі, карону атрымаў з рук Папы Рымскага, а князь сам сябе, можна сказаць, прызначыў. Наш галава выканаў ролю князя, нібы актор тэатральны —у жалезным прыкідзе, маўляў, мы не такія заімшэлыя ды старамодныя, каб толькі пад гальштукам, як бюракраты. Так папросту расчыніў забрала, нібы кармушку ў турэмных дзвярах, і ўсе яго пазналі, прыемна здзіўленыя.

У адказ гаварылі ў мікрафон ад кожнага народа па чалавеку. Словы падзякі і сёе-тое. Чалавек у стэтсане, пад выглядам з дзікага Захаду, публічна грэбліва, нібы брудную анучу, вымыў у вядры зорна-паласаты сцяг з намёкам на каўбойскія звычкі тамтэйшага прэзідэнта. Начальства штосьці не падзяліла з янкамі і пры любой дробнай нагодзе спрабавала падкласьці ім канцылярскую кнопку. Атрымаўся звычайны антыімперыялістычны мітынг. Азіяцкія студэнты чыталі з паперкі закіды янкам, трымалі плакаты і транспаранты. Сонца пякло. І калі першыя прамоўцы, асабліва сам Радзівіл, радаваліся надвор'ю, успамінаючы станоўча сілы нябесныя, апошнія стараліся прамаўляць тэлеграфным стылем, асабліва чукчы ды эскімосы.

На другі дзень наш галава зрабіў візіт ветлівасці ў нацыянальныя кватэры. Усе народы і народцы мелі жылплошчу у Вежы дружбы народаў, якую збудавалі ўлады. Цырымонія звычайна адбываецца зверху ўніз: галаву завозяць ліфтам на апошні паверх, адкуль яны са світай рухаюцца пешшу. На парозе сустракалі хлебам-соллю, так што ў горле зрабілася салёна да гаркавасці. Дзякуй Богу, заўсёды падносілі чарку і давалі закусіць чымсь экзатычным —нават смажанай саранчой, раскормленымі чарвякамі, лічынкамі, аднойчы —яйкамі кракадзіла. Траплялася і больш традыцыйныя стравы —бішпармак, плоў, чыхамбілі.

Галава прызапасіў тост з нацыянальным каларытам. З адзнакамі кароткага экскурсу ў недалёкую гісторыю. І педагагічны момант. Адных паўшчуваў, што ў іх на радзіме запаролі калгасы, назад раздаўшы зямлю. Іншым закідаў за пасылку жаўнераў у Ірак, за жаданне дагадзіць янкам і нагадаў, што паны зноўку ўзяліся душыць вясковы люд, захамуталі. Дзеля гістарычнага прыкладу спаслаўся на Картуз-Бярозу. Некаторым прачытаў кароткую лекцыю-тост наконт таго, што «у нас не будзе рэвалюцый», пажартаваўшы —«фінікавых, урукавых, разынкавых і асабліва гранатавых», ваша здароўе!

Начальству па-свойму вельмі пашанцавала: учора на нашую тэрыторыю выпадкова пераляцеў дзюцкі лётчык на прыватным самалёціку, яго ледзь не збілі па звычцы, але потым самі былі задаволеныя, што ўзялі ў палон. У самалёце апынулася яшчэ кабета, думалі жонка, аказалася —палюбоўніца. Скандал міжнародны наспяваў нібы пажар —ён хацеў

прамацаць супрацьпаветраную абарону! Як калісьці карэйскі «Боінг» пасажырскі! Але ўрэшце і наша ідэалагічная машына пачала працаваць больш далікатна, па-свойму віртуозна, не так тапорна як заўжды было.

Назаўтра прыгаломшылі відовішчам. Турэмны фургончык на плошчы! Публіка зніякавела. З яго выпусцілі палоннага лётчыка з каханкай, знялі кайданкі, і ён зачытаў пакаянны ліст. Яму не падабалася тое, што робіцца ў краіне, і яны з сяброўкай уцяклі. Ім без размоў далі палітычны прытулак і ордэр на аднапакаёўку у Вежы дружбы народаў з акном у бок былой радзімы. Плошча зрабілася вялікім хорам з наяўных рэшткаў народаў:

Хоць ты белы, хоць ты шэры,
Ты, канечне, наш!
Узімку, восенню ці летам —
Хай аднолькавым ты цветам —
Безумоўна —наш!
Розных колераў і фарбаў
Скура, вочы, валасы.
А язык у нас ружовы,
што яднае усіх людзей.
Дружа, аміга і камарад!

Сціхла песня. Дзукі, зулусы, гуцулы калонай накіраваліся на прыстань. Чакаў рачны цеплаходзік з прычэпам —баржай-рэстарацыяй, а наперадзе пікнік у рамантычнай мясціне з вогнішчам і каўбаскамі. Пакуль яны адсутнічалі, на беразе збіраўся шматтысячны натоўп, увечары абяцалі пражэктарнае шоў. І феерверк. А хто сёння не любіць шашлыкі ды піратэхнічныя відовішчы! Нацмены плавалі, на беразе збіраўся народ быццам на Грунвальдскую бітву!

Калі з-за рачной лукавіны паказаўся цеплаходзік. З напругай супраць плыні цягнуў рэстарацыю, поўную рознакаляровых тубыльцаў. Бераг азваўся радасным галёканнем. Калі судна апынулася паміж берагоў, запоўненых публікай, нібы трапіўшы на сярэдзіну стадыёна, да борта падплыў хуткі катэр



быццам з лоцманам. Тэрарысты, выкрадальнікі! Праз мегафон паведамілі берагам: мяшок з грашыма і самалёцік дзуцкага лётчыка! Таго самага, што атрымаў удзень палітпрытулак.

Берагі не паспявалі рэагаваць. З вады вынырнулі марскія коцікі і тэрарыстам начапілі кайданкі. На катэры пад сцягам падплыў наш галава, ўжо без княскай кальчугі, і паведаміў: у нашай рэспубліцы дружба народаў у надзейных руках. Нагадаў, што чакае купальская ноч і загадаў усім народам выдаць па вянку. З папараці, з яловых лапак, са штучнага лісця пальмы. Залежна ад традыцый. Пачало імкліва цямнець.

На капітанскі мосцік! Дзе падалі, куды плылі —не ўбачыш. Раку перакрэслілі, сталі абмацваць жоўтыя пражэктарныя прамяні. Якія нацмены задумвалі жаданні —Бог іх знае, як далёка заплывуць вянкі —ніхто не ўяўляў. А мне думалася: не выключана, суседзі-дзукі паставяць на рацэ сетку, якой ловяць кантрабанду. Каб адпомсціць за свайго лётчыка, якому пазіраць да канца жыцця з аднапакаёўкі у бок страчанай радзімы. Ён навучыцца крочыць у калоне, смажыць шашлык, піць бакштанку нагбом, спяваць хорам гімн, граць на тулумбасах.

# ДОСТУП ДА ЛІТАР

Пішучая машынка робіцца часткай цела. Так прадаўжэннем рукі можа быць скрыпка для музыканта. Або камера для кінаапаратара. Здымае тое, што бачыць гаспадар. Камера і вочы бачаць адно. Бачаць адначасова. Камера, яна механічная, як гадзіннік. Накруцілі —ідзе. Машынцы бывае горш. Сама не піша. Але могуць прымусіць. Гаспадар няхай не хоча, за яго пішуць пальцы. Рукі яго здраджваюць і ратуюць. Яны з машынкай супольная прылада.

Мяне аднойчы змусілі паўдзельнічаць у стварэнні новага літаратурнага фронту. Стары не адпавядаў сучасным запатрабаванням. Так патлумачылі ў ідэалагічным камітэце, куды выклікаў лысаваты начальнік у старамодных акулярах. Прысутнічаў маладзейшы чалавек. Ён прачытаў радкі з майго вершыка. Вы, Мікола Міколавіч, —паэт, а нам паэты патрэбны. Што скажаце?

— Што я скажу? Калісьці ў маладосці, спробы, вучнёўства. Я з паэзіяй завязаў, зразумеў, што не маё...

Адказ відавочна не спадабаўся. «Мы не гэтага чакалі, не самакрытыкі, загаварыў незнаёмец. Вось спіс, вам аказалі давер, трэба цаніць».

— Хто аказаў? Які давер?

— Наперад паравоза забягаць не варта, зараз усё растлумачым. Я ваш анёл-ахоўнік, займаюся літаратурай і газетамі, усімі, хто піша, зваць мяне Міхаіл Іванычам, можна проста Міхась. Вы ў спісе, таму і размаўляем цяпер...

Я маўчаў. Счакаўшы, «куратар» удакладніў:

— Вам даверылі быць дэлегатам, ствараць сучасны пісьменніцкі хаўрус, паездка будзе аплочана, можаце збірацца.

— Пачакайце, я нічога не ведаю, мне ніхто нічога не казаў.

— А колькі вам паўтараць трэба? Вось персанальнае запрашэнне, будзе пропускам. Яшчэ якія пытанні?

— Ды я нікуды не збіраўся, я не паэт увогуле, «крый мяне Божа», —трапіла на язык завучаная фраза. —Паэзія паэзіяй, а сябе я паэтам не лічу зусім.



— Не трэба адмаўляцца. Сціпласць аздабляе чалавека, але трэба мець самалюбства. Колькі маладзёнаў, ведаеце, сябе ледзь не Пушкіным выстаўляе. А вы працягваеце практыкавацца, нам вядома.

— На святы экспромты часам, жанчын павіншаваць.

— Давайце не будзем пачынаць дыскусію пра эпіталамы...

— Не, гэта нечакана, хай хаўрус, калі трэба, ствараюць самі паэты, а я проста аматар, такіх у нас на кожным вяселлі, мы —нацыя паэтаў.

— Правільна: паэтаў, вам і карты ў рукі.

— Я хацеў сказаць: аматараў, дылетантаў ад паэзіі.

— Годзе, няма часу, вось запрашэнне, персанальнае, —дадаў з націскам «літаратурны куратар».

— Не паеду, —раптам для сябе самога абцяў я размову.

— Як не паедзеш? —зрабіў штучна шалёныя вочы «Міхась», нібы калісьці сяржант Віннік у войску. Ён моўчкі ста ў пераглядаць аркушы з папкі. —А гэта: «А сцяг наш рыцарскі святы!», «а наш заступнік на кані, усіх ворагаў мячом пералічы і пайменна назаві!» —Твае?!

— Мае, а што?

— А нічога, —у гэтай папцы ўсе твае размовы, выказванні, выразкі газетныя, цытаты. Так што вырашай: працаваць у дзяржаўнай газеце ці ў «незалежнай».

— Няма ўжо незалежных.

— Ну, дык вось.

— Арывэдэрчы, Мікола Міколавіч, —нечакана абазваўся ідэалагічны начальнік. Я зірнуў на яго: якіясьці каламутныя вочы за шкельцамі акуляраў. У іх здалося ці то шкадаванне, ці туга, ці нават зайздрасць. Таксама, дарэчы, «пісьменнік», выпускае брашуркі аб «паслярэвалюцыйнай» гісторыі гарадской: калі трамвай пусцілі, калі каналізацыю зноўку наладзілі ці пачалі шыць чаравікі для простага люду...

— Гільяціну ў залу! —выгукнуў распарадчык сходу на капыл вядомага шоўмэна, які ў тэлевізары разыгрываў прызы. Але гэта была ўжо кульмінацыя, арганізатары яўна спадкаемнічалі эпатажнай маладзёвай суполцы «Макулатур-літ». Сваімі хэпенінгамі яна разбурала граніт афіцыйных пісьмен-

ніцкіх мерапрыемстваў. Notabene: то маладзёны «плавалі» на сцэне ў трунах, вяшчаючы пра човен Харона, то па-пірацку хапалі на абардаж доўгую скрыню з канкурэнтамі з часопіса «Літара», складалі ў дамавіну застыгла-акадэмічныя творы, фаліянты класікаў, дагматычныя першакрыніцы і залівалі жыжай, што нагадвала вадкія экскрэменты. Аднойчы падпалілі кніжную макулатуру, загасіўшы чым хутчэй агонь: нават гарэць-не гарыць, сырая!

Кардонны герб новага літаратурнага таварыства заклікаў да неадкладнага дзеяння: «Пісаць, пісаць і яшчэ раз пісаць...» Я не асабліва сачыў за выступамі. Дыскусія хутчэй нагадвала крыўды-маналогі, трыбуннае разрыванне на грудзях кашулі зняважанымі і пакрыўджанымі. Я сябе паэтам сапраўдным не лічыў, мяне не турбавалі бляшаныя лаўры. Я быў чужым на гэным свяце-рэваншы.

У мяне была кніжка. Часам я перарываўся, прамоўцы перашкаджалі чытаць. А сёй-той мог зацікавіць. Пачуўшы пра друкарскія машынкі, я міжволі ўзняў вочы ад старонкі.

— Мы павінны адабраць пішучыя машынкі і баста! У іх цэлы склад. Выдавалі як у пазычальні, ёсць мемарыяльныя, калі сем’і ахвяравалі ў літзвяз машынкі нябожчыкаў. Ёсць рарытэты —хоць у скупку здавай антыкварную. Я знайшоў зусім музейныя —з шыльдачкамі —ад Саўнаркама, за ўдарную працу на літаратурным фронце, за поспехі, за вынікі ў першай пяцігодцы, за трылогію, ад палітупраўлення арміі, ад наркамата шляхоў зносін, нават ад НКВД славутага! Цэлы музей, яны яго не даглядаюць, занядбалі! Гэта павінна належаць усяму народу!

— Дык можна з дзяржкантролем на іх, даць бой! Хай паспрабуюць нашу гісторыю не вярнуць! Можна зрабіць пакой з машынак: на паліцах няхай і —шыльдачкі.

— Абавязкова, і партрэты нашых майстроў слова. Але я не закончыў. Стаяць у падвале ў змазцы, сапраўды —хоць цяпер у бой —на літаратурны фронт! Гэта ж багацце —матэрыяльнае, духоўнае! Самі назвы гавораць з табой на мове гісторыі: «Бальшавічка», «Ударніца», «Камунарка»!

— «Ударніца» —з вялікай карэткай, электрычная? Гаргара. Малаціць па літарах было трэба.



— І прашу ўлічыць такую акалічнасць: ад НКВД —гэта хутчэй канфіскат. Мне трапілася папера архіўная. Калі арыштоўвалі членаў літзвяза, калі ў расход часам, машынкі на карысць дзяржавы забіралі, на склад НКВД. Самі карысталіся, лепшым уручалі, у каго з вынікамі было ў ажуры.

— Прычым тут НКВД? Мы ж пра машынкі гэтых пісакаў, якія на нішто спісаліся, уладу не любяць, мы ж пра цяперашні час гаворым!

— Правільна, а я тлумачу —адкуль яны, архіўныя машынкі. НКВД узнагароджвала лепшых следчых, хто найбольш ворагаў народа выкрыў. А хто больш дбаў, пратаколы допытаў друкаваў, у таго машынкі ляцелі як падэшвы ў пяхоты. Машынкі псаваліся як механізм, які ў рабоце пастаянна. Майстар быў у іхняй «Амерыканцы», рамантаваў. Ламаччам пазней ніхто не займаўся, аднойчы пісьменніцкаму звязу сказалі: бярыце, хлопцы, задарма, можа змайструеце штосьць.

— Дык гэта ж цэлая эпоха, дысертацыя з гісторыі развіцця літаратуры!

— Не толькі, гэта цэлы раман можа быць!

— А мне, калі шчыра, ніякавата робіцца. Як за пісаніну, за друк саджалі, навошта? Машынка не зброя, не кулямёт! Другое: калі мець яе, калі ўмець карыстацца —было злачынствам, як тады, адкуль браліся новыя аматары друкаваць вершы? Неверагодна! Хто іх мог навучыць карыстацца, НКВД?

— Адкуль яны маглі ведаць, што кагосьці пасадзілі ці ў расход?

— Як адкуль? Быў і няма.

— А можа памёр, ці мала паміраюць? Ніхто не застрахаваны, ніякія лаўры лаўрэацкія не ўратуюць. Вой, каламбур атрымаўся. Нават сёння —то некралог прачытаеш, то запар парачку.

— Паслухайце: газеты ж пісалі пра «ворагаў народа», працэсы судовыя друкавалі, стэнаграмы...

— Хто ж іх ведае, падабалася пісаць, відаць. Не забывайцеся: абвясцілі барацьбу з непісьменнасцю, усе граматныя сталі.

— А мне часам здаецца, як трусы ў пашчу да ўдава лезлі, як пад гіпнозам. На добры розум, машынка стала такім небяспечным інструментам, як сячкарня ці гільяціна, рыдлёўка

была лепшай ў тысячы разоў. Ужо лепей капаць, чым раман вымучваць.

— Капаць! А на «Беламор-канале» не хочаш?! Там ведаеш колькі народу закапана? І ўсе з рыдлёўкамі былі як адзін.

— З рыдлёўкамі, але некаторым далі ў рукі замест машынкі. Замест арыштаванай, якую ў падвалах НКВД трымалі.

— Скончым дурацкую размову, аб красным пісьменстве мова!

— У мяне пра машынкі яшчэ не ўсё. Я хацеў сказаць пра новыя, пра свежыя машынкі, якія ў змазцы, таму што ў мяне ёсць прапанова...

— А я прапаную інвентарызацыю: колькі «Камунарак», «Бальшавічак», колькі «Ударніц» і «Энтузіястак». Падлічыць, стан ацаніць, якіх дэталяў не хапае, каб мець дакладнае уяўленне пра «парк машын».

— Але спачатку разграміць пісак, ключы, замок у іхніх руках пакуль...

— Не: спачатку лічба машынак, размеркаваць і не прымаць больш нікога, каб не было лішніх, «безлашадных», каб ніхто не быў пакрыўджаны, не адчуваў сябе другім гатункам. А то: ты член і я член, але ў цябе ёсць машынка, а ў мяне нямашака! Дзе справядлівасць?

Так, жарсці распальваліся.

— Скажыце, дзе роўныя ўмовы для вясковага жыхара са сталічнікам?! Дайце машынку бясплатна і я перакулю свет! Я пакажу, што слёзы кракадзілавыя праліваць на гарадскім асфальце —брыдка! Я сродкамі літаратуры пакажу. (Гэта я зноўку звярнуў увагу на дыскусію дэлегатаў, сярод якіх апынуўся). Дайце мне машынку, прашу вас! Дзеля ўсяго святога!

Яны яўна не здолелі паставіць птушку ў парадку дня насупраць пытання аб прафесійных варштатах. Не маглі ніяк падзяліць машынкі. І дакладчык не хацеў здавацца. Ён вывучыў машынкі нібы археолаг, які расшыфраваў надпісы на антычных амфарах і пазнакі на каменных сякерах! Напраўду? Я зацікавіўся. Чалавек вызначыў па нумарах на дэталях машынак: каму яны належалі, калі былі арыштаваны і ў якіх следчых апынуліся. Пашкадаваўшы на словах час дэлегатаў,



паабяцаў падрабязнасці надрукаваць у акадэмічным часопісе, але не спыніўся. На фабрычных шыльдачках некаторых машынак, а таксама на дарчых —«Ад Саўнаркама...» —ён знайшоў выдрапаныя пазнакі. Спачатку здалося, гэта —лічба значных твораў, надрукаваных на машынцы. Але прозвішчы былых уладальнікаў, членаў літаратурнага цэху, не давалі магчымасці пацвердзіць гіпотэзу. Адзін з расстраляных напісаў толькі адзіны раман, а два не скончыў, другі выпусціў тры кніжачкі вершаў, тым часам колькасць пазнак на машынках не супадала.

Даклад набыў ніякаваты, калі не мовіць: непрыемны прысмак. За кніжкі больш не расстрэльвалі, але падрабязны экскурс спараджаў у душы цьмяны несвядомы сумнеў. Усё ж лепей бы іхнія машынкі хавалі разам з імі, клалі ў магілу, як калісьці меч побач з ваяром ці гаршчкі ў адной яме з ганчаром, які іх вырабіў, падумалася мне. Машынку —у магілу было б больш па-людску. Аднак іх працягвалі мучыць, вытрасалі душу, замест раманаў друкавалі вусцішныя пратаколы. Як яна чулася, механічна пішучы, сцяўшы зубы, несусветныя прызнанні свайго ўчорашняга гаспадара, найлепшага сябра, які любіў яе, дбаў, пяшчотна звяртаўся да яе? Яна пачынала з глузду з’язджаць: раней выпадала часам вымушана лайдачыць, а цяпер гарбацілася без выхадных, без сну, у следчых з натхненнем праблем не існавала. Прамоўца перакінуўся на падрабязнасці, на лічбы, хоць абяцаў устрымацца...

Небаракі! Я адхінуўся ад кніжкі, адчуўшы зноў гук трыбуннага мікрафона, нібы вату з вушэй выняў. Гаварыльня не спынялася, знаўца пісьмовых машынак дайшоў да разынкі сваіх росшукаў:

— Я зрабіў адкрыццё, дарагія сябры, аб чым марыць кожны даследчык, кожны гісторык краснага пісьменства! На шыльдачках машынак, якія захаваліся дзякуючы НКВД, толькі два віды пазнак. Я амаль адразу звярнуў увагу. Рыскі вертыкальныя і крыжыкі, яны таксама на рамах выдрапаны. Ніколі не здагадаецеся! Але я здаўмеўся: калі лічба пазнак не супадае з колькасцю напісаных кніжак, дык трэба пашукаць у тых, каму дасталіся машынкі, калі гаспадароў арыштавалі. І —супала! Яшчэ чакала праца, архіўныя пошукі, але я высветліў, што

проста рыскі —гэта колькасць прысудаў. Калі паэт заставаўся жывы, звычайна давалі дваццаць-пятку, чвэрць стагоддзя, можна сказаць. А вось крыжыкі —гэта куля, гэта ўсё. Шкада, канечне, але вынікі навуковага пошуку пра гэта сведчаць. Гэта нібы засечкі снайпераў на прыкладзе.

Дакладчык разважаў: так, шкада, што ўладальнікаў няма, і нават магіл, але захаваліся машынкі, на якіх хай не адновіш колішнія раманы, не дапішаш незакончаныя, аднак мы цяпер ведаем каму канкрэтна належала машынка, значыць гэта мемарыяльная рэч, помнік пісьменніку...

Мне сталі мроіцца бронзавыя, гранітныя галовы літаратараў на друкарках, нібы бюсты на пастаментах. Я ўявіў пісьменніцкія могілкі: на гранітных плітах пішучыя машынкі —«Ударніца», «Бальшавічка», «Камунарка», а ў кагосьці нават «Ундэрвуд», калі паходжанне не вельмі, не чыста рабоча-сялянскае. А ўсім дэлегатам я б паставіў хутчэй «Энтузіястак», гэта апошні выраб, найбольш сучасная машынка, якую сацыялістычная радзіма выпусціла незадоўга перад смерцю. Яна не архаічная «Бальшавічка», але ж таксама —пабочны прадукт аграмаднай махіны вайсковай прамысловасці, якая тавары народнага спажывання выпускала ў вольны ад асноўнай работы час, пасля вялізных танкаў, атамных субмарын, бомбаў ды іншага дынаміту. Асноўныя тавары, як паўсюль сцвярджалі, былі не горшыя ад буржуазных, а вось астатняе, шырспажыў, тыя ж машынкі для газетных артыкулаў і раманаў, як, зрэшты, і самі газеты ды раманы, не маглі задаволіць замежнага спажыўца, прызначаліся выключна для ўнутранага рынку.

Мне захацелася падлічыць пісьменніцкія галовы. Колькі спатрэбілася б машынак, каб хапіла на ўсіх, каб нікога не пакрыўдзіць? Магла б атрымацца грандыёзная сцэна: кожнаму выдалі «Ударніцу», яны з імпэтам пачалі друкаваць вершы і замалёўкі. Дакладчыку трапілася гаргара, ён лупцуе па літарах прамову пра следчых, якія не злазяць з карка, калечаць машынкі, нечакана ратуючы іх ад здачы ў ламачча, пакідаюць яшчэ прытомнымі, хай у інвалідных вазках, на мыліцах, прыкаванымі да ложкаў. Тым часам у маіх мроях прэзідыум дробна выстуквае свае рэзалюцыі ды пастановы.



Раптам бух «Камунарку» на каленні: карыстайся, не змарнуй даверу! І я, нечакана для самога сябе, клац-клац адным пальцам. Узнімаю галаў і бачу: зала нагадвае нібы гіганцкае машбюро самай галоўнай газеты вялікай сацыялістычнай радзімы, дзе друкавалася артыкулаў у дзесяць-дваццаць разоў болей, чым можна было змясціць у нумары. Каб выбраць геніяльныя! У нас вельмі высокі крытэрый адбору, у нас найлепшыя з найлепшых пёраў краіны!.. Маніш-маніш, думалася мне, ведаю вас як аблупленых: заўтра —больш, чым учора, пагоня за лічбамі. А спаборніцтва паміж машыністкамі?! А нормы выпрацоўкі? Хутчэй-хутчэй-хутчэй!

Божа мой, што робіцца: мы выбіваем са сваіх «Ударніц» усю душу, нібы прапылены кілім. Што азначае наша нясцерпнае стракаценне? Прызабытую сімфонію сацыялістычнага будаўніцтва? Выкрыванне ворагаў унутры літаратурнага працэсу? Якія пішуць не тое, не так, пішуць з камнем за пазухай? Скурай спіны я стаў адчуваць, што з хвіліны на хвіліну можа прыехаць НКВД, высмыкнуць надрукаваныя аркушы з партытурай, арыштаваць машынкі. Выкрыта падпольная арганізацыя механічных друкарак! Мне ўжо вядома, што ў іх там цэлы аддзел пішучых машынак! Так-так, сховішча арыштаваных друкарак, навуковыя супрацоўнікі-следчыя. Дасье на кожную: колькі й чаго, якіх антысавецкіх твораў паспелі надрукаваць схаваныя ворагі, двурушнікі ў пралятарскай літаратуры! У дасье ўлічана ўсё да дробязі: імя ўладальніка, біяграфічныя дадзеныя, звесткі пра сваякоў, пра маральна-палітычны стан, ідэалагічнае аблічча ды іншыя агентурныя паведамленні. І дадзеныя пра сакрэтных супрацоўнікаў і следчых, якія вывелі на чыстую ваду, выкрылі яго разам з ягонай «Бальшавічкай» на пару. У нас выдзіраюць з рук машынкі, як дзяцей у матак карнікі ў ваенных кінафільмах, брудна лаюцца, што гаргары цяжкія, цягнуць у «варанок» з закратаваным акенцам. Хаця, на добры розум, прасцей было прымусіць гэта рабіць нас саміх. Дубовыя галовы! Не паспеў я падумаць, мяне выцягваюць за каршэнь, і я з несусветнай палёгкай апынаюся зноў на сходзе, абуджаны званочкам старшыні прэзідыума! Ачмурэла гляджу вялізнымі, нібы акуляры, вачыма перад сабой, нагінаюся, па-

дымаю з падлогі кнмжку. Сяджу я на галёрцы ў самым куту, можна зручна прытуліцца да сценкі і не надта сачыць за трыбунай. Па інерцыі апатычна думаю пра падпольную арганізацыю друкарскіх машынак, пра Саюз вызвалення ад непісьменнасці шляхам друкавання любых папер, дакументаў, любоўных лістоў і шпаргалак, а таксама, само сабой, агентурных паведамленняў, бо органы НКВД ніколі не памыляюцца! Гэтыя словы ў маіх думках выпісаны залатымі літарамі на фасадзе «дома з вежай», які традыцыйна называюць яшчэ, праўда заўжды шэптам, «жоўтым домам». Так, яны не памыляюцца ніколі! Небяспечная вольнадумная арганізацыя пісьмовых машынак, якія час-часам збіраюцца ў адным месцы разам са сваімі гаспадарамі, каб закідаць горад тысячамі ўлётак. Што ў тых улётках? Безумоўна крамола. Якая? А такая! Напрыклад «... твой народ дачакаецца залацістага яснага дня!»

Выкрыванне ворагаў унутры літаратурнага працэсу заразлівая тэма. Вось яны штось мышкуюць, выдумляюць дыверсійныя чыны, сабатажныя здарэнні, недарэчныя выпадкі, хаця б дробныя прыкрасці. У машынках пачынаюць западаць цвёрдыя знакі, «шча», тмутараканскія падвойныя «і», «ха» пачынаюць танчыць нібы нападпітку. Слова «правадыры» яны адбіваюць правакацыйна з маленькай літары. Замест «ха» друкуе «гэ» і наадварот, блытае «а» ды «о». Эпідэмія няўхільна распаўсюджваецца сярод машынак, нават калі яны не мелі паміж сабой ніякіх кантактаў —пацалункаў і гэтак далей, не елі з аднае місы. І запомніце, зрабіце сабе засечку: органы НКВД ніколі, чуеце? ніколі не памыляюцца! Ат, задурыў вам галовы сваімі мроямі.

Хтосьці на трыбуне ўсур'ёз узяўся за рэвізію «машыннага парку», пачаўшы здалёк: памятаеце, дарагія таварышы? Раптам скончылася халодная вайна, а ў нас танкаў, ракет, самалётаў на сто гадоў наперад. Але далі рады: што прадалі, што задарма мусілі, танкі аўтагенам рэзаць па-жывому пачалі. А з машынак —ці шмат жалеза? Засталіся на пісьменніцкім складзе.

— На машынцы трэба ўмець. Гэта як з падставамі мастацтва, трэба класічным жывапісам авалодаць, а тады ўжо маляваць абракадабру. Калі закарціць, канечне. Без падмуркаў няма будынка! Замкі на пяску нам не патрэбны!

— Машынкі нашы былі не такія зграбныя, але больш-менш надзейныя, запчасткі знайсці можна было. «Маўзалейная», «Марзянка», «Бальшавічка». Прасаў нарабіць з іх? Як мячы — на арала?! Трасцы вам! Самі назвы святыя.

— На складзе яшчэ бюсты затаварыліся, гэта цяпер таксама нашы трафеі. Сто гадоў пыляцца ў падвале, пазелянелі. Ёсць, напрыклад, магчымасць выдаць Кукушкіна і Пахлёбкіна. Былі яшчэ Якуб ды Янка, іх нацыяналісты разабралі, ледзь не пабіліся, усім не хапіла.

— Зараз нам будзе неабходны літтрыбунал, каб судзіць. У нас цэнзуры не было, у нас быў «Галоўліт»! Але ўстанова патрэбна абавязкова, якая ставіць ідэалагічны знак якасці: праверана, мін няма! Будзьма іхнія разглядаць опусы, паглядзім хто каго, каб не называлі нас больш рэваншыстамі. А то: прымаць не будзем, усё, што пішаце —камуняцкі рэваншызм! Ярлыкі прыляплялі! Як гарчычны пластыр.

— Мы іх саджаць не будзем, канечне, не той час, і ссылаць: няма куды. Але публічны, грамадскі трыбунал —абавязкова —на эшафоце шаблю над галавой ламаць, каб дапялі, што пісаць можна, а чаго не. І кніжкі —у машынку, на вермішэль пакроіць. Нам у аўтадафэ няма патрэбы.

— А я лічу, што пісаць у шуфляду —гэта дулю ў кішэні хаваць. Калі ты такі смелы, выходзь з адкрытым забралам, крытыкуй, змагайся з язвамі грамадства. Не будзь як той маладзец супраць авец...

— Правільна, дарагія сябры, пяро калісьці прыраўналі да вінтоўкі, мы на перадавой, у акопе, у тыле адседжвацца не збіраемся. Не тылавыя пацукі!

— Я сябе адчуваю на сапраўдным ідэалагічным фронце. Сам служыў калісьці ў хімабароне. А іхні Звяз аматараў літаратуры, ідэалагічных усіх дылетантаў —у каршэнь! У каранцін —ненадзейных, кнігі з душком. Дэзінфекцыя патрэбна.

— Мы апынуліся ў літаратурным завулку, у тупіку: наша хата скасабочылася пісьменніцкая, наш плот кніжны пахіліўся. Наш храм кніжны застаўся без іконы царкоўнай.

— Прагрэсіўныя пісьменнікі ўсіх краін —яднайцеся! Хто не залежыць ад грашовага мяшка, хто не жадае танчыць пад чужую дудку, хто хоча сам замаўляць музыку!

— Яны хацелі як гаспадары —у палацы літаратурным, але наша дарагая ўлада выспятка дала, на сметнік іх, сканфіскавала палац, каб яны там нацыяналізмам не займаліся, каб урад не крытыкавалі. Яны хацелі без нас, як паны, грэбавалі, а засталіся ля разбітага карыта, куды ім ніхто не падкіне бульбачкі, костку не дасі, не гаворачы пра цымусы...

Дыскусія пра далейшыя шляхі краснага пісьменства не сціхае, нібы шторм.

Увага дэлегатаў засяродзілася на сячкарні для паперы. «Мяхі напхаем, будуць матрацы. На іхняй пісаніне спаць, сны блакітныя бачыць! —ха-ха». Мяне зацікавіла сячкарня. Выглядала падобнай да вялізнага кухоннага камбайна. Не толькі дранікі рабіць, на розныя іншыя фокусы здатная. Цяпер у модзе шмат дзеянняў у адной скрынцы схаваных. Нібы чалавек-аркестр. Хаця яна нагадвала яшчэ напалам асадную машыну і перасоўны эшафот з гільяцінай. Жэрала —як у гіганцкай мясарубкі для вырабу папяровага фаршу.

На сцэне былі падрыхтаваныя стосы. Ніхто з дэлегатаў у працэдуры не ўдзельнічаў, машыну запусцілі механікі. Зала сцішылася. Калі кніжкі траплялі ў сячкарню вертыкальна, і вермішэль атрымлівалася часам як акравершы, але напісаныя ці вар'ятам, ці, прынамсі, вельмі дэкадэнцкім аўтарам. Гарызантальныя нагадвалі тэлеграфныя стужкі, падрыхтаваныя для наклейкі на бланкі...

Непрыемнае відовішча на сцэне, я бачыў, засмуціла нават самых зацятых прамоўцаў, што выкрывалі нацыяналістычныя творы. Лепей аднойчы ўбачыць, чымсьці бясконца чуць. Большасці, мабыць, было вядома, што застаялы тавар з кнігарняў конча трапляў у макулатуру на перапрацоўку, так было заўжды. Але ўбачыць на свае вочы дзейства, рытуал знішчэння кніжак, да гэтага не кожны быў падрыхтаваны насамрэч... Інжынеры чалавечых душ сядзелі ў задуменні. Яны на вачах зніякавелі. Кожны мімволі, не жадаючы сабе прызнацца, уяўляў, як вермішэльная машынка механічна прапускае скрозь



сябе іхнія ўласныя паэмы, эпапейныя раманы-дылогіі-трылогіі-пенталогіі...

Устаноўчы сход яшчэ не закончыўся. Трыбуна не сумуе ні хвіліны, плойма літаратараў згаладнела па вуснаму слову. Я бачу: хочацца нагаварыцца, нібы наступнага разу не будзе, ці яны не верацца ў паўторную магчымасць.

— Хачу машынку бясплатную! «Камунарку», «Ударніцу» — электра! Я іх люблю вачыма, пальцамі: вялізныя, грунтоўныя, нібы напраўду грудастая кабета —перадавічка дзябёлая...

Я заплюшчваю вочы: сячкарня, нібы мясарубка для паперы, робіць кніжны фарш... «Кнігажэрку» адцягнулі за кулісы, але яе відарыс ужо адбіўся ў свядомасці, выдрукаваўся на сятчатцы, застаўся ў табе фотанегатывам.

— А папера ў іх якая? Шэра-чорная якаясьці! Яны гаварылі, ім свабода важнейшая за ўсё, на мітынгах выступалі, на трыбуну лезлі пішчом, мікрафон з рук вырывалі! Улёткі вершам пісалі! Свой талент растрачвалі! З гэтымі крыкунамі спаборнічаць —дурная справа!

— А ці быў талент?!

— Ды няхай, не ўсе ж там страчаныя для літаратуры. Можа хто да нас папросіцца, я прапаную не адмаўляць, даць магчымасць справіцца.

— Трэба не на мітынгах распальваць нездаровыя эмоцыі, а выкрасаць у народзе іскру надзеі, веры і любові, заклікаць працоўныя масы да ўдарнай працы, каб даказаць перавагу нашу спецслужбам, якія акапаліся ў іхніх рыгсдагах, рэйсратах і увогуле рэйхстагах. Прабачце дзеда за старамоднасць, але — больш малака, больш чыгуна, хлопцы, угнаенняў! І тады будзе як у песні: сягоння стала лепей, чым учора, а заўтра будзе лепей, чым сягоння!

Апошні прамоўца рабіў уражанне патрыярха, які мог памятаць яшчэ літаратурныя працэсы, расстрэлы, арышт машынак і пераразмеркаванне іх паміж карнымі установамі. Яго прывезлі ў інвалідным крэсле, быццам, каб паўзіраўся на вяртанне акопаў на літфронце, дзяльбу трафеяў і святкаванне перамогі. Зрэшты, выглядаў ён даволі дзіўна, крыху можа нават павар'яцку. Я раней яшчэ мімволі звярнуў на яго увагу, але сам

ён пра адыёзныя часы арышту машынак не ўспамінаў, ды не прэтэндаваў на трафеі са складу друкарак. Дый на трыбуне не ўсе крыўдавалі ўголас, гучалі й цікаўныя меркаванні.

— А памятаеце: кнігі на талоны за макулатуру —за газеты здадзеныя? Вось з іх і рабілі паперу, на якой друкавалі літаратуру потым. Кругазварот. Каб не было «Праўды», атрымліваецца, не было б і «Гулагаў»!

Я прыгледзеўся бакавым зрокам: сусед крэсліў у нататніку шыбеніцы з павешанымі фаліянтамі...

— Свабода, дарагія таварышы, хачу нагадаць, —не анархія, не усёможнасць, яна —усвядомленая патрэба. Няможна быць цалкам адрэзаным ад грамадства, ад дзяржавы. Асабліва датычыць нас, пісьменнікаў, мы ўсведамляем адказнасць за друкаванае слова, як ніхто іншы не ўсведамляе. Машынку трэба ў надзейныя рукі.

На чыгуначных станцыях, паўстанках мне даводзілася бачыць зусім не могілкі паравозаў, не музеі, а дэпо пад адкрытым небам, дзе стаялі закансерваваныя жалезныя гаргары, цэлыя счэпленыя ланцугі, эшалоны з адных паравозаў, нібы чакаючы свайго часу, каб зрушыцца, пакінуць «запасны пуць». Дзіўнае відовішча ў часы «еўраэкспрэсаў». Раптам мне стала відавочным, што гэтак жа недзе стаяў вагон з арыштаванымі машынкамі... Перада мною патыліцы да самага прэзідыума: плечы і галовы, нібы бюсты задам наперад. Мая уява пачала маляваць машынкі-галовы: акуляры, вусы, бакенбарды, літарынкі-зубы, прычоскі, парыкі, а потым —кепка, капялюш, берэт, шапка, пыжыкавая, заечая.

Новы паварот: дэлегатам прапанавана падзяліць бюсты. Каму паэта, каму Дзяржынскага.

Я сеў у цягнік без машынкі, на ўсіх не хапіла, але ў рукзаку быў членскі бюсцік Фелікса Эдмундавіча. Паэтаў на ўсіх не хапіла. Меланхалічна падумалася: а ён жа першы і ўзяўся за паэтаў, якія не так пісалі, не тое гаварылі і зусім ужо безнадзейна кепска думалі, хоць і моўчкі... Які я ўсё-ткі песіміст, халера.

Пачутае на літсходзе не адпускала ў дарозе.

Мне думалася: а можа больш сумленна было б машынкі — таксама ў цялячыя вагоны ды ў тайгу, вечную мерзлату, разам з пісьменнікамі? Хаця многіх забівалі адразу, каб магіла хоць і безназоўная, нават без капца, але косткі ў роднай зямельцы... І ў пратаколах больш сумленна было б пісаць: за валоданне машынкай, за тое, што карыстаўся, друкаваў, меў небяспечныя сувязі з ёю. А не за міфічны падземны лабірынт. З фармулёўкай у пратаколе: «за намер вырыць патаемны калідор пад мяжою да ворагаў».

Мастацкія фантазіі следчых не ведалі межаў. Яны (прынамсі некаторыя з іх) таксама маглі марыць пра пісьменніцкія лаўры, пра «Вайну ды мір». Але ўсведамлялі шостым чэкісцкім пачуццём, што калі возьмуць арыштаваную машынку дахаты, пачнуць з ёй у сяброўства гуляць, браты па зброі наклацаюць адным пальцам: здрадзіў сацыялістычнай Маці-радзіме, ідэалам роднай бальшавіцкай партыі з машынкай ворага народа, паходжанне якой буржуазна-дарэвалюцыйнае. Яшчэ горш, калі саштукавалі яе ў замежнай краіне, бо яны ўсе да адной зацятыя ворагі нашай пралятарскай рэспублікі. Апроч, зрэшты, Мангол-Шуудана, але там, у дзікіх азіяцкіх стэпах, нават не чулі пра механічнае пісьмо, там яшчэ толькі важыліся змагацца з усеагульнай непісьменнасцю, амаль суцэльнай, як азіяцкая ноч.

Машынка, калі параўноўваць з намі, адначасова галава і рукі. Чалавек у інваліднай калясцы? Не ведаю, так я не меркаваў. Сапраўды, няма толькі ног. Я лічу: ногі непатрэбныя, рухацца ёй неабавязкова. Яна не ўмее толькі танчыць, хаця гульня на клавішах, канечне, танцы нагадвае. А таксама бег на месцы. Машынка думае, яна здольная разважаць, вобразна мысліць, у яе развіта фантазія, яна можа гаварыць, нястрымна балбатаць, ты не паспяваеш запамінаць, па хуткасці не можаш спаборнічаць. Ты побач з ёй запаволены тугадум.

Заплюшчваю вочы: твар, нешта знаёмае, не магу ўзгадаць. Пачынае гаварыць. Каб яго спыталі наконт апошняга жадання, ён, бадай, сказаў бы пра машынку. Каб іх пахавалі разам. Хаця гэта эгаізм. Яна яшчэ жывая, супраць яе прысуду няма, ёй яшчэ жыць ды жыць, толькі змазаць. З другога боку, яму вядома наперад, што яе схопяць у палон, будзе эксплуатаваць энкавэдыст, друкаваць прысуды, працягваць забіваць братоў

па пяру, на любімай друкарцы. «Прыкра, і цяжка думаць пра такое. Пагатоў у гэтай краіне, пагатоў у НКВД ніколі не цікавіліся апошнім жаданнем», твар знікае, я не паспяваю ўспомніць, каго бачыў.

Вусцішна, такога яшчэ не было, каб машынкі судзілі: на ёй быў надрукаваны «Архіпелаг»! Уяўляю: суддзя з сакратаром, пракурор у сінім мундзіры са срэбнымі пагонамі, адвакат, рэпарцёры. Небарака-машынка ў клетцы з тоўстых прэнтаў. Абапал клеткі два ці тры сяржанты з пісталетамі, хаця іх можа быць і болей, калі машынка надта ж небяспечная... З пісталетамі, з гумовымі друкамі, электрашокерам, газ-балонікам і кайданкамі ў чорных скураных похвах.

Я прыплюшчваю вочы, пачынае мроіцца... Друкарцы выдзірае з яе сківіц літары супрацоўнік НКВД. Ламае рукі-падвагі, выкалупвае вочы —на гузіках пад пластыкавымі кружочкамі фотаадбіткі. Калечыць, знявечвае машынкі па чарзе, спраўджваючы ступень віны па пратаколу адносна гаспадара: што за творы друкаваліся?

Машынка, яна амаль як чалавек, толькі механічны. Галава, рукі, няма толькі ног, ног, каб рухацца самастойна, падарожнічаць па замежных гарадах, самой збіраць уражанні для будучай кнігі. Ног, каб бегчы, каб адарвацца ад пераследу, знікнуць з вачэй усюдыбачнага НКВД. Яна вымагае чалавечых рук, каб надаць рух сваім думкам, каб ажыццявіць, зрабіць відавочнымі, рэчаіснымі задумы. Рук, каб як з дзіцём ці з катом уцячы ад небяспекі, каб схавацца разам —у бомбасховішчы або вясковай хованцы, у партызанскім лесе. Каб засцерагчыся, уратавацца ад нападу авіяцыі, ад пажару, ад карнай аблавы.

Я працягваю думаць аб ёй, як аб жывой істоце. Язык яе татуіраваны літарамі —адным рэзкім рухам высмыкнуць белы аркуш з чорнымі адбіткамі, са словамі, фразамі. Учапіцца вачыма. У аркуш з маналогамі, размовамі, спрэчкамі. Са смехам, з лямантам, з енкам, віскатам. З лаянкай, з абурэннем, словамі падзякі, плачам... Яна не радыё, яна крыкма крычыць моўчкі.

У яе толькі лапкі нібы ў сфінкса, каб трымацца моцна на сваім месцы. Каб прырасці да стальніцы як грыб, хутчэй нават як дрэва, каб укараніцца трывала і даваць плады. Як у сфінкса



або ў ката, калі ён сядзіць на жываце, а не ляжыць, тады яны ў яго робяцца падцятыя і кароткія.

Зняволеныя машынкі, забароненыя кнігі, спаленыя рукапісы. Мне пачынае думацца, што ўсё гэта —гісторыя нашага мастацкага пісьменства —кніжачкі выдадзеныя, недапісаныя раманы, арыштаваныя рукапісы, знішчаныя машынапісы, допыты, мардаванне, расстрэл аўтараў, арышт, гвалт машынак —з’яўляюцца не проста фантасмагарычнай дзеяй, а недарэчным, алагічным ланцугом падзеяў.

Перажываць за тое, што здарылася, прагна чытаць тое, што ацалела? Колькі можна? Навошта?! Ці не лепей зашмаргнуць фіранку, апусціць заслону, узяць з шафы кнігі той краіны, дзе літаратура была літаратурай, кнігі —персонамі грата, аўтары —паўнацэннымі людзьмі, не парыямі, не камікадзэ, не шыбенікамі? Дзе не хапалі машынкі, не трымалі за кратамі, не каталі. Дзе літаратурай апекаваліся хто заўгодна, толькі не НКВД... Забыцца як на жахлівы сон, выкінуць з галавы падрабязнасці, сцерці змест. На халеру мне ўсё гэта? Не хачу! Досыць! Да д’ябла! Чаму, чаму ніхто не ўцякаў? Іх хапалі як трусоў! А ты хаця б паспрабуй, выйдзі здому, нібы на працу, а сам на станцыю. Ад’ехацца далей, сысці ў бязлюдным месцы і хутчэй у лес... Уцёкі з машынкай —як у сне, калі ногі не бягуць, па-здрадніцку падгінаюцца. Сабатаж, непадпарадкаванне! Ногі зрабіліся хадулямі, шарнірамі, амаль што мыліцы. Ты —жалезны дрывасек, які не змазаў сабе каленні перад дажджом.

Новы паварот у думках: а раптам тыя, хто ацалеў, каго выпускалі пасля катаванняў, допытаў, каму пашанцавала, друкавалі даносы на калегаў па цэху, бо пісаць ад рукі не жадалі (а раптам потым —праз пяцьдзясят, сто гадоў іх вызначаць графолагі?). Органы НКВД проста так нікога не адпускалі, нікога ніколі не пакідалі ў спакою, калі ён ужо аднойчы трапляў ў іхнія сеткі, у іхнія пасткі. Асабліва падазрэнне выклікаюць тыя, у каго потым выходзілі новыя кнігі, гэта пасля допытаў у НКВД! Сам факт свежай кніжкі.

Змест —зразумела быў які —хваласпеў, пакаянне. Хаця, пакаянне нават хутчэй на пісьменніцкіх сходах уголас, у цэнтральных газетах —крыкма!

Не, хваласпеву хапала й раней, да допытаў. Гэта называецца адчуваць скурай патыліцы. Усхваляць рэчаіснасць, выкрываць ворагаў і ненадзейных, пры патрэбе выдумляць іх, нават часцей і перш за ўсё выдумляць. Каб выяўляць энкавэдоўскую пільнасць на літаратурным фронце. Пагатоў навокал арыштоўвалі, знішчалі ў газетах, на сходах, учынялі грамадскія катаванні. Кагось проста кідалі за краты, ссылалі да белых медзвядзёў ці расстрэльвалі. Яны аднойчы знікалі. А органы НКВД справаздачы не давалі. Тым больш у газетах не паведамлялася пра змест іхняй працы.

Лічбы, паказчыкі зрабіліся сэнсам і зместам. Болей чыгуна, болей вугалю! Хто больш зловіць, «расколіць», забяспечыць «вышку». Вышукваць, вылоўліваць нікога не патрабавалася, проста хапалі, арыштоўвалі —па начах бралі цёплымі з ложкаў, заспаных, зляканых, прыгаломшаных. Усе наіўна лічылі сябе нявіннымі, жылі сцятыя страхам у чаканні: цот не цот, руская рулетка ў думках. Ніхто не рабіў спробы ўратавацца. Усе пакорліва чакалі сваёй хвіліны.

Сацыялізм —гэта ўлік і кантроль! Літаратурны аддзел гарэў у спаборніцтве: колькі паэтаў, колькі празаікаў, колькі драматургаў удалося выкрыць, схіліць да раскаяння, прымусіць супрацоўнічаць! А на трыбунах: пісьменнік павінен працаваць згодна плану, як НКВД, як усе нармальныя савецкія людзі — ударнікі, стаханаўцы! Не спыняйся на дне сённяшнім, будзь відушчым, выкрывай будучых ворагаў, якія не ведаюць яшчэ аб сваім намеры. Тых здраднікаў, што яшчэ толькі ў праекце. Як НКВД будзь і ты на крок, на некалькі крокаў наперадзе! Пільнасць у літаратуры самая надзённая задача.

Так, літаратура —гульня, але небяспечная, калі ў канцы заўжды прыходзіла НКВД... Я пачынаю нечакана паглыбляцца ў твань думак аб ёй.

Следчыя былі сачыніцелямі, яны імкнуліся да дасканаласці прызнанняў, аповеду, галоўным аўтарам якога былі самі, нават калі подпіс стаяў чужы. Ледзь нагрымзолены раструшчанымі пальцамі, якія яшчэ нядаўна чулліва датыкаліся да гузікаў машынкі, гулялі як па нотах па клавішах, мітусіліся, ператваралі звонку працу ў броўнаўскі рух, увасабляючы словы, што



ўзніклі з думак, у канчатковыя адбіткі літар, танчылі ў хвіліны найбольшага натхнення, азарту, імпэтнай гарачкі. Мэтай зусім ананімных для нашчадкаў аўтараў, якія падпісвалі свае сачыненні ў гэты момант чужой зраненай рукой, было ўсё зрабіць падрабязна, з дэталямі, з матывацыяй і пэўнай, скажам, літаратурнай логікай, з эмоцыямі, з багаццем пачуццяў, з раскрыццём характараў, з нечаканымі ўчынкамі ў тэксце, галавакружнымі паваротамі сюжэта, напружаным развіццём дзеяння, з фабулай, якую часам сапраўднаму пісьменніку не ўдаецца вымысліць, вынайсці вельмі доўга і нават сасніць не заўжды атрымліваецца. Так-так, з глыбокімі маналогамі, жвавым дыялогам, з неверагоднай, папросту нялюдскай шчырасцю, з немым лямантам. Празаікі і паэты маглі толькі пазайздросціць, але пры іншых акалічнасцях, не ў той момант, калі іх малацілі ботамі.

Паасобныя аўтары раманаў-допытаў любілі скупы строгі тэлеграфны стыль, мову загадаў, вайсковых статутаў, неадкладных распараджэнняў, неаспрэчных камандаў. Іншым падабаўся больш багаты стыль, разнастайная лексіка. Асабліва калі раптам сутыкаліся сам-насам менавіта з літаратарам з вядомым імем, якога неабходна было адпаведным чынам апрацаваць, падрыхтаваць, схіліць, выклікаць добраахвотныя прызнанні. Каб стварыць супольны твор на зайздрасць саслужыўцам. Вы ж разумееце?! Як часам не разгарнуць паўлінавы, ці хай пеўневы хвост! Каляровае пер'е моўных знаходак, моцныя эпітэты, сакаўныя метафары, сінанімічныя шэрагі, фразеалагічныя скарбы мовы, не звярнуцца да смакавітай народнай гаворкі, да асаблівасцяў дыялектычнага маўлення, калі натрапіш на земляка, напрыклад. Мы таксама не лыкам шытыя, не толькі лаяцца ды пагражаць умеем, таксама Пушкіна чыталі і Горкага Максіма, Беднага Дзям'яна, Талстога графа. «Не магу маўчаць!» ён напісаў. І правільна, і не трэба.

Хаця не варта захапляцца празмерна: сярод следчых часцей траплялiся графаманы, якім не хапала густу, цвярозай самаацэнкі, самакрытычнага погляду на ўласныя опусы. Але так заўжды бывае сярод уласна пісьменнікаў. Аднак калі чалавек дарваўся да машынкі, да паперы, да рэдактарскай ролі, яго

ўжо не спыніш. Ясна, такія не таленты, не геніі, хутчэй —шэраговыя майстры, рамеснікі. Іх, вядома, вабілі неадольна такія рэчы, як класавая барацьба на літфронце, унутры літаратурнага працэсу, у нетрах выдавецкага, у кнігазборах, кнігарнях, на сустрэчах з чытачамі, унутры твораў, у рукапісах, асабліва ў дзённіках, на пісьменніцкіх застоліцах.

Людзі ёсць людзі, яны кволыя, яны занадта жывыя, з плоці і крыві, з імі прасцей. Ідэя-фікс —выбіць, вытрасці паказанні з машынкі. Штосьці ж павінна заставацца ў памяці, як на капірцы —схаваныя тэксты,ператвораныя ў попел са страху творы. Сапраўдны страх —творы ненапісаныя, непрачытаныя, не прамоўленыя ўголас, недаступныя пабочным вачам, нікім не ўбачаныя, пра якія ніхто не даведаўся, не здаўмеўся нават. Толькі ўбачаныя надрукаванымі ў думках, унутраным зрокам, які здольны бачыць, чытаць у галаве. Затым —змікшыраваць, рассыпаць набор, заблытаць сляды, сцерці, забыць, задушыць у душы шкадаванне аб ненароджаным творы, аб забітым уласнай рукою рамане. Творы-фантомы, раманы-міражы, мары, мроі.

Пісаць у такіх умовах, сам занятак літаратурай —хаджэнне па лязу, няпэўныя крокі, балансаванне на канаце. Гульня ў ката і мыш, вечнае змаганне са страхам. Страхам, перш за ўсё не смерці, а —катаванняў. Гэта бывае страшней за смерць, якая —проста раптоўнае знікненне, ніколі не заўважаеш сам, не паспяваеш усвядоміць, адчуць. І нічога зразумець, толькі іншыя могуць гэта, якія бачылі цябе толькі вось хвілю таму звычайным, з якімі толькі што, напрыклад, размаўляў, смяяўся, абменьваўся поглядамі, утвараў адзіны жывы ланцуг, супольнасць, сябрыну.

Хтосьці сказаў: рай азначае адсутнасць выбару. Мы не можам вагацца: што рабіць з яблыкам? За нас вырашана: мы зрываем, адкусваем. Як зачараваныя. Але пекла —таксама месца без выбару. Выбар існуе толькі ў жыцці. Але яно нярэдка —зыбучыя пяскі. Мы ў нерашучасці: як зрабіць слушны крок? Ног толькі дзве, і разумных крокаў толькі палова прыблізна. І так будзе заўжды. Баяцца і пісаць, пісаць і баяцца, трымцець, забіваць у сабе страх, перамагаць уласную кволасць, маладушнасць, нетрываласць, патэнцыйны канфармізм, унутранага рэдактара, сябе-свайго цэнзара, ахвяру і ката ў адной асобе —у гэтым сутнасць творчасці.

А чаго баяцца яны, якія займаюцца сёння перападзелам пішучых машынак? І каго? Канкурэнтаў, заніжаных, на іх погляд, тыражоў і, асабліва, ганарараў? Зрэшты: што для іх найважней, найгалоўней —лічбы паасобнікаў, ці грошай? Хаця, яны, мабыць, застаюцца ў палоне старых стэрэатыпаў, колішніх ганарарных ставак, «відэльцаў», абавязковай залежнасці другога ад першага. Цяпер інакш: сапраўдныя тыражы наўмысна заніжаюць, каб меней спагналі падаткаў, аўтару стараюцца толькі даць за рукапіс, скласці дамову, каб не ўзгадаць пра магчымы прыбытак ад продажу. Забіваць у сабе страх —няма такой патрэбы, баяцца за неабачлівае слова, за неадпаведны твор, супярэчлівы погляд на падзеі —у іх такой недарэчнасці проста не можа быць. Не дзеля таго яны машынкі пераразмеркавалі, дзяльбу бюстаў учынілі. Халера, ажно стаміўся ад думак!..

Дома сасніў штось дэпрэсіўнае, хаця хапала урачыстых фарбаў (сны нямыя), як у рэквіеме Моцарта ці ў любым іншым пахавальным маршы. Не адразу, але здаўмеўся, што збіраюцца хаваць пісьменніка-патрыярха з інваліднай каляскі, якога бачыў на ўстаноўчым сходзе, альбо кагосьці з яго паплечнікаў, з шэрагаў «старой гвардыі», з лаўрэатаў Сталінскай прэміі.

Пешая працэсія, у руках кнігі, машынкі (калі прачнуўся, успомніў: чытаў аднойчы, што ён пісаў адначасова некалькі твораў, кожны —на асобнай машынцы). Так, вядома, перад нябожчыкам звычайна нясуць узнагароды на падушачках. (А магчыма таксама, калі паміраюць музыкі, аберуч —гітары, вінілавыя кружэлкі, звычайна класічна чорныя, скрыпкі...) Здаецца, за нябожчыкам у зеўру зараз пакідаюць кніжкі ды машынкі —імянныя, антыкварныя, музейную калекцыю. Нічога не магу зрабіць, ад мяне нічога, як заўжды, не залежыць. «Усё! Знята!» Што гэта? І раптам усведамляю, што гэта крычу я сам: «Знята, знята! Сфільмавана! На сёння годзе!»

# ТЫ —ТУЛАВА, РЭЧ, АБАЛОНКА

Месяц мінуў, дакладна месяц як ты зноўку апынуўся дома, як даведаўся пра смерць суседа, з якімі былі прыяцелямі, але не сябрамі, і, нарэшце, як табе споўнілася салідная лічба... Ты ўжо ходзіш кіламетрамі, працуеш як заўжды раней, толькі цягаць нічога і падымаць нельга. Ты можаш задаваць пытанні, фатаграфаваць, пісаць і успамінаеш тыя снежныя дні сярод вясны.

Я буду пятым, паздароўкаўшыся, паведаміў ты, займаючы сярэдні ложак справа ад дзвярэй, адзіны вольны. Сказаў і адразу змеціў пажылую кабету ў чорнай шаце. Другім разам трапляеш на аперацыю і сутыкаешся з каталіцкай манашкай. Хіба што някепская прыкмета, хоць і крыху дзіўнае супадзенне. Яе задача —сагітаваць на шпітальную імшу і споведзь.

Ты не быў яшчэ на велікоднай споведзі? Ну дык прыходзь абавязкова на «мшу свенту». Чаму не ведаеш? Я толькі прыйшоў, у мяне заўтра аперацыя. Такая прыблізна размова. Яна не задаволена. Для яе жыццё —малітва, ёй незразумела, як можна не жадаць спусціцца да ксяндза, які сам прыйдзе, не жадаць паспавядацца перад хірургічным нажом злашча? Безвынікова, яна знікае за дзвярыма не з расчараваным, з незадаволеным выглядам.

Хварэльня наводшыбе. Горад з адлегласці: сталагміты жылой забудовы, шэрасць, суцэльную бетоннасць якой расквецілі нядаўна фарбамі, каб воку было весялей, каб стварыць ілюзію сякой-такой разнастайнасці. Наша рака нябачная ў сваёй цясніне, але яна падзяляе шэрагі і купы дамоў-сценаў і гмахаўвежаў на дзве часткі, з якіх складаецца горад. Групоўкі будынкаў рознай вышыні не толькі ствараюць у паветры няроўны краявід з бетону і цэглы, але й самі паўтараюць няроўнасці ландшафту рэчаіснага —табе вядома, што той вялікі гмах за ракой сапраўды займае адзін з пагоркаў узвышша, якое пазначана на мапах іншай фарбай і на якім разрастаецца ўшыркі горад. Там, за ракой, твой райскі куток, змазаная выява, нібы трапіла назад у праяўляльнік...

Табе ўсунулі ў азадак гумовы тонкі шланг, ты ляжыш на левым баку і адчуваеш, як імкліва напаўняешся вадкасцю, цябе пачынае раздзімаць, раптам табе здаецца з фізічнай выразнасцю, што з лабка дробнымі кроплямі, як праз душ пырскае вада, але дзякуй богу —не, толькі здалося, твой жывот яшчэ не сіта. Ты ледзь паспяваеш дабегчы да гаршка.

Ты злуеш на сябе, што выгаліў толькі месца для будучага разрэзу і пазнейшага шнару і што не браў брытву. І табе зараз выдаюць казённую, каб ачысціў увесь жывот да пупка і нават часткова згаліў расліннасць на нагах. Але ж! Тое самае мусіць выканаць сусед, хаця яму будуць рэзаць не жывот, а нагу. Ён пасміхаецца на ложку, што сястра пасля не выклікала яго на праверку, як цябе.

Не есці, не піць, а зранку —зноўку клізма. Ты нібы парожняя бутэлька. Але гэтым разам табе літасціва дазваляюць пакарыстацца гаршком на месцы —«у клізменнай», на дзвярах напісана больш завуалявана —«маніпуляцыйная». А затым вусаты анестэзіёлаг, які знянацку размаўляе па-беларуску, і чаканне дастаўкі. Першым забіраюць суседа. Трэба галяком забрацца на каталку і накрыцца коўдрай. Дзве маладыя кабеты чакаюць побач.

Дзверы, парогі, калідоры, павароткі, ліфты, паверхі. А з тваіх вачэй адплывае белымі няроўнасцямі, лямпамі, падзеленая дзвярнымі перамычкамі, зігзажная рака калідораў. Якіх вы мужчын сёння возіце! —чуеш ты ў руху, словы ўмэнт адлятаюць, застаюцца ззаду. (Якіх жа, цікава —вусатых?) Гэта сказана самай сімпатычнай і маладой медсястры Машы, якая кіруе каталкай. Нарэшце вялізныя плафон з драпінамі ў аперацыйнай, пад якім ты амаль што спрактыкавана перабіраешся з каталкі на стол.

Навокал мноства белых халатаў, апроч медыкаў, студэнты і студэнткі, а ты нібы паддоследная жывёла перад імі. У цябе быў падрыхтаваны маленькі план: каб не засяроджвацца на тым, што цябе рэжуць, працягваць думаць над апавяданнем, якім займаўся напярэдадні. Напрыклад, прадумаць як

Бабілонскую вежу з карціны Брэйгеля закапалі, толькі вяршыня —над зямлёю... Аднак хірург вырашыў, што аперацыя будзе пад агульным наркозам, і ні пра што думаць не трэба. Табе робяць ужо другі ўкол. Пяць-дзесяць-пятнаццаць, мабыць, хвілін, табе робіцца амаль няёмка: хірург не можа пачаць тлумачыць студэнтам, анестэзіёлаг ніяк не можа знайсці ў цябе прыдатную вену. Сітуацыя ледзьве не патавая.

Цябе нібы які механізм, машыну, падрыхтавалі да рамонту —злілі рэшткі паліва, алей, пачысцілі забруджаныя часткі. Абязрушылі. Адлучылі акумулятар. Ты —тулава, рэч, абалонка. Ты —прадмет, на які навострылі скальпелі, вочы і вушы, каб запамінаць. Навокал чакаюць, калі ператворышся ў нячулую калоду, калі яны знікнуць для цябе, а ты, прынамсі як жывая істота, аднолькавая з імі, —для іх. Час, час, ты затрымліваеш іхні час, практычныя заняткі ў студэнтаў таксама паводле раскладу... Наркоз —часовая бадай смерць, прынамсі адсутнасць, ты не жывеш, не існуеш, цябе няма. Знянацку знікаеш, не паспяваеш заўважыць. Ні таго, як пачынаеш засынаць, ні таго, як гасне свядомасць і ты адлучаешся. Гэтак, напэўна, наступае і сапраўдная смерць, лепшы яе гатунак — смерць хуткая і лёгкая. (Твая істота дае нырца і не вяртаецца на паверхню. Усё. Нябыт).

Ты разрэзаны і зашыты, знутры зацыраваны бы шкарпэтка, прымусам пагружаны ў сон і вызвалены з яго. Апушчаны (ці, наадварот, узняты?) у бязважкасць, у непадкантрольны табе стан, зноў набыў цяпер вагу. На некалькі дзён ты прыкаваны да ложка і будзеш залежаць ад іншых: пачысціць зубы, вынесці судзіну з мачой, даць піць, талерку з ежай, хаця не, ад ежы ты адмаўляешся: не дай божа на гаршок рабіць у ложку. Годзе з цябе стararэжымнага эмаляванага з шырокім хобатам нібычайніка, які з цяжкасцю нахіляючыся трэба браць з падлогі і прыладжваць да свайго апатычнага «васьміножца».

Ты трапляеш у шпітальныя сцены, калі неба блакітнае, адкрытае сонца і даволі цёплае паветра. Цяпер, калі зноўку неба сіняе-сіняе, сонца яшчэ мацнейшае, і зрабілася значна цяплей —сапраўдная вясна, амаль пачатак лета, не знаходзіш слоў для раптоўнай зімы, што здарылася на Вялікдзень. Зрэшты, ты адчуў яе і ўбачыў чужымі вачыма —нібы праз вайсковую стэрэаскапічную трубу, лежма лежачы на сваім казённым ложку, амаль прымацаваным да яго.

Надвор’е змяняецца гвалтоўна: моцны вецер гоніць на ўсход уздоўж нябачнай ракі нагрувашчванні аблокаў, неба пакрысе робіцца аднастайным, суцэльнага шэра-сталёвага колеру, яно з цяпла нават выглядае халодным, зімовым. Хвалі моцнага ветру налятаюць на будынак, вецер скавыча, а батарэі пачынаюць разаграваццa. Неўзабаве ўжо хвалямі нясе снег, на які вы паспелі забыцца. Ён падае некалькі гадзін запар, а твае аднапалатнікі абмяркоўваюць лічбу прыпаркаваных абапал дарогі машын і людскі натоўп, што сабраўся да ўсяночнай на будоўлі царквы: сцены на некалькі метраў, крыху вышэйшыя за іх чатыры белыя калоны, пад’ёмны кран, стосы цэглы, блокаў, дашчаны плот.

Размова пра велікодныя яйкі, спрэчка —калі іх свянцяць — толькі ў суботу, ці ў нядзелю таксама? Званкі Андрэя сваякам і знаёмым, ён божыцца, што заўсёды робіць гэта ў нядзелю. Ён гаворыць пераканаўча, ты яму амаль верыш, тым больш насамрэч не ведаеш, як там у царкве робіцца. Ва ўсякім разе не ўзнікае сумневу, што Андрэй сапраўды свянціць яйкі, толькі сёлета не атрымалася. Увагу прыцягвае дом бацюшкі —грунтоўны і закончаны —памерам амаль з саму царкву, —гаворыць нехта, ты працягваеш «глядзець вушамі». Перад сном прыходзіць sms: «Са святам Уваскрашэння Езуса Хрыстуса! Смачнага Велікоднага яйка, шчасця і веры ў сэрцах»...

Наркоз —ты адлятаеш. Як газ, як сон, як светлы дзень. Знікаеш з уласнай свядомасці, як нібы памерлы, якога больш няма для самога сябе, які толькі ў думках, у памяці тых, хто застаўся...

Зазірае з суседняй палаты цікавы чалавек: іншых ён моцна «грузіць», амаль што раздражняе, а табе падабаецца яго слухаць. Ён таксама пасля аперацыі, але —лапраскапіі, калі жывот не рэжуць, а толькі пад скурай з дапамогай шчупаў аблытваюць адмысловай сеткай.

Задурыў усім галаву, а табе цікава. Абудзіўся, кажа, на стале, непрыемна здзіўлены: усіх бачу і раптам усведамляю, што

работу яны сваю яшчэ не закончылі. Адчуваю, як шкрабаюць па жываце... Быццам таркай жалезнай. Дайце наркоз! Няма, скончыўся. Што значыць скончыўся? Шукайце дзе хочаце! Не скандальце, мужчына, калі прывязуць у палату, дадуць укол. Калі гэта будзе?! Вы казкамі не карміце, дзе кніга скаргаў?! А рукі не слухаюцца, сам як лялька, толькі галава жывая, і недарэчная думка раптоўна: вось траплю дамоў калі ў рэшце рэшт, куплю любых смярдзючых сасісак у краме, без розніцы, налью шклянку, абы хутчэй, абы сапраўды дачакацца...

Наркоз —ці гэта цемра? Або, наадварот, святло? Хутчэй адсутнасць усяго і знікненне цябе самога: ніякіх сноў, ніякіх візуальных выяў, нічога. Ты часова вырваны быццам расліна з глебы, з рэчаіснасці, з гэтага жыцця, толькі тваё цела, твая абалонка на месцы, але табе гэта невядома, ты сам знік з яе, кнот прыкруцілі, агеньчык задыхнуўся, жыццё цьмее нябачна, нават з прыскам не параўнаць, у якім зіхацяць раз-пораз жарынкі. Гэта яшчэ можна назваць: залунаць і раствырыцца ў паветры, незаўважна, неўпрыцям, у імгненне вока, недаступнае чалавеку для фіксацыі, як хуткасць святла.

Разам з целам і свядомасцю зніклі час і свет: ложак, табурэтка, усе рэчы навокал, людзі і далей —вуліцы, мост, дамы, рака, увесь горад. Знікла неба, пара года, надвор'е і канкрэтны дзень, дата. Але насамрэч гэта ілюзія. Пагас толькі адзін тэлеэкран, гэта яго больш няма, на астатніх па-ранейшаму твары, натоўпы, рух, галасы: гамана, смех, жыццёвыя сітуацыі, калізіі, выпадкі, здарэнні, штодзённая плыня. Гадзіннікі перасталі цікаць, пясок прасыпаўся скрозь вузкае жэрала ў дольную колбу, набыўшы абрыс кургана ці піраміды, хісткую трываласць, атрымаўшы вонкавую раўнавагу пясчынак, падманлівую непарушнасць.

Сон, зрэшты нетрывалы, разрывае трэск неонавых лямпаў. «Христос воскресе! Подставляйте попки, мужчыны», —старaславянскія словы для цябе зусім нечаканыя. Уся палата, напалову сонная, падстаўляе азадкі чапурыстай медсястры з прэтэнзіяй... Пры канцы твайго шпітальства на сколатых галах не застанецца жывога месца, затое не адчуваеш свайго шнару. Ён не смыліць, адно нагадвае аняменнем. Двум з суседаў штодня ставяць кропельніцы, таму, што злева, Валодзю —па тры слоікі рэгулярна. Але што толку: ён дыміць як паравоз — перад ежай, пасля ежы, нават прачнуўшыся ўначы, бярэ пачак цыгарэт у прыбіральню.

Замяшанне на калідоры, чую чужыя каментары таксама, сам не здатны зрушыцца, хіба што здарыўся б пажар, землятрус, вайна. Звяглівы голас, скаргі, роспач, паўторы, паўторы, робіцца цяжка нават у зачыненым пакоі. Скандал у шпіталі яшчэ больш гнятліва дзейнічае. Да кагосьці прыйшла наведаць сваячка, але яна ненармальная, шкада, шкада, але хочацца, каб усё хутчэй закончылася. І табе паведамляюць, што прыбыла якаясь «брыгада», енкі перапыніліся, засталося пачуццё прыкрасці і няёмкасці. Напачатку ўсе маўчаць.

І пачынаюцца доўгія, цягучыя, але часам дасціпныя, смешныя шпітальныя размовы.

Ляжыш на шпітальным ложку і адчуваеш, як робішся бадай больш зграбным, і бачыш гэта —як худнеюць твае ногі і рукі. (Мара лайдакоў, худнець, не робячы намаганняў). Не бачачы, здагадваешся, як выцягваецца твой твар. Гэтак стайвае ў цяпле эскімо, меншае спакваля снег, знікае лёд... Пасля вячэры калектыўнае разгадванне крыжаванкі. Уначы сон —пакроеныя лімоны, апельсіны, сцюдзёная вада, засмяглыя вусны, матывы «Планеты людзей».

Сталоўка, першы твой абед стоячы, вас такіх некалькі, улучна з тым, хто ачуўшыся на хірургічным стале патрабаваў кнігу скаргаў, кашу ён ганіць, але патрабуе паболей у салдацкую талерку. Над домам бацюшкі ўтульны белы дым з коміна, пачынаеце ўголас уяўляць, якія павінны на свята там гатавацца кулябякі смачныя, распальваеце свае кулінарныя фантазіі. Андрэй без уступаў агучвае ўспамін як давялося быць хросным: бацюшка кажа —»Вой, штосьь галовушка мая разбалелася пасля ўчорашняга, гарэлачка не перашкодзіла б, не токма кагор. Пяць вянчанняў за раз —не жартачкі жартаваць...»

У здаровую канкурэнцыю за хворых уступае праваслаўны бок, аднапалатнікі прыносяць навіну: прыходзілі два мужчыны з крыжам у драўляным футарале і чамусь у камуфляжы, прынамсі адзін з іх. А неўзабаве расчыняюцца дзверы і незна-

ёмая дзяўчына ў хустцы цягуча-напеўна паведамляе, не звяртаючыся ні да каго асабіста, што сёння можна будзе замаліць свае грахі, бацюшка чакае ў актавай зале. Вочы яна чамусь адводзіць убок. Некалькі хвілінаў, і бачу на парозе ранейшую каталіцкую манашку, нават не заходзячы, яна азірае пакой, спыняецца на мне і незадаволена знікае.

Чалавек не можа не задумвацца, колькі пражыве, але ён не павінен спыняцца на датах, гэта небяспечна, падспудна пагражае тым, што ён не датрывае. І гэта не забабоны. Ён ведаў, твой сусед, што ўратаваўся тады, пасля свайго першага, даўнейшага інсульту, цвёрда згадзіўшыся на аперацыю са значнай рызыкай, але ўсведамляў, што гэта вялікая ўдача ў латарэі, якую ён выйграў. Але выйграў на час, ён таксама бадай не мог гэтага не ведаць.

Што ты дазнаўся пра яго гісторыю? Сцiслыя звесткі пра апошнія дні, за даляглядам якіх ён знік назаўжды. Інсульт. Кома. Два дні летаргіі. Высілкі дактароў. Вяртанне да прытомнасці. Прачнуўся, часова аджыў. Ён нават размаўляе. Цікава: ці разумеў ён, што гэта можа быць канцом? Прычым з вялікай доляй верагоднасці канцом? Напэўна ж, усведамляў. Хаця ў такое не хочацца ніколі верыць. Не хочацца згаджацца. Але ад цябе ўжо хутчэй нічога не залежыць... Паўторная кома і прызнанне дактароў: шанцы —самыя неістотныя, блізкія да нуля, на жаль. Трыванне на хісткай мяжы існавання й нябыту. Паступова, няўмольна пачалі спыняцца паасобныя органы, цела толькі звонку заставалася ранейшым, арганізм па частках адміраў. Ён пакрысе згас, ужо нічога не адчуваючы, яго пакінуў дух, скончылася жыццё. Каб не кропельніца, гэта б здарылася раней, амаль адразу. Яшчэ адзін беларускі голас змоўк назаўжды.

Кіно скончылася, але святло ў зале не запальваюць: чорна. Праўда, толькі для аднаго з гледачоў. Астатнія апынуліся на вуліцы, сярод гаманы, натоўпу: неба, трава, рэшткі сонца. Яны павінны даглядзець за яго, наколькі ўдасца: што там далей? Яму таксама хацелася гэта ведаць. Дажыць да «залацістага яснага дня», як сказаў паэт.



Збег акалічнасцяў: ён другім разам трапляе ў тваё апавяданне. Сапраўды аднойчы яму ўдалося выйграць, адцягнуць канец. Цябе не магла тады, тым разам, не ўзрушыць драма, якая адбылася побач: хісткае трыванне, трэпанацыя чэрапа, вельмі рызыкоўная аперацыя, абы не закрануць уразлівае шэрае рэчыва і —зноў сіняе неба, зыркае сонца, смарагдавая трава.

След ад хірургічнай пілкі застаўся бачным на галаве. І калі ты сустракаўся з суседам, міжволі табе ўспаміналася гісторыя даваеннага мадзьярскага пісьменніка, які працаваў у газеце. Двойчы калега, карацей. Зноў жа: праблемы з галавой, жудасны боль, які паралізаваў, амаль безвыходнасць, паездка на поўнач у сучасную стакгольмскую клініку, трэпанацыя, аперацыя на мозгу, выдаленне пухліны. Ён яшчэ пражыў пару гадоў, напісаўшы сваю найлепшую гісторыю —«Падарожжа вакол майго чэрапа».

Ты ведаў, што сусед чытаў цябе, ведаў, што ён крыўдлівы, не хацелася, каб падабенства было відавочным і ён пазнаў бы сябе, таму ты завуаляваў здарэнне з ім, яно добра пасавала да аднаго з апаведаў. Ён прачытаў тваю новую кнігу, прачытаў уважліва, і яна яму бадай спадабалася, мяркуючы па ўсім.

Пачакай, што пра гэта пісаў Камю? «Шчаслівая смерць» —што ён меў на ўвазе? Хутчэй маланкавая, імгненная, незаўважная для таго, хто памёр? Не паспеў асэнсаваць, усвядоміць. Не адчуў спалоху? Перайшоў, хутчэй пераляцеў мяжу паміж жыццём і смерцю, не заўважыўшы, нічога не зразумеўшы, не ў стане ўжо разумець увогуле, не здольны ні да чаго, бязвольны, аморфны, бязважкі, няясны для самога сябе. Раптоўная страта свету, страта ўласнага «я», наўсцяж белая роўнядзь, чысты аркуш паперы, на якім болей не будзе напісана нічога. Самапісец ў галаве спыніўся: ні фразаў, ні слоў, ні выклічнікаў.

Мэты абавязкова зафіксаваць свае шпітальныя ўражанні не было, не. Наадварот, табе хацелася адасобіцца. Самі падзеі сталі стукацца ў дзверы, складацца ў сказы і абзацы: раптоўная зіма на час твайго нерухомага існавання на хваробнай пасцелі, якая сканчаецца разам са зняволеннем у ложку. Ты ёсць, цябе няма, і нічога няма для цябе, гэта —наркоз. Узнікае жаданне акрэсліць свае адчуванні, а потым у аповед урываецца

смерць чалавека, якога ведаў, якога бачыў зблізку: усмешку, міміку, вочы.

Іншай нагоды не будзе, каб сказаць пра вашыя дачыненні, якія не былі зусім без шурпатасцяў. Ваш дом адпавядае геаметрыі трох вуліц адразу, і ў куце —супадзенне! —на адным паверсе вашыя вокны амаль побач —наўскасяк. Яму было неабыякава, што ў суседнім акне гарыць святло і нехта піша апавяданні, ён сам пра гэта казаў, прынамсі ўскосна. Ты таксама час-часам пазіраў на яго вокны, адзначаў, што пагасіўшы святло ён глядзіць тэлевізар. З нейкай супярэчлівасці ён, аднак, тармозіў друк адной тваёй кніжкі, знаходзячы нейкія адгаворкі. І калі яе нарэшце зрабілі, адразу быў арыштаваны друкарскі варштат. Ты ледзь не спазніўся ў апошні вагон, і невядома навошта яму ўсё гэта было... Застаўся прысмак.

І з апошняй кніжкай, праз некалькі гадоў, гісторыя амаль паўтарылася. Ты зноўку адчуваў бадай ці натурыстасць, ці нейкую рэўнасць. Але пазней, счакаўшы, ты падпісаў яму кніжку, і ён ацаніў жэст. Гарачы летні дзень, прахалода цеснай кавярні ў сутарэннях. Ты і твая кніга, чытачы, прадстаўляе яе ён, твой сусед, хаця ты нават не прасіў, каб не абавязваць чалавека. Для цябе нечакана: ты бачыш, што ён падрыхтаваўся і, галоўнае, ягоныя ацэнкі не супярэчаць тваім асабістым, здаюцца трапнымі, не хібнымі, не памылковымі, а гэта зусім не абы што, тым больш ён гаворыць штосьці новае пра цябе для цябе самога. Можа быць, ён быў якраз тваім самым уважлівым чытачом, можа быць таксама, гэта збег акалічнасцяў, але літаратурную кавярню неўзабаве раптоўна закрылі, і больш табе не ўдасца пачытаць свае апавяданні публіцы за столікамі з кавай.

Вашыя з ім здарэнні, так выйшла, наклаліся ў часе: амаль аднадзённа вы трапілі ў шпіталь, і калі ты пасля аперацыі варушыўся на ложку з ранай на жываце, ён вынырнуў на паверхню, убачыў святло, пачуў гукі, галасы, адчуў пахі, ачуняўшы пасля нябыту. Ты даведаўся па тэлефоне: «У Кастуся кепскія справы», калі ў цябе, наадварот, пачало загойвацца... Але калі ты нарэшце апусціў ногі з ложка і ўпершыню ўстаў, адчуваючы голкі ў ступаках, ён канчаткова трапіў у цемру і ўжо больш нічога не адчуваў. І дакладна ў той дзень, калі ты вярнуўся дахаты, першая навіна: толькі што яго не стала. На аднаго зацікаўленага чытача ў цябе стала меней.

Перасыпаўся дробны рачны пясочак у дольную колбу гадзінніка, і няма каму перакуліць яго зноўку, бо гэта можа зрабіць толькі сам чалавек —уласнай рукою. Альбо Бог. Але Бог, мабыць, стаміўся... Ці страціў надзею, разняверыўся, ты не ведаеш дакладна. Ніхто напэўна не ведае.

Шпітальныя дні —чарада ўзрушэнняў, прыкрасцяў, здарэнняў. Сярод ночы раптам за дзвярыма штосьці надзвычайнае: гвалтоўны ліхаманкавы рух, спалоханыя рэзкія галасы, якія дарма імкнуцца да сцішанасці. Сон перарваны, пачынаеш разумець, што хуткая даставіла кагосьці, што ён у небяспечным стане, што на аперацыйнай каталцы. Зусім нечакана дзверы рэзка расчыняюцца, трэскат газавых лямпаў, ты разумееш, што гэтага кагосьці хочуць пакласці побач з табой, ложак учора вызваліўся. Усё абвострана, кантрасна, ты не расплюшчваеш вочы, каб не бачыць, табе не хочацца. Апошнюю ноч у такім суседстве, а раптам з ім штось здарыцца, яму будзе кепска, стан пагоршыцца, ён пачне паміраць?! Медычкі гарачкава раяцца, амаль спрачаюцца, нарэшце хапаюць ложак, святло гасне, дзверы зачыняюцца. Ты разумееш, што ўсе чулі, усе не расплюшчвалі вачэй, усе ўздыхнулі з палёгкай. Узрушэнне за дзвярыма не спыняецца, заснуць немагчыма, робіцца зразумелым, што чалавеку будуць ачышчаць нутро з дапамогай клізмы, недзе рыхтуюць аперацыйную, надзвычайнасць у тым, што ён непрытомны, як можна здаўмецца...

Ён не прачнуўся і ніколі не даведаўся пра гэта сам. Але ж! Зрэшты, гэта самае простае, самае лёгкае, бяскрыўднае. Адносна сябе, ясна, адносна сябе толькі.

# ВАВІЛОНСКІЯ ВЕЖЫ

## 1

У вялікі шкляны празрысты кубак, у кафетэрый, насыпаю тры поўныя зялёныя лыжкі змолатай кавы. Саспеўшы яна падобная нечакана на брусніцы. Яе збіраюць лацінасы ў самбрэра, пражаць і ссыпаюць у радняныя мяхі. Чорнае кляймо зверху. Tchibo. Як у тэлерэкламе. Адзінай, якая падабаецца.

Панядзелак. Першы дзень пасля выбараў. Дождж. Напаўпадпольная прэс-канферэнцыя. Лічбы і факты. Парушэнні. Затрыманні на вуліцы, у натоўпе. Начныя вобыскі. Арышт у друкарні газетных тыражоў. Адлучэнне сувязі. Ордэры, пратаколы. Зброя, бронегарсэты, шлемы. «Цягліцы». У паветры, здаецца, запахла смажаным.

Хто ведаў, што чаканне цягам месяца-двух больш драматычнае за дзень пасля выбараў? Нават дзіўна. Стала амаль абыякава.

Я падышоў да вітрыны. Ён павярнуў галаву, стаяў разглядаў канькякі. Сусед, Раман. Ён пад уражаннем. Успамінае пра ўчорашні інцыдэнт на выбарчым участку. Яго здзівіла, што лісты выдачы бюлетэняў амаль пустыя. Зусім мала подпісаў. Мужчына ветэранскага выгляду ў куту дакладаў у слухаўку: палова прагаласавала да выбараў, «за нашага» павінна быць працэнтаў семдзясят.

Раман памылкова рэзка закрэсліў два лішнія прозвішчы. Як на ранейшых выбарах. І ўсвядоміў, што сапсаваў. Ступіў па інерцыі да вялікай чырвонай скрынкі. Раптоўна разарваў надвая, са словамі «усё адно няма сэнсу галасаваць». Выкінуць у сметніцу не паспеў. Да яго кінуліся з усіх бакоў. З калідору выбег міліцыянт з кабурай. Сталі хапаць за рукі, быццам ратуючы ад самагубства, лямантаваць, складаць пратакол. Падаспела падмацаванне, дзве машыны з амонам і цывільнымі.



Скажоныя карыкатурныя твары, гучная размова, пагрозы. Уразіла, што ўсе тыкалі яму, апроч чалавека ў цывільным, які захоўваў спакой і якому ўсе відавочна падначальваліся. Раман ведаў, што большасць членаў камісіі настаўніцы, і бачыў, што маладзейшыя за яго. Яны, альбо іхнія каляжанкі, хадзілі ў нашым доме па кватэрах, збіралі подпісы. Каб усё па закону. І нават мы распісаліся з Сабінай. Я амаль адразу зразумеў, што нешта не так, што яны хадзілі раней часу.

Ну, вядома: каб не трапілі чужыя людзі. Чым хутчэй. Апазіцыя, тая падпарадкоўваецца правілам гульні. Не мае іншага выйсця. Я адчуў сябе крыху ў дурнях. Праўда, я пажартаваў з імі: каб яны там у камісіі глядзелі, каб абралі нармальнага старшыню. Яны толькі пасмяяліся, як дэвоткі. Яны былі кідка накасмечаны і прычасаны. Не ведаю, ці распісваўся Раман, ён жыве на паверх ніжэй. Яго здзівіла, што ўся хеўра яму груба тыкала. Усё ж, ягоны сын ужо закончыў інстытут і адслужыў у войску. Усё ж, сам ён быў кандыдатам навук і дацэнтам.

Здарэнне закончылася нечакана амаль што хэпіэндам. Раман сказаў: прабачце, я выпадкова сапсаваў свой бюлетэнь, дайце мне, калі ласка, новы. І шторм раптам ператварыўся ў штыль. Землятрус сціх, пакінуўшы застыглыя грымасы. Расцяліся кулакі, змежыліся раты, філіпікі заглохлі ў глонаўках, разнапружыліся кайданкі і пісталеты ў кабурах. Лішніх бюлетэняў —колькі хочаш! Раман напісаў пад дыктоўку заяву. Стары пратакол разарвалі і напісалі новы, лагодны. На вачах ва ўсіх ён паставіў птушку ў кратцы і паведаміў прысутным, што галасуе за Крупеню.

Мы зайшлі ў пад'езд і размаўлялі яшчэ побач паштовых скрынак. Ванда, жонка, ужо ў Амерыцы. Солт-Лэйк-сіці. З самалёта яе сустрэла начальніца, у іх гэта прынята. Зрабіла палёгку: пералёт быў доўгі, можаце заўтра а восьмай не прыходзіць, адпачніце, але ў дзевяць чакаем. Вось так здараецца. Нядаўна яны ўсынавілі хлопчыка. І раптам выйгралі грант. Амерыка. Раман ужо наведаўся ў амбасаду, каб атрымаць візу. Я зразумеў, што ён не вернецца.

Напаткаў іх на пляцоўцы пяць дзён таму. Увечары а дзевятай. Яны толькі выйшлі з кватэры. Ён праводзіў. У яе быў кампактны чамадан-кэйс. Я пажадаў Вользе шчаслівай дарогі. Хуценька. Я спяшаўся, яны таксама. Незадоўга перад тым мы з Сабінай вячэралі, я вырашыў, што нарэшце можна разняволіцца і выпіць чарку брэндзі. Я так і зрабіў. Раптам тэлефон. У рэдакцыі «Рыцара на кані» Амон з аўтаматамі, вобыск! Бегчы, не скончыўшы вячэру. Скажонасць, абвостранасць успрымання, драматычнасць, павялічаныя кантрастам —вулічнай цемрай і электралямпачкамі ў памяшканнях. У завулках напагатове стаялі поўныя міліцэйскія машыны.

**2**

Камп’ютар закаркаваны немым лямантам са штаба апазіцыянера Крупені. Быццам кляп. Быццам тромб у артэрыі. Мой сціплы notebook не разлічаны на падобныя дэпешы. Два з паловай мегабайты! З сэрвера марудна, сутаргавым пункцірам перацякаюць да мяне няпоўныя тры мэсіджы і ўсё спыняецца. Доўгія хвіліны —ані зруху. А сувязь трывае, лічыльнік працуе. Прыкра. Усе гэтыя SOS-ы ў мяне нават не раскрываюцца. Увогуле пустышкі, чыстыя файлы. Чорт! І мне спатрэбілася інфармацыя ад іх толькі аднойчы. Калі Крупеня ездзіў у нас —дзе мабільная сувязь не працуе. Я спазняўся, але і ў штабе не мелі сувязі.

Я націснуў disconnect і пайшоў паслухаць пераможныя рэляцыі. Учора я ўсё ж выпіў брэндзі: пайшлі яны к чорту! Малдаўскае брэндзі аказалася цымусам. Узяў яшчэ чарку або дзве. Гары яно гарам! —як казаў мой дзед Панас. Пайшоў і лёг. У дваццаць тры пятнаццаць званок. Амон у другой рэдакцыі. У вас улёткі друкуюцца! Ананімны званок паступіў...

**3**

Я з’явіўся ў добрым гуморы. Чыноўнікі сядзелі напагатове. Для «пісакаў» месца амаль не пакінулі. Іхняя ўрачыстасць, іхняе свята! Мы —сведкі, госці, якім зроблена ласка. Доўгі стол з крэсламі абапал трыумфальна пуставаў. Перад кожным крэслам друкаваныя аркушы. Для яшчэ адсутных членаў камісіі, для герояў дня, якія вытрымлівалі паўзу. Каб пераможна ўвайсці з пунктуальнасцю. Члены выканкама сядзелі стомленыя перамогай. Я раздаваў усмешкі ім і тэлекамэрам. У мяне выклікала смех справаздача, камп’ютарная хуткасць, з якою падлічылі галасы.

Мы так дамовіліся: рабіць сабе прыемнасці. Хай сабе святкуюць. А мы пойдзем у краму і купім сабе кубкі з блакітнымі спodкамі. Паставім, запарым кавы і ўключым тэлевізар. І ў першыя хвілі не дамо веры сваім вачам. Руйнуюцца хмарачосы, Нью-Ёрк гарыць, хмары дыму над Манхэтэнам. Статуя Свабоды разгублена трымае халодную паходню.

І мы хутка прызвычаімся да тэлекашмару. І будзем глядзець яго да ночы. Пяць гадзін запар. Без перапынку. І міжволі будзем успамінаць галівудскія кінакатастрофы, у якіх усё бачанае сёння рэчаісна, было ўжо паказана ў падрабязнасцях. Дзеля забавы, дзеля касавага поспеху, дзеля таго, каб выклікаць цікавасць у перасычанай публікі, якой усё даўно нецікава. Дзеля «Оскараў». І штосьці за кадрам будзе каментаваць сам Том Клэнсі —аўтар заўжды аб’ёмных раманаў-катастроф, якія вокамгненна экранізуюцца.

Адны звесткі, аднолькавыя кадры будуць паўтарацца да бясконцасці. Зрэдку толькі штосьці новае. Напрыклад, што хакеры трапілі ў камп’ютарную сетку аэрапорта і напсавалі. Але хіба гэта навіна? Усё гэта мы ўжо бачылі з удзелам Стывэна Сігала. Недаследаваная тэма. Літаратура і жыццё. Тэрарысты шукаюць рэцэптаў у пісьменнікаў і кінасцэнарыстаў. А тыя ўжо гэтак вылузваюцца! Грошы! Поспех! Найменш драматычнае за ўвесь вечар паведамленне. Знікомым радком у доле экрану: сёння зачынены Dysneyworld у Фларыдзе і Dysneyland у Каліфорніі.

**4**

Назаўтра патэлефануе Мажэна. Прыходзілі ўчора міліцыянты складаць пратакол. Напалохалі дзяцей. Ваш сцяг бел-

чырвона-белы на балконе псуе выгляд будынка, гавораць. У іх на ўсе выпадкі ёсць артыкул. Калі не здымеце адразу, будзе штраф. Сцяг правісеў з дваццаць сёмага ліпеня. Але не, выбары закончыліся —усё. У тэлевізары ўсё гарыць, выбухае, руйнуецца, а гэтым сцяг перашкаджае. Яна ім сказала: пабойцеся Бога, мы ж беларусы, гэта наш нацыянальны сцяг. Галоўны з іх —маладзенькі лейтэнант ёй адказаў: «Я —атэіст і ў эту чапуху не веру, я большэ рускі, чэм беларус, патаму што мы ўсе славяне». І склаў пратакол. Падпісваць яна адмовілася.

Давялося паехаць у Фарштадт, на рынак, закончыўся kite-kat. Як жа так, гавораць, у нас тут ніхто не верыць лічбам. Але што я мог адказаць? У тралейбусе размаўлялі з каляжанкай. Пра «Рыцара на кані», пра «Дзяржаўную газету». Вялікую і каляровую. Якую перад выбарамі паклалі бясплатна ў кожную паштовую скрынку. Увесь нумар пра галоўнага кандыдата, гаспадара краіны Грызлова —і швец, і жнец, і на трубе ігрэц.

Дзве рэдакцыйныя дзівы вальяжна нахвальвалі, збудаваўшы фантастычны дыялог. Адна: па-мойму, ён такі магутны, як які-небудзь «боінг». Сапраўдны волат. Другая: альбо як «лётаючая крэпасць». Або нават як дзве «лётаючыя крэпасці», калі паставіць іх адну на другую і зверху яшчэ пару хмарачосаў! Астатнія кандыдаты побач з ім пігмеі... Якое супадзенне: «боінгі» і хмарачосы. Самае цікавае, адказвае каляжанка, што адна з іх мая былая аднакурсніца.

Калі я паклаў кату kite-kat, званок. У «Рыцары на кані» зноў вобыск, тыраж арыштаваны. І пачалі выклікаць на допыты. Такі тыдзень атрымаўся пасля выбараў. Пераможцы, як вядома, вядуць рэй. Але хіба яны нас здзівілі?

**5**

Субота, нарэшце субота. Пагляджу «Графаман». Колькі можна выбараў! Міларад Павіч раздае аўтографы і размаўляе па-руску, праўда няправільна. Мікалай Фрабеніус. Рускай не валодае, але любіць Дастаеўскага. Яго англійская мова афарбавана мелодыкай ф'ёрдаў і паўночных бароў. Ён калісьці заспыніў сябе на думцы, што пераключае тэлеканалы ў пошуку найбольш эфектных кадраў кароткай вайны ў Персідскай затоцы. І сам ўразіўся. І сеў і напісаў раман. Пра чалавека, самотнага ў свеце, аднаго ў пакоі, сам-насам з усім светам, які засяроджаны ў тэлевізары, светам, які прапануецца ў адрэдагаваным спрытнымі людзьмі з тэлебачання выглядзе.

Як гэта блізка! Як знаёма. Чалавек перад тэлевізарам —гэта я сам. Які не церпіць тэлебачання, нахабнай прапаганды, галівудскіх вырабаў. Але які без яго пакуль не абыходзіцца. Усё —аднолькава. І я сядзеў некалі ў чаканні навінаў і новых —яшчэ болей відовішчных сцэнаў. Ірацкія «скады» ляцяць у бок Тэль-Авіва і Эр-Рыяда, але падаюць, не даляцеўшы, або выбухаюць. Ноч. Аднак усё відаць дзякуючы начным візуальным прыборам. Удзень з відовішчнасцю было б горай. Чалавек не змяняецца. Вострых уражанняў! «Боінгі», сфільмаваныя з розных бакоў, улятаюць не ў белыя падушкі аблокаў, а ў высачэзныя дамы-вежы. Магутныя выбухі, агонь, дым! Кудаса папер у паветры. Хмарачосы разбураюцца. Шкло, бетон, арматура. Камп'ютары. Шэдэўры мастацтва, залатыя штабы, сейфы з грашыма. І людзі. Тысячы людзей. Вокамгненна ператвараюцца ў нішто.

У нас Вавілонскія вежы былі дзве. Толькі што яны яшчэ стаялі. Толькі што. Але гэтым разам людзей пакараў не Бог. Але хто? Ці людзі? Іншыя людзі, так. Камікадзэ. Рукі ў чыіхсьці руках. Смуглявыя рукі, якія не цярпяць белыя. Прылада. Зброя. Пякельная машына... Адбудаваць іх —ці не шалёная ідэя? Замест таго, каб паставіць крыж, капліцу, помнік. Помнік ахвярам Вавілонскай вежы. Сапраўдную, а не вымысленую Вавілонскую вежу, зрэшты, разбурыў Аляксандр Македонскі. Хіба не так? Ён мог лічыць сябе богам, але ці быў ім? Руйнаваць не будаваць, не. Вежа —заўсёды рух увышыню. Зікурат —каб злучыць неба з зямлёй. Каб бліжэй стаць да бога сонца. І каб сядзець у небе і рабіць грошы манхэтэнскія «блізняты». Лётаць у ліфтах сюды-туды з адчуваннем багоў.

Робіцца вядомай мільярдам па-галівудску чуллівая асабістая гісторыя двух асобаў. Трагічная гісторыя. Маладая жонка тэлефануе з апошняга паверху хмарачоса мужу на іншы, заходні бераг краіны. Яго няма. Яна паспявае толькі паведаміць

праз аўтаадказчык, што бачыла, як здарылася катастрофа, і што яна яго кахае. Яна гэта паўтарыла двойчы. —Выбух! Мне уяўляецца, як у галівудскіх нетрах ужо пішуцца новыя сцэнарыі. «Вайна на Манхэтэне». І, верагодна, падлічваюцца будучыя прыбыткі.

**6**

Дасыланая з Нью-Ёрку эмігранцкая газетка. Наіўнаідылічна выглядаюць заакіянскія справаздачкі са святкавання розных угодкаў. Кантрасты. Тут вулічныя пабоішчы, арышты, суды, турмы. Там —сход з півам дзесь на Манхэтэне ці ў Брукліне, святочны рэферат і пікнік з каўбаскамі... Атрымліваецца, бяспечных мясцінаў сёння не існуе.

**7**

«Бярэце, хлопцы, бутэлькі з пятролем, карбіду з вадою, сэрную кісьліну і кавалак трубы і ідзеце ў ноч пасьля выбараў на «Чырвоны дом» —прэзідэнцыю. А калі не атрымаецца, дык хавайцеся ў амбасадах краін блёка НАТО». Подпіс: «Беларускае вызвольнае войска».

У старшыні выбарчай камісіі такіх ксеракопій —шуфляда. Бярыце —не шкада. Горшай дурноты і фальшыўкі я не бачыў. Канечне, можна, калі вельмі пастарацца, калі сябе прымусіць, дык уявіць, што дзесь у Агаё стары нямоглы ветэран прыдумаў штосьці падобнае і даслаў, каб увесці ў зман і нават крыху напалохаць пільныя органы. Паказытаць жалезныя нервы. Можна, але навошта? Калі шыла з мяху вытыркаецца.

Так, часам шкада, што не было насамрэч ні «Беларускага падпольнага саюзу», ні іншых. Іх прыдумалі органы. Шкада, бо людзей лепшых усё адно закатавалі, расстралялі, знішчылі. А каб былі, дык хоць бы часам баяліся, хоць бы зважалі. А так толькі цынічны спектакль: ідыёцкія ўлёткі, здзеклівыя пытанні на допытах. Допытах людзей, затрыманых за міфічныя бутэлькі «з пэтролем». Хаця, што такое «Чырвоны дом»? Няма такога...



**8**

Кляновы ліст у лужыне пасля дажджу. Адметная вераснёўская пара. Час чырвонага перцу, баклажанаў і перасычаных салодкім сокам, пераспелых пладоў. Садавіны, якая спачатку аздабляючы гарадскія вуліцы, маркоціць мяне, выклікае жаль. Пладовыя дрэвы, якія заблукалі сярод камяніц і помнікаў, выглядаюць някідка. Апроч дзвюх святочных часін. Травеньскай квецені і жніўеньска-вераснёўскага ўраджаю. Аднолькава белыя ці крыху ружаватыя ўвёсну, пазней робяцца рознакаляровымі, святочнымі. Двойчы становяцца упрыгожаннем двароў, сценаў, бруку.

Паміж дамамі аздоба —алычовае дрэва. Большасць ягад абсыпалася —пекная палянка жоўтых кветак на асфальце. Нікому не патрэбных. Да крыўды нікому. За алычой сыпле ў пажоўклую траву свае плады сліва. Стары двор з дамамі запольскага часу. Яшчэ некалькі дрэваў. Цёмна-жоўтая пераспелая алыча, фіялетавыя слівы. Іх зграбаюць ў грудкі, як смецце. Як водарасці на пляжы, выкінутыя штормам, якія пачынаюць гнісці.

Яшчэ нядаўна ставіліся лескі, плады дваровага саду раней цікавілі жыхароў. І падшпаркам, і пенсіянерам цяпер усё роўна. Маё маленства, вайсковыя гарадкі. Яблыкі часцей не паспявалі даспець. Гарадскі гонар. Або фанабэрыя. Гарадскім належыць купляць гэта на рынку. Марны плён. Няжжатае збожжа, нераскупленая кніга, неспажыты хлеб. Горад засыпаны бескарысным ураджаем. Сузіранне выклікае сум і маркоту. На Паўлоўскага камяніцы царскіх часоў. Стары мур, па якім паўзе чырвоны плюшч. Застылыя вадаспады вінаграднага лісця спадаюць з чатырох паверхаў. У гушчыні цёмна-сінія крамяныя гронкі. Цаглянага колеру ягады шыпшыны і глогу. Чырвоныя кітайскія ліхтарыкі —ці плады, ці кветкі якогасьці кустоўя ў дворыку. На клумбе аранжавыя настуркі, сумныя вяргіні, дробная бялюткая мядуніца, якая п’яніць сваім моцным водарам да самых маразоў.

На рынку грудкі разынак, курагі, фінікаў і арэхаў, інжыр, чарнасліў, кавуны, дыні і гранаты ў азіятаў. І памідораў, цы-

трусавых, перцу, гронкі бананаў і вінаграду, яблыкі ды грушы ў сваіх і украінцаў. Кава розных гатункаў. Бразільская, пуэртарыканская і калумбійская. Проста змолатая, у вакуумных пакунках, і бабы. У бляшанках і кардонных скрыначках. У стылі каланіяльных тавараў. З пальмамі, кавовымі плантацыямі, ветразёвымі караблямі і піратамі. Спаткалі Рамана. У Ванды праблемы. Патрабуюць, каб наняць кватэру, процьму даведак і рэкамэндацый. З месца працы, з месца жыхарства, з эміграцыйнай службы. Горш за нашыя жэсы ды авіры. Пільнасьць пасля здарэнняў.

Напачатку вечара званок. Мажэна з Юркам. Мы прыйдзем сёння, калі вы не супраць... Мы запрашалі іх, але без даты. У любы, зручны для іх час. Усчынаецца хуткае вясёлае гатаванне. Рыс з мясам і шампіньёнамі, якія мы называем пячуркамі. З перцам. Мне даспадобы, калі варыцца, тушыцца, пражыцца перац. З часнаком і цыбуляй. Крыху саладжава-гаркавы. Пахі восені. Пад шкляной накрыўкай ружавеюць на патэльні кавалкі гарбушы ў маянэзе. Верасьнёўская свежыня зыходзіць з рэзаных памідораў, пасыпаных пятрушкай. Апошняя зяляніна з градкі, знаёмая з першымі начнымі халадамі. Узбіваюцца яйкі з мукой, са смятанковым маслам і цукрам. Рэжуцца яблыкі, малінаўка. Напаленае нутро пліты. Шарлотка.

Кава і гарбата з новых кубкаў. І талеркі мы толькі-толькі купілі, быццам чакалі гасьцей напэўна. Размова пра Манхэтэн, эміграцыю. Пра сяброў, знаёмых і знаёмых знаёмых. Ніхто яшчэ не вярнуўся... Меланхалічная хваля. Ну, але мы нікуды не едзем. Кропка.

**9**

У нядзелю раніцай камп'ютарманы ўстаюць пазней. Нарэшце прапускная магчымасць лініі павялічана. З перапынкамі, штуршкамі, але паступова, за паўгадзіны здушаныя крыкі штаба кандыдата Крупені перацякаюць у мой notebook. Я стараюся не дыхаць. Вялізныя пустыя файлы. Папяровыя тыгры. Толькі зьнішчаць. Але сярод поўнасцю бескарысных messages трапляюцца і лісты ад нашых сяброў.



Ад галандкі Інэ з брытанскага мястэчка прыйшла малітва за нью-ёркскія ахвяры. У самой яе знайшлі злаякасную пухліну. Яе лечаць хіміятэрапіяй. Змяшчаю ніжэй тэкст малітвы, названай Light a candle —«запалі свечку». Распаўсюджвала адна англіканская царква.

Dear friends. We have all been moved by the tragic events on the US East Coast this week. The many stories that have emerged from them are tragic. As a church we want to stand with those who grieve and join with families and churches across the world in praying for families of victims in the US, UK and elsewhere.

Regardless of your politics, these events are big and affect us all. We would like to invite you to join us on Saturday 15 September at 8 pm GMT in lighting candles outside your front door. We'll join together in praying for, thinking of remembrance those killed and their families. We're lighting these candles as a sign of hope, symbols of unity and as a chance to pray together for all those mourning now. Join us as we pray.

Мы атрымалі ліст запознена. Мы не запалілі свечку і не паставілі яе перад дзвярыма. Мы не паспелі аднагачасова з іншымі людзьмі ў свеце памаліцца за сем'і ахвяраў, каб навязаць нябачную лучнасьць з тымі, хто ў жалобе. У канцы прыпіска: Please forward to your friends. Мне застаецца толькі выканаць, пераслаць тэкст вам усім.

# КАВАЛЬ У КАРОНЕ

## 1

Для горада, без пытанняў, ганарова, калі ў ім манаршая персона жыла, балі-феерверкі давала, паслоў замежных прымала, парады вайсковыя праводзіла з музыкай, са штандарамі. Калі толькі горад цэніць шляхецкасць сваю, няхай перабудаваныя магнацкія палацы, калі песціць карані свае, ашчаджае, шануе княскі і каралеўскі гербы старажытныя, а не гуляе ў плябейскія гульні. А інакш кароль, ён як ганебная пляма на рабочай робе, зацыраваная дзірка.

Ён —абясцэненая манета, скасаваная з абарачэння, ці зусім якаясь незразумелая. Бадай фальшывая, таварышы.

Кароль, а што кароль? Салавей у клетцы, нават папугай, як некаторыя кпілі, шчупак у нераце, ці, хай, залатая рыбка ў акварыуме, каб прыгажэй гучала. З першых, лічы, дзён пад прыглядам, пад чужой аховай. Каб не дазваляў вольнасцяў, каб, не дай Божа, не ўмацаваўся мілітарна. Расійскія войскі кватаравалі ў Варшаве. Зрэшты, звычная рэч тады, калі значная частка Еўропы зрабілася абшарам пастаянных ваенных манеўраў, перасоўвання вялікіх армій, хуткіх маршаў. Адлегласці вымяраліся жаўнерскай ступою, лічбай паходных дзён вайсковай калоны. Карты навакольных краёў выкарыстоўваліся пераважна ў якасці штабных. Імператар Фрыдрых II калі дарогі ўспамінаў, раздражняўся. Ніякіх рамонтаў! Няхай абцасы збіваюць, няхай колы псуюць. Расійская армія то была ў Кёнігсбергу, то займала Берлін, то стаяла ў Варшаве, то зноўку апынался ў сталіцы Прусіі. Дамам усё больш падабаліся афіцэры. Ах!

Моцы хапала імператрыцы, каб вайну вяваць з магутнай некалі Асманскай Турэччынай, што калісьці прагнула заліць еўрапейскія абшары сваёй гарачай чырвонай лавай. Асманскаму непрыяцелю хаўрусніца-імператрыца не давала жыць спакойна. І янычараў у той жа Варшаве немагчыма было ўявіць нават у жаху, апроч, канечне, янычарскай музыкі. Набыла моду пры каралеўскім двары, з гаспадаром якога больш не варагавалі збройна пашы. Так-так, пры магнацкіх палацах пашырылася мода, магнатэрыя спаборнічала, як заззвычай, з самім каралём, заводзячы капэлы з янычарскімі медзянымі інструментамі і бубнамі, больш лічэбныя, гучныя, каб манарха зачапіць, каб магчыма насенне раздражнення закінуць у ягоны, вызвалены ад пустазелля, сад з экзатычнымі раслінамі.

Янычарская музыка —гаркавая моцная турэцкая кава, тамтэйшы тытунь, так-так, мультан, ад якога слёзы раптоўныя як пот, паўднёвыя пернасці, ад якіх горла сцінала. Заморскія смакі, экзотыка, тавар з крамак нетутэйшых купцоў. Янычараў у Варшаве немагчыма было ўявіць нават з пасольствам ад галоўнага пашы, не магло быць ніякіх пасольстваў, у Варшаве кватаравала гвардыя імператрыцы.

І дзякаваць Богу, канечне, хоць невядома ніколі як урэшце манета ўпадзе: тварам, гербам, ці лічбай дагары. Янычарскае войска ў сталіцы над Віслай у недалёкай мінуўшчыне азначала б гвалт, кроў, смерць. Не прапусцілі янычарскую навалу магнатэрыя і шляхта каронная і вялікакняская, крылатыя гусары, мушкецёры і швейцарскія найміты. А зараз забудзьцеся назаўсёды на жахлівыя хрысціянскія сны, на дзённыя ўявы-жахі, каралеўскія прыдворныя, салонныя дамы і юныя паненкі, на вуліцах Варшавы маршыруе імператарская гвардыя, у казармах трымае порах сухім інфантэрыя і бамбардзіры, стала вострыць шаблі кавалерыя, не спіць варта, гатовая ў любую хвілю запаліць кнаты. Хаўруснае войска ахоўвае бяспеку Яго каралеўскай мосці.

Што мацней адчуваў ён: абражаным сябе пасля закулісінай барацьбы за пасад у каралеўскім замку варшаўскім альбо радасць, палёгку? Ці зняважаны гонар, сумесь згрызотаў сумлення са здаволенасцю разам? Перамог недабрадзеяў сваіх, адкрытых злоснікаў, так, падтрымка была, што таксама праўда, але не такі ён не здатны сам, каб не мець важкіх шанцаў у часіну бескаралеўя. Так-так, ён —кароль, але кароль на час. Так вызначыў элекцыйны сойм. І час гэты —апошні акт драмы аб

каралеўстве, аб усёй Рэчы Паспалітай, як нам вядома цяпер. Будзьма разважнымі: выбары новага караля заўжды такія. Замежны элект шукае апірышча сярод магнатэрыі, шляхты, свой кандыдат —таксама, адначасова —падтрымкі суседніх дзяржаў. Нічога новага ў гэтым няма. Станіславу Аўгусту пашкодзіла, што замест імператара ў Санкт-Пецярбургу была імператрыца, кабета. Па-другое, што не сакрэт, усе лічылі іх былымі каханкамі. Можа і нядрэнны ў ложку быў, разважалі, як у ласцы на карону згоду атрымаць здолеў.

Шмат хто, ой нямала прынамсі абываталяў варшаўскіх, сузіраючы сталіцу, якая ашчэрылася чужымі штыхамі, углыбках душы не маглі не задумвацца над вялікай імператарска-атаманскай вайной, і ўява часамі падсалоджвала разынкамі, фінікамі, усходнімі слодычамі падманвала: як імператарская армія ў бясконцых аблогах паўднёвых моцных каменных фартэцый, у палявых баталіях на стэпавых абшарах пакрысе траціць свае моц, здароўе, лічэбнасць ад турэцкіх ятаганаў, ад гарматнай картачы, ад зняможных хвароб, кепскіх харчоў і паганай вады. І праз бяздарную тактыку, аб чым паведамляла салідная газета, атрыманая з Парыжа. Так-так, існавала патаемная мода марыць квола аб пройгрышах арматы, якая ў пэўным сэнсе ахоўвала іх цяпер ад ранейшага турэцкага ворага, ахоўвала супраць іхняй ўласнай волі, так-так, трымала палец на цынгелі дзеля палітычных інтарэсаў Паўночнай Пальміры. Соль мары —каб войскі з Варшавы адклікалі на вайну.

**2**

Балі, на якіх не адчуваеш зусім разняволеным, зусім гаспадаром сябе, на якіх нібыта пад прыглядам, кароль мусіў бачыць абавязкова сёння самых моцных (з мядзведжымі абдоймамі) сваіх хаўруснікаў, спадчыну па Сасах, нікуды не падзецца, не адмовіцца ад якіх, не ўцячы. Прэсныя кампліменты, фармальныя ўсмешкі, падцукраныя размовы з келіхам у руцэ. Як жа яны апрыклі: амбасадар са світай, генералы з ад'ютантамі, пецярбургскія дамы са сваімі веерамі і пазяханнем. З'ехаць, з'ехаць, хутчэй з'ехаць з напалову свабоднай сталіцы, з напаўзалежнага існавання ў стары горад над Нёманам, у правінцыю, дзе яшчэ ўдавалася адасобіцца, збольшага адчуць сябе гаспадаром, дзе радавала вока, цешыла, абуджала амбіцыі вялікая будоўля, распачатая мілым яго сэрцу Тызенгаўзам Антоніем, пастаўленым кіраваць каралеўскай эканоміяй. Новыя сцены, рыштаванні, драбіны, стосы цэглы, пах свежай вапны і пілавіння.

У гродзенскай рэзідэнцыі, у зусім новым вялікім палацы цяпер перабудова, адпаведна яго густам і патрэбам, там ён адчуваў сябе амаль у свабодзе, хаця яна не магла быць суздром сапраўднай, лёгкай, але як ілюзія яго бадай задавальняла, не хацелася яе страціць таксама. Так, Гродна было Яго каралеўскай мосці эканоміяй, яго тэрыторыяй, яго маленькай прыватнай краінай. Так, не зважаючы, у якім краі, каралеўстве, ці царстве, ці зусім азіяцкай дэспатыі стаіць горад —ён зменшаная мадэль, узор усёй вялікай краіны, у якой цяпер знаходзіцца, з яе законамі, парадкамі, звычаямі, з яе палітычным уладкаваннем і рэлігійнай будовай.

**3**

Гарадам уласціва закладаць падмуркі, будавацца, замажнець. І рабіцца ласым кавалкам, здабычай, вайсковым трафеем. Некаторым шчасціць перажыць захоп, знявагу, рабункі, разбурэнні, акупацыю. Іншыя перастаюць існаваць, ад сценаў, вежаў і храмаў застаюцца крушні і зарастаюць быльнягом. Здараецца, ад магутнага багатага места толькі жменя хацін, збудаваных на гарэлішчы або, у лепшым разе, яно ператвараецца ў мястэчка, захаваўшы герб, але без ратушы, без дзыгара на ёй, час больш не адмерваецца, горад апынаецца ў гістарычнай твані, у шлаку. Жыхары не могуць патлумачыць нават самім сабе: адкуль мог узяцца герб з арламі, цяльцом або з афрыканскімі львамі. Ці не памылка часам цудоўны гербавы шчыт з незвычайнай выявай? Ці не згубіў яго ў несамавітай мізэрнай мясціне хтось, ступаючы аружна па раздарожжах гісторыі?

Бывае, гарады вандруюць, уласна назва. Альбо аднолькавае імя атрымліваюць розныя гарады. Больш-менш па-сусед-

ску, ці на істотнай адлегласці. І калі ў хроніцы ці ў летапісе пра горад з такім назовам захаваецца якаясь згадка —вельмі важная, ці наадварот, цьмяная, нязначная, амаль выпадковая, папросту радок, пазнейшыя даследчыкі зацята псуюць дзіды ў акадэмічных спрэчках, пасылаюць баявых сланоў і калясніцы, штурмавыя вежы і сценабойныя машыны, выкарыстоўваюць хмары крытычных стрэл і ледзьве не славуты грэцкі агонь, які надзвычай цяжка пагасіць, робяць запальна ўсё магчымае, каб давесці сваю рацыю, каб перамог іхні менавіта погляд на тое, які менавіта горад называўся ў сівых вяках, напрыклад, Горадзень, Горадня, Гародня?

І не мінула ста гадоў пасля дэпартацыі апошняга караля, як вучоным мужам заманулася ў дыспутах і ў часопісах спрачацца нагвалт, атакоўна высоўваць свае аргументы, свае доказы таго, ці з'яўляецца раней каралеўскі горад над Нёманам той самай летапіснай Гародняй, дзе трубы граюць, як напісаў аднойчы безназоўны манах-летапісец? Спрэчка здарылася не проста філалагічнага кшталту. Вучоным карцела вызначыць век, назваць дату пачаткаў Гродна: яно, ці не яно? Бойка выйшла нежартоўная. Хоць для прафесуры, прызнаных знаўцаў, пытанне не ўяўлялася зусім каляным арэшкам, таямніцай з мноствам пячатак. І нарэшце агучаны адказ быў амаль відавочным. Але спрэчка патрэбна, каб вылузалася ісціна, як фасоліна, як боб. Хоць агульнавядомая рэч: часта баламуцяць дылетанты з апломбам.

Гродна з манаршага жадання і яго ласкавай згоды пачынала набываць і ўсё болей мела сталічны прысмак, дзякуючы імпэту, нястомным старанням Тызенгаўза Антонія.

Як гарады трапляюць неаднойчы ў палон, або, наадварот, у райскія амаль шаты —з цягам перасоўвання межаў, так краіны набываюць новыя абрысы і памеры. Сцінаюцца з пагрозай знікнуць зусім, ці пашыраюцца, распаўзаюцца па паверхні мапы, паглынаючы менш спрытных. Так, ці трапляюць у чужы склад, як і гарады —на ўдачу, ці на няшчасце, апынаюцца ў прыніжаным стане, у галоце і нэндзе. Гэта як з картамі за сталом, ніколі не ўгадаеш —удача чакае, ці пустая кішэня. Хаця ў міжкраёвых сутыкненнях, у дачыненнях дыпламатычных



шулеры абавязкова трапляюцца, блефаваць яны ўмеюць не горш, чым у карты. Станіславу Аўгусту Панятоўскаму, бадай, не здаралася пазбыцца адчування, што ў картачнай гульні, калі стаўкі такія значныя, яму застацца не ў пройгрышы, захаваць кляйноты з найменшымі стратамі будзе вельмі, вельмі цяжка. Не хацелася так думаць, ніхто не ведае наперад дакладна, так-так, не хацелася быць песімістам, выклікала нежаданне магчымая роля ахвяры.

**4**

Каханак царыцы, шапталіся за каралеўскай спінай. Няхай каханак, але ўчорашні. Забудзь. Вось табе карона. А каралю хацелася пацалунка. Яму падабаліся каханкі без неагучаных думак, без схаваных ад яго памкненняў, без здрадных жаданняў, без хцівых мэтаў. Цікаўных заўжды будзе прыцягваць гэтая гісторыя, і ніколі не знайсці ім у прыску гісторыі —дзе быў агонь, іскры, а дзе толькі дым. Кацярына II была гаспадыняй, адной з трыяды моцных, яе імперыя, наставіўшы свае шаблі-пікі, штыхі і гарматы, папаўзла на Найяснейшую Рэч Паспалітую, як ацяжэлая ад віна і пажаднасці цёмная бясформная хмара, што праўда, з белым парыком напагатове. Каб усё прыгожа, цывілізавана, без пораху і гранат, у стылі асамблеі, з келіхамі, клавесінам і скрыпкамі, з менуэтам і нават кракавякам. Што таксама праўда, порах пры канцы будзе ўжыты, але без забойства, без крыві: гарматныя віваты і піратэхнічныя марныя выбухі, каляровая кудаса ў начным небе, клубкі іскраў, россыпы кветак-знічак, не паспяваеш абрадавацца як след, нават усвядоміць, што радавацца няма падставы...

**5**

У палацы на нёманскім беразе ў караля была гравюра з вывай старадаўняга горада, зробленая так, як ён мог выглядаць з птушынай вышыні, іншымі словамі, як чалавеку немагчыма было ўбачыць: з вулічнымі лабірынтамі, завулкамі і тупікамі, з дробнымі і вялікімі пабудовамі, з дахамі рознай формы, якія

нібы ваярскія шчыты абаранялі горад ад стрэлаў з паветра. Горад за тоўстымі, непашкоджанымі, надзейнымі мурамі нагадваў каралю нутро валоскага арэха або турэцкага граната. Горад як краіна, як зменшаны сусвет.

Горад —яйка і зародак, ён збоку, Яго каралеўскай мосці прыгожы светлы палац.

Горад можа быць крохкім нібы яечнае шкарлупінне, але пакуль што яго каралеўскі горад толькі зрабіў крокі за свае даўнейшыя межы і будаваўся, шырыўся, напаўняўся разнамоўнымі галасамі, гукамі будоўлі, рухаўся хутчэй карэтамі, ветракамі, мануфактурнымі машынамі, пачынаў вылучацца больш каляровым, разнастайным жыццём, у горада ў кішэнях пачалі затрымлівацца манеты. Засмучала Станіслава Аўгуста рана ў душы, нябачная трэшчына, нібы расколіна ў глінянай судзіне ўнутры, недасяжная пакуль воку. У зборы старых геаграфічных мапаў яму падабалася назіраць, як акрэсліваліся паступова абрысы мацерыкоў, астравоў, асобных краін, горных ланцугоў, як больш дакладна пачыналі пазначаць кірункі рэк, азёры, моры, як напачатку няпэўныя на картах сталі вымалёўвацца невядомыя раней акіянскія астравы і цэлыя кантыненты. Гэта быў рух наперад, поступ, крок па кроку, асабліва з тых часоў, як Папа падзяліў свет —вядомы і не знойдзены яшчэ, славэтную terra incognita —так-так, падзяліў на будучыню паміж Мадрыдам і Лісабонам, паміж дзвюма марскімі каронамі...

**6**

Я запыняю сябе на думцы, што мушу патлумачыць: я зусім не археолаг у пэўным сэнсе, не займаюся рэканструкцыяй колішніх нораваў, узаемадачыненняў, закулісных змаганняў, каншахтаў і гешэфтаў. Як таксама і не актор, каб пераўвасабляцца, прымерваць у думках і насамрэч камзол і парык, панчохі і панталоны. Не актор, каб улазіць у чужую шкуру, мяняць ролі як мянялі некалі каханак, старацца жыць чужым жыццём для публікі, якая заплаціла, каб пацешыцца ці пазлаваць, назіраючы маю міміку, жэсты, маю гульню, гульню сучаснага



чалавека ў старасвецкія жарсці. Я не пішу гістарычныя рэчы і не спрабую, не працую ў архівах, я адзін з тых мінакоў, якія па-рознаму, кожны на свой лад і ў неаднолькавай ступені, адчуваюць прыемнасць, ступаючы па бруку, вулічнымі калідорамі са старых камяніц. Я, у прыватнасці, адчуваю гэтае задавальненне досыць востра, часам мацней, іншым разам меней, але адчуваю, так-так, знітаванасць з горадам, з яго дзеямі, з асобамі. І я стараюся перадаць на паперы свае пачуцці чалавека, які на кожным кроку памятае гісторыю, але які жыве сучасным жыццём.

Мне цяжка пераўвасобіцца ў таго, якому падпарадкоўваліся вялікія абшары яшчэ не пакроенай, яшчэ не скасаванай краіны, якому падначальваліся, так ці інакш, усе жыхары, мільёны. Мне, уласна кажучы, як астатнім мінакам на брукаванай вуліцы, цяжка ўявіць жыццё без кававаркі, без радыё, без спадарожнікавай талеркі, без унітаза ды іншых выгодаў. Так, але я зыходжу з чалавечай натуры, са схільнасцяў, звычак, а яны, кажуць, не мяняюцца стагоддзямі. Я пішу пра Станіслава Аўгуста Панятоўскага таму, што я жыву ў яго горадзе, таму што ён мяне цікавіць, таму што я ганаруся тым, як ён яго разбудаваў калісьці і ўзнёс, і перажываю драматычныя падзеі, якія адбыліся потым. Я пішу, напэўна, для чытачоў, з якімі мы жывём у падобным рытме, з падобнымі думкамі і пачуццямі і для якіх меней важна, каб пісьменнік спрабаваў стварыць падабенства рэканструкцыі часу, напісаць класічны гістарычны твор. Уласна кажучы, я раблю тое, што падабаецца мне, што я лічу цікавым і не стараюся трапіць у нейкія рамкі, каноны, каб спадабацца камусьці ананімнаму, хто мае ўстойлівыя звычкі і ўяўленні пра літаратуру.

Так-так, мне не цікава пісаць гістарычную прозу, прызнаюся, але мне цікавы чалавек, які не мог уратаваць сваю краіну.

**7**

А зараз вяртаемся да нашага Панятоўскага, да апошняга манарха, які закончыў сваё караляванне ў прыгожым новым палацы над Нёманам, каторы дагэтуль вартуюць сфінксы кара-

ля з Саксоніі, які збудаваў рэзідэнцыю. Закончыць праўленне, калі ўсе твае ўладанні, твая краіна з дзвюх вялікіх частках, з дзвюх краінаў сцялася да апошняга твайго прытулку, закончыць пад хатнім арыштам. Апошнім прытулкам стаў палац. Быў ён увасабленнем самой краіны і ўлады: правую частку займалі каралеўскія апартаменты, левую —дэпутаты ад усіх ваяводстваў і адлеглых паветаў, якія збіраліся на дэбаты. Парламент, не горшы, чым у Парыжы, зразумела, да гільяцініравання Марыі Антуанеты. Яму тады міжволі, калі звесткі дасягнулі вушэй, падумалася: нават добра, што кароль Рэчы Паспалітай не мае сужэніцы, што суседзі па дому —шумныя дэпутаты з магнацкіх палацаў і шляхецкіх засценкаў скарысталіся з права вета, проста кажучы забараніўшы яму браць шлюб. Хаця асабістыя ворагі трыумфавалі тады: кароль у ролі гарэмнага еўнуха, хай нават моцнае перабольшанне, але прысмак застаецца, не пазбыцца.

Парламент, арыстакратыя, лепшыя людзі каралеўства і княства вялікага, самыя разумныя галовы, узважаныя, мудрыя. Ці найбольш спрытныя, уладныя, крыклівыя, балбатлівыя, нястрымныя? Парламент —небяспечны вулей, хаця, пакуль займаецца сваёй уласцівай працай, пакуль дбае пра прымнажэнне, пра хлябы і рыбіны, так-так, пра прымнажэнне мёду, а як жа, збожжа, харчоў, пра мануфактуры, гандаль, дарогі —ён самая карысная інстытуцыя. Але ён і небяспечны нібы агонь. Агмень у вялікай каралеўскай варыўні, у кузні, у плавільні шкла-гуце, усё гэта выдатна, без гэтага не абысціся. Але не дай Божа, іскры пасыпяцца, грымоты, маланкі, не дай Божа пажар. Вулей такі самы небяспечны, калі яго расцвяліць, разварушыць. Не важна, Генеральнымі штатамі ён называецца, ці нейк інакш. І знянацку шугае на вуліцах Парыжа рэвалюцыя, агнём залівае кварталы, кратэрам вулкана выбухае, узводзіць на пляцах гільяціны, сячэ галовы налева і направа.

Парламент за сценкай, зусім не кішэнны, не, але часта бура ў шклянцы вады, шмат галасу з нічога. Так-так, даводзіць ваду, ежу да вару, да кіпення, хай кіпіць, варыцца, але пільнаваць тое, што адбываецца, каб не выкіпала, не вымыкалася вонкі, цераз коптур, не залівала вакол рандэлка пліту шумавіннем...



Да слова: я не спрабую перадаць думкі караля, Божа барані, маё жаданне звярнуць погляд на даўнія падзеі ў маім горадзе, нейк прадумаць, прамеркаваць, ацаніць, на свой лад, канечне. Падкрэсліваю: гэта думкі празаіка пачатку дваццаць першага стагоддзя, які, як яму здаецца, трымаецца залатой сярэдзіны, ён не зважае на скрайнія погляды —на лявацкі —што нашчадкі крывічоў безумоўна плябейскага паходжання і на занадта правы, што іх тут увогуле не было, іх прыдумалі, і ўсё тут пястоўскім духам насычана і прасякнута. Мне чымсьці падабаецца наш апошні кароль, я не лічу яго замежным, прысланым з Варшавы, ён цікавы мне як чалавек, не кажучы: прываблівае драматычнасцю лёсу.

А што асабіста я думаю пра той наш каралеўскі парламент? Я міжволі параўноўваю яго з нашым, з тым, у якім былі мае знаёмыя і нават сябры. Яго задачай было ўтрымаць незалежнасць, утрымаць свой сцяг над парламенцкім гмахам, што на рагу Ажэшкі, над цэлай краінай. Хаця ўсё было не так адназначна. Так-так, вайна адбывалася ўнутры, у парламенцкай зале. Патрыёты, незалежнікі, яны былі ў меншасці, яны займалі барыкаду, на якую нападалі з усіх бакоў, нападалі тыя, хто, нават не ведаючы аб гістарычных падзеях, аб гродзенскай каралеўскай эпапеі, не проста апраўдвалі, яны зацята змагаліся за вынікі двухсотгадовай даўніны, за паглынанне ўсходняй імперыяй наскіх земляў. На сваіх моцных прыхільнікаў абапіралася калісьці

ў Сойме імператрыца, яны былі не столькі за яе, як супраць караля. Яны яго не любілі, яны яму зайздросцілі, лічылі чужаком, не польскага як мае быць, да шпіку косці, племені, не золатам вышэйшай пробы. Але ён быў белым золатам, белым. Ці не таму так любіў рэзідэнцыю на Нёмане, ці не таму так грунтоўна разбудоўваць пачаў горад, ператвараючы ў квітнеючую Галандыю, як з захапленнем ад нечаканасці зацемлівалі падарожнікі?

Гэта была яго нібы малая радзіма, краіна ў краіне, у Варшаве ён меў прычыны адчуваць сябе часам няўтульна. Там, я гавару ад сябе, ён хадзіў, уласна кажучы, на працу, дзе яго прагнулі падсядзець, прынамсі нашкодзіць. Тут ён пачуваўся напачатку

поўным гаспадаром. Сюды з'язджаліся на сойм да яго, караля, там ён прыходзіў да іх, ці яны хацелі яму хаця б даць адчуць гэта. Трэба не баяцца глядзець праўдзе у вочы.

Слова «свабода», нават калі яно не вымаўлялася часта, яно было ў думках, глыбока ў свядомасці, было ў дзеяннях, ці спробах дзейнічаць, каб ратаваць: свабоду, гонар і Айчыну. Адносіны з Богам больш складаныя, не яўныя, часам непрадказальныя. Яны трымаліся за веру, некаторыя кожны божы дзень стаялі ўкленчыўшы на імшы, але штось пайшло не так, у няўдалы бок. Соймы зацягваліся, спрэчкі не спыняліся, падзеленыя на варагуючыя партыі, яны маліліся кожны ў сваім касцёле. Што праўда, нават каб яны падзяліліся яшчэ на меншыя групоўкі, касцёлаў не бракавала: унушальныя, вялікія, яны стаялі купна, умацоўваючы значнасць каралеўскага места над Нёманам. Сам ён маліўся асобна, у палацавай капліцы, таксама немалой, кароль Аўгуст падбаў калісьці.

Маліліся, так-так, маліліся і ўсе паўтаралі: Бог, гонар, Айчына, але, як выходзіла, з крыху іншай інтанацыяй, ледзь заўважна адрознай, думкі былі не заўжды ў гэтую хвілю менавіта з Богам, ці шчыльна з Айчынай.

Так здараецца, што зробіш, чалавека не зменіш, ён не ўмее пакінуць за касцельнай брамай свае турботы, свае інтарэсы, свае страхі.

**8**

Я не магу пахваліцца, што вешаю сваю карціну на цвік гісторыі, паўтараю, мяне цікавяць яе рух, яе катаклізмы, але мая карціна хутчэй —аўтарскае кіно з частым выкарыстаннем хранікальных кадраў, штось звонку накшталт «Гернікі», аднак я імкнуся выбудаваць адначасова пэўную скразную лінію, свой уласны сюжэт з аскепкаў гісторыі. Я зыходжу з таго, што чалавек заўжды рэагаваў аднолькава на ваду і агонь, на вострае і калючае, на холад, на пах, смак, святло і цемру, так-так. Хіба што змяняецца стаўленне да Сонца і Месяца, іх не абагаўляюць, але ж існуём сёння не толькі мы, тубыльцы ў джунглях па-ранейшаму могуць маліцца на Сонца і баяцца,



напрыклад, Месяца, адчуваць жах ад яго загадкавага начнога незвычайнага аблічча.

Перавага Станіслава Аўгуста Панятоўскага была, што ён ведаў аб закулісных дзеяннях, ён бачыў шасцярэнькі гісторыі, колцы і стрэлкі яе часу, ліны, якімі карысталіся лялькаводы, падвагі, дзякуючы якім адкрываліся і зачыняліся шлюзы, аднак сам ён не мог быць сапраўдным лялькаводам, ён быў абмежаваны ў рухах. І не хацелася ператварацца зусім у марыянетку, але абставіны часу, карты ў вялікай чужой палітыцы яму не спрыялі, клаліся на зялёнае сукно Еўропы не на яго карысць, яны клаліся супраць яго, паступова, але няўхільна.

Мая перавага, што я адразу ведаю, як усё пачалося і чым закончылася, гэта зразумела, і ў мяне ніякіх ілюзій, я не цешуся нават спробамі: а што было б, каб хаўруснікі знянацку перасварыліся, як хацелася канфедэратам, і маўклівы сойм не адбыўся? Або —каб раптам перамог Касцюшка —з намі Бог і Айчына?! Тым жа часам я маю вольную руку, таму што Станіслаў Аўгуст Панятоўскі не мог адпавядаць паводзінамі, пагатоў жаданнямі і думкамі, марамі сённяшнім падручнікам гісторыі, пагатоў у розных краінах у падручніках свая гісторыя, нават калі мова пра адныя падзеі. Я дапускаю: на яго дзеянні, учынкі маглі ўплываць і невядомыя нам акалічнасці. Сакрэтныя, ці хай забытыя, сцёртыя з памяці, сёння неістотныя або скажоныя ў пазнейшыя часы. Закулісныя справы маглі стаць спаленымі лістамі, быць не агучанымі публічна, не замацаванымі на паперы, застацца чуткамі, пагалоскай, што, як вядома, змогуць раніць і забіваць, выклікаць на дуэлі і скасоўваць міждзяржаўныя дамовы, ці руйнаваць надзеі на іх падпісанне.

**9**

Гісторыя, якая вядомая мне, мае сучасны працяг, які датычыць яго лёсу. Былую мясціну Панятоўскую пераназвалі пры новай, апошняй уладзе, стала вёскай Пагранічнай. У каралеўскай сядзібе зрабілі кантору і мехмайстэрні, у стайні, як прыйшла разнарадка коней здаваць, наладзілі кароўнік,

па малаку план давялі. У касцёліку, бурыць было вырашана пачакаць, захоўвалі збожжа, таксма карысць. Паводзіліся як дбайныя гаспадары, самім спадабалася. У склепы каралеўскія бульбу ссыпалі, буракі, бручку, капусту трымалі і квашаную ў бочках, моркву. Але новая хваля зачалася змагання з рэлігіяй, паступіла разнарадка храмы разбурыць, ці хаця б пашкодзіць грунтоўна, каб нельга маліцца было зусім. У збожжасховішчы ніхто й не маліўся, але, што праўда, стаяў касцёл зусім у непашкоджаным стане, ужо недагляд. Паламалі галаву, ды вырашылі сапсаваць дах, дырэктывы і разнарадкі трэба выконваць. Збожжа давялося вывозіць абы-куды, дзіва што згніла. Раней замок вісеў, калі склад быў, цяпер не стала замка, засвярбелі рукі ў паасобных, заманулася звесці канчатковыя рахункі з опіумам для народу. Тады ж і да каралеўскай дамавіны рукі нарэшце дабраліся. Паны перавозілі і перахоўвалі патаемна, уначы, нібы цямрэча егіпецкая здарылася тады, як успаміналі вяскоўцы, усё пад сакрэтам зрабілі палякі, але чуткі, чуткі засталіся, цяпер яны спраўдзіліся, набылі рэчаіснае увасабленне. Калгаснікі крыху жахнуліся, што збожжа ляжала курганом на магіле караля, можа, і добра, што яно згінула? Каму захочацца хлеб з могілак? Нябожчыка, праўда, рэальна не ўбачылі, столькі ж часу прамінула! А з трунамі аказаўся таксама сакрэт, неверагодная рэч увогуле! Труны аказаліся тры —адна ў адной, матрошка, словам, дый годзе. Але па дробязі былі знаходкі, а самая значная, увогуле не абы-якая рэч, трапілася ў рукі калгасных працаўнікоў —сапраўдная карона. Дасталася яна чалавеку досыць аўтарытэтнаму, кавалю Мартыну, які жыў з краю вёскі і знаў толк у жалезе. Пра гэта мы, я і мае сябры, даведаліся аднойчы ў Панятоўскай.

Сам ён кляпаў, ясна, зусім не кароны ў калгаснай кузні. Культурны шок для чалавека! Сутыкненне з мастацтвам, дотык да рэчы, зробленай не для працы, не для побыту. Не калоць дровы, не касіць траву, не гатаваць сечку для свіней, не падкоўваць капыты. Штосьці замест кепкі, ці аблавушкі, толькі дзіравая, як вянок дзявочы на Купалле. Калі мы вярталіся назад, у мяне перад вачыма каваль у розных сітуацыях карыстаўся каронай, без якой зрабіўся як без рук. Пачутае здалося неверагодным: каваль паняў моду не трымаць карону ў куфры ці ў шафе, а з нагоды чапляць на галаву. Каваль у кароне. Нічога больш незвычайнага я не чуў. Каваль за сталом у кароне, ён жа —у труне, са складзенымі мірна моцнымі далонямі. Карона на цвіку над ложкам, у кузні —сярод падкоў, клямак, прабояў, дужак, кажан-лямпаў.

Ну што ж, не палічыце за блюзнерства, на Божае нараджэнне, ці на свята Трох каралёў каваль у кароне за бяседным сталом не ўспрымаецца мною зусім недарэчна. Але ж напэўна ён адзначаў, як завяла новая ўлада, Першамай, Дзень перамогі, ды Кастрычніцкую рэвалюцыю, Савецкай арміі гадавіну, жаночы дзень, гэта асноўныя святы былі, самыя-найсамыя. А ён у кароне, трасца! Антысавеччына дый годзе! Бо дзень палучкі гэта не свята, рытуал. Думаю, што часта ён яе прылюдна на галаву не чапляў, тады маглі й схапіць, засудзіць, жартаў не пазнаўшы. Дый на вяселле асабліва не аздобіш галаву, калі маршалак толькі можна хіба.

Калі не пры аднавяскоўцах, у хаце сам-насам, ці ў сямейным коле, то чаму ж не? Але проста за стол сесці, ды насунуць, прыдуркаватым выглядаць будзеш і не спрачайся. Газеты чытаць —іншая рэч, разумная справа, калі акулярамі карыстаешся —пагатоў, самавіты выгляд, няма спрэчкі. Але ці часта ён іх чытаў? Павінен быў! Прымушалі падпісвацца пагалоўна, каваль не самы бедны ў калгасе, не за палачкі ў сшытку рабіў, ясна.

Кабана ў кароне калоць, смаліць не будзеш, засмяюць. Грыбы пасля лесу перабіраць? Недарэчы. Самагон гнаць у кароне, у лесе па-партызанску? Дзеля каго карону прымацоўваць? Малаверагодна, так. Іншая рэч, калі віно, яблычнае, залацістае, напрыклад, але хто тады на вёсцы гемароем такім час марнаваў? Вось з пчоламі завіхацца, калі маеш, калі не баішся лішне, у гэтым ёсць выгляд. Пчолы, яны маюць сваю каралеўну, можна сказаць. Пчолы, мёд, соты, карона, яны спалучаюцца няўлоўна, колерам сваім, злашча калі яе, карону, пясочкам нашараваць да бляску, да ззяння. Сонца і карона, галовы сланечнікаў у гародзе, таксама супярэчнасці няма. Або ўзяць паляванне ў кароне. Каралі, цары, князі напрыклад, магнаты,

яны паляваць звера уга як любілі, хлебам не кармі! А рыбная лоўля? Не ведаю нават так адразу. Срабрыстая рыба, луска нібы кальчуга, карона тут да месца будзе бадай не нашмат меней, прынамсі калі ты з уловам побач, ды каб з немалым, каб уражваў. Але нерат пакінь тады і вуду, інакш які ты кароль з вудзільнам? Усё роўна як з касой, ці з сярпом. У каралеўскіх гербах сярпоў няма і літовак не бывае, хаця зверыну, птушак на шчытах не супраць мець былі, вядома. Рыбы прымацоўвалі на шчыт, але —рачныя гарады, марскіх у нас не было.

Варта падкрэсліць, карона і крыж заўжды хаўрусавалі. Каваль крыжа сабе ніколі не павесіў бы на шыю, медаль — так, калі ласка, на вайне быў, пад заслону трапіў, як усіх навакольных забрылі, у абозах пературываў, ацалеўшы без драпіны адзінай нават, з медалём вярнуўся. Як моцна падап'е, а яно здаралася само сабой заўжды моцна, медаль на грудзі, карону —на галаву. Як палкаводзец на парадзе перамогі не раўнуючы. Перамогі над цемрашальствам, над зданямі гісторыі, над панамі-прыгоннікамі, што трымалі народ у хамуце, стаялі над ім з бізуном.

**10**

Памятаю ўсё, як у смузе праз даўнасць часу, але таксама таму, што трымцела душа, адчуваючы паездку ў гісторыю, калі мы, некалькі чалавек, выбраліся маленькай савецкай машынай у былую вёску Панятоўскую, дзе спачывалі калісь парэшткі караля Станіслава Аўгуста, у цішыні, занядбанні, на адлегласці ад сталічных гарадоў, у апошняй канчатковай высылцы. Дакладней мы не ведалі, што парэшткі зніклі, ці спарахнелі, ці знішчаны, раскіданыя людзьмі. Мы ехалі ў няведам'е, але ў канкрэтную мясціну з выразна акрэсленай мэтай, вызначыўшы сказанае мной ужо раней: што калі пяцьдзясят гадоў таму каралеўскую дамавіну вярнулі з-пад сярпа і молата, з «краіны рабочых і сялянаў» і не павезлі у Варшаву, ці Кракаў, яе паціхеньку даставілі ў некалі фамільную вёску каралеўскай сям'і і без цырымоній схавалі ў касцёліку, што пабудавалі самі Панятоўскія.



Нас чакалі толькі занядбаны касцёл без крыжоў, без даху, без дзвярэй, зняважаны, апаганены і кінуты. Мясцовыя паказалі яміну, дзе змяшчалася некалі дамавіна Станіслава Аўгуста Панятоўскага, раскапаную шукальнікамі скарбаў яміну. Ці чакалі мы большага, ці спадзяваліся знайсці месца спачыну каралеўскай асобы цэлым і непашкоджаным? Наўрад. Але расчараванне было раптоўным і моцным. Нават слёзы я адчуў, абуранасць і нямоц не толькі да мясцовых, але да ўлады, якая не паважае храмы, магілы, гістарычныя асобы для якой —нішто, абцугі пачуццяў трымалі мяне ўвесь той час, пакуль мы археалагічна перасыпалі, перабіралі глебу ў былой магіле і вакол яе ў знішчаным храме. Дайшла чарга і да аповедаў-успамінаў тамтэйшых, як узламалі, як расчынілі дамавіну, як навыперадкі кінуліся рукамі, як расчараваліся, што не ўбачылі трупа, што знаходкі аказаліся досыць мізэрныя. Праўда, у аповедах тых было рознае: хтосьці сам бачыў, хтось пераказ чуў, нехта трапіў паглядзець, калі вецер ужо гуляў над раскіданай магілай, а іншы, нібыта, з самага пачатку быў сведкам здарэння. Расказвалі пра залатыя ці хутчэй пазлачоныя гузікі з мундзіра каралеўскага, якія ці то зрэзалі з яго, ці то яны ў парахне паблісквалі, гаварылі пра рэшткі ботаў —абцасы, шпоры, пра вышытыя залатымі ніткамі арлы на плашчы нябожчыка, што ацалелі таксама, мовілі яшчэ пра нешта і, самае дзіўнае, пра карону каралеўскую, з якой бегалі па вуліцы падшыванцы вясковыя, але якая неўзабаве апынулася ў надзейных руках, знайшла свайго пастаяннага гаспадара, удзельніка вайны каваля. Думаю, што следчым таксама давялося ўсё гэта выслухаць, нават болей напэўна, таму што жывых сведак яны маглі дапытаць болей, а затым выбудаваць версію сваю, стварыць больш-менш ясную, цалкам верагодную гісторыю рабункаў каралеўскай дамавіны.

Згадзіцеся, такая гісторыя, калі да яе дакранешся аднойчы асабіста, не адпусціць ніколі. Хай міне час, будзеш усё роўна вяртацца ў думках, выдумляць, марыць пра іншы падрахунак, лепшы лёс каралеўскага пахавання. Не менш цікава, што будзеш вяртацца таксама да каваля, якога ніколі не бачыў, але які праз зігзагі гісторыі стаўся апошнім жывым уладальнікам

каралеўскай кароны. Мне ён бачыцца, напрыклад, у школцы на ўроку мужнасці з медалём на грудзях. Так-так, пра баявы шлях апавядаць даводзілася, пра штурм Берліна, пра надпіс на рейхстагу, а як жа? Пытанні ё? А надзень, дзядзька Мартын, карону сваю царскую, га? Так, раскажыце пра карону, дзяўчынкі далучаюцца, калі ласачка, раскажыце, вы яе ў музей школьны не здасьцё?

Вось і адкажы ім, падшыванцам, граматныя сталі! Што кароне рабіць на ўроку мужнасці, калі пра штурм Берліна мова, дзе ворага ў яго логвішчы дабілі? Нашто яна ў музеі школьным, дзе пра подзвіг народны расказ, дзе пра калгасную вёску і дзеля кантрасту —крэмневыя сякеркі, скрабкі, лапці, калаўрот, зрэбная кашуля з арнаментам, лыжкі драўляныя?

**11**

Даскакаўся, дафарсіў, давыхваляўся каваль пад чаркай у кароне каралеўскай, напісаў хтось куды трэба, што знайшоў скарб і прыўлашчыў, не здаў дзяржаве, здзейсніў злачынства крымінальнае. Пакуль хадзіла ананімка па інстанцыях, схапіла сэрца і пагас горан у кузні, не стала каваля. Выпісалі пасведчанне ў сельсавеце аб смерці і закапалі чалавека, паставіўшы абеліск драўляны з зоркай фанернай чырвонай зверху. Рукі ў нябожчыка залатыя былі, мог бы сам сабе штось адмысловае выкаваць-скляпаць на будучую магілу, каб усе пазайздросцілі, але паміраць ён не збіраўся, ва ўсякім разе не спяшаўся лішне, не задумваўся пра такую патрэбу, яму жыць было цікава, ён адчуваў сябе крыху вясковым каралём, прынамсі кавалём у кароне.

Вобраз гэты, чым далей, мацней прыцягальным робіцца, бо хочацца не так забыцца на яго, як, наадварот, растыражаваць у думках. Мне ўяўляюцца нібы чорна-белыя газетныя здымкі, як пастановачныя адбіткі колішняга неразнастайнага жыцця: каваль у кароне чытае «Правду». Або «Сельскую газету». Наступныя, зробленыя з успышкай на працоўным месцы ў кузні: з абцугамі ці з молатам або з меншым малатком падкоўвае калгасных коней, рамантуе механізмы, ланцугі, падпраўляе плугі, рыдлёўкі, сярпы, косы, сякеры, матыкі, граблі, патэльні. Ён адначасова і Гефест, і ратай. Застыглыя фотапаставы як на антычных барэльефах, толькі хіба менш мастацкія, але каларыт, соль працы, яны застаюцца, не зважаючы на змену эпохі і ўлады.

Шукаць карону прыехалі следчыя, не знайшлі, пачалі дапытваць. Як жа —залатая каралеўская карона! Не раўнуючы гістарычная каштоўнасць нібы са скіфскага кургана з падручніка гісторыі, з энцыклапедыі. Колькі можна нарабіць пярсцёнкаў, ашчаслівіць новашлюбных, ці прадаць палякам за мяжу, калі захочуць, канечне. Справа паважная, дзяржаўнага ўзроўню. Санкцыя пракурора і непрыемнае, не зусім зразумелае слова «эксгумацыя» прыгаломшыла вёску. Камісія: сам пракурор, інструктар абкама, з імі негаваркі чалавек ў цывільным, на плячах нібы прасвечвалі зоркі, прынамсі адна —пасярэдзіне. На месцы ўзялі сведкамі ўчастковага і сельсавецкага старшыню, грабароў у калгасе. Прыехаў следчы па асабліва важных справах.

Вёска сцялася, як людзі самі гаварылі. У каваля, успаміналі, бралі самагон не проста кавальскі, як спачатку быў, а «каралеўскі», «каронны», першае слова не вымаўлялася, можа толькі мелася на ўвазе, а «каронны самагон» —гэта гучала напраўду. Каму, як не кавалю, самагонны бровар вырабіць, саштукаваць, наладзіць латвей было? Яго напой усе любілі, цаніўся як наркамаўскі на фронце. І ўсе ведалі, а як не ведаць? Не ведаць немагчыма было. Ну, прыедуць часам дзеля блезіру, справаздачы, з «макарава» наробяць дзірак у ёмістасцях з думкай «не крыўдуй, Мартын, герой вайны ты наш, служба такая». Зробіць новы, вырашалі міліцыянты, спусташаючы набойню, хто б сумняваўся?! Ніхто! Залатыя рукі чалавек быў, так, дакладна. Каб у іншых умовах, за мяжой, пры капіталізме, мог бы рабіць выдатныя гарэлачныя апараты на продаж з выявай кароны сваёй, напрыклад, патэнт атрымаў бы, ліцэнзію, хутка ўзбіўся б на грошы, а так займаўся сізіфавай працай, літуючы кулявыя прастрэліны, спрамляючы, куючы-расплясківаючы, новыя часткі робячы замест наўмысна сапсаваных участковым з саслужыўцамі.

Але ж хітрун каваль! —дзівіўся непрыемна пракурор. Залатую недзе схаваў, сабе скляпаў звычайную, на кожны дзень. І дзе яе зараз каралеўскую, з чыстага золата шукаць? Закапаў дзесь, ці даўно збыў з рук, каб не пякла, каб не зайздросцілі, каб не скралі, каб не здаваць дзяржаве савецкай.

**12**

У труне —каралеўскай —дубовай, як хацеў, з медалём і ў кароне, з насоўкай і расчоскай ў кішэні пінжака, з алавянай лыжкай для крупені і кашы ў другой, з галяком таксама, з няроўным жалезным зліткам, са здымкамі і парай пятакоў у партманетцы, кадры: на фоне рэйхстага, другі —у кароне на фоне пуні, трэці —у кузні з абцугамі з напаленай нарыхтоўкай, на фоне самагоннага апарата, у сэнсе за работай —такога здымка не было, хоць ён таксама лагічна прасіўся да іншых, каб адлюстраваць працоўную біяграфію майстра жалезнай справы. Што там яшчэ было? Партабак з тандэтнай «Прымай», запалкі. Следчы павінен быў усё агледзець, пералічыць, зрабіць пры пакліканых сведках вопіс дакладны з подпісамі прысутных, такі парадак.

А ляжаў каваль у труне каралеўскай нібы святы ў кароне, добра захаваўся, казалі на вёсцы.

Гаварылі за вочы некалі: нарабіў цэбраў бабам з каралеўскай труны жалезнай, зграбныя рукі меў, купіў ровар. Пазней набыў нават матацыкл! Гаварылі ўсе тады: на самагонцы. Але ж якая каму розніца? Пілі бо ўсе і са смакам. Аказалася: плявузгалі, што датычыць труны, захаваў труну каваль, меў павагу прафесійную да жалезных вырабаў, тым больш з паходжаннем.

А цэбры, што цэбры? Ці мала жалеззя пасля вайны доўгай, калі ваявалі не штыхом, а тэхнікай, засталося? Колькі яго яшчэ часу потым збіралі ў наваколлі, вывозілі на металургічны завод? А матацыкл чалавеку з выплатай заробку купіць —справа лагічная, заслужыў. Праехацца па вёсцы на ўласным «Нёмане» з тарахценнем, з курадымам, ды ў жалезнай кароне замест кепкі тым больш прыемна. Гэта была карціна! Кіно дый годзе!



Каваля ў вёсцы бадай нават любілі, бо ўсім патрэбны чалавек і нябрыдкі, паважалі таксама даволі, бо ваяваў, кроў праліваў за перамогу, хаця часам кпілі, злавалі і кепікі строілі з яго дзівацтва.

**13**

Не было ніколі ў Пагранічнай людзей у каронах, не бачылі такіх на вуліцы. І кіно з царамі не прывозілі. Можа калісь і прыязджаў кароль у карэце, але ніхто не мог памятаць, дый ці ў кароне ён падарожнічаў насамрэч, ніхто не ведаў. Аказалася хаця, што была ў труне каралеўскай карона, але нябачная раней вяскоўцам. Пагатоў нельга было сказаць, што на галаве яна была, бо галавы ніякай не знайшлі, нават чэрапа, проста труна з рэчмі, як вялізны чамадан дарагі, ці куфар. Костак, і тых не знайшлі, калі расчынілі, улезлі, корпаючы, перабіраючы-пераціраючы, нібы археолагі, каб хоць на штосьці вартае натрапіць: залатыя манеты, прыкладам, сыгнэт, ордэн каштоўны, ці хаця б якія зубныя каронкі на скрайні выпадак.

Пра карону і самагон успамінаюць, калі знянацку імя каваля ўсплыве ў размове, і пра спрытныя рукі ягоныя. Любяць прыгадаць, як участковы і сельсавецкі старшыня бралі самагон у яго, звычайнай канспірацыяй карысталіся, цераз другія рукі. Ядлаўцовы, духмяны, для начальства таксама замаўлялі, якое на паляванне прыязджала ці на рыбалку, спынялася ў лясной хаце паляўнічай і якое, ясная рэч, змагалася зацята з самагонаварэннем. Пра карону ўсе ведалі, але не надавалі завялікай увагі, прызвычаіліся хутка і ўспрымалі спакойна, амаль як штодзённую рэч, нават як непатрэбшчыну, ад якой ніякай карысці, ці зусім крыха, як ад школьнага глобуса. У пэўным сэнсе ўспрымалі як цацку, забаву для каваля, які меў залатыя рукі і якому прабачалася такое глупства. Так-так, людзі калі пачынаюць успамінаць-разважаць, да такой высновы даходзяць.

Раней кавальства было заняткам калі не гераічным, дык даволі высакародным, мужным, нават баявым. Кавалі рабілі перш мячы, латы, зброю, замкі і ключы, шасцярэньнкі для

гадзіннікавых механізмаў, яны былі блізка або ператвараліся самі ў новых працаўнікоў, у зброўнікаў, у людвісараў, робячы крок на прыступку вышэй, у жалезаплавільных майстэрнях дбалі пра ручніцы, гарматы, стваралі званы для храмаў. Раней кавалі лічыліся каралямі рамеснікаў. Цяпер каваль выробляў побытавыя рэчы, ужытковыя прылады, рабочыя інструменты, агародны інвентар. А карона? Карона —выбрык, а лёс яе —сімвал.

**14**

Калі рэжуць напалам, краяць па жывому, заўжды хтось прайграе, хтось набывае. Мала таго, шмат хто спяшаецца ўсяляк апынуцца па жаданы для сябе бок новай мяжы, і не заўжды ўдала. Выдатны прыклад Нямеччына. Дзе трапіць за Эльбу стараўся цэлы вермахт, бо ўсе разумелі які палон саладзейшы, што савецкі будзе не нашмат лепшы ад іхняга ж, нямецкага... Тут адрэзалі канчаткова па лініі будучай Керзана, кароль, ці тое, што па ім ацалела, апынуўся па некаралеўскі бок мяжы. Праўда, з другога боку мяжы з арла здзерлі карону, але гербам пакінулі, з часоў Пяста і Ляха што існаваў хіба. І тут яшчэ застаўся горад з каралеўскім палацам, з рэзідэнцыямі, які ён песціў-кунежыў, перадавую Галандыю з якога зрабіць патрапіў, і які затым саспелым плодам у чужыя рукі дастаўся. Месца ганьбы, апошняга прытулку, адмовы ад пасаду, месца скасавання краіны, хатняга арышту, здачы кароны ў гардэроб.

Горад зрываў з сябе гербы, як з мундзіра зоркі і шэўроны, зрываў крыжы і званы, ламаў статуі, здзіраў ляпніну, руйнаваў палацы, узрываў святыні. З песнямі і маршамі, з плакатамі, партрэтамі мітынговымі, з транспарантамі, з лічэбнымі дэманстрацыямі: стары свет разбурым, зруйнуем дашчэнту, а на падмурках збудуем сваё прыўкраснае заўтра, свой рай зямны —без багоў, без цароў-каралёў, без паноў і папоў! Горад змываў з аблічча грым, сціраў старанна былыя рысы, адмаўляўся ад галяка, ад мыла і ружовай вады, зрэшты, іх адразу пачало вострa не хапаць. Адмаўляўся рашуча ад каляровых каснікоў у валасах, ад макіяжу, нават часамі ад пенснэ, у якіх



стала з'яўляцца на вуліцах небяспечна, якія выклікалі падазронасць і раздражненне не менш ад чыстых рук, усвядомленых вачэй, далікатных твараў.

Калі краіна на з краю кантынента, калі яна адным бокам плёскаецца ў моры, яна можа шукаць заморскія тэрыторыі, пашырацца, калі мае не толькі рыбацкія фелюгі, калі мае фрэгаты. Але калі краіна застаецца цяжкім грузам у Старым свеце без ветразяў і яе лапік мора толькі для лоўлі селядцоў, яе пачынаюць рана ці позна сціскаць з бакоў, калі яна сама перастае рабіць выправы ў суседнія землі, калі засяроджваецца на ўласных унутраных патрэбах, на самадасканаленні, нават калі гэтыя патрэбы —развіццё мануфактураў, росквіт гандлёвы, прамысловы поступ, яна звяртае менш увагі на порах і гарматы і робіцца спакваля кволай аружна, робіцца ласым кавалкам для суседзяў, што не прывыклі эканоміць на пораху, якія не здаволілі яшчэ апетытаў. Фрэгаты каштуюць дорага.

**15**

Кароль мусіў перажываць чужую вайну нібы падзеі асабістага жыцця, ён бачыў, як з цягам перамог над Турэччынай, са змяншэннем яе паўночных уладанняў, у імператрыцы-хаўрусніцы з'яўляецца рэчаіснае жаданне пашырыцца і на поўдні, і на захадзе. Існаванне Рэчы Паспалітай напрасткі залежала ад чужых перамог і паразаў, ад хісткага становішча Турэччыны, так шмат каму здавалася (за яго спінай пра гэта шапталіся), канфедэратам карцела спадзявацца на перамогі адсталай Асманскай імперыі. Кароль стараўся мысліць інакш, у станоўчым рэчышчы: каб яму дазволілі ўдзельнічаць у гэтай вайне, пазіцыі Рэчы Паспалітай умацаваліся б, балазе Турэччына, не здабываючы поспеху, хоць і ўпарта, адчайна спрабавала адстойваць захопленыя ёю калісьці абшары, але кленчыла адна фартэцыя за другой, у няўмольнай чарзе. І, на жаль, дайшоў чарод адкройваць цэлыя ваяводствы ад яе, Яго мосці караля, дзяржавы двух народаў. Малітвы ў гэтым разе не мелі карысці, Бог яго не чуў, ён спрыяў іншым, так здараецца.

Так маглі б абмяжоўваць яго асабіста ў палацы, спачатку адхапіць левае крыло, Сенатарскую залу, авальную, капліцу, замкнуць для яго дзверы, забараніць доступ. Калі краіну апануе аружна непрыяцель, калі твае стрэлкі спынены, штандар спушчаны і знікла з карты назва, нічога не зробіш —калі белы сцяг і зброя складзена да чужых батфортаў —гэта адзін выпадак, стары як свет, а калі хаўруснік твой пачынае адкройваць твае землі —гэта зусім іншы прыклад, у архіўным пыле яшчэ трэба моцна парупіцца, каб адшукаць падабенства.

Яшчэ нядаўна кароль-саксонец правіў у Рэчы Паспалітай, яшчэ нядаўна збудаваў у месце Гродзенскім палац новы, каб не цясніцца ў старых сценах у час соймаў, а цяпер немцы з усіх бакоў за яго, караля Станіслава Аўгуста схапіліся, сціснулі, не павярнуцца, так-так, каб распрануць і раздзець.

Тры арлы чацвёртага задзяўблі нібы курапатку. Яны селі за стол, гаспадар пляснуў у далоні, слугі ўнеслі вялікі торт, вельмі вялікі, якія робяць з нагодаў рэдкіх і надзвычай важных падзеяў, так, але гаспадару не засталося нат лусты, адно крыхі быццам мышам, у гасцей незвычайны надарыўся апетыт, злашча павялічыўся з цягам таго, як нож уваходзіў у крэм і бісквіты. Гэта сон, гэта бадай сон, толькі ў снах здараюцца гвалтоўныя сітуацыі.

**16**

Усё прыядаецца, жыццё —руціна, да ўсяго прызвычайваешся, перастаеш адчуваць смак, мара, пра якую ўголас не гавораць, —зноўку здзівіцца, па-сапраўднаму, шчыра, нечакана, скаштаваць новы смак, адчуць бадзёрую свежасць, адчуваючы незвычайнасць усім адразу —вачыма, рукамі, вуснамі, языком, нёбам, розумам. Толькі яшчэ экзатычная садавіна некалі дастаўляла рэчаіснае задавальненне, выклікала ядомыя эмоцыі, апетыт. Але гэта таксама здаралася даволі даўно, у аранжарэях панямунскіх свае ананасы, памаранчы, свае цытрыны.

Кароль глядзеў на твары, вочы, бачыў міміку, раты, якія штось гаварылі-гаманілі, рукі, якія да ратоў падносілі келіхі або кавалкі, раты жавалі, але стараліся таксама не перапыняць гутаркі, гаманілі-гаварылі, расцягваліся дзеля ўсмешак, шчокі тады адначасова змяняліся-рухаліся, дазвалялі сабе смех, так, без нястрымнасці, каб усё прылікова. Ён не верыў, што яны сапраўды са смакам успрымаюць кожную новую страву, кожны кавалачак, яны даўно сытыя, даўно перасычаны, але ім падабаецца па-ранейшаму есці, есці безупынна, каб на талеркі ўвесь час падкладалі і кавалкі паболей, большы кавалак выглядае заўжды ўнушальна, выклікае міжволі павагу, нават зайздрасць, і каб не забываліся падліваць у келіхі, каб гучалі тосты, каб было весела. Іх па-ранейшаму цягне за шыкоўны бяседны стол, да бліскучай саксонскай парцаляны. Бо гэта —пекная частка дня, жыцця, сонечны бок жыццёвай руціны.

Не прыядаецца напэўна толькі ўлада. Нават калі ператвараецца ў жыццёвую руціну, улада засмоктвае. Гэта як з грашыма за сталом з гульцамі: азарт паляўнічага не знікае, немагчыма здаволіцца, ніяк. Зрэшты, руцінай яна можа зрабіцца толькі для таго, хто не любіць яе, уладу, па-сапраўднаму больш за жыццё. Хаця гэта толькі метафара, моцнае параўнанне. Станіславу Аўгусту было вядома, той, хто стварае ілюзію, што гэтак улады прагне, што яна даражэйшай робіцца, чым жыццё ўласнае, без якой не ўяўляе сабе яго сэнсу, той якраз ніколі не збіраецца паміраць, той уладарыць прагне да труны, улада і жыццё для яго —аднолькавыя паняцці, бакі аднаго медаля.

Кароль —не мніх, не біскуп, не кардынал, але ў пэўным сэнсе, з абавязкам напаўцэлібату. Уявіць сабе сына, які з табой у палацы, у карэце, з табой у тваёй маленькай Галандыі... Навошта? Калі ведаеш, што табе забаронена перадаць сімвалы ўлады, што не маеш шанцаў перадаць краіну ў наступныя рукі не толькі свайму пераемніку-спадкаемцу, але хутчэй нікому зусім, што «ты —гэта краіна» і ёсць тваёй горкай праўдай: не будзе цябе, не стане краіны і наадварот таксама, калі толькі не спадзявацца на цуд, на Бога з машыны. О, тэатр, любімы ім тэатр...

Нібыта ніхто не перашкаджаў яўна, але часам ўзнікала міжволі адчуванне, што хтось стаіць за спінай, бязмоўны цень, так-так, і гэты хтосьці не сімпатык твой, не маці, як у маленстве, якая з любоўю назірае, як сын нешта вартае робіць, чы-

тае кнігу, напрыклад, і не настаўнік, які павінен яго навучыць, гэты хтосьці назіраў з халодным розумам, і быў гэта зусім не Бог. Не, ён, кароль, не быў зусім ужо кузуркай пад павелічальным шкельцам мікраскопа ці лупы, але за яго дзеяннямі, за рухам на яго будоўлях, за ўсімі падзеямі пастаянна назіралі праз падзорныя трубы іншыя. Варшава бадай кішма кішэла шпіёнамі, хаця яны выглядалі як на вока падобна астатнім, не адрозніваліся, не вылучаліся, іхняе амплуа зліцца звонку з іншымі.

**17**

Я супраціўлюся, але спакваля адчуваць пачынаю, што міжволі апынаюся нібы на яго месцы, хай толькі на паперы, але ж уперад, як на ёй вывесці, запісаць свае думкі ад імя караля, трэба іх вымысліць самому, асабіста, без пабочнага ўдзелу. Не, я не кароль у думках сваіх, барані Божа, і не цень яго, не маска, пагатоў не падвойнік, я не яго голас, я —думкі з яго нагоды, з нагоды яго ўчынкаў, дзеянняў, яго жыцця, двухаблічнага лёсу, мае словы —гэта словы, якіх ён не прамовіў, але супраць якіх не пярэчыў бы асабліва, мне хочацца лічыць, каб мы пазнаёміліся ў нашым часе, хай толькі ў снах, уявах, у летуценнях. Меркаванні караля без яго самога, але дзякуючы яму.

Вось так, як бы я ні супраціўся, не адмаўляўся, але калі ты бярэшся за вобраз знанай персоны, за вядомае ў гісторыі імя, сам гэты крок уцягвае цябе ў гульню, хай не ў тэатры, хай сцэна толькі ўяўная, гэта гульня на паперы, але перш у думках, папера —толькі белае палатно, на якім ты пазначаеш літарамі, словамі, потым —шрыфтамі пры дапамозе тэхнікі, друкарак.

Гэта перадача не вымаўленых слоў, не агучаных думак —на адлегласць, калі яны, адбіваючыся ад паперы праз вочы трапляюць невядомаму табе чытачу, робяцца ў гэты момант, на час і яго думкамі, ён бачыць тое, што перш бачыў ты сам-адзін.

Як б не адасабляўся, не адыходзіў убок, не стараўся быць адстароненым, я адчуваю яго цень за спінай, ён прысутнічае ў маіх штодзённых думках. Не, я па-ранейшаму не браў яго маскі ў рукі, але я амаль дасягнуў мэты, ажыццявіў сваё жаданне, сваё памкненне перакінуць цераз дзвесце год масткі ў часе паміж вельмі важным, спачатку досыць аптымістычным, пазней драматычным перыядам ў дзеях майго горада, паміж вельмі важнай персонай нашай мінуўшчыны і намі. Ён —наш кароль, наш, як і вялікі князь, у адной асобе! І пахаваным яму варта было быць тут, у нас. Ён быў апошнім каралём у гэтым горадзе і горад дзякуючы яму называюць сёння менавіта каралеўскім, хоць ні помнікаў, ні імя яго няма на пляцах і вуліцах і нават у вялікасных старасвецкіх касцёлах, адно ў музеі, што ў яго апартаментах былых зроблены, я заўжды запыняюся перад музейным бюстам Станіслава Аўгуста Панятоўскага і перад гербам дзяржавы, якой ён будаўніком стаў і далакопам.

**18**

Мармур, ён не смяецца, не, мармур не можа смяяцца, мармур не здатны да ўсмешкі, ён халодны, адстаронены, застыглы, каб адлюстроўваць зрухі на твары, міміку, эмоцыі, пачуцці. Значыцца, мармур, светлы, чысты мармур —ён мёртвы? Але ж смяяцца не ўмеюць таксама жывёлы, нават малпы не ўмеюць гэтага, так-так, нават яны не пасміхаюцца. Дзе б знайшоўся скульптар, які здолеў бы выразаць на каменным твары ўсмешлівы выраз, значыцца лагодны, мяккі, якім камень быць не бывае, якому яго цвёрдыя ўласцівасці не дазваляюць сентыментальнасці, летуценнасці, легкадумнасці? Ці прыдатныя разец, зубіла, малаток да стварэння ўсмешкі?

Мармур для любоўных сцэнаў, для алегарычных —рамёствы, навукі, мастацтва, але перш —для гераічных. Трыумфальныя брамы з нагоды перамог, прысвечаныя аружным талентам манарха, або генералам, яго арміі. Складаная навука цяперашняга дня, але для канкрэтнай асобы —Яго каралеўскай мосці Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Не сармацкай косткі ён, не ваяр, не пераможца! Салонны кароль, для танцаў, для пазіравання мастакам створаны, шабля якога —быццам веер для прыдворнай дамы, не болей! Адчуваў ён нядобразычлівыя погляды, шэпты, здзеклівыя інтанацыі, неадпаведныя паводзіны, прысмак чужой пагарды, адценне

грэблівасці ў рэпліках, словах, у размовах. Але ў друках таксама —адкрыта —у карыкатурах, эпіграмах. Кароль, які не каранаваўся на Вавелі, які ж ён пераемнік уладароў, якія там спачываюць, якія славу прыдбалі зброі польскай? Так-так, якія пашырылі межы, каторыя ён, манарх сённяшні з усімі паўнамоцтвамі, не здолеў ніяк абараніць ад чужых гармат і рушніц?

Пастаяннае папіканне: як змалела Рэч Паспалітая за сто год, ад караля сармацкага, ад Яна Сабескага, ад слаўнай перамогі турэцкай, перамогі польскай зброі пад Хоцімам і пад сценамі венскімі —да цяперашняга манарха ў парыжскай вопратцы, напарфумаванага, з амаль бутафорскім войскам... І гэтае яго ўразлівае жаданне абвергнуць нейк, адказаць на закіды чынам станоўчым, важкім, сапраўды манаршым: помнік, конная статуя пераможцы над туркамі караля Яна III Сабескага.

Так, і яго ж абсмяялі: конная статуя атрымалася паркавай па месцы знаходжання і не так баявой, сармацкай, як павялічанай шматразова кабінетнай. Яна выглядала больш музейнай, чымсьці статуяй з плошчы сталічнага горада. Але ж і праўда: спяшаўся ён, справядліва пісалі ў пасквілях затым —каб паддобрыцца да імператрыцы Кацярыны, якая ваявала туркаў. Помнік пераможцу на кані, які дратуе янычара, ваяру ў антычным шлеме, які кліча наперад. Але ці патрэбны быў такі празрысты рух, каб дагадзіць імператрыцы, ці не здаўся ён недарэчным, ці не выклікаў нават не рэўнасць, раздражнёнасць? І ці можна параўноўваць дзве стагадовыя перамогі з цяперашняй вайной Расейскай Імперыі, якая адваёўвала ў туркаў абшары, далучала народы, вызваляла хрысціянскія гарады з-пад панавання басурманскага, штурмам брала ўмацаваныя цвержы, праводзіла адну бітву за другой, няўмольна набліжаючы разгром Турэччыны? А злашча імператрыцы было вядома: паставіўшы помнік, Станіслаў Аўгуст меўся папрасіць дазволу, так-так, дазволу павялічыць войска Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага таксама. А навошта ёй гэта дазваляць? Навошта яму, як у Хрыста за пазухай у яе, мець сваю моцную армію? Яна не патрабуе ад яго жаўнераў, яна дае рады сама на збройным полі. Ёй патрэбна толькі тое і тады, калі яна сама захоча, кропка. Хаця дазвол дала, каб Станіслаў Аўгуст паслаў сваю кавалерыю да імператрыцыных войскаў на тэатр баявых дзеянняў...

Не існавала ў Варшаве цягам ста гадоў статуі абаронцы ўсёй Еўропы ад турэцкай навалы, а цяпер ён ёсць, усё, ён зроблены. Не смяецца мармур, з яго смяюцца, але смяецца хто? Смяецца натоўп, не смяюцца асобы. Так-так, рацыя. І міжволі, калі разважаеш над скульптурнымі творамі, міжволі стараешся не затрымліваць думку: а ці паставяць табе калі-колечы помнік, статую і якую, дзе, калі? І хто? І якімі спрэчкамі, закуліснымі дзеяннямі гэтая падзея пазначыцца ў гісторыі? Помнік у Варшаве, помнік у Гродне, дзе?

## 19

Што мне да палякаў, якія спрачаліся —не маглі наспрачацца —«здрайца» кароль апошні, ці не зусім, залежала ад яго штось па-сапраўднаму, ці зусім не залежала? Можна хаваць некалькі рэштак ад яго дамавіны ў польскіх дзяржаўных межах, ці няможна? Варты ён хоць нейкай урачыстасці, ці зусім не заслужыў? У адным усе яны там былі аднадушныя: на Вавель, у Пантэон, да ўсіх папярэдніх —у ніякім разе! Толькі цераз наш труп! Так-так, менавіта так усё здарылася ў іх там, за «лініяй Керзана», у нас тут ён не выклікаў зусім ніякай цікавасці, ён не наш, чужы, мы на яго палацы да сцяны шыльду Жалезнаму Феліксу прыбілі. Не-не, ён трапляецца ў студэнцкіх рэфератах сёння, але рэдка, постаць калі не нон грата, то нікчэмная для айцоў горада дакладна. Мне дзіўна ўсведамляць, што я хутчэй адзіны ў немалым горадзе ўспамінаю цяпер пра караля, разважаю прыхільна, з піетэтам, турбуюся пра помнік, у мяне задумы, відарысы, памеры. Так-так, я думаю, што Станіславу Аўгусту Панятоўскаму мы паставім помнік за Брамай сфінксаў на вялікім падворку на фоне калонаў Новага каралеўскага палаца, самае месца. Не згодныя? Думаю, што аргументы супраць мізэрныя. Хаця я не чую ніякіх аргументаў. Ты ўзяўся гаварыць, гавары, у нас твой кароль на апошнім месцы, яго ў спісах у гарадскіх айцоў няма зусім. Так, мне гэта добра вядома, вядома нават, што на паліцах у майстэрнях скульптараў

ён таксама не прысутнічае, ніякай статуэткі няма хаця б. І не таму, што эпоха пад вялікім пытаннем, эпоха добра вядомая скульптарам, яна прываблівае, яны над ёй працуюць. Як ім удалося, аднаму Богу вядома, але нават угаварылі айцоў горада: людзі ходзяць побач з бронзавымі персанажамі несучаснага выгляду, гэта каралеўскі батанік, каралеўскі архітэктар, яны дапамагалі яму будаваць Гродна, рабіць сучасным. Чую, не, хай сабе толькі уяўляю кепікі: статуя караля на фоне порціка з неабдымнымі калонамі, якi, нібы сонцам або ўсёвідушчым вокам у трохкутніку, аздоблены вялізным гербам савецкай імперыі, якая вылупілася на турыстаў з іншага свету. Так-так, я не аспрэчваю, затое на браме вартуюць палац няўсмешлівыя каралеўскія сфінксы, нібы вялізныя каты. Сфінксы Аўгуста Саксонскага.

Ты вітаешся з імі моўчкі, але заўсёды ўзнімаеш да іх вочы, не глядзіш адно пад ногі ці толькі перад сабой, яны самі прыцягваюць позірк, яны зверху, яны ахоўваюць палац каралеўскі, даўно без караля, даўно перабудаваны, перароблены ўнутры, але па-ранейшаму Новы каралеўскі палац. Ніхто, нават дзіўна, не змяняў яго назвы і, што яшчэ больш неверагодна, пакінуў брамных сфінксаў, якія зусім не адпавядалі прынамсі паўвекавому прызначэнню былых манаршых апартаментаў і соймавых памяшканняў. Праз арку ты трапляеш быццам у абдымкі светлай птушкі-палаца, якая двума крыламі зачароўвае цябе, запрашае, але ўперад статуя, дзе ты яе сам паставіў, гаспадара, ён стаіць перад табой, ён, ваш кароль, якога не палічылі вартым піетэту і пашаны. Але што табе да тых палякаў? Ён —ваш, ён твой, ты любіш яго за тое, што ён быў, і табе зусім не хочацца рабіцца пракурорам і суддзёю, бо лепей не судзіць і тэлевізійная сцэна ў варшаўскім сейме, дзе амаль з пенай спрачаюцца «Самаабарона» і заўсёды правыя аб тым, дзе дапушчальна дазволіць перазахаваць рэшткі каралеўскіх шпораў, бо ад яго самога не засталося ані косткі, выклікаюць у цябе грымасу на твары. Лёгка ім там спрачацца, калі няма больш нават падабенства фатальнага хаўрусу: Аўстрыйская імперыя ператварылася ў рахманую мірную дэмакратыю, забаўляе турыстаў тырольскімі спевамі, шакаладнымі цукеркамі з Моцартам, горнымі лыжамі і паліцэйскім серыялам пра камісара Рэкса, калі былыя прусакі зрабіліся цудоўным чынам братамі па зброі, у Легніцы больш няма маскоўскай стаўкі, а сама руская армія, апынуўшыся ў былой Усходняй Прусіі, хоць і трымае порах сухім, не б'е ў барабаны і не разгортвае свае арліныя штандары з дзвюма дзюбамі.

Дзе б яшчэ пасавала статуя караля Станіслава Аўгуста? Постаць яго не для паркавых прысадаў, не для хрушчовачнай забудовы. Перад парламенцкай уладай як быццам не паставіш, перад домам культуры тэкстыльшчыкаў, якія бадай зніклі, пакінуўшы па сабе псеўдаантычную пабудову з калонамі, таксама, а вось пляцык перад нібы-палацам прафсаюзнай дзейнасці больш прыдатны для помніка. Нездарма хацелі калісьці Каліноўскага паставіць, ды нейк заглушылі жаданне, быццам прадчувалі, што не затрымаюцца дзесь надоўга старыя часы, вернуцца сюды зноўку натрывала, каб дзяліць гісторыю на чорную і белую, каб зацята мазаць на ранейшы капыл яе персанажаў гэтымі ж дзвюма фарбамі. Паставіць каралеўскі помнік на пляцы, дзе Катэдральны каталіцкі сабор? Але ж казалі, без жарсці маліўся, без апантанасці кленчыў, без піетэту прымаў камунію, без вялікага жадання наведваў імшу. Аднак на вызваленае дынамітам ад гатычнага касцёла месца караля пагатоў не паставіш, хоць для некаторых гэта сталася б сімвалічным крокам ушанавання-прысуду. Як жа, вядома: у старадаўнім высокім магутным храме здарыўся пажар самы раз у год «маўклівага» сойма, і новая ўлада з гатовасцю ператварыла яго ва ўсходнюю царкву. Так-так, змрочная сімволіка як вынік заканчэння каралеўскага праўлення.

Кароль —на прывакзальнай плошчы? Эклектыка, не было тады вакзалаў. З другога боку, пасажыр цягніка ці аўтобуса меў бы перад вачыма ўрок гісторыі, яго праводзіў бы кожнага разу не абы-хто, сам кароль! Жыццё і горадабудаўніцтва, што й казаць, рухаліся ў іншым накірунку, не ўлічваючы каралеўскія традыцыі, не зважаючы на былую забудовы з кляштарамі і палацамі, Магдэбургскае права зрабіўшы нядбайна выробленым муляжом, архаічнай цацкай з пап'е-машэ ў музейнай вітрыне. Праца архітэктара стала дапаможнай, не першаваж-

най. Механічнай. Архітэктары, стоячы над гарадскім макетам, расстаўлялі аднолькавыя кубікі, пажадана сіметрычна, пад простым вуглом. Створаная гістарычна забудова, вулічная тапаграфія мала што значылі. Ландшафт таксама не лічыўся самадастатковай каштоўнасцю, можна было ставіць свае кубікі зверху на старыя камяніцы, спрашчаць фасады, руйнаваць вежы, званіцы, абарончыя сцены, стаўляць гмах упоперак вуліцы, архітэктурны музей зводзіць да стандартных невыразных пабудоў. Разбурэнне гарадскога краявіду з цьмянай матывацыяй, заўзятае нявечанне абрысу вуліц, бязладнае, нічым не абгрунтаванае пляжанне камяніц-помнікаў не так заахвочваліся знарок, як лічыліся абавязковай штодзённасцю. Трывала руціна пераробкі старадаўняга горада, падгонкі пад сябе, пад свае звычкі, патрэбы, пад свае вочы. А вочы звыклі да аднастайнасці, да адной-дзвюх фарбаў. Асабліва дарэчы сталі вынікі вайны: пашкоджаны дом, храм у ніякім разе не адбудоўвалі, не рэстаўравалі. З гатовасцю руйнавалі, дарабляючы за артылерыю і бомбы. Калі будынак чамусь вырашалі пакінуць для сваіх патрэбаў, абавязкова перабудоўвалі да непазнавальнасці. Мэты, дый нават думкі —аднавіць, вярнуць ранейшы выгляд, прыгажосць —проста не магло ўзнікнуць, такія думкі маглі быць небяспечнымі, асабліва калі б датычылі пабудоў, звязаных з рэлігіяй і каралямі. Дзіва што каралеўскі палац перабудавалі для кабінетаў партыйнага кіраўніцтва, насяліўшы ідэалагічнымі начальнікамі, аддзеламі і сектарамі, інструктарамі і сакратаркамі. Так што самае дзіўнае дагэтуль, што немагчыма зразумець і знайсці для чаго рацыянальнае вытлумачэнне —сфінксы, каралеўскія сфінксы дрэздэнскага ўзору, якіх кожнага дня бачыў некалі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, кароль апошні, якога яны перажылі.

А хіба эклектыка каралеўская статуя як аздоба гмаху ўлады? Урэшце ён узначальваў менавіта дэпутацкі сход, прынамсі ён збіраўся заўжды пад яго прыглядам, з ім на чале. А ўлада сёння менавіта на плошчы, не ў палацы Новым, дзе, пасля адмены партыйнага кіраўніцтва, пасля яго скасавання і нават часовай забароны, размясціліся зборы музейныя і бібліятэчныя. Калі быць праўдзівым, парламент наш сёння толькі



падымае рукі і моўчкі ўстае пад гімн, але мне помняцца тыя кароткія часы, калі зала віравала, калі дэпутаты нешта сапраўды значылі, калі яны не баяліся прамаўляць, калі гаварылі на поўны голас, калі адчулі нарэшце свае паўнамоцтвы, калі ад іх штосьць рэчаісна залежала, толькі што грошай вечна не хапала ў бюджэце, тады нібы вярнуўся, залунаў дух парламенцкі даўнейшы, і дэпутаты, быццам абудзіўшыся ад летаргічнай спячкі, пачалі абмяркоўваць вяртанне вуліцам іхніх назваў і будучыя помнікі былым персанажам драматычнай гісторыі, сваім папярэднікам.

Атрымалася будаванне замкаў на пяску. Яны не паспелі, ім не хапіла часу, час, ён бывае неверагодна шчодрым, радасным, шчасным, плённым, але і хуткаплынным, а бывае жорсткім, тупым, быццам сценабітная прылада-зброя. Дзе тыя нешматлікія рамантыкі, людзі новага часу, якія прагнулі змяніць краіну і горад, адбудаваць ратушу, палацы, храмы, зрабіць рэстаўрацыю запатрабаваным мастацтвам, стварыць новыя музеі, паставіць помнікі? Час паглынуў іх, скінуўшыся з часу новага ў час учорашні, быццам здзекуючыся: усё новае, спадары, —даволі грунтоўна альбо толькі зусім ненадоўга прызабытае старое. Кволае месца рамантыкаў: ім выпалі аптымістычныя, але грашова цяжкія, псіхалагічна складаныя часы, яны не пакінулі пасля сябе помнікаў, толькі сціплыя шыльды на некалькіх пераназваных вуліцах. Паспрабую сам зараз падсумаваць тыя, колішнія спробы вярнуць гораду гістарычную памяць, але скажу толькі апошнія словы менавіта наконт статуі яго, караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага... Рука на тронку шаблі, у другой скрутак, канстытуцыя. Годная спакойная постаць, на бруку, побач людзей. Ці, наадварот, перад гмахам улады з алегарычнымі выявамі навокал пастамента: мастацтвы, будаўніцтва, матэматыка, астраномія... Хоць не люблю перанасычаныя помнікі. Выглядаюць архаічна, празмернымі, перабольшанымі, з сумнеўным нават густам, як шчыльна застаўлены стравамі, бутэлькамі стол, як колішні шацёр турэцкага візіра...

## 20

Пасля перамогі Венскай ліст караля Яна III Сабескага да жонкі, які загадам выдрукаваны быў, тыражна разлятаўся як газета. Чытайце, захапляйцеся! Друкаванае слова мацней перадае навіну за прамоўленае, яно больш важкае, грунтоўнае, пераканаўчае. Яно трывалае ў часе, да яго можна вярнуцца зноў і зноў, каб яшчэ раз здзівіцца, атрымаць асалоду. Найлепшай газетай сам жа яго й назваў Ян III, гэты ліст да сваёй жонкі, але, зразумела, ліст, у якім не прыватныя справы былі зместам, дзе апавядаў пра ўласную перамогу векапомную над туркамі і цудоўнае вызваленне Вены. Міжвольнае параўнанне сябе з ім, да чаго змушалі і абставіны, і закулісныя справункі, і палітычныя баталіі, яно час-часам вымушала Станіслава Аўгуста ўзяць у рукі славэтнае пісьмо-газету, якое некалі набралі тлустым шрыфтам друкары, адціснулі густой і чорнай фарбай. «Мой ліст лепшы за газету...» Хвалько! Але хвалько, трэба сказаць, вымушаны, гэта разумеў Станіслаў Аўгуст, усе гэта разумелі: аўстрыякам хацелася прыменшыць ролю Яна III, перамогу зброі Рэчы Паспалітай, зрэшты, часткі хаўруснага антытурэцкага войска. Яну III проста давялося абвясціць на цэлы хрысціянскі свет, распаўсюдзіць па еўрапейскіх абшарах асабістую рэляцыю пра грандыёзную вікторыю над асманскай навалай: хай Еўропа ўздыхне свабодна! Хай хрысціянскае людства падзякуе яму і Богу нашаму аб трох аблічсах: небяспека мінула пакуль, яна рашуча спынена, хоць і не знішчана зусім назаўжды.

Не Яну III належыць «эўрыка», да яго каралі Рэчы Паспалітай рабілі такое, а слаўны ваяўнік Стэфан Баторый меў друкарню перасоўную, што за войскам рухалася, у якой пра ўсе кампаніі, аблогі, бітвы памнажаліся паведамленні, каб прачытаць тэрмінова магла і даведацца з першых рук аб важных падзеях, аб удалых і няўдалых мілітарных чынах, аб усіх здарэннях аружных адукаваная публіка ў айчынных і ў іншых еўрапейскіх местах.



Аднак жа ніхто да караля Яна III не зрабіў гэта такім спосабам, не азагаловіў сваю аб вікторыі рэляцыю зваротам да «Марысенькі», да «адзінай душы й сэрца пацехі» сваёй. Гэта быў эпатаж пераможцы, ён звяртаўся да

Найяснейшай Рэчы Паспалітай, да ўсяе Еўропы, як да сужэніцы сваёй законнай, каралевы Марыі Казіміры. Пішу, маўляў, у ноч пасля знішчэння і ўцёкаў рэштак янычарскіх жаўнераў і пішу не абы-дзе, у намёце візірскім, а покатам навокал турэцкае войска ляжыць. Справіліся з ім як мае быць, пра подзвігі кароль-пераможца лішне не красамоўствуе, затое спыняецца падрабязна на трафеях. І тут Яго каралеўская мосць кажа моцна, каб уразіць, што намёты візірскія гэткія па плошчы, нібы сама Варшава ці той Ільвоў, аточаны мурамі. Засталася пасля ўцекача ў чалме і залатым халаце —найперш харугва яго магаметанская, яе Ян III хуткай поштай пераслаў Айцу Святому проста ў Рым, каб пацешыўся таксама з ухілення пагрозы ятаганскай. З прыемнасцю паведаміў і пра каня візірскага з усёй аброццю і пра залатыя шаблі турэцкія крывыя, але ўперад —пра сагайдакі, каштоўным каменнем аздобленыя, па некалькі тысяч чырвоных залатых за паасобны. А дарэчы: кароль-пераможца паведамляе пра ўсходнюю звычку да раскошы —нават у вайсковым табары меў візір турэцкі лазню, сад з фантанамі, трусоў, катоў улюбёных і таксама папугая. Пры гэтым кароль Ян III піша без ніякай сціпласці, што ў касцёле жыхары Вены цалавалі яму, пераможцу, рукі, ногі і вопратку і што проста ў храме перад алтарамі прагнулі крычэць яму «Віват!» З’еўшы абед у каменданта горада, кароль вырашыў вярнуцца ў свой табар, і месцічы яго, Найяснейшага і непераможнага манарха польскага, на руках пранеслі да самай брамы. Ведай, Марысенька-каханне маё, ведай, астатняя Еўропа! Я табе бліскучую сваю перамогу над басурманам да ног кладу ў якасці прэзента каралеўскага шчодрага...

Пра паходны гарэм візіра хрысціянскі кароль-пераможца сціпла прамаўчаў, гэта я ад сябе дадаю, зразумела. Калі візір нават лазню, фантаны, нават трусоў, катоў і папугая меў, ваюючы, душачы аблогай Венскі горад, без часткі гарэма яму не

абысціся было дакладна, бо іншыя задавальненні без самых прыемных, што кава турэцкая без драбочкаў солі.

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ведаў, што рэляцыю з поля бітвы выдрукавалі на ўсіх еўрапейскіх мовах, хоць і не адразу, не маланкава, але навіны ў тыя часы падоўгу не псаваліся, асабліва моцныя і гучныя. Дый у нашыя дні таксама, падумалася мне між іншым, выбралі адную перамогу з усіх і раздзімаюць штодня, пражужжалі вушы наскрозь. Перамога Яна III Сабескага ўсімі ўспрымалася вельмі значнай, як дасягнутая ў вайне, што не мела канца, цягнулася з перапынкамі, гэта было змаганне з чужароднай пагрозай, якая не знікала і выклікала жах, але нарэшце хрысціянская зброя грунтоўна перамагла зброю магаметанскую. І вось зроблены пераклады, каб не напружвалі галовы пры еўрапейскіх дварах: «Letter from the King of Poland to his Queen», напрыклад, дагэтуль у музейнай вітрыне. Так-так, ліст адбілі вузкім гатычным, шырокім тлустым, дробным —для спрактыкаванага чытача, з аздобай гравюр, тысячы паасобнікаў, яны прадаваліся ў кнігарнях ад Кёнігсберга, Стакгольма да Лондана, Мадрыда і Балоны, і ў Гродне, само сабой, таксама, а як жа інакш! Я міжволі спыняю сябе на думцы: ліст-газета звычайна не меў таго, што цяпер называецца выхаднымі дадзенымі... Якая спакуса для сённяшняй улады арыштаваць за іх адсутнасць —пратакол, суд, для ўлады, якая ведае пра каралёў, пра іхнія перамогі, але не зважае на іх, яна задаволеная сабой, яна спачывае на лаўрах даўняй перамогі над каралямі, у асаблівасці над апошнім з іх, які быў адхілены, каб не было больш каралёў, а былі цары.

Перамога Венская, перамога Хоцімская —яны, гэтыя гістарычныя батальныя палотны-панарамы нібы вечны дакор для яго, Станіслава Аўгуста Панятоўскага. А што ты, Ваша мосць дзяржаўца Рэчы Паспалітай, заваяваў, каго перамог, чаго дамогся? Дзе твае пераможныя літаўры, чаму маўчаць трубы, дзе прапахлыя порахам сцягі з валечнага поля бітвы, дзе твае вянкі лаўравыя, твае трыумфальныя аркі? Ці хоць адзін-адзіны мілітарны чын ты выйграў, ці хоць аднойчы сеў на каня, каб выехаць наперад кавалерыі, ці ўзмахнуў карабэляй, ці панюхаў сапраўднага парахавога дыму, што тхне



смяротнай небяспекай, а не толькі на паляванні ад ручніцы, калі табе насустрач егеры і выжлы выганяюць пад кулі бездапаможную лясную жывёліну? Ці маеш ты, Ваша мосць кароль, ордэны палкаводца за мілітарныя подзвігі, за смелую стратэгію і тактыку ў аружных справах, дзе твае ўзнагароды за скоранага ворага, за адваяваныя землі, за кроўныя інтарэсы Найяснейшай Рэчы Паспалітай?

Не, не было гарматных залпаў, не было гусар крылатых, і могілак салдацкіх не было, ён ціха-мірна камяніцы будаваў, мануфактуры, паляпшаў дарогі, ставіў млыны, разбудоўваў гарады, а ў іх тэатры, школы, абсерваторыі, не забываўся пра палацы, хоць, па шчырасці, калі быць да яго непрадузятымі зусім, то трэба ўзгадаць, што ў сталічнай летняй рэзідэнцыі, у Лазенках, яму не наканавана было па-сапраўднаму раскашаваць, палацык канчаткова гатовы быў толькі калі кароль наш у Гродне мусіў, падпісаўшы акт адрачэння ад пасаду, трываць пад хатнім арыштам, чакаючы наступнага вырашэння свайго лёсу. А Лазенкі, Лазенкі засталіся ў Варшаве.

**21**

Што датычыць слаўных валечных чынаў караля Яна III Сабескага, яго першай значнай —Хоцімскай перамогі, то Яго мосць кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, прыхільнік і мецэнат мастацтваў і паэзіі, не абмежаваўся адно помнікам конным сармацкаму манарху-ваяру, не, ва ўгодкі слаўнай вікторыі замоўлена была эпапея, паэтычная «Хоцімская вайна». І, на вялікі жаль, у Станіслава Аўгуста застаўся не так асадак непрыемны, як прысмак лёгкай расчараванасці. Собіла замовіць паэму творцу ў сутане, вядомаму паэту-біскупу, зусім не ваяўнічаму ў сэнсе мілітарным, працаўніку на ніве Божай. Так-так, майстру слова, спрытнай рыфмы, творцу выдатнаму, але іншага жанру, не гераічна-эпічнага, а якогасьці героекамічнага. Не-не, аўтар сумленна-дбайна прасякнуўся атрыманай ад Яго каралеўскай мосці замовай і выканаў яе нібы паводле падручніка —правільна, у рэчышчы паэтычнай нормы і канону, але зусім не бліскуча, хутчэй аднастайна, нудна, нейк

безжыццёва, без іскры. Быццам выканаў халодную статую з цудоўнага карарскага мармуру, але якая не смяецца і не трыумфуе па-сапраўднаму, з жыццёвай моцай. Чытач не бачыў ззяння трубаў, не адчуваў радасці «віватаў», не мог ацаніць пераможнага прысмаку парахавых залпаў, сцягі не луналі, барабаншчыкі лупцавалі як па бавоўне, порах быццам зрабіўся вохкім, а войска апанавала фатальная стома, яно бадзёрылася толькі на паперы.

Што яшчэ дадаць? Паэма толькі формай нагадвае жыццё, але не зместам.

Дбайная рамесніцкая праца, без натхнення, рэч без патрэбнага бляску, не твор мастацтва, якія застаюцца на вякі. Дрэнна. Усё разам стала выглядаць менавіта на нядобрую паслугу самому Яну III Сабескаму. Зразумела, зробленую з найлепшых перакананняў і памкненняў.

## 22

Вось несур'ёзная вайна, камічная, у аўтара атрымалася як мае быць, можа яна ў ім сядзела, задума яе, сцэны, персанажы, калі кароль замаўляў яму сваю паэму, якую паэт-біскуп пачаў пісаць насуперак той, што была ў яго ў галаве, змагаючыся з супрацьлегласцямі. Зусім не выключана. Перад вачыма адно, а ў кроплі чарніла на вастрые пяра —іншае. Так-так, зусім не выключана, што казаў сабе: трэба пастарацца, трэба намагчыся, каб выканаць замову і хутчэй узяцца за яе, сваю «Вайну мніхаў», якая парушыла іхні «салодкі рай» і ў якой замест гарматных куляў ужываліся пыльныя фаліянты, каторых не чыталі болей, ленаваліся насельнікі кляштараў, бо іх даўно болей вабіла ежа фізічная, рэчаісная, вінцо, моцныя трункі і лайдацтва таксама. Асабліва гарэлка кменная ды ліквор празрысты, як сцвердзіў паэт у сутане. Так-так, яны часцей кленчылі перад шэрагам гарнцовых куфляў, чымсьці ля ног распятага. Словам, таленавіты і папулярны паэт бліскуча апісаў хатнюю вайну паміж двума кляштарамі, у якіх зімулета хадзілі ў сандалях з драўлянымі падэшвамі, на жабрацкі капыл, «вайну жорсткую без зброі і мяча», «рыцараў босых і голых», «вайну манаскую».

І прыкрым момантам здалося адназначна тое, што напісаў яе, тую зласлівую паэму біскуп-творца, бавячы свой час у палацы Фрыдрыха Другога ў Берліне прускім. Пры двары Варшаўскім, само сабой, раўніва паставіліся да першых жа радкоў, з якіх празрыста вынікала, што дзея магла адбыцца у кожным месце Рэчы Паспалітай, хаця б і ў гарадзенскім, крыху раўніва падумалася Станіславу Аўгусту пры ўзгадцы пра радкі:

> «Старое замчышча, журботная пустэча —
> Існуюць тры карчмы, разваленыя брамы,
> Кляштараў дзевяць і лічба пэўная дамоў».

Кароль міжволі стаў пералічваць кляштары гарадзенскія: досыць, сапраўды. І ў крыху завуаляваным кампліменце сабе далей адчуў штось панібрацка-малапрыемнае, радкі самі паўтараліся-адбіваліся ў памяці, як жа там напісана было ад імя лайдакоў-мніхаў:

> «Згары звычайна дакляруюць прыклад абы-які,
> Адтуль ідуць прычыны нашага няшчасця.
> О ты, які цяпер на польскім сядзіш троне,
> Вядома: мёду ты не любіш і не любіш віна!»

І зусім ужо якімсь нізкім, карчомным стылем —што п'янства пры табе канае, што маеш густ да кніжак, а піўныя ў заняпадзе, што адарваў ад куфляў, шклянак, бочак свой люд, а сам у жыцці бадай ніколі не напіўся!..

Гэта ўжо гучаць словы самога аўтара. Непатрэбны рэверанс бадай, зморшчыўся кароль у думках, пахвальба, зрэшты безасабовая, без надрукаванага імя, але якаясь нягеглая пахвальба, ад якой толькі пачуццё прыкрасці. Лепей нічога не пісаць, як такія радкі. Што праўда, зроблена «Вайна мніхаў» жвава і ў большасці месцаў нават бліскуча, яна сама чытаецца, прычым пачынаеш, не задумваючыся, вымаўляць радкі ўголас. «Антывайна мніхаў», якую аўтар напісаць па часе мусіў, каб падставіць тарчу на шляху крытычных стрэлаў, яна была

ўжо іншым складам скроена, паважна-бесстароннім, але і менш чытэльным, не, не цяжкаважна, але без прысмаку эмоцый, без жарынак, без іскрыстасці, нібы ўсё тая ж хоцімская пра вайну паэма.

І што яшчэ амаль з зубоўным болем успрынята стала, што біскуп-творца, што салдафонства не цярпеў, знайшоў агульну мову з прускім каралём, пасля разбору Першага стаўшы яго падданым. І абурыла што зусім усю Варшаву, Гродна, Вільню, што выглядала справа як спаборніцтва паэтаў, неверагодна! Спаборніцтва у пасквілях на Польшчу! Біскуп: я напішу пра мніхаў ваяўнічыя справункі, а імператар —што ж, тады мая паэма называцца будзе «Вайна канфедэратаў» і не інакш...

Хаця мы скажам, што Станіславу Аўгусту было даволі зразумела: усе паэты бадай аднолькавыя, ці паэт у сутане, ці з аксельбантамі, напрыклад. Славалюбства іх яднае, славалюбства і прага чытачоў паболей мець. Фрыдрых II прымаў гасцей шыкоўна, і ці магло не палесціць паэту-біскупу, што яму выпала займаць пакоі, у якіх раней гасцяваў, запрошаны да прускага двара аўтар разглоснай «Арлеанскай дзевы», сам Вальтэр? Распаўсюднік вальнадумства, лібертанскай мыслі!

Апошняй кропляй, што раздражніла караля, намёк якісь блазенскі ў «антыпаэме» біскупа, другой па ліку ў сэнсе, што датычыла манаскіх проста кажучы «загрудкаў». Пад выгукі «Да зброі! Так, да зброі!» стаўляюць збан вялізны на чатыры гарнцы, а на ім —у выглядзе аздобы прылітаваны злотыя і срэбныя талеры з тварамі, а менавіта —«Жыгімонтаў, слаўных Уладыславаў», а таксама, само сабой, і «Пястаў, Ягелонаў, Вазаў». Маўляў, такімі збанамі калісьці бацькі нашы любілі выпіць, не смуткуючы залішне. Нібы звычайныя радкі, але для караля апошняга —намёк, намёк на тое, што побач з іншымі няма манеты з яго тварам, неваяўнічым тварам караля, што любіць мову музаў, а не гарматны голас-рык.

**23**

Так, любіць музы, але зноў жа прайграе: Вальтэр у Фрыдрыха гасцюе, Дзідро —у Кацярыны, а Русо, Русо павінен быў у пушчы Белавежскай быць, паблізу Панятоўскай жыць і цешыцца з натуры нечапанай, з нерушы літоўскай. І што ж? Не выйшла з гэтага нічога. Не бачылі Жан-Жака ні Гродна ні Варшава. А тут вазьму я голас зараз, каб выказаць уласны погляд на падзею, што не адбылася, а магла адбыцца стараннямі, як нам вядома, Тызенгаўза Антонія, галоўнага у каралеўскай Горадні распарадчыка жыццём і будаўніцтвам-пашырэннем яе межаў.

Мы сёння, што цалкам натуральна выглядае, шкадуем вельмі, як уведаем, што не прыехаў сам Жан-Жак Русо, які паабяцаў, але змяніліся абставіны, а інакш мы б ганарыліся, што ён бываў у нас, што ашчаслівіў каралеўскі двор, што публіку парадаваў-пацешыў у горадзе над Нёмнам, апынуўшыся праездам у лясны прытулак свой, часовы, зрэшты, але не бяда, паколькі пушча стала б знакамітай на вякі не дзякуючы тым царам, генсекам, якія прыязджалі забіваць зуброў нашых, дзікоў, казуляў і сахатых, а дзякуючы ўсё ж яму, вядомаму пісьменніку і вальнадумцу, і шанавальніку прыроды-маткі нашай. Калісьці сама спадарыня дэ Эспінэ пабудавала для Русо на скраю свайго лесу ў Манмарансі дом-рай, названы Эрмітажам. Ды штось натура натурылася яго, штось муляла, таму свой адмысловы рай, пакрыўдзіўшы спадарыню дэ Эспінэ, пакінуўшы, ён перабраўся —побач —да мецэната у асобе герцага, які зафундаваў яму жыццё ў аслоне дрэў, дзе ўсё пайшло на слушную дарогу, дзе напісаў сваю ён «Элаізу новую» і напісаў «Эміля»... І мы не проста шкадавалі, што гаворыцца абстрактна, а страчанай магчымасці шкада было нам. Вось прыкладам, каб напісаў Жан-Жак Русо у пушчы Белавежскай нашай штось знакамітае адразу ці пазней, вось ганарыліся б нашчадкі літвіноў пушчанскіх, дый не толькі —таксама гродзенскіх, а ў асаблівасці ўсе тыя, хто моліцца на дзеі тых часоў і на людзей, хто Гродна пашыраў, хто праслаўляў яго, хто месца пакідаў у аналах часу.

Аднак усё не вельмі ясна, апроч радка аднога: што вось Антоні Тызенгаўз са згоды караля, з Русо Жан-Жакам зрабіў дамову, што той прыедзе жыць і дом яму на скраю пушчы падрыхтаваў. І потым штось тлумачаць цьмяна-невыразна:

якісь паляк славутага француза ашукаў, расчараваўся той і не прыехаў. Аргументацыя і тлумачэнне нядосыт пакідаюць, што зразумела і без лішняга абгрунтавання. Але задумацца: ці дапамог бы нейк сваёй прысутнасцю у нас, ці пасобіў бы, паспрыяў Жан-Жак Русо становішчу і сітуацыі вядомай, і нават рэпутацыі, што склалася, што існавала, і прыгнятала ў Гродне ўсіх свядомых патрыётаў, не толькі караля? Сын знаўцы механічнага жыцця гадзіннікаў і навучальніка —як танцаваць? Ці мог ён стрэлкі часу нейк скарэктаваць, злагодзіць іх хаду, нашараваць на вежы цыферблат, каб ззялі лічбы, каб рух у небе не азмрочваў, а натхняў? Наўрад —адказ мой так гучыць —наўрад.

Згаджацца можаце са мной, ці не згаджацца, такі я чалавек: палітык ён, паэт, не важна хто, але —калі ў паводзінах фігляр, зласлівец, ды што там гаварыць —пачвара, пачварай застанецца для мяне, зусім не важна —праклаў ён аўтабан, ці збудаваў палац, ці вершык напісаў, як шэпчуцца навокал, што надта ж геніяльны... Пашанцавала нам, што не прыехаў Жан-Жак Русо, дальбог пашанцавала. Той выпадак, калі, як кажуць, ён дапаможа што хваробе кашаль. Няўжыўчывы скандальнік, нервовы, недаверлівы, надумлівы і падазроны, пужлівы невымерна, але не толькі —няўдзячлівы і беспардонны, бязлітасны да шанавальнікаў сваіх, сяброў і мецэнатаў. Што яшчэ? Ён усе часы ўцякаў, напэўна ад сябе самога, бо кожны новы раз хтосьці даваў яму і дах, і стол, паперу, а што яшчэ патрэбна, каб пісаць? Але як вецер быццам гнаў яго адгэтуль і адтуль. Жан-Жак Русо? Грэблівасць, пагарда, пыха, ганарлівасць, так, фанабэрыя і несусветны эгаізм. Прырода знішчыла ту форму, з якой яго адліла, каб застаўся ў адзіным экземпляры —на ўсе часы —як пахваляўся ён публічна. Так-так, ён не такі, як людзі ўсе, ён не цярпеў каменных гарадоў, іх сцены, вежы, іх шум і гвалт, язду карэт па бруку, празмерны баляў бляск, ненатуральную прытворную размову, густую гаману званоў ў паветры, але, што не сакрэт, ён прагнуў славы ў тых самых гарадах, не толькі ў іх, у краінах усіх Еўропы цэлай, і ў Амерыканскіх Штатах за акіянам, што абвясцілі аб сваёй свабодзе ад каралеўскіх ланцугоў.



Не хочацца мне быць празмерна суб'ектыўным, але, сябры мае, мой клопат тут пра караля, манарха нашага, што сціснуты быў у абцугах падзей і закулісных дзеяў. Канечне, гэта на паверхні: яму здавалася, ён адчуваў ускосна падабенства лёсаў —Жан-Жака і свайго, манаршага. Устурбаваны памфлетам на сябе, бязлітасным і жорсткім, Жан-Жак Русо стварыў адповедзь, ад абароны перайшоўшы ў наступ у сваёй манеры уласцівай. Вось і кароль наш, каб патлумачыць непрыяцелям сваім, таксама і хаўруснікам у пэўным сэнсе, брашуру напісаў і ананімна уласным коштам ціснуў, натхнёны ў пэўным сэнсе творамі манархаў іншых, моцных, але таксама споведдзю яго, Жан-Жака. Яго, з якім ён згодны быў у тым, што ўлада і асвета ў адных руках павінна быць манаршых, каб поступ быў наперад. Так-так, усё гэта вядома: Вальтэр той у Берліне пры двары гасцюе, Дзідро, што не сакрэт, у Пецярбургу, а вось Жан-Жак, ён не прыехаў. Дык дзякуй Богу, я хачу сказаць, не адмаўляючыся ад свайго пераканання. Гэты візіт мог мець два вынікі ў той час здаецца мне: рэўнасць, што вырашыў сябе паставіць упоравень з каторымі, хто вырашаюць лёс яго і лёс яго дзяржавы, Рэчы Паспалітай —гэта адно, другое — скандалам магло закончыцца для караля такое запрашэнне, ды што скандал, і пасквілем таксама —з-пад рукі Жан-Жака, прыклады вядомы ўсёй Еўропе былі. А тут я стаўлю кропку, усё, я ўсё сказаў. І можаце згаджацца альбо не, то ваша права.

**24**

Паэтычны склад, расповед мой змяняецца, я вяртаюся, напэўна з неба на зямлю, прынамсі з гістарычных мрояў, летуценняў у дзень сённяшні і на цяперашнюю глебу, на сучасны грунт, на Гродна брук, праз дзвесце дзесяць год пасля скanання караля ў выгнанні, у ганаровай высылцы, у пазлачоным палацы-клетцы. Дык вось: здаецца, сёння сонца, цёпла, а буры гістарычныя набылі іншы кшталт.

Мой каралеўскі горад для мяне тэатр —тэатр у звычайным разуменні і тэатр, дапусцім, гістарычны. Калі гляджу спектакль, мае вочы, вушы, мая уява, розум, мае думкі —на сцэне, я

засяроджаны на дзеі, на рухах, галасах, словах, змесце размовы, на прыдуманым, напісаным, адасобленым ад штодзённага жыцця, канал пераключаны. Я на іншай хвалі радыёэфіру, я не жыву сам, я ператварыўся ў слых, у зрок, сам я маўчу, цяпер не мая чарга. Я апынуўся ў цёмнай зале, рампа высвечвае тое, што адбываецца у вымысленым свеце, які пазбаўляе ад нашых клопатаў і турбот, ад страхаў і болю. Рэальнае жыццё пакінута часова, забыта нават за тэатральнымі сценамі, як вопратка ў гардэробе.

Так-так, але не заўжды мяне задавальняе гульня, савецкая школа, «не веру, не веру!» часам паўтараю моўчкі, але мне хочацца гаварыць зараз пра спектаклі ўдалыя, якія падабаюцца, а такія ўсё ж здараюцца, нават немудрагелістыя, штосьць з Мальера, напрыклад, што некалі глядзеў у тэатры Тызенгаўза сам кароль наш. І некаторыя акторы, больш сталыя звычайна, выклікаюць часам проста задавальненне, радуешся за іх і за сябе, што прыйшоў, не памыліўся, бо ходзіш у тэатр не часта, выбіраеш спектакль, узважваючы, няспешна, як кнігу ў кнігарні, заходзячы некалькі разоў, каб пераканацца канчаткова, каб упэўніцца, каб не схібіць. Так кароль калісьці наш узважваў, прадумваў, спрабаваў пралічыць свае крокі, каб прадбачыць магчымыя вынікі і пазнейшыя наступствы, але памыляўся, хібіў, прайграваў. Аднак на каранацыі ён жа сказаў: «Прысягаю Богу і шкадаваць таго не буду...» Шкадуй не шкадуй, выбар зроблены, словы сказаны, крокі прадпрыняты, пастаўлены подпісы, змацаваны пячаткамі, упісаны радкі ў гісторыю і перапісаць гэтага не дадзена, штосьць змяніць, падкарэктаваць, справіць памылкі, бо твае памылкі (у становішчы яго, караля) залежаць не толькі ад цябе самога.

Гэта што датычыць сапраўднай гісторыі, яе істоты, таго, што адбылося, як было пад Богам, але ж Ён не скажа, а нам самім не проста цяжка, а бадай немагчыма даведацца не так усёй праўды, а толькі хаця б сукупнасці фактаў, найбольш поўнай па магчымасці. Бо што такое праўда? Хутчэй нам хочацца нават не яе, а —ісціны, што, зрэшты, амаль адно й тое ж. Нам хочацца сапраўдных ведаў, але дакументы —адны не захаваны, іншыя страчаны, трэція сфальшаваны. Адно забыта,



іншае раздзьмута, трэцяе скажона, пераблытана, перахлушана. Архіўныя прагалы, белыя плямы. Зацятасць, неаб’ектыўнасць мемуарыстаў, наўмысныя маніпуляцыі з фактамі, чужынскія і свае, але палітычна адрозныя, палярныя погляды на дзеі мінулага, урэшце цэнзура ў чыстым выглядзе. І вось ужо невядома —што праўда, а што —праўдападабенства, чаму даваць веры, а што адмаўляць ці аспрэчваць. Такая наша гісторыя.

Я сам сябе прыгаломшваю, заганяю ў кут такімі беспярэчнымі сцверджаннямі, такой фатальнасцю, безвыходнасцю. Выбачайце. На мяне папросту паўплываў прыклад лёсу нашага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, ворагі якога вылучаліся надзвычайнай зацятасцю і таксама пладавітасцю, што да мемуараў. Самыя непрадузятыя звесткі, як ні дзіўна, пакінулі замежнікі, нават прадстаўнікі суседніх дзяржаў-драпежніц, у іх не было нянавісці да манарха Рэчы Паспалітай, яны проста сумленна выконвалі сваю ролю, місію, працу, ім не патрэбны былі плёткі пра караля, чуткі і чорна-белыя меркаванні яго праціўнікаў. У рэшце рэшт, не зважаючы на ўсю мемуарную пісаніну, нам дакладна вядома —калі, дзе і як адбылася каранацыя Станіслава Аўгуста, якія падзеі здарыліся пазней, і як ён быў дэтранізаваны, дзе, які калі памёр. Апошнія мае думкі вяртаюць мне раўнавагу, якая была пахіснулася хвілёва.

Мае думкі пра караля пачынаюць прытупляць мой слых, ён змяншаецца і, каб адключыцца зусім, як бывае з радыё, больш дакладней —з тэлевізарам —вы яшчэ бачыце, але нічога не чуеце, і я не чуў, я засяродзіўся ў сваіх думках, я змяніў на хвіліну эпоху. Прызнаюся, эпоха апошняга караля, яна не толькі для мемуарыстаў сталася ўрадлівай глебай, пасаджаным у Гродне пры Станіславе Аўгусце батанічным садам і зашклёнымі цяпліцамі, дзе было ўсё —ад сціплых палявых кветак да архідэяў, ад цыбулі і часнаку да лімонаў з ананасамі. Але трэба сказаць, я не бачу для сябе празаічнага палатна, калі нехта здолее —калі ласка, але баюся, што час кніжных эпапей мінуў, так і не пачаўшыся ў нас. Пры сваім скептыцызме я, аднак, бачу кінасерыял, толькі не зусім ужо мыльную оперу, так-так, серыял пра час каралявання Станіслава Аўгуста Панятоўскага,

настолькі насычаны, нібы хімічны раствор у лабараторнай судзіне, разнастайны і моцны як экзатычны кактэйль.

## 25

Варта толькі падумаць пра караля, пра тэатральную сцэну, пра дыялогі на паперы. Яны ўзнікаюць часам з нічога і крок па кроку, паступова ператвараюцца ў спаборніцтва думак, меркаванняў, ацэнак і прысудаў.

Броўнаўскі рух у маёй галаве толькі спачатку нагадвае той навуковы булён першасны, сусветны акіян у час нараджэння жыцця з хімічных рэчываў. Адчуванне змрочнага цяжкага неба, набрынялага вільгаццю, мяхі якога працінаюць гіганцкія маланкі, грымоты прыгаломшваюць —гэта не канец свету, а толькі пачатак, хаця катаклізмы нам, сённяшнім, могуць нагадаць якраз заканчэнне яго, апошнія дні ўсяго існага, аднак насамрэч гэта, наадварот, толькі паўстае жыццё, якое будзе наўслепа кідацца ўгору, у нечаканыя бакі, удол, ствараючы ад дробных павукоў да валатоўскіх яшчараў. Гэта тэатр, тэатр жыцця, а «Гродна» —назва толькі аднаго асобнага, адной тэатральнай сцэны, а я, спачатку проста разявака, які трапіў на прадстаўленне, святло раптам пагасла. Трапіў па кантрамарцы ці, хутчэй, дзякуючы журналісцкай картцы, я спыняюся на хвілю, каб адаптаваць зрок, пачынаю намацваць падэшвамі падлогу, прыступкі глядацкага амфітэатра, напружваю міжволі вочы, нібы выкарыстоўваючы прыладу для начнога бачання. Так-так, сцэна мяне пакуль не цікавіць, мая справа —знайсці незанятае месца сярод гледачоў, хай нават прыстаўное крэсла, часова ўзятае з грымёркі, ці з рэжысёрскага пакоя.

Калі я гавару «тэатр», а затым вымаўляю «кароль» і дадаю —«Станіслаў Аўгуст Панятоўскі», адбываецца неверагоднае, думкі зачынаюць віраваць, чорнае неба знянацку спярэшчана метэорным дажджом, так-так, спачатку ў руках я трымаў крэсіва, звычайную нават скалку-крэмень і вось ужо ўсё ўваччу іскрыцца бенгальскімі агнямі, выбухае феерверкамі. Я стаю ў спалоху: што нарабіў, што здарылася, ці не згарыць наш горад, як тое з ім здаралася не раз? Так-так, нічога я не разумею, я толькі парадкую думкі, спрабую засяродзіцца, шукаю цвёрдай глебы, але выходзіць дрэнна. Адно мацуе думка, што іскры спрэс халодныя, штучныя агні і побач ані пораху, ні сена, забрала войска амуніцыю і межы горада пакінула. Вядома, колішняе войска ці войскі, бо пры Панятоўскім іх таўклося не адно, пся крэў.

Так-так, наш кароль апошні да тэатральнага раствору —рэдкі дадатак, бо выклікае нечакана бурную рэакцыю, адчуваеш сябе нібы алхімікам, вучоным Ціха Браге, які пакінуў тэлескоп часова дзеля алембікаў, рэтортаў.

Не-не, я не такі наіўны, мы жывем у нашым часе, і на філасофскі камень ці на золата разлічваць не выпадае, але я ведаю, перакананы —тэатральны раствор здзівіць, уразіць чарадой пераўтварэнняў, рэзкім колерам, зменай станаў рэчыва, сцвярдзелымі аблокамі дымнага бялка, што трапіў у кіпень скрозь сетніцу расколін у шкарлупінні. Ён затым крыху спалохае рэакцыяй імгненнай росту нібы-марскіх каралаў, дый мала чым яшчэ, хіба магчыма гэта ведаць наперад? І старадаўнія алхімікі ў чаканні цуду, нібы дзятва сягоння, што прыглядаецца мазаіцы хімічнай у шкляной судзіне. І тоўстым шкло павінна быць: а раптам выбухне? Бывае небяспечным спалучэнне рэчываў ці накірунак ланцуговае рэакцыі. Такімі менавіта мне сцэны бачацца з эпохі караля, з яго жыцця, дзе порах і віно, і яд.

## 26

Вам хочацца пачуць не слоў агульных, а што абмацаць можна ў думках? І мне карціць, вядома, распавесці —што, якія сцэны, фабулы, назвы прыдумваліся ў мяне ў час гэтай зацягненай прэлюдыі. Адбывалася само сабой як з запісам на дзвюх сцежках магнітафоннай стужкі, толькі адно занатоўвала на паперы мая рука, другое адначасова ўзнікала ў галаве, і я машынальна стараўся запомніць яго. Перш ляжыць на паверхні гісторыя каваля ў кароне, тое, як мы да яе дакрануліся, называцца яна магла б прадметна —«Карона Станіслава Аўгуста, караля». Што датычыць другой гісторыі, у мяне перад вачыма вядомая сцэнка дыспуту усходняга вучонага

з заходнім, не прачытаная, убачаная на сцэне нашага тэатра Тызенгаўза. Вы разумееце —пра што размова. А нашым разам спрэчка не пра беларуса-мужыка, а вартасці і недахопы двух манархаў —Станіслава Панятоўскага і папярэдніка —Аўгуста III Саксонскага, выразна бачу гэты дыспут і схаваю ў душы да часу жаданне, у галаве уяўныя кадры і ўрыўкавы запіс дыялогаў. Абедзве гэта будуць рэчы з усмешкай на вуснах, і напісаць мне будзе іх лягчэй, але ўперад мне хацелася б узяцца за больш сур'ёзны тэкст, за п'есу «Выкраданне караля», яна магла б яшчэ пытальнік мець: «Хто скраў аднойчы караля?» або зусім ужо празрыста —«Кароль скраў караля?» Пытальнік застаецца. Даволі цьмяная, скажу я вам гісторыя, але праз гэта і цікавая, таямніца, загадка заўжды прыцягваюць, выклікаюць цікаўнасць, вядомая справа. Што гэта было? Імітацыя, правакацыя, падман? Каму гэта было больш выгадна, з якой мэтаю рабілася? Ці здарылася насамрэч, ці не было містыфікацыяй? Здаецца, ашуканства на паверхні, але —чыё? Легенда пра выкраданне караля —гучыць неверагодна, я уяўляю тэатральную афішу. І ці магчыма не пайсці, не паглядзець?

Караля выкрадаюць, прыгодніцкая гісторыя ў стылі «Фан-Фан Цюльпана». Выдатна надаецца да экранізацыі, на сцэне з ёю будзе горш, цяжэй захаваць дынамічнасць дзеі, авантурны дух. Але ці было гэта прыгодай або, калі было, то наколькі адпавядала жанру? Ці не нагадвае драму манарха, які ад самага пачатку апынуўся паміж двума агнямі: і гэты пячэ, і той паліць? Сам механізм, матывы, закулісныя гульні, яны не былі зразумелыя нават сучаснікам Станіслава Аўгуста, мы пагатоў не маем яснасці, а калі так, лепшага выпадку не прыдумаць, каб узяцца за п'есу, усякая версія можа прагучаць як ісцінная. Кароль перашкаджаў канфедэратам, яны прагнулі выратаваць краіну, план быў просты: выкрасці з Варшавы і схаваць, стварыць стан бескаралеўя стан, свае правілы гульні пачаць дыктаваць. На перамовы выклікаць краіны моцныя з левай часткі Еўропы. Так тлумачылі здарэнне, між іншых, ворагі яго, якія не мелі дачынення да здарэння. Але адзін амбасадар палічыў, што сваё выкраданне Станіслаў Аўгуст учыніў сам, каб кіўнуць на канфедэратаў і выклікаць абурэнне за мяжой гвалтоўнымі іх дзеяннямі, ледзь не замахам на жыццё манарха. Нечуваны выпадак сапраўды спарадзіў незадаволенасць пры манаршых дварах. Атрымаўся бяскроўны маральны ўдар па канфедэратах. З імі ваяваць кароль жадання не меў, але супрацу іх ён мусіў высылаць войскі.

Фрыдрых II адчуў штуршок для творчасці і памачаў пяро, каб напісаць паэму пра «рэвольту» у суседзяў, паэму антыгераічную.

Варшава мела ў галаве яшчэ такую думку: кароль сваё выкраданне сфальшаваў. Падабенства зрабіў. Мэта? Каб далучыцца да саміх канфедэратаў, усё ж яны за незалежнасць выступалі. А вызваленне хуткае? Чаму адсутнасць караля была такой кароткай? Прычыну трэба? Царыцы амбасадар прыгразіў дэтранізацыяй... Ну што ж, гучыць праўдзіва. Якая, аднак, багатая сыравіна для твора, для сцэнічнай пастаноўкі! І пры гэтым сама дзея, як мне уяўляецца наперад, мусіць адбывацца з партызанскай, як называлі яе мемуарысты, вайной на заднім плане, за кулісамі: гарматныя выбухі, пошчак капытоў, пакеты з васковай пячаткай, газетныя паведамленні, можна таксама, нават пажадана —хмаркі парахавога дыму.

Салодкія загадкі дзён мінулых, схаваныя ў вінных склепах таямніцы, без доступу святла бутэлек піраміды: у футрах з пылу. Загадкі, падобныя да шакаладу, дзе могуць трапіцца разынкі, а можа чылі-перац ці гарошак чорны. Хаця, вядома, з перцам шакалад —далікатэс швейцарскі, для гурманаў, але ў ім штосьці турэцкае, прысмак нееўропы, экзотыкі, але экзотыкі з дамешкам небяспекі. Хіба яна бывае без падступнасці, нябачныя пагрозы не хавае? У іншым яна разе —проста каляровая паштоўка. Экзотыка без перцу прэсны мае смак. А таямніцы гісторыі... З імі ўсяляк здараецца, пакуль дакапаюцца, ці натрапяць выпадкова. На паверхні не відно. Як са змесцівам бутэлькі з цёмным шклом: віно ці ўжо не? Калі ў асадку, проста воцат, не толькі смак і водар страчаны, але дазвання —уласцівасці. Нічога не парадзіш.

## 27

У следчага па асабліва важных справах з горада Брэст-Высоцка пад пагрозай рух па службовай лесвіцы. Важная справа з каралеўскай каронай крышылася як сухая гліна ў руках. Нібы маеш, нібы трымаеш, а зляпіць не выходзіць. А як жа хацелася ў сталіцу! Як горкая рэдзька надакучыў правінцыйны Брэст-Высоцк, дзе адзін толькі рэстаран, дзе можна пасядзець. Але трэба даціснуць.

У Пагранічнай ён папрасіўся пераначаваць на сенавале, асобна. Загнаў службовы матацыкл з люлькай у адрыну. Дачакаўшыся калі сцямнее, следчы спраўдзіў свайго «макарава», запасную абойму, ліхтарык, на ўсякі выпадак узяў запалкі і біклажку з вадой.

У афіцэрскай планшэтцы ляжала мапа і бутэлька «Белавежскай». Ён паразважаў быў: узяць яе, ці «Зуброўку», але ў сельмагу «Зуброўку» разабралі. Гарэлку яму чамусьці браць не хацелася, лепей бутэльку з фальклорнымі традыцыямі, і гарэлкі ў краме не аказалася таксама. Так, няхай будзе «Белавежская». У Брэст-Высоцку некаторыя аддавалі ёй перавагу, лічылася, што менш галава баліць. На зёлках. Лекавая. Павінны і на вёсцы быць аматары, усё ж свая, родная.

Удзень ён наведаўся ў касцёл. У магільнай яме папрацаваў сапёрнай рыдлёўкай. Дакапаўшыся да маленькіх як акенца дзверцаў, замаскаваў іх.

Следчы вывучыў з дапамогай перакладчыка, што палякі лічылі караля чалавекам, што прадаў душу і што месца яму ў пекле. Даваенныя газеты пісалі, што яго не павезлі ў Варшаву, ці ў Кракаў, дзе належыць спачываць каралям. Пагарджалі. Некаторыя толькі захапляліся, што ён адзіны кароль, які праехаў цягнікам, у каралеўскія часы чыгункі не існавала. Даставілі напрасткі ў родную вёску. Не проста быццам у ссылку, ад вачэй далоў, але ў пякельнае менавіта месца. Так пісалі. Але чаму так пісалі?

У вячэрнім універсітэце марксізму-ленінізму быў факультэт для падрыхтоўкі атэістаў. Дэкан пакруціў галавой. Быў кандыдатам гістарычных навук. Чаму лічылася вёска Панятоўская пякельнай? Хто іх ведае, тых пілсудчыкаў, што ў іх у галаве было? Самі на кожным кроку: бог, гонар, айчына! А ледзь што, ледзь супраць поўсці, то ўсё наадварот маглі зрабіць. Баламуты. Чаму і Рэч сваю Паспалітую загубілі. Суседзі-суседзямі, але сам будзь чалавекам, каб у іх рукі не свярбелі. То ў іх бог, гонар, айчына, то ўсё дагары нагамі, шаблямі размахваць, загрудкі хапацца мастакі!

У тэалагічныя падрабязнасці дэкан не паглыбляўся, нічым дапамагчы не мог. Быў яшчэ поп-расстрыга, але калегі следчага папярэдзілі, што толку ад размовы з ім будзе няшмат. Патрэбны сапраўдны ксёндз, той будзе ведаць, у іх нюх на такія рэчы. Што ж, ксёндз дык ксёндз. Але ў нашы дні птушка рэдкая. І трэба асцярожна. Выклікаць не будзеш. Нібы выпадкова трэба пазнаёміцца, хто іх ведае, ксяндзоў?

Ксёндз аказаўся занадта класічны, быццам жыў у перадваенным часе, ці начытаўся тых газет, якія прадаставілі следчаму ў архіве. І чаго яны ўз’еліся на таго караля? Следчаму было ўсё роўна, не яму каралёў шкадаваць даўно мёртвых. Але рэзала вуха: самі пра міласэрнасць любяць, пра любоў, а ледзь запытаешся пра таго караля, быццам пракуроры робяцца, быццам трыбунал. Ну ды чорт з імі. Ксёндз сказаў і карысныя рэчы, сякія-такія сакрэты. Аказаўся карысны, гэта галоўнае. Ці існуе другі свет? Асабліва што датычыць пекла, а следчы быў перакананы, што каваля знойдзе менавіта там. Ксёндз даў арыенціроўку.

## 28

Ах, як жа падабаўся нашаму следчаму жоўты дом з бельвэдэрам на праспекце Леніна ў сталіцы! Як мары забіралі яго з жонкай у клуб Дзяржынскага на прагляд кінакарціны, на ўрачысты сход 20 снежня. І ў буфет спачатку ненадоўга. Жонцы піражнае, сабе чарку каньяку. Вось гэта жыццё! А калі пасля працы —у кафэ «Вясна» на скрыжаванні. Эскалоп, сто грам. Сядзіш ля акна, «волгі» лётаюць, цераз вуліцу цёплага пяшчотнага колеру будынак родны. На даху бельвэдэр. Такі ўту-

льны. Хочацца туды. Па вінтавой лесвіцы і горад як на далоні. Гэта табе не Брэст-Высоцк...

У кузні гарэў агонь, хоць не было падобна, што гаспадар штось куе. Ноч была прахалоднай, агонь рабіў яе ўтульнейшай. Гаспадар сядзеў абыякавы. Госць, выглядала, заспеў яго знянацку. Праз акенца магло здавацца, што следчы зараз возьмецца за напаленыя абцугі.

За што ўчапіцца? Як раскалоць? —ламаў галаву ў дарозе сьледчы. Каб пачаць так, каб прызнаўся: «Савецкая ўлада да цябе на вы, па імя і па бацьку, супраць поўсці не прычэсвала, ордэн дала, медалі. А ты так з ёй абышоўся, свіную падклаў роднай уладзе. Абакраў дзяржаву! Яна табе пернікаў не шкадавала, а я б на яе месцы бізун узяў бы. Бізун! З такімі як ты размова кароткая! За дрот! Да белых мядзведзяў! Будзеш са следствам супрацаваць? Будзеш? Не прымушай па-дрэннаму. Я прыйшоў як твой друг». Інтуітыўна адчуваў, што лепей спалучаць абедзве ролі: добрага і нядобрага следчага. А зараз трэба алею ў агонь, думалася следчаму: «А калі арганізую і забяруць у цябе ўзнагароды? З чым застанешся? З кульгавай нагой?»

— Ну давай паразмаўляем па душах, загаварыў нечакана добры следчы, прынамсі нябрыдкі, калі ўбачыў дзядзьку-каваля. Сцяміўшы, што ў дрэннага не будзе вынікаў.

— А чаго размаўляць? —абазваўся абыякава той. — Адмучыўся я, адпрацаваў на калгас.

— Калгас не чапай, ён ні пры чым. Што з каронай залатой, раскажы. Куды дзеў? За колькі? Каму?

— З якой залатой? Ніякая не залатая. Іншай не было ў мяне.

— Навошта брэшаш? Каго падмануць хочаш? Следчага па асабліва важных справах?

— Чаму падмануць? Слова камуніста: якую мне надзелі, каб у труне, адна была, а пра залатую не ведаю.

— Нічога? Зусім?

— Нічога. Ніколі не чуў.

— А ты камуністам хіба быў?

— Усе былі, усе будавалі камунізм. Ніхто не лайдачыў.

— І ты будаваў?



— А куды дзецца? План быў. Колькі капыт падкаваць, колькі сярпоў.

— Не дуры галавы капытамі. Значыць, ты карону не падмяніў? Значыць іншай не бачыў? Значыць слова камуніста?

— Камуніста. А як жа. Каб сказала начальства, новую зрабіў бы. Што мне серп, што карону. Але ніхто не казаў. За камунізм барацьба была.

— За камунізм, гаворыш? А самагонныя апараты? Кляпаў?

— Кляпаў.

— Вось бачыш.

— Адно другому не перашкаджае. Начальства любіла. Мой пяршак.

— І што, і цяпер не забыўся?

— Што рукі навучыліся, ніколі не забудзеш. Давай начальнік, налью, скажаш: ці не хлус. А карону бяры, не шкада. Не было ніякай іншай. Кароль бедны быў, без каралеўства, адкуль у яго залатая?..

**29**

Апоўдні прыезджага следчага знайшлі ў яме, дзе была да рабункаў каралеўская магіла. П’янага як зямля. Пры табельнай зброі. Зброі спалохаліся. Паведамілі на тэлефоннай лініі ў Брэст-Высоцк. Стаяў ясны сонечны дзень.

**30**

Пяты Месяц, травень, нечакана месяц узгадак пра караля, месяц квецені і начных прымаразкаў, гвалтоўных вятроў і першых дажджоў з градам, квецень змывае з белых купаў дрэў быццам шумавінне з пляжнага пяску, застаюцца рэшткі, на якія апошняя надзея. Так-так, гэта месяц караля і не толькі для мяне. Ён, гэты месяц, насычаны падзеямі, дзе так ці інакш закранаецца яго імя, яго чыны, яго час, нібыта закончылася бескаралеўе, замоўчванне, нябыт. Хай на некалькі дзён, у асобным месяцы, для некалькіх асобаў, і сярод іх быў я

і я пасправую, хай не Гораду і Свету, але паведаміць, агучыць, звярнуць увагу...

Калі сам пра сябе брашуру ананімную зрабіў, значыць быў самотны, без падтрымкі моцнай, не зусім упэўнены ў сабе. Перашкаджаў збег акалічнасцяў, зацятасць ворагаў, ланцуг падзеяў, абставіны, што абярнуліся супраць яго. Фіяска. І сёння ў нас здараюцца крушэнні спадзяванняў. Краіна наша, уражаная рыцарам, напоўніцу дыхнуць не здолела і, не адчуўшы смаку волі, яна, прачнуўшыся аднойчы, не рыцара шляхетнага ўбачыла, а боўдзіла з друком гумовым, адчула цяжар несвабоды. Ці няможна нам шукаць падабенства свайго становішча, свайго унутранага стану сёння, адчуванняў, спробаў дзеянняў з яго, каралеўскімі? Я не параўноўваю сябе з ім, як з каралеўскай асобай, у мяне няма намеру прыладкоўваць сабе ў думках карону, прымерваць плашч з гарнастаевай мантыяй, шаблю, я толькі магу зрабіць параўнанне як чалавека з чалавекам, як гродзенца з гродзенцам. Урэшце ён быў творчай асобай, аўтарам, рэдактарам, выдаўцом. Кароль наш не здраднік, не! Кароль наш ахвяра! Не верыце? Не хочаце задумвацца? Адварочваеце твары? Вам больш падабаецца здрадная маска? Давайце, давайце, начапіце сабе, замяніце часова твар маскай здрадніка! Кожны можа уявіць сабе яе па-свойму, але —абсалютна канкрэтная дэталь —гэта маска здрадніка-караля, не абы-якога. Знаю-знаю, вам яе ўявіць значна лягчэй. У вас, даруйце, адбітак у мазгу —гэтыя, ясна, няшчырыя вочы, скрыўленыя вусны, вусікі, вам нічога прыдумваць не трэба, напружваць лішне галаву. З ахвярай, урэшты, таксама не зашмат клопату, маска ахвяры вам таксама добра-добра вядомая, не толькі ў чорна-белай кінахроніцы, напрыклад, вы самі ахвяры на кожным кроку, часам дробныя і, хай несвядома, вам не хочацца браць у рукі менавіта гэтую маску, бо яна можа прырасці і ўнутранае зробіцца вонкавым натрывала. Па-другое, вельмі зручна: герояў, здраднікаў, ахвяраў лічаць паводле друкаваных, выбітых у чорным граніце літар, прысудаў, паводле клеймаў чорных, ад якіх рэзкі пах гарэлага мяса. Нязручны, непрыемны, прыкры, нясмачны, неядкі, араганцкі пах!

Фэ-фэ, ах, дзе мой веер, а мая ружовая вада, мон шэр? Ніхто не задумваецца з той нагоды, што бывае ахвяры робяцца катамі, а каты —ахвярамі. Кароль не быў героем, няхай, але таксама здраднікам не быў і катам пагатоў, што неаспрэчна. А гэта не смакуе, вой жа як не даспадобы! І я, хай толькі ў думках, апынаюся ў Новым каралеўскім палацы над Нёманам у атачэнні прыдворнай публікі, навокал што я бачу? Фанабэрыю, пыху. Так-так, манерніцы, крыўлякі, уздыхі, смяшкі, грымасы, твары —тэатральныя маскі. Ах, ім не падабаецца нос Сірано дэ Бержэрака! Іх, фэ, непрыемна здзіўляе, што кароль заўжды без парыка і не гуляе ў карты, ніколі, панове! Як можна не гуляць у карты, што ж яшчэ рабіць, як бавіць час, чытаць газету, якая выходзіць раз на месяц? Кароль не любіць палявання. Кароль? Такога не бывала. Што за прыхамаць! Мне хочацца перапыніць шаптанне, незычлівыя погляды, з’едлівыя чуткі. Я выгукаю: спадарыні і спадары, спадарства! Цішэй, далікатная просьба цішэй! Я хачу крыху пафехтаваць з любым з вас, хто зласліва называе Яго мосць караля здраднікам, хто п’е келіхамі яго віно, яму жадаючы цыкуты. Мне ўсё роўна, любы хай выходзіць спадар, мы ссунем сталы, мы папросім аркестр памаўчаць. Мы не абавязкова да смерці будзьма дуэляваць, хай да першай крыві... Я пачынаю адчуваць, што не цалкам пераканаўчы, я хапаю ў лёце раптоўна птушку-думку —а ці шчыры я дарэшты, ці нагэтулькі зацяты, каб варушыць гістарычнае апалае лісце, спрабаваць выкрасіць іскру, запаліць свечкі ў кандэлябрах? (Тэатральшчына, ці не лепей устаць і змяшацца з ажыўленым ад уражанняў натоўпам?) Ці не трапіў я ў тэатр ценяў, ці не Балтазарава ноч сёння? Варта толькі задумацца хвілёва, засумнявацца, а навокал —лычы, пысы, яны грымаснічаюць, незадаволена рохкаюць у мой бок. Божа мой, Божа мой! Азызлыя, нязграбныя, камічныя. Босх? Пітэр Брэйгель Старэйшы? Натоўпам вакол Хрыста пад цяжарам крыжа. Не чапай, не лезь пад колы, прэч! Мы яшчэ патанчым на панятоўскіх костках!

Ці не адчуваў сябе Станіслаў Аўгуст ў бліскучай зале з аркестрам у атачэнні каварнага і падступнага непрыяцеля, з латамі пад вопраткай, з поўнымі калчанамі атручаных стрэлаў? І нават бяскрыўднае пудэлка на пудру, ці не з дурманным парашком з дамешкам беладоны, дзьмухнуць у твар, ніхто пабочны не заўважыць, заняты сабой: сваімі вачыма, вуснамі, іх выразам, сказамі, якімі яны напаўняюць абмежаванае паветра ў памяшканні... Кароль не заўзята кленчыць, не заўзята моліцца, не заўзята цалуе ногі распяцця!

**31**

Павесіць караля, павесіць яго, павесіць! У еўрапейскім паветры, здавалася, лунаалі хвосткія настроі. Каму задавалася —зухавыя. Насамрэч жорсткія. Здань шыбеніцы, —ці як рэчаісная магчымасць, ці як злавесны сімвал, яна прысутнічала ў свядомасці Станіслава Аўгуста. Усе чулі аб навацыі, хто не чытаў газет —таксама. Але каб манархі вешалі манархаў, такога здарыцца бадай не магло, але страх быў, несвядомы, уяўны, хаця хутчэй яго чакалі б у горшым разе краты, казамат, і ніхто б не абараніў, гэта выклікала б толькі хвалю энтузіязму, трыумфавалі б перш тыя, за чыны якіх ён бы пацярпеў гвалтоўна, зазнаў бы прыніжэнне, здзек і пагарду. Яны гатовыя былі страціць краіну дарэшты, чаго пазбегчы не маглі, пагаршаючы сваімі дзеяннямі безразважнымі, абы з яго дэтранізацыі назлацешыцца. Чым горш, тым лепш! Заўсёды знойдуцца такія людзі.

У сапраўднасці, калі ноч цёмная, ты раптоўна прачнуўся і спрабуеш рацыянальна разважыць хімеры сноў, каб, калі не адхінуцца, дык зрабіць карлікамі, каб здолець заснуць зноўку, так, і ў спакойнай дзённай свядомасці бачыш шыбеніцу ў нявызначаным падворку ці то замка, ці то кляштара або нават зусім у лесе, па-за вачыма, памост, нібы-брама і —пятля. Для цябе.

Кароль не проста панікаваў, не проста даваўся страху захапіць, жаданне гэтае скразіла, ён ведаў, з памфлетаў і карыкатур, з закулісных чынаў. Ён дапускаў, што можа апынуцца на шыбеніцы, калі канфедэраты выкрадуць яго альбо калі яны раптам перамогуць, чаго, зрэшты, здарыцца не магло. Здань вісельні ўзнікла яшчэ раз, калі яго трымалі ў сталічным замку пад аховай, як пачалася інсурэкцыя. Казалі, што баяцца за яго жыццё, але яму здавалася, што ён —козыр, важная карта ў гульні, якую трымаюць, яшчэ не ведаючы як удасца выкарыстаць, проста чакаючы, як пачнуць разгортвацца падзеі, не ведаючы наперад, але бадай не маючы занадта каляровых ілюзій. Расійскі амбасадар зацята лічыў: нішто не адбываецца без Яго каралеўскай згоды, што да ўсіх падзеяў мае дачыненне кароль, нават калі ён у ценю, ці нябачны зусім, што за ўсімі спробамі ўзняць голаў суфлёр-кароль. Але ці гэта напраўду? Хто зараз дазнаецца? Напачатку інсурэкцыі гетмана Касакоўскага павесілі на віленскім пляцы Ратушным, прылюдна, на такое не забудзешся.

Праўда такая, што хатні арышт падчас інсурэкцыі ўзмацніў страхі і здані, але звыклая шыбеніца ў іх саступіла месца навамоднай французскай машыне проста з Парыжа, так-так, гільяціне. Ці быў хоць адзін манарх тады, які б міжволі не прымерваў у думках да сябе яе «каўнер», у які кладуць галаву як ў велькія абцугі? Наўрад. Яна абурала, выклікала рэзкі пратэст, але й жах, абавязкова жах. Бо перш выпрабавалі на манаршых галовах. Ганебны памост, натоўп, галёканне, пачварная гаргара, вялізнае лязо, кош для галавы, ужо без кароны. Гільяціна Станіславу Аўгусту не пагражала, але страх існаваў. Непраўдзіва, каб яе даставілі ў сталіцу над Віслай цераз усе нямецкія дзяржаўкі і непраўдзіва —морам, хутчэй трапіць можа ў заакіянскія Амерыканскія Штаты, падтрыманыя французамі. Такі дарунак, Божа мой! Салідарная пастава ўсіх манархаў у асуджэнні рэвалюцыі, у асуджэнні гільяціны... Гільяціна, аднак, рэч такая, што не можа стаяць-іржавець, яна працуе бездакорна-відовішчна, яна выклікае жах-захапленне ў гледачоў, ад яе сэрца на хвільку спыняецца, калі зрынаецца са свістам лязо згары, гільяціна дзейнічае паслухмяна кату —досыць націснуць падвагу, гільяціна выглядае злавесна-грандыёзна, але зусім простая ў карыстанні, даступная кожнаму, хто не зломак, якую неадольна хочацца падвастрыць, спраўдзіць

яе працаздольнасць, яна гіпнатызуе. Гільяціна —сімвал новых дзеяў, рухомая аздоба пляцаў, якія вякамі паўтараліся ваdалівамі, калонамі, трыумфальнымі брамамі, коннымі статуямі. Таўталогію плошчаў нечакана парушыў сучасны механізм, машына, не мармур.

Непрыяцеляў сваіх Станіслаў Аўгуст нездарма за якабінства ўшчуваў, яны ўпарта намякалі друкавана на лёс Людовіка з адцятай галавой. Гравюрай прыклад быў у галовах, у свядомасці, у патаемных марах. Гільяціна на варшаўскім пляцы! Неабавязкова з Парыжа, на месцы зрабіць —невялікая праблема, абы чарцяжы. Як рэвалюцыйны чын, як сатысфакцыю, як гвалтоўны помнік завяршэння ганебнай эпохі караля-злачынцы, думалася ім.

Стрыманасць, памяркоўнасць і разважнасць, за гэта яго вельмі не любілі. Мы такія ж. Не сталі людзі лепшымі. І сёння з моўніцы —суцэльны гвалт. На адрас лепшых. Як разумею караля! Як нам яго сёння не хапае! Так-так, такі не мае шанцаў, але як хочацца ўбачыць твар шляхетны. Няўжо ў нашых слоўніках такія рэчы канчаткова, безнадзейна сталі «архаічнымі»?! Калі мова пра вяртанне высакародных людзей, то я манархіст самы шчыры! Вярніце караля, чакае Новы замак, партыйнага начальства даўно духу няма!

## 32

Але караля няма й больш не будзе, ёсць адно чалавек, які пэўна адчувае не толькі сімпатыю да яго, але і нейкім чынам падабенства, які нават напісаў кніжку пра Станіслава Аўгуста, што зусім не выпадкова, але якога не дапусцяць да стырна, дзе шляхетнасць лічыцца недарэчнай, несучаснай, шкоднай. Няма караля, адно згадкі ў траўні, пачынаючы з дня ўгодкаў той, колішняй канстытуцыі. Сяджу на вялікім балконе ў тэатры, польскі консул запрасіў спевакоў Варшаўскай оперы ўспомніць канстытуцыю, якая рэальна ніколі не дзейнічала, надаць правамоцнасць ніхто больш не думае, яна безнадзейна састарэла, дата, аднак, засталася. Святкаваць канстытуцыі гадавіну, якой ніхто не карыстаецца! Побач з Новым каралеўскім палацам, у якім, што праўда пад ціскам, прынялі потым яе эрзац, папярэдняя здалася суседзям празмерна смелай. Зусім не дзейнічала і другая, стаўшы толькі сведчаннем працягу агоніі, адной з апошніх сутаргаў. Тэатр, так-так, насупраць дакладна славэтнай залы Сенатарскай, дзе адбываліся соймы.

У Гродна завіталі дзве салісткі, сапрана і меца-сапрана, адна бялявая, але не пекная, другая, маладзейшая, чарнявая як крывічы, з выразна нашым прозвішчам, яна табе нагадвае агульна аблічча вядомай замежнай акторкі, трэба сказаць прыгожай. З імі бас і бас-барытон, яны супольна выконваюць патрыятычныя песні двухсотгадовай вытрымкі: пра канстытуцыю, пра інсурэкцыю, Станіслаў Аўгуст нечакана таксама ўзгадваецца, не толькі Касцюшка, прычым нейтральна. Свята! Не да абвінавачанняў. Варшаўскі канферансье запаўняе паўзы не ў патэтычным стылі, але ў жартоўным. Маўляў, любіў жаночы пол кароль апошні, яго й згубіла гэта, што зробіш, се ля ві... У падборы назваў адчуваецца асцярожная рука: ніхто не заклікае ваяўніча Дамброўскага крочыць неадкладна «до Польскі!» Напруга паміж Гродна і Варшавай —рэч вядомая, яны разбегліся ў розныя бакі пасля скасавання Варшаўскага палітычнага хаўруса... Пад заслону адно «Не згіне ожэл бялы, не згіне польскі дух!» натхнёна спявае стоячы зала, я стаю, але моўчкі, не маючы польскага духу, адкуль?! Бас з басам-барытонам вядуць рэй як мае быць у старашляхецкіх строях, якіх не любіў Станіслаў Аўгуст, толькі шабельку прывешай.

Так, любіў жанчын, менавіта, варта было, інакш яны давялі б да магілы, польскія патрыёты. Паслабляючы яго, яны паслаблялі нашу агульную тады краіну, бо ўмовы адметныя існавалі: то алей скончыўся, то патэльні не вымытыя, то чэрці лыка не вяжуць. Але жанчыны любілі не толькі караля, многім падабаліся смелыя, маладзейшыя і прыгажэйшыя за яго прамоўцы, якія з крытычнай зброяй рашуча рыхтаваліся да соймавых дэбатаў, вострачы языкі. Што ён мог парадзіць?! На галерэі зверху, калі збіраліся паслы, звычайна здаралася нямала жанчын, іх цікавілі гарачыя спрэчкі, і прамоўцы, так-так, кароль з прыкрасцю гэта бачыў, выступалі часта, каб абавязкова спадабацца жанчынам, к актораў ператвараліся,

каб выглядаць адважнымі героямі-патрыётамі, спаборнічалі — хто самы рашучы прамоўца. Так было ў Варшаве, так было ў Гродне, кабеты сваёй цікаўнасцю, самой прысутнасцю і жывой рэакцыяй даволі нашкодзілі палітыцы караля, хай толькі ўскосна, што зробіш, жанчынамі кіруюць эмоцыі. Як напісаў паэт: «Мы кіруем светам, а намі кабеты, «нестэты».

Горш, што эмоцыі кіравалі яго праціўнікамі, а прысутнасць прыгожага полу прымушала фарсіць. Атрымаць захоплены позірк, паветраны пацалунак, ад цалавання ручак да ночы кахання... Адны і другія паводзіліся нібы ў тэатры.

## 33

Дэпутаты начыталіся парыжскіх газет, брашурак —«свабода, роўнасць, братэрства», «грамадзянскія вольнасці», «правы асобы», у іх існавалі два бзікі —любы ўрад будзе дрэнны, што ні рабі, і трэба абавязкова абмежаваць уладу караля. Ваеннае будаўніцтва ператварылася ў асабліва зацягненую гаварыльню з прысмакам фарсу. Стотысячнае лічбай войска выглядала адразу фата-марганай. Ніхто не верыў па-сапраўднаму, але ўсе спрачаліся, дбаючы перш пра асабістыя справы: якія наплечнікі сабе, якія —сваякам і прыяцелям, не прысутным на сойме, атрымаць пры галасаванні.

Войска заставалася на паперы, бедаваў пазней экс-кароль, а генеральскія шэрагі ўсё павялічваліся. Пасол С. тыдзень перашкаджаў пасяджэнням, пакуль не дамогся генеральскага звання для свайго заступніка, другі тры дні палкі ў колы ўторкваў, «ліберавецтваваў», пакуль не вырваў зубамі генеральскую вакансію. Плоцкі дэпутат, атрымаўшы маёра, пакрыўдзіўся з помстай —гамаваў пасяджэнні, пакуль не быў падвышаны. Як знайсці грошы, не ведалі, але бясконца спрачаліся, ці даваць белыя нагавіцы кавалерыйскія пяхоце таксама? Якія рабіць пасы са спражкай —аднолькавыя для шаблі, шпагі, цесака, ці адрозныя? Абгаворвалі падрабязна ледэрверкі, колер прыборнага металу, «маладзікі»-рынграфы для афіцэраў, флінтпасы, цемлякі, колер эпалетаў, каўняроў, лацканаў і нават аблямоўкі мундзіраў.



Кожны прагнуў сказаць сваё слова. Відавочна дэпутатам вайсковая справа падабалася, злашча ў жаночай прысутнасці, запальнае абмеркаванне дазваляла часова забыцца, не зважаць прынамсі на патрэбу так наладзіць збор падаткаў, каб хапіла на ўсё, на гарматы з порахам таксама. Прасцей было зацвярджаць на паперы уяўныя харугвы, швадроны і рэгіменты па спісах —да прозвішча апошняга унтэр-афіцэра, нават калі іх яшчэ няма. Што ж, наш парламент таксама спрачаўся: чым замяніць агульныя варшаўскія, хаўрусніцкія зорачкі на пагонах памежнікам нашым, ды Нёманскай флатыліі, ды слаўным парашутыстам, але што зробіш —ва ўсіх арміях зорачкі аднолькава любяць —хто з сярпом-молатам, хто з арламі, львамі або з зорна-паласатым у спалучэнні.

Гістарычную асобу уяўляць у старасвецкіх дэкарацыях — натуральны рух, пагатоў уяўляць караля, кароль, ён галоўны ўдзельнік спектакля, на сцэне асоба ў кароне з нашага боку Еўропы ўспрымаецца больш да месца, чымсьці нават у кіно. Пасля рамонту ў нашым тэатры падбалі пра відовішчнасць, на кулісныя машыны ўзбіліся, у тэатры Тызенгаўза каралеўскім іх было, здаецца, пяць. Я б зрабіў спектакль, каб сцэна рухалася па колу, яно падзелена на чатыры сектары —накшталт дзвярэй у замежных гатэлях. Гэта супадзенне з порамі року, перыядамі дня, ці з чатырма адмежкамі жыцця, аднак мне бачыцца хутчэй іншае: тры падзелы і дэтранізацыя, ці можа лепей —каранацыя, па чарзе, будаўніцтва, канстытуцыя, падзелы-фінал. Дэкарацыі можна нават змяняць: соймавы гармідар, вялікі гадзіннікавы механізм, вежавы, які Станіслаў Аўгуст узяўся наладзіць, друкарня каралеўская, дзе выпускаюць «Газету Гродзеньску», ветракі —Гараднiца —гродзенская Галандыя, конная статуя Яна III Сабескага у Лазенках, чужынскія войскі, жаўнеры з запаленымі кнатамі, тэатр, абавязкова тэатр, а таксама —шыбеніца і следам за ёй —гільяціна. Карацей, хуткая змена антуражу, інтэр'ераў, кола гісторыі, паскараецца рух, карусель, тэатральны ажыятаж, амаль броўнаўскі гармідар, рэвалюцыя.

34

«Ноч у музеі» пакінула нядосыт, яна заўжды ў траўні, як вядома. У сэнсе —ноч у Новым каралеўскім палацы з музейнымі зборамі, дзе ўсё пачынаецца якраз з эпохі апошніх каралёў, калі Новы палац менавіта пабудавалі для соймавых дэбатаў, усё, што ранейшае —у вітрынах у замку Старым, цераз арачны мост —на асобным пагорку які. «Ноч у музеі», задуманая нядрэнна, але не бліскуча зробленая. Дзеянне —замест раскручвацца, як распростваецца спружына, каб публіцы не хацелася спаць —запавольвалася, катастрафічна не ставала жвавасці, руху, артыстызму нават, дзесь лёгкай таямнічасці, дзесь маскараднасці, правакатыўнасці пэўнай. Дзе тыя жаўнеры з запаленымі кнатамі, дзе жанглёры агнём? Дзе сам кароль, хай актор у камзоле, панчохах і чаравіках са спражкамі, скажыце, дзе мадзеючыя прыдворныя дамы ў парыках з веерамі?! Мне здаецца ў гэтыя хвіліны: я сам бы згадзіўся выйсці каралём на публіку і зачытаць штось з «зашклёнага» фаліянта, балазе валасы ў мяне як ніколі доўгія, парыка сапраўды не вымагаюць. Але ж не! Кепска асветленая высокая сенатарская зала, ты чуеш вядомае табе: так-так, тут менавіта адбыўся той фатальны сойм, вось там стаяў трон, на якім сядзеў сам Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, ты разам з усёй публікай паварочваеш галаву, але нічога не бачыш, апроч сцяны. Табе чытаюць урыўкі з вядомага «Апошняга сойму Рэчы Паспалітай», пераклад з перакладу. А пісьменнікі, якія карыстаюцца беларускай, да тэмы гэтай яны не набліжаліся, не чапалі? Тваё пытанне да чалавека з мікрафонам, гаспадара ночы. Не, ім гэта не трэба, яны ставяцца да каралеўскай эпохі, як да чужой гісторыі... Мастакі нашыя караля таксама баяцца? Ён для іх таксама чужы, ці ўвогуле —небяспечны? Вы не хацелі б павесіць тут на сцяне, дзе трон стаяў, партрэт Станіслава Аўгуста Панятоўскага? У мяне замест наступнага пытання атрымліваецца і рытарычнасць, і крыўда, і амаль гатовы адказ. Дык жа не малююць, што вешаць? Няма чаго, няма й размовы... А ў шкляным футарале гваздом ночы сумная гістарычная рэліквія —сшытыя ў фаліянт рукапісныя дакументы апошняга сойму. Зашмальцаваная кніга ганьбы і безнадзеі. Што ж, ворагаў караля часам можна цалкам зразумець...

У нас рэвалюцыі —гэта вечна святое, іх называюць канча «вялікімі» і адзначаюць угодкі. Маўляў, само слова грандыёзнае, рэвалюцыя не можа здарыцца малой, недаспелай, зялёнай, недапечанай, сырой. Вялікая і французская —пагатоў не выключэнне, яна адна з самых вялікіх. Спектакль з яе нагоды ў былым Тызенгаўзавым тэатры. Мне падабаецца сядаць у амфітэатры, лепей усярэдзіне, але не абавязкова. Дзе ж, цікава, была ложа караля? Тут штосьці памянялася, але не цалкам. Партэр, два ярусы, гэта захавалася, вось толькі дваццаць дзве ложы, яны сталі аднойчы непатрэбныя, зрабіліся перашкодай. Горад пастанавілі забудаваць заводамі і фабрыкамі, але зусім не ў стылі квітнеючай Галандыі, кwіткі распаўсюджвалі прафкамы ў працоўных калектывах, крэслаў у тэатры пачало не хапаць і аднойчы пабудавалі гмах, пакінуўшы былы сціплы каралеўскі марыянеткам.

Спектакль мае сваю назву, але я б яго назваў «Танцамі вакол гільяціны», у рэшце рэшт яе раз-пораз з рыпеннем колаў вывозяць з-за кулісаў, а калі няма на самой сцэне, яе замяняе выява на задворках, яна апускаецца зверху. Рэвалюцыя звонку —гэта стыхія, злавесны маскарад. Акторы танчаць на каралеўскім прыёме, танчаць, рухаючыся на штурм Бастыліі, скочуць, святкуючы на пляцы перамогу, з простаалюдным энтузіязмам радуюцца гільяціне, яна —іхняя дама, з якой прагнуць станчыць і запрыязніцца, з якой нікому не хочацца сапсаваць адносіны. Але выконваюць танцы яны заўжды з аднолькавым тварамі, абыякавымі ці здранцвелымі, твары сцятыя быццам гэта маскі, рэвалюцыйны вір, які іх захапіў, не адмяняе першай важнасці: танцору тут галоўнае атрымаць плату —грошы ці ежу. Другая важнасць: захапленне паступова змяняецца страхам, трапіць на гільяціну не хочацца нікому, але цяпер ніхто ад яе не забяспечаны.

Мае думкі аб тагачасным тэатры: драму прыдумаў Дзідро, яго не задавальняў падзел на высокі і нізкі жанры, у гэтым была ненатуральнасць, значны прагал, як белая пляма на геаграфічнай мапе. Патрэбна было відавочна штось сярэдняе,

бліжэйшае да звычайнага жыцця з мовай вуліц і плошчаў, дзе зусім не выказваюцца суцэльным вершам. Але тэатр не плошча, у тэатры ўсё роўна нічога не адбываецца як у жыцці, лічыў Дзідро. Ён патрабаваў ад актораў разумовасці і разважнасці, здольнасці мысліць адцягнена. Так-так, актору таксама патрэбна назіральнасць, але й халоднае майстэрства, веданне ўмоўных правілаў мастацтва і ўменне падпарадкавацца ім, нават калі табе сёння зусім дрэнна, ты хворы і знябыты. Вывучай прыроду чалавечую, май аб усім абавязкова свае уяўленні, трымай іх у памяці, іграй абдумана, свядома, валодай сабою штохвіліны, вось я й спрабую.

Так-так, я ў сэрцы цяпер «новабудоўлі» той каралеўскай, у тэатры, на жаль, калі яго канчаткова пабудавалі, каралю было ўжо не да тэатра. Я засяроджваюся, усё канцэнтруецца: думкі мае, гістарычныя дэкарацыі навокал —побач з «марыянеткамі» цагляны лямус пад дахоўкай як цацка, у ім цяпер рэстарацыя з каралеўскай катлетай, між іншым, а вось медыцынская былая акадэмія выглядае зусім не так святочна з шыльдай камендатуры, ваякі абяцаюць калі-небудзь пакінуць камяніцу рэстаўратарам, улада цярпліва чакае. Захаваўся прыгожанькі пляцык Тызенгаўза няправільнага абрысу з

Крывой афіцынай, дзе ў сутарэннях галерэя, так-так, з назвай менавіта «Тызенгаўз», некалькі каралеўскіх пабудоў і выцягнуты палац —цераз мост —шпэтны нядаўна, яму цяпер спрабуюць вярнуць занядбаную прыгажосць.

Мяне зачароўваў макет прадмесця Гараднiца, дзе я цяпер у тэатры, яно было цэлым новым Гродна побач старога. Маленькія камяніцы з чырвонымі дахамі былі на стале ў гмаху ўлады, дзе працаваў аматар Станіслава Аўгуста, —я раней узгадваў пра гэтага чалавека. Ён глядзеў з акна зверху на тое, што засталося ад Гараднiцы, у яго былі аднаўленчыя планы, а потым рамантыкаў пазбыліся. Цяпер улада ачулася, ёй заманулася замежных турыстаў, яна зноўку хоча палюбіць рэстаўрацыю. А чалавек гэты крытыкуе: народжаны, каб поўзаць, лятаць не здатны. На карыкатурах у яго адна рука Масквы, другая —Варшавы...



Пра мармур, які не смяецца, прыдумаў Дзідро, не толькі ён любіў такія сцверджанні выдумляць. Не смяецца? Гэта здаецца відавочным, на першы погляд, неаспрэчным, як аксіёма. Але ж гэта бронза бадай не смяецца, чыгун пагатоў, волава і нават умярцвёнае дрэва. Парцалянавыя фігуры Аўгуста II, яны таксама няўсмешлівыя. Але мне здаецца, што мармуровыя статуі, яны, хай не смяюцца, але здольныя пасміхацца, злёгку, някідка, нібы пасміхаюцца самі сабе, але гэта залежыць не ад мармуру, ад вачэй і душы, ад унутранага стану майстра. Мне здаецца, мне даводзілася бачыць гэтую ледзь заўважную усмешку, толькі не магу ўзгадаць —дзе. Я не ведаю, ці можа мармур стаміцца ад мармуру, як сказаў іншы пісьменнік. Стаміцца і заплюшчыць вочы? Але ж! На пастаменце помніка ў Лазенках помслівая рука накрэсліла:

> «Яну Сабескаму ён статую паставіў:
> Сто тысяч залатых, я ўдвая бы даў,
> Каб Ян аджыў і скамянеў каб Станіслаў».

Не ажыццявілася гэта да сённяшніх дзён, і я магу колькі заўгодна выбіраць месца для помніка —каля Крывой афіцыны, ці далей —перад палацам на Гараднiцы, ацэньваць фон: фасад, аздобу сценаў, форму і памеры вокнаў, словам, франтоны, картушы, аркатуру, нішы-бленды, гзымсы, гарэльф, ліштвы, маскарон, люкарны, філёнгі, усё марна. Яму не пашэнціла, ён быў бы на сваім месцы ідэальным чынам, каб не меў ворагаў, каб не было рускіх, прусакоў, аўстрыякаў... Каб я рабіў надмагілле, я б зрабіў статую караля: у руках на жываце макет Гараднiцы, маленькай Галандыі, якая глядзіцца нават праз заслону часу файнай мясцінай нашых продкаў, дзе ўсё спачатку ладзілася, дзе ўсё зачароўвала нават еўрапейскіх замежнікаў.

Лясь! З-пад нажа гільяціны адскоквае галава, галава лялькі, але ты здрыгануўся і табе здаецца, зала скаланулася. Так здараецца, калі чакаеш, траціш часова пільнасць і —знянацку! Так, я —кароль, я ў сваёй ложы на прэм'еры італійскага балета, назва падманліва сведчыць, што дзея будзе прысвечана каханню, але гэта каханне ў дэкарацыях рэвалюцыйна-

га Парыжа —«Свабода, роўнасць, братэрства!» Лясь! Герой-палюбоўнік простага паходжання як самнамбула бярэ абе-руч галаву каханкі, якая пакарана за шляхецкі стан, і паволі ўзнімае, няхй убачыць зала... Маршалак Мнішак на наступны дзень абвяшчае цэнзуру на п'есы.

У сённяшнім спектаклі менш кахання, больш палітыкі, але гільяціна, яна па-ранейшаму ў цэнтры ўвагі. Яна чакае ўсю дзею, што няўмольна рухаецца да гільяціннага фіналу... Хаваюць караля з кпінамі, з галёканнем —«Кароль памёр, няхай жыве кароль!» У труну кладуць асобна галаву, асобна карону.

Мёртвая цішыня ў зале.

## 35

Дзейныя асобы:
Каваль
Кат
Гільяціна
Месціч
Галава караля

Паяўляецца каваль, мужык-беларус. Паглажвае вусы, пачынае гаварыць:

— Калі кароль без галавы, то што з каронай? Куды яе? Карона яму належыць, без кароны нельга. Хаваць няможна без яе. Куды тады карону, калі няма на што надзець? На цвік? Ці добра будзе? А на чужую нельга. З адцятай, мёртвай галавы жывой аддаць? Каму захочацца насіць такую? Другая справа —акружнасць чэрапа. Кароны так як боты, чужы памер не падыходзіць. І мне, напрыклад, надзяваць такую не ведаю захочацца ці не. Калі ў музеі там ляжала, то няхай, нябрыдка. Другая справа —прыладзілі на сцятую, абцёршы кроў. Ніколі не хрысціўся, перахрысцішся ад такой прычыны.

А што вы думаеце, гледачы? Якое скажуць слова пракурор і следчы: як быць, надзець карону мне ці не надзець? Ці можна кроў пяском адцерці? Нашараваць да бляску? Кроў застанецца на лязе заўсёды? Ці ў горан і агонь усё зліжа? Слядоў —ніякіх? І можна надзяваць без страху?

Працаўнік гільяціны, любіць называць сябе механікам: Ці ты мужык, дурны мужык? Ніхто ў кароне не сцінае галаву. Надзень і пакладзі сваю, убачыш сам. Нязручна. Карона перашкодзіць зрабіць работу якасна і добра. А дрэнна працаваць не дазваляе прафесійны гонар. Сам знаеш: нас няшмат, па пальцах пералічыш. Кат —рэдкая прафесія, механік гільяціны —пагатоў. Не параўнаць з кавальскай.

Гільяціна: Машына я сучасная, механікі мяне зрабілі. І цесля памагаў. Канечне не гадзіннік: зазубістыя колцы, шасцярэнькі —гэтага няма. Але прысутнічае прастата і дасканаласць. Я зграбная ў сваёй суровасці. Але бязлітаснай сябе не адчуваю. Я проста механізм, няма ніякай крывавжэрнасці. Не прагну я чужой крыві. Спакойна я магу стаяць на плошчы. Я пабудова чалавечых рук. Таму прыцягваю вочы. Магу стаяць і ўсё. Я проста механічная прылада. Маё лязо крыві не прагне. Сама нічога я не вырашаю. Я выканаўца. Загады з кроўю на паперы выдае рэвалюцыйны суд. Утылітарна ставіцца да гільяціны, ці абагаўляе —мне невядома. Dixi.

Месціч: Што рэвалюцыя сваіх дзяцей, падумаўшы, зжырае, прыгожана сказана. Хаця спыні на вуліцы, спытай: як выглядае рэвалюцыя, калі яна жарэ? І хто яна такая? Вам не адкажуць. Сказаць прыгожа —не сказаць дакладна. Раз рэвалюцыя —яна, тады жанчына. І страўнік луджаны ўнутры. Прыгожая жанчына і рэвалюцыя —стварэнне пекнае ў сваёй жахлівасці, якая адгрызае рукі-ногі ў сваіх дзяцей? Ці бачылі такую?

Каваль, кат: Не! Бадай што не. Чаму тады назвалі рэвалюцыю жанчынай, хто яна?

Гільяціна: Стварэнне пекнае ў сваёй жахлівасці —напэўна я? Намёк такі?

Месціч: Вайна, надвор'е, рэвалюцыя, вясна. За кожным словам штось стаіць. Калі яно абстрактнае —таксама. А што за рэвалюцыяй стаіць? Сцягі? Агонь? Натоўп, узброены хто чым? А што тады яна сама? Калі яна пабудавала гільяціну —то вось вам рэвалюцыя сама. Нічога больш прыдумаць не змагла.

Гільяціна: Я —рэвалюцыя? Што за навіна? Хаця я не абурана. Усё роўна мне. Няхай я буду рэвалюцыя, калі яна схавалася за мной, каб быць нябачнай. Выходзіць здань не я, я рэчаісная, стаю на плошчы, а здань яна, належыць мне. Якаясь казуістыка, ці не?

Каваль: Лязо такое выкаваць —майстэрства, цяжка праца, у сваёй вясковай кузні так не зробіш. Хаця карону можна. Але вучылі нас, што ёсць у рэвалюцыі пачатак, няма канца. І так сяклі галовы, так сяклі. І чым далей —тым весялей. Такія механізмы не ржавеюць пад дажджом. Сумленна змайстраваны. Са знакам якасці, як у нас казалі.

Галава караля: Не трэба адсякаць мяне, кароль не певень, рэвалюцыйны суп не зварыш. Няма Парыжа ў Рэчы Паспалітай. А на манетах галава —мастацтва прыклад. Карона без мяне —жалеза. А без кароны я жывая, з думкамі і марамі. Не трэба тулава краіны пакідаць без галавы. Калі не будзе думаць, стане зверам.

## 36

У адным касцёле ў нас ёсць сувязь з нябеснай канцылярыяй. Для сваіх, у шатах. Вядома нямногім. Я даведаўся выпадкова, рэпарцёрскі занятак. Яны не ведаюць, што я ведаю... Нязручная акалічнасць: калі навокал людзі, звяртацца з просьбай не будзеш. Перад імшой не атрымаецца, пасля таксама вечна не пабыць аднаму. Хто спавядацца не паспеў, хто таўчэцца невядома чаго. Патрэбна была мне парада.

Няможна раскрываць чужых сакрэтаў, скажу толькі, што існуе ход у лёхі, дзе ты апынаешся там, дзе не апынаюцца ў звычайным жыцці звычайныя людзі. Ты пераступаеш мяжу. Пераступаеш, каб ведаць больш. Мы прагнем ведаць больш. Кожны абірае для сябе межы.

Я абмацаў падэшвамі цагляныя прыступкі, паволі расчыніў дзверы. У дол спуска спускаліся прыступкі, прыблізна дваццаць. Зачыніўшы за сабой па магчымасці цішэй дзверы, я не не рухаўся. Толькі запаліў ліхтар. Спяшацца не варта. Ну з



Богам ці што, падумаў я сказаць, але не сказаў. Пераважыла цвярозая думка: каб без кепстваў, каб пайсці і вярнуцца.

Доўгая кішка вузкага калідора з пабеленымі сценамі. Сказаць, што цябе хапае ў абдоймы клаўстрафобія, сказаць малавыразна. Ніколі раней не адчуваў падобнага. Хаця што гэта я? Аднойчы пужлівасць гнала мяне наперад лабірынтам у тоўшчы муроў каралеўскага замка. Я нават забыўся, што лабірынт прызначаўся для патрэбаў Станіслава Аўгуста. Каб выйсці незаўважна за муры. Узгадаў, калі толькі адчуў сябе на вольным абсягу.

У суседнім кляштары некалі была турма. Трымалі ў камеры майго калегу, газетчыка. Трапіў у лапы НКВД. Я чуўся ў трэмары. Ён быў сведкам, як закапалі дамавіну ў касцёле ў Панятоўскай. Ці магло гэта цікавіць НКВД? Магчыма. Да сценкі не паспелі. У турму трапіла бомба. Ці не адна. Высокі мур быў разбураны. Пашкодзіла адну будыніну. Некаму не пашанцавала. Раскалола чарапы, прыгняло грудзі. А нехта выбраўся на свабоду.

Я ступаў даволі асцярожна, як мне здавалася. У грудзях стукацела. Быццам цяжкі дождж па блясе. У скронях пульсуе кроў. Але ж сэрца! Я памятаю, я чытаў, з ім здараецца ліхаманка. Сто сорак удараў за хвіліну. Не паспяваеш дыхаць, пачынае здавацца. Што з ім? Быццам стрэлкі гадзінніка закруціліся ў два з паловай разы хутчэй...

Часы не выбіраюць. Я трапіў у даваенны час. Пан Вацлаў у рэдакцыі на Паліцэйскай вуліцы. Размова быццам у сне. Я задаю пытанні. Што з каралём было не так? (Калега напісаў аб ім вялікі том. Пералапаціў стосы мемуараў, дакументаў). Магнаты, шляхта самі ўсё зрабілі, рыдлёўкі ў рукі ўзялі. Са словамі, канечне, «Гонар, Бог, Айчына». Прышыты былі рукі так, каб скон наблізіць Рэчы Паспалітай, пан Вацлаў перакананы. А што кароль? Прызначылі адказным «за віну ўсяго народа». Рамантыкі-паэты асабліва, каб узвысіць тых, змагаўся хто супраць правіцеля, перашкаджаў яму ў рэформах і хто падбаў (хай несвядома), каб заставалася адсталаю краінай Рэч Паспалітая.

Адным з такіх «а старыны не рушыць!» быў вядомы Радзівіл. Чынгісханам рэзка называў яго кароль апошні. Калі пане Каханку ў сейм, у караля настрой псаваўся. Чалавек чужой культуры, грубага, варварскага свету! Як уратаваць краіну ад празмерных патрыётаў? Як выцягнуць з дрыгвы? Ніяк. Радзівілы вялі рэй. Хапаліся за шаблі ў сейме. Пагляньце: кунтушы якія, а шаравары, а вусы?! Побач з каралём, сармацкага ў якім нічога.

Шабелькі, кунтушы і шаравары, вусы закручаныя, чупрыны. Падсвядома яны жылі ў мінулым веку, у часе слаўных перамогаў над туркамі. Гатовы выпіць кожны быў хоць бочку за вольніцу шляхецкую. Ніхто такой не меў! Сейм з цяжкасцямі скліканы. Можна засядаць. Але ўставаў зухава шляхціц. І абвяшчаў «лібэрум вета»! Ён супраць пасяджэння, таму зрывае, у шынок!

Пачаўся няўдала год 1795-ы, зусім фатальна. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі пад расійскай вартай у карэце сталіцу пакідае. У палац над Нёманам. Пад хатні арышт. Варшава раптам сцяміла, што гэта ўсё, канец. Праводзіць кінуліся тысячы, дзясяткі тысяч. Якая сцэна: беглі за карэтай роўма! Глядзеў у акно кароль. Камяк у горле. Шок! Слёзы любові да яго асобы. Дзе былі вы раней, чаму?

Варшава больш не ўбачыць караля-будаўніка і незалежнасці не ўбачыць.

## 37

Пад горадам існуюць лабірынты. Ці існавалі. Калі муроў не мела места, падземныя хады патрэбны конча. Такія чуткі-пагалоскі не раз пачуеш і нават прачытаеш, калі жывеш у Гродне доўгі час. Усё больш настойліва сцвярджалі: хады падземныя павінны быць! Павінны. Напэўна існуюць, дым без агню звычайна не бывае.

Вацлаў Мацкевіч, ці здань яго, не ведаю дакладна як сказаць, і я пры ім, мы разам у тую ноч ступалі праз якісьці калідор. Было ніякавата. Для цэглы пад зямлёй каб захаваць



трываласць, патрэбна была печ, але такія думкі —дробязь, дзесь на маргінэсе.

У авальнай зале зыркае святло. Дзясяткі твараў, спрэс чужыя. Настрой узрушаны, чаканне. Прайшла па зале хваля стрыманая воклічаў. Слугі ў парыках нясуць кілішкі. Спадарства, запрашаем! Пакаштаваць ліквор. Рэцэпт апошняга манарха Рэчы Паспалітай Станіслава! Мне здалося хвіляю фальшывым запрашэнне. Кароль? Ліквор? Што за прыдумкі? Але тлумачыць сам ён, як восеньскай парою ў Панямунні, у рэзідэнцыі стварыў для сумнага халоднага надвор'я напой каб грэць душу. Ну што ж, такога тлумачэння для мяне даволі.

«Лікворчык як?» —з-за спіны пачуўся голас Вацлава Мацкевіча. «Лікворчык? Свежы смак. Даволі моцны. Можа быць, рэспект шаноўнаму манарху. Кажуць навіна: папойкі каралёў саксонскіх каралёў пры ім сталі знікаць». Пан Вацлаў у адказ: «І за абедам ён выпісаў не больш за келіх. Якраз і мода на салодкія лікворы надышла».

А слугі не стамляюцца. Кілішкі два і тры, чатыры. І цёпла робіцца, і думкі лагаднеюць. І страху больш няма. Калі ён толькі быў наогул... Мужчыны кавалерамі сябе адчулі. З царыцай Кацярынай давай пазіраваць. У бліскучай сукні, аздобы на грудзях, парык шыкоўны. А кавалеры не здаўмеліся: кілішак у руцэ звычайны mauvais ton. Палітэсу не вучылі. Мне нагадала бачанае апошнія экранізацыі Шэкспіра ў сучасным стылі.

Так, не сказаў яшчэ, што ноччу ў замку пацяшалі публіку на прадстаўленні Dominis umbra, што азначае «цень імя». Ступае далікатным крокам і рыфмаваным словам пачынае Станіслаў Трэмбецкі, паэт прыдворны караля, ягоны сакратар. А мова «аб шчаслівых і трагічных момантах, што мелі месца ў палацы гэтым, каторы называюць Новым замкам».

Мы на другім паверсе, дзе за сталом Яго вялікасць. З пяром у руцэ. Ён адарваўся ад паперы, задумліва распавядае, што лічыў сябе літвінам, бо нарадзіўся і на літоўскіх землях прыняў хрост. Паэт і сакратар дапамагае: пры ім тэатр перамагаў карчму, пры ім друкарні, прэса. Спрыяў чытанню, кавярням паэтычным. Без кнігі нікуды не выязджаў.

Сам кнігай стаў і нават зборам твораў аб сабе, ці памыляюся? —маё пытанне да Мацкевіча. «Зборам твораў аб сабе?» — гучыць даволі трапна.

Сюжэт наступны —гісторыя кахання Станіслава Аўгуста і Кацярыны Вялікай. Яна сама, прыдворныя дамы. Танчаць з дамамі паэт і кароль. І залётнік Казанова. І ён паласаваўся пры двары варшаўскім! Удала трапіў на абед. Ён пахваліў манарха за веды італійскіх класікаў: завёў размову аб рымскіх аўтарах, свабодна цытаваў. Кароль аддзячыў: даў дзвесце дукатаў, дазволіў прысутнічаць пры сваім ранішнім адзяванні. Прывілей, слоў няма!

Ну дык Кацярына. Не даспадабы мне як гістарычны персанаж. Ніколі бабу гэту не цярпеў. Дэвотка. Лапы прагныя. Хцівая бабёнка. Але сягоння гэта ляльлка. У прыгожым выкананні. Акторка з Кацярынай: агульнага нічога, толькі вобраз таго часу. А роляй сённяшняй было —прамільгнуць матылём. Пратанчыць з кавалерам цераз залу як скрозь час. Хаця папраўдзе выглядала на царыцу, але з той Кацярынай не атаясамлівалася.

Там, дзе кароль, там баль, там танцы. Касцюмаваныя асобы запрашаюць танчыць гледачоў. Мы з панам Вацлавам ціхенька размаўляем. Кароль? Няўпэўнены ў сабе, пераканаўча. Кацярына? Прыватная асоба. Каб быць сабой, ён трэба пры сабе трымаць палкоўнікаў і генералаў. Ёсць і яшчэ адна ўдзельніца, зваць Апалонія Далеўская, з прыгонных танцаўшчыца балетнай трупы Тызенгаўза, кароль быў закаханы.

Мінула колькі часу? Гадзінніка няма. Нас клікаюць па лесвіцы ў сенатарскую залю, дзе засядала верхняя палата сейма. Там каралю належыць падпісаць акт адрачэння... Ён на звычайным крэсле, се ля ві: сапраўднае не захавалася. Станіслаў Аўгуст меў трон з часоў далёкіх Пястаў, вазіў за сабою. Стаў трафеем Кацярыны. У Пецярбурзе загадала зрабіць з яго сабе гаршок. Калі сядзела на ім аднойчы, яе хапіў удар, з дня адрачэння караля і году не мінула.

Мы, здавалася, з панам Вацлавам запрыязніліся за кароткі час, прынамсі мне шкада было прамовіць «да пабачэння».



## 38

Аб каралеўскіх справах і аб ім самім калісьці існавалі мільёны слоў. Ды больш няма тых вуснаў, што сказалі, вушэй, каторыя пачулі. Але ўсё дбайна захавана: паперы тоны, пад вокладкамі звесткі бесстароннія і чуткі, і ацэнкі. Пажоўклыя старонкі, пыл стагоддзяў. А што кароль? Пад тоўстай вокладкай надрукаваны дзённікі. Пісаў іх па-французску, гэта пераклад. Нарэшце выдадзены. Паведаміла гродзенка, што жыве ў Варшаве. Давялося паспяшаць.

Наперад, у «Каралеўскія Лазенкі»! Так называецца цяпер музей у парку, меў думкі аб якім у сваім выгнанні Панятоўскі. Варшава спатыкае дэманстрацыяй, пікетамі. Паліцыя, спецназ, патрульныя машыны, тэлекамеры. На вуліцы збор подпісаў за будучага прэзідэнта. Плакаты, транспаранты. «Бог. Гонар. Айчына!» Скажоны твар вядомага палітыка, намаляваны на фанеры. Адны крычаць: уратуем польскі цукар! Другія: будзь патрыётам, не жуй галандскі, толькі польскі яблык! Чымсь нагадала часы апошнія пры Панятоўскім. Зацятасць з карнавальнасцю. Кароль карыкатурны ў ролі агітатара, збірае подпісы, спыняе мінакоў. Зраблю бадай я здымак. На чалавеку мантыя, на галаве карона-шапка. Блазенская хутчэй. Але блазенская пакаралеўску рыхтык. А наш каваль, хіба не выглядаў падобна?

Інтэлігентны прэзідэнт, які нагадвае паводзінамі караля і падабаецца спакойным людзям, не будзе шанцаў мець быць на пасадзе другі тэрмін. У газетах кпяць: з вусамі быў як шляхціц, а збрыў —зусім звычайны, з вуліцы мінак. Прыхільнікі ім задаволены, ніякіх закідаў, але галасаваць не ходзяць. Палітыка іх не цікавіць. Вас з гродзенкай спыняюць хлопцы хвацкія: пастаўце подпіс! Мы з радасцю, але неграмадзяне. Выбачайце.

Шляхцюк у шапцы футраной з пяром і з бутафорскай шабляй, трымае «ядлоспіс» —меню у похвах скураных, заваблівае мінакоў у рэстаран са стравамі шляхецкай кухні.

А за Лазенак брамай постэр: Станіслаў Аўгуст асабіста. На вокладцы. Выгляд далікатны. Па твары пазнаць аматара паэзіі, мастацтваў і паненак. У руцэ трымае белую «лічыну», маску.

У кнігарні пры палацы на вадзе купляеш том. Падзеі дня і думкі занатаваны па-французску. Ад трэцяе асобы.

У манеры белетрызаванай рукой сваёй пакінуў на паперы здарэнне з выкраданнем. Было іх трыццаць шэсць, нападнікаў. Яго ахоўнік, Кузьма, прыставіў каралю да горла лязо шаблі. Кароль наважыўся з ім абмяняцца словам. Той непрыхільным быў. Але прамовіў, быццам ачуняўшы з одуму:

— Аднак ты, пане, мой кароль!

На што той паспяшаўся адказаць:

— Так, прычым кароль добры, які вам ніякай крыўды не зрабіў.

Але вярнуўся той Кузьма ў звычайны стан і з непрыхільнасцю адрэзаў:

— Звязаны я прысягай, што цябе заб'ю альбо дастаўлю да сваіх правадыроў.

Але кароль знайшоў ранімую струну ў душы Кузьмы і быў адпушчаны на волю. І дзённік дапісаў.

**39**

Пісьменнік польскі, чаму табе спакою не дае, што жыў кароль, змагаўся з гвалтам, хай не аружна, перааадолець неспрыяльныя абставіны рабіў нястомна спробы?.. Пісьменнік сёння ставіць двойку: маглі палякі стаць народам цвёрдым, сапраўдным стаць. Было даволі караля забіць. Каб трапіць у гісторыю, патрэбны пропуск, рэвалюцыя была патрэбна. Пагляньце на французаў! Ён напісаў на вокладцы сваёй: «Павешанне»... Кузьма не спакусіўся на такія лаўры. Краіны пахаванне было адкладзена. Няхай яшчэ трывае... Лічылася, кароль памёр уласнай смерцю. Ды пагалоска паляцела: быў атручаны. Ніколі праўды знаць не будзем. Хто быў кароль, затым быў змешчаны ў труне-матрошцы, стаў прахам. Адно карона ацалела. Каб быць аздобай кавалю.



## ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 81

**Астравец** Сяргей

**Саргасава мора**
*Апавяданні*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактары Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктура Віктар Іваноў

Падпісана да друку 11.05.2016. Фармат 84x108 1/32.
Рызаграфія. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 14,7.
Ул.-выд. арк. 12,96. Наклад ??250 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.